


# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання XII

2

ЛЮТЫ

1964


## У нумары




**Выдавецтва «ЗВЯЗДА».**
**МІНСК.**

**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

**Вокладка Ю. АРХІПАВА.**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ:** Юнацкая дружба. Моцна дружаць выхаванцы Мінскага сувораўскага вучылішча з вучнямі 27-й сярэдняй школы сталіцы. Сувораўцам 6-й роты Юрыю Багатырову і Яўгену Мяшкову ёсць пра што расказаць адзінаццацікласнікам Ігару Ташлыкову і Галіне Кашкан.

**НА ТРЭЦЯЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ:** Міхаіл Бельскі. ІНЕЙ. З Рэспубліканскай мастацкай выстаўкі.





**Уладзімір ПАЎЛАЎ**



Мастак Людвіг АСЕЦКІ




ПАЭМА


альні вецер у двор заблудзіў.
Клён шуміць,
Клён пытае:
— Дзе ж ты гэтулькі многа хадзіў
Лістападаў і маяў?
Дзе ж ты гэтулькі многа блукаў,
Па якіх пуцявінах,
І ці часта ты ўспамінаў
Свой куток салаўіны?!
У часы навальніц і трывог
Ён стаяў прад табою.
Дык спярша, чым ступіць на парог,
Ты пастой тут са мною.
Прыляцяць хай здалёку вятры
На бацькоўскія гоні,
Хай раскажуць...
Паслухаеш ты,
Прыгадаеш ды ўспомніш.

1

...Вайне мы дорага плацілі —
Крывёю брала барышы.
Паўсутак немцы малацілі
Заслон маленькі на шашы.

Хоць сіл у хлопцаў недахватка,
Няма падмогі — не заві,
Навокал жвір, як прамакатка —
У цёмных плямінах крыві.
Даўно кашулі паскідалі,
Не выпускалі зброі з рук —
І каскі з ворагаў злятаді,
Ды градам падалі на брук.
Нібыта конь, адчуўшы лейцы,
Каціў агонь за далягляд...
І засталіся батарэйцы
Пасля налёту без гармат.
А немцы мкнуць да пераправы
Праз чорны дым, і пыл, і чад,
І танкі — злева, танкі — справа...
Ні ўперад нельга, ні назад.
Святая вернасць абавязку,
Ты з намі поплечкі была!
Апошні ўдар — гранатаў звязка
Ўшчэнт гусеніцу разнясла.
У траскатні, ў смяротным гудзе
Варожы цэліўся салдат.
Іван упаў на чорным грудзе,
Замоўк ягоны аўтамат.
Сурма — таварыш і паплечнік —
Падпоўз да сябра неўпрыкмет.
Праз жыта спелае ў алешнік
Пралёг скрываўлены іх след.

Іржанне, грукат, гул несупынны —
Шаша стагнала і гула.
За даляглядам — хвост змяіны,
За пераправай — галава.
Ступі туды неасцярожна —
Жыццё навекі памянеш.
Хто ж запыніць навалу зможа,
Каго яна не закране?..
Пыл далятаў сюды праз шаты,
І асядаў ён на траву.
Куды ісці далей салдатам,
Дзе прыхінуць ім галаву?

Такі спакой, такая ціша,
Здаецца, вечнасць тут сама.
Іван ляжыць і цяжка дыша,
На бінт кашулю рве Сурма.
Тут зараз цень, нібыта краты,
Усю зямлю спаласаваў.
Пасля як звязкаю гранатаў
Іван танкетку падарваў,
Сурма яго ў гушчар адвечны
На плашч-палатцы прывалок...
Мінае ноч.
І суткі спешна
Далей разматваюць клубок.
Хоць пыл асеў і шмат азону,
Іван, здаецца, больш абмяк,
Бо непрытомнасці заслона
Ў яго не пройдзе аніяк.
Не ачуняць у хуткім часе,
Бо грудзі — нібы самавар,
І ўсе салдацкія прыпасы:
У Сурмы на двух адзін сухар.
І думка думку абганяе,
І не ўхіліцца ад яе:
І дзе і як мы бой трымаем
І хто ў атакі нас вядзе?
Праз посвіст куль і вецер чадны
Сурме чуцён уперад кліч.
І як тады, яго парады
Чакае ўважліва Ільіч.
«Над Петраградам ходзяць хмары
Суцэльнай шэрай чарадой.
Над Петраградам гром ударыў
Глухой асенняю парой.
Як вулей — горад навакольны:
Гарыць кумач, звіняць штыкі.
Сваіх людзей праводзіў Смольны
Узняць казацкія палкі.
Прыйшлі матросы з ачаплення,
Што сцераглі Часовы ўрад.
І з кожным з іх гаворыць Ленін,
Нібыта кожны родны брат.
— А вось бы вы, таварыш, можа,—
Гаворыць раптам да Сурмы.—
Сказалі: контра пераможа
Ці контру пераможам мы?
— Я камендор, таварыш Ленін...
Мы Зімні штурмам узялі
І контру ўсю у наступленні
Начыста выведзем, калі...
— Калі? У вас думкі ці намеры?..
(Прымоўклі ўсе вакол Сурмы.)
— Калі ў змаганні будзем верыць,
Што пераможам толькі мы...»
Пасля ў райкоме, дома, ў штольні —
Не здрадзіў веры ён нідзе.
І на яго, нібыта ў Смольным,
Ільіч з павагаю глядзеў.

А думкі...
Думак не запыніш,
Яны не знаюць перашкод.
Абодвум ім на скронях іней
Пакінуў трыццаць сёмы год.
Як карані, перапляліся
Жыццё Сурмы, Іванаў лёс.
І выпадковы ці наўмысны —
Агульны быў на іх данос.
Пісалі ў ім: «Іван — праныра,
Ён хітры вораг, іншы клас.
Таму й пралез у брыгадзіры,
Каб развaліць пасля калгас.
А на такога ў час не тупні,
То плюнуць зможа заўтра ў твар,
І ёсць яшчэ ў яго заступнік —
Сурма, з райкома сакратар.
З Іванам ён, як з камуністам,
Не раз страчаўся, бавіў час,
Тут нешта нейкае не чыста,
Тут разабрацца ў самы раз...»
Спрабуй у думак бураломе
Стачыць парваныя канцы!..
Чужыя самі ў родным доме,
Ляжаць у засені байцы.
Сурма Івана ў гэты морак
На плашч-палатцы прывалок.
Мінула ноч
І суткі скора
Таксама зваляцца на бок.
Іван жа трызніць доўга, часта,
Не можа з думкай саўладаць,
А то жыццё сваё па частках
Пачне услых прыпамінаць.
То сее ён, то брыгадзірыць,
Адводзіць нейчую бяду,

А то ахоўнікі-прыдзіры
Яго да карцара вядуць.
Тады ён кліча на падмогу
Дачушку Кацю і Сурму.
А то вясельная дарога
Прыпамінаецца яму.

...Па бальшаку імчацца коні,
І пыл — за ветрам наўздагон.
А перад ім, як на далоні,
Такі прастор, такі разгон...
І побач з ім — нявеста ў белі,
Вясёлкайззяюць каснікі.
І доўга ім услед глядзелі
З усёй акругі жаніхі...
Апошні госць дамоў паехаў,
Вянок знімалі з маладой,
Калі ўначы разлёгся рэхам
Разбойны посвіст за сцяной.
Каму ж яшчэ тут хуліганіць,
Каму свістаць на вёску ўсю,
Як не саперніку Івана,
Як не суседу-Гарвасю?!
(Ішоў нядаўна, угнуўшы плечы,
Ад маладой у дождж і золь,
Бо аддала яна ў той вечар
Яго сватам і хлеб і соль.)
Гарвась — задзіра не па ўзросту —
За сорак стукнула гадоў.
На целе белым, як бяроста,
Уся біяграфія яго.
Не даравалі забіяку
Падпал, стаптаныя лугі.
Турма пакінула адзнаку —
Татуіровак ланцугі...
І гэта ён сватоў Івана
На паўдарозе запыняў:
Пасля вяселля раным-рана
Пісьмо кудысьці адсылаў.

А ў лесе — стоеная ціша.
Здаецца, вечнасць тут сама.
Іван зацяжна, цяжка дыша,
І па ваду пайшоў Сурма.
Натужна стогне бор дрымучы,
Калі вятрыска наляціць.
Вось пад нагою нечай суччa
Усё бліжэй, бліжэй трашчыць.
Вось крок яшчэ,
І госць нязваны
Ад страху кінуўся назад,
Затым схіліўся —
І Івана,
Свайго суседа, ён пазнаў.
«Ну, што зрабіць табе, Іване,—
З усмешкай думае Гарвась,—
Пранырам быў, шаноўны пане,
Ды зараз ты, суседзе, гразь.
Табе заўсёды шанцавала,
Ды шанцаў больш табе не мець,
Такая грымнула навала,
Што можна ў жаху анямець.
Цяпер лугі мае і гоні,
Што ты калісьці адабраў,
Касцямі вашымі угноім...
А можа зараз — напавал?..
Ніхто не ўчуе і не згледзіць,
Як прыме бог тваю душу.



А можа лепш за ўсё, суседзе,
Мне зараз выйсці на шашу?
Не, пачакаю, каб не ўцэліць
Там пад гарачую руку,
Бо, мабыць, ты паўсутак цэлых
Ім кроў спускаў на бальшаку?»

Сурма вады прынёс у касцы,
А каска ў драпінах ад куль.
І Гарвасю у новай скатцы
Ён кінуў коратка:
— Адкуль?
— А ўсё ж адтуль...
Маршрут — заходні...—
І паглядзеў цікаўна ў твар;
— Сапраўдны вы ці вы падробны,
Былы з райкома сакратар?
І, схамянуўшыся пытання,
Гарвась у мох, здаецца, ўрос.
А потым моўчкі да світання
З Сурмой у лес Івана нёс...



Прыпынак быў іх на дзядзінцы.
У Гарвася ільсніцца твар.
Іван адкрыў павекі:
— Кіньце,
Сурма... таварыш камісар...—
Зноў забыццё. І зноў насілкі
Цяжар хістаюць на плячах.
«Хоць вы абое і асілкі,
А цяжка — бачу па вачах.
Вунь у Івана між бінтамі
Прабіўся лапік сівізны...»
— Схаваў вінтоўку... буду з вамі...
Вядома ж, не канец вайны,—
Гарвась гаворыць неахвоча,
Ідзе наперадзе Сурмы.
А ў сэрцы страх і яд клякоча:
«Як для каго, паглядзім мы».
Ішлі, назад ішлі салдаты,
А край натужліва прыціх.
І хоць яны не вінаваты —
Не сустракалі дома іх.
І, як раней, ніхто не горды,
І добрых слоў — як не было.
І, як ваўкам, праз агароды
Ім трэба красціся ў сяло.
І ў гушчарах залечваць раны,
Збіраць у дыскі зерне куль,
Каб слава мсціўцаў-партызанаў
Пра іх кацілася паўсюль.

Я помню: ехалі фурманкі,
Рыпелі восі па начах.
Я помню: беглі партызанкі,
Блішчэлі слёзы на вачах.
Прабраўся здраднік у разведку
І прама к ворагу прывёў.

Цягнула гарам, дымам едкім
З лясных падпаленых лаўжоў.
У чыстым полі пад ракітай
Яшчэ не выкапаны жвір,
Ляжыць з сябрамі незарыты
Там іх чырвоны камандзір.
Кінжальна ўдарыла засада —
Струмені куль за дождж часцей.
Застаўся з рэшткамі атрада
Прыкрыць ён жонак і дзяцей.
Ім вецер там загойваў раны,
Над імі неба азарыў,
Калі ўзняліся партызаны
На штурм апошні — на прарыў...

Я нездарма ўспамін трывожыў.
Магчыма, ў тым баі якраз
І быў лазутчыкам варожым
Не іншы хто — а сам Гарвась.
Бо ён падвечар пасля бою
З надзеяй: «Наша узяла!»
І з горда ўзнятай галавою
Ішоў па вуліцы сяла.
Кідаў нахабнае у вочы:
— Над вамі я тут гаспадар!..
А ў мужных сэрцах гнеў клякоча.
І рэхам коціцца да хмар...

2

Хай жа кліча нас памяць здалёк
Той зямлі пакланіцца,
Дзе пачатак шляхоў і дарог
Першым следам лажыцца.
А прыйшоўшы,
Прыпынішся ледзь
Павітацца з зялёным гаем:
— Лезь сюды ды крыху пад'едзь,—
З возу дзядзька гукае.
— Ды садзіся ямчэй сюды,
Як чужы, не масціся з краю,
Прыгінайся, бо жалуды
Галавой пазбіваеш.
А праменне паміж галін
Мільгаціць, нібы ў коле спіцы.
Дзядзька высыпаў мех навін
І жартуе наконт сталіцы:
— Там без газу не п'еш вады
І, як дома, не ходзіш босы.
Дарагія курыш заўжды
Там, нябось, папяросы.
Наш жа крамнік,—
Вазьмі ды плюнь,—
Не прывозіў нічога паўлета.
А таму і ў аддзеле «Тытунь»
Засталася адна «Ракета».
І зусім не яму ў дакор
Свой запас я вымаю,
Толькі дзядзька бярэ «Беламор»
І надоўга змаўкае...
Трэба ж нешта казаць.
У сяле
Гавару, што стыпендыі мала.
Нібы знойдзеш, як маці прышле
Каўбасу або сала.



І па ўсмешцы не разабраць:
Ён мне верыць — не верыць?
— Я не супраць, каб пагуляць,
Ды, вядома ж, у меру.
Я вас добраму толькі вучу
І, як бацька, быў строгі...—
На снапах я сяджу і маўчу
І мне сорамна трохі.
Я не часта з далёкіх дарог
Узыходжу на бацькаў парог —
Мяне возяць у даль караблі,
Мяне вабіць да новай зямлі,
А то проста — няма мне калі.
Дома ж час дарагі і ў мароз,
І ў гарачы, як вар, сенакос.
А надыдзе жніво, не жартуй:
Ноч захопіць — і ў полі начуй!
Толькі родныя выберуць час,
Каб падумаць і ўспомніць пра нас.
І мне сорамна сёння за тых,
Пра каго нават вецер заціх,
Каго доўга чакалі дамоў
І шляхі,
І вятры,
І любоў...
Хто даў крылы — для тых усё адно,
Бо дадому на хвілю не збочаць.
Толькі у родных іх маці даўно
Заслязіліся вочы.



Дальні вецер у двор заблудзіў.
Клён шуміць,
Клён пытае:
— Дзе ж ты гэтулькі многа хадзіў
Лістападаў і маяў?
Па-над хатай — галлё-гужы,
Нібы рукі асілка.
Перамурзаны глінай, бяжыць
Мне насустрач Васілька.
Смешна коціцца, як калабок,
Першы ў доме з унукаў,
Нібы туга зматаны клубок,
Мне кідаецца ў рукі.
Верыць ён яшчэ доўга гатоў,
Як бабулі і дзеду,
Што з пустымі рукамі дамоў
Я ніколі не еду.
Пасталее
І дзесьці ў шляху
Сярод ліўняў і грому
Ён сустрэне журбу і тугу
Па бацькоўскаму дому.
А каб радасці болей узяць,—
Калі сэрца не камень,—
Неаднойчы прыедзе назад
Ён з пустымі рукамі.

Дальні вецер у двор заблудзіў.
Клён шуміць,
Клён пытае:
— Дзе ж ты гэтулькі многа хадзіў
Лістападаў і маяў?
Што ні год, то ніжэй і цішэй
Шалясціць верхавіна і голле.
Помню:
Ўзлазілі — хто вышэй! —
Вы з Хвядорыным Колем.—
Прабачэння прасіць падышоў
У цябе, дарагі мой клёне,
Хоць і выраслі мы з тых гадоў,
Ды мы ў іх у палоне.
Хоць нам клопат на плечы лёг,
Што ад бомбаў зямля цяжкая,
А той вецер з усіх дарог
Нас дамоў зазывае.
А той вецер скубе мурагі
І праходжвае кругам.
І таўсцеюць у змроку стагі,
І туман коціць цугам.
Ад расы пасівела трава,
Рана зорачкі выйшлі.
Прылятае з узлесся сава
Склёўваць чорныя вішні
На пагорку на ўскраі сяла,
Дзе каменні і мята.
Тут жа некалі Каця жыла,
Тут была яе хата...

— Бацька ў цёмную ноч завітаў,—
Так расказвала Каця,—
Да світальнага золку не спаў,
Ціха гутарыў з маці.
Ну, а тая ўсю ноч пра сваё,
Угаворвала мужа:
«Нізашто прападае маё
За табою замужжа.
Гарвасю партызанскай вайны
Аніякай не трэба,
Ён ад вас і пайшоў — не дурны,
Ёсць і хлеб і да хлеба.
І жывёлы прыдбаў і вуллёў,
Кожны тыдзень балюе...
А ты гэтага з лесу прывёў,
Што ў гумне ў нас начуе.
Ты ў мястэчка назаўтра схадзі,
Толькі трэба зарана,
Паліцаяў з сабой прывядзі,
Хай бяруць партызана...»
Бацька ўстаў.
Ён маўчаў.
Ён не кпіў.
Недзе пеўні ў хлявах кукарэкалі.
Значыць, шчасце дарэмна
Сабе ён адбіў
Ад сватоў Гарвасёвых
Некалі.
Ён адказу тады не знайшоў
І не выдаў сакрэту,
Што з таварышам з лесу прыйшоў
Пакараць прайдзісвета.
Мне расказвала Каця далей:
— Дзверы рыпнулі з хаты.
Светлы ранак збудзіў ля дзвярэй
Гулкі выбух гранаты.
Маці ўсё ж прывяла з Гарвасём



Паліцаяў уранні:
«Ты, Іванка, раскажаш пра ўсё —
І міне пакаранне!»
А Гарвась на яе: «Памаўчы,
Нам не трэба ягонай згоды.
Калі хочаш яшчэ памагчы,
Адчыні лепш вароты».
З твару маці — нібы палатно:
«Што ж я, што нарабіла?!»
І пайшла да варот у гумно
І сабой засланіла.
Пэўна, думала ўратаваць
Зараз свет увесь цэлы.
Пэўна верыла: аўтамат
Гарвасёў у яе не стрэліць...
Гэтай бойцы канца не відно,
Хоць і сонца высока.
«Акружайце, паліце гумно!» —
Гарвась нема галёкаў.
Сам паднёс да падстрэшка агонь
І сустрэў сваю смерць тут.
Паліцай аўтаматнай чаргой
Трапіў бацьку у сэрца.
Клён ніжэй верхавіну прыгнуў,
Каб не бачыць,
Каб вушы не чулі,
Як таварыш выходзіў з агню
З целам бацькі пад кулі...

Нам ніколі трывог і маршчын
З твару маці не сцерці.
Толькі ступіць насустрач ёй сын,—
Закалоціцца сэрца.
— Паблажэў ты, сынок, і зачах,
Мабыць, спіш мала ўночы.—
А што робіцца ў родных вачах!
О, матуліны вочы!
Павячэралі.
Зоры ў акне.
Пахне сенам мядовым.
За сцяною Васілька у сне
Трызніць цацкаю новай.
Маці кажа мне:
— Рудзьку знялі,
Я ж пісала, здаецца,
Не любіў ён сядзець на зямлі,
Хіба толькі тады,
як нап'ецца.
Нам з райкома Сурма дапамог
І прыслаў чалавека.
Старшыня — інвалід,
А дальбог,
Ён душой не калека.
Трэці год ён у нас,
А глядзі,
Як пайшлі мы угору.
Ты і сам
Пажыві, пахадзі —
Не захочацца ў горад.

Што ні стрэча, ні слова, ні крок —
Для мяне тут навіны...
Будзь жа вечным ты, бацькаў куток,
Будзь жа вечным ты, спеў салаўіны!
Зачыняю я шчыльна акно —
Цягне холад знадворку.
Недзе дзядзька чакае даўно,
Курыць моўчкі махорку.

З дзядзькам сядзім мы поруч
На прызбе, пры новай хаце.
Здаецца, нібыта ўчора
Тут мы сядзелі, Каця!
— Эх, браце,
Гады, як птушкі!
Маланкі у іх — не крыллі.
Даўно хіба ў косы стужкі
Сваёй я купляў Марылі.
І робіцца ж так на свеце:
Нішто не стаіць на месцы.
Наш меншы ужо ў ракеце
Сабраўся ляцець на Месяц.
А думаеш што —
Не будзе?
Спалохаюць мо перашкоды?
Мы самі, як кажуць,
У людзі
Ішлі праз агонь і воды,—
У шапку настрэсаўшы сліў,
Дзядзька строга пытае:
— Дзе ж ты гэтулькі многа хадзіў
Лістападаў і маяў?
Каця доўга чакала цябе.
Ды ў чаканні ёсць мера.
Толькі сніліся, мабыць, табе
Больш Сатурн ці Венера? —
(Нагадалася зноў і зноў:
Ля гумна пасля бою
Дзядзька Кацю малую знайшоў,
Дзядзьку Каця стала дачкою.)
— На вяселле Сурма прыязджаў.
А гасцей — як ніколі...
Лепш, чым родную, я аддаваў
Нашу Кацю за Колю.
На радзінах —
Дальбог, не схлушу —
Гасцявала ўся вёска.
Такі жвавы, смяшлівы хлапчук.
І, дарэчы,
Твой цёзка...

А ноч
Пералезла прасла,
Далей і далей крочыць.
Дрымота,— нідзе не згасла,—
Па-здрадніцку лезе ў вочы.
Пад яблыняй,
Ля паркана
Каханне шэпчацца ўпотай.
З сабою бяры на работу,
Будзі мяне, дзядзька,
Рана,
Бо мы у жыцці спакою
Ніколі, нідзе не шукалі,
Бо зыркай світальнай зарою
Асвецяцца хутка далі.

3

Наша сцежка
Віецца яшчэ пад гарой.
Нам прызначана
Шмат на вяку.
Мой нязменны таварыш,
Лірычны герой,



Ты ніколі не баўся ў шляху.
Павяду я цябе
У залаты зарапад,
Дзе густая стаіць
Сінява.
Мы па Млечнаму Шляху
Сыдзем назад
І паспеем якраз
Да жніва.
Нібы конікі ў лузе,
Зазвоняць нажы,
Зерне шротам
У бункер сыпне.
Чарнавокая Каця
Стаіць на мяжы,
Выглядае, напэўна,
Мяне.
Падыду, павітаюся:
— Добры ўмалот! —
І гаворка сама пацячэ.
Будзе жыта высокае,
Нібы чарот,
Той мяжой
Паміж нашых плячэй,
Што ні ёй
І ні мне
Парушаць не з рукі,
Разрываць зноўку
Замкнуты круг.
Хоць па гэты і той —
Па абодва бакі —
Будзе самы надзейны
Друг.
Толькі ў сэрцы дрыготка,
Нібы паплавок,
Торгне здрадніцка-немы
Дакор,
Толькі сэрца,
Як птах разарваўшы сілок,
Зноў набудзе
Вялікі прастор.
Зноў адчуе,
Як бурна віруе рака,
Раздаецца наўсцяж небасхіл,
І як кветкі кладзе
Твайго сябра рука
Да скляпення
Абедзвюх магіл.
Гэтых кветак
Ужо не акропіць раса,
Не аздобіць пунсовы кумач.
У прыпол на калені
Спаўзае каса:
— Каця, хопіць
Не трэба,
Не плач...
Нас не раз спрабавалі купіць
І прадаць,
І прарочылі вечную ноч.
У наш дом неаднойчы
Ішлі гасцяваць
І за пазухай неслі нож.
Нашых сэрцаў
Не здолеў ніхто пакрышыць
Не парваў на кускі дынаміт.
Нашых сэрцаў
Навек не змаглі прыдушыць
Камяні надмагільных пліт.

Змалку мроіцца мне
Непарушная ціш
І празрыстая майская рань.
Змалку голас матулі я чую:
«Узляціш,
Толькі цвёрда на нogi стань».
Пачынаецца золак.
У светлай смузе
Нараджаецца чысты блакіт,
— Хто тут, хлопцы, апошні
У доўгай чарзе
Да яшчэ не адкрытых арбіт?
У густым частаколе
Чуйных антэн
Затаілася ты,
Зямля.
Я стаю на табе,
Як міфічны Антэй,
І да сонца
Цягнуся я.
Вадаспады
Надзейна абняў бетон,
І сталёвы гатоў нароr.
Адгукаецца сэрца,
Нібы камертон,
На сігналы з усіх дарог.
Пругкі вецер
Крыламі у грудзі б'е,
І навокал бушуе май.
У нялёгкай і гордай, матуля, хадзе
Ты заўсёды мяне падтрымай!
Будзь мне першай зарою
Маёй вясны,
Дай мне компас
І дай магніт.
Я твой водсвет
За сонцам услед панясу.
Сонца ж ідзе ў зеніт.

Сонца ідзе ў зеніт!




**Антон АЛЕШКА**



**Мастак Ісак ДАВІДОВІЧ**






# Над намі мільён вышыні

**Аповесць** ■

1

Лейтэнант Макараў пругкім крокам увайшоў у клас эскадрыллі. Казырнуў лётчыкам, якія сядзелі за сталамі.

З суседняга пакоя паказаўся намеснік камандзіра эскадрыллі капітан Кудлач. Сярэдняга росту, шырокі ў плячах. Твар круглы, чыста паголены.

— Як там? — запытаўся Кудлач у Макарава.

— Туман, як у Лондане,— Макараў расшпіліў сінюю лётную куртку, адлажыў каўнер і, скінуўшы шапку-вушанку, сеў за стол. Кароткі чорны чубок тырчаў над высокім ілбом.

— Эх, чорт, зноў палётаў не будзе...— капітан прайшоўся па класе, крута павярнуўся да Макарава.— Што за лётчыкі прыходзілі ўчора да вас?

— Сябры... Разам канчалі авіяцыйнае вучылішча...

— Дзе служаць?

— Недалёка. У палкоўніка Дуся. Старшыя лётчыкі ўжо. А я яшчэ па кругу хаджу...

Кудлач падтуліў губы, спакойна сказаў:

— І вы іх дагоніце,..— Потым усміхнуўся: — Надвор'е вось...
Дзяжурны перапыніў гутарку.
— Да начальніка штаба...— махнуў ён Макараву рукой.
Макараў падняўся.
Яго праводзілі здзіўленымі позіркамі да самых дзвярэй.
Начальнік штаба падпалкоўнік Цвёрдахвалаў панура і доўга глядзеў на лейтэнанта.
«На дзяжурстве спаў, а ледзь ногі перастаўляе... Які з яго лётчык?..» — злосна падумаў Цвёрдахвалаў.
— Дакладвайце, як учора дзяжурылі,— загадаў ён Макараву, узлёгшы локцямі на стол.
Макараў угнуў галаву, азірнуўся.
— Чаму такая ўвага? Здаваў дзяжурства — дакладваў, а сёння зноў.
— Ашукваць навучыліся! Вы лётчык?
— Я з эскадрыллі Ануцюнава...
Цвёрдахвалаў спадылба глянуў на лейтэнанта. Ён добра ведаў, з якой эскадрыллі Макараў.
— Каравулы ноччу правяралі?
— Так точна!
— У паставой ведамасці адзначылі?
Макараў толькі цяпер успомніў, што адзначыць забыўся.
— Не...
— Значыць, не правяралі...
— Прысягаць не збіраюся. Яшчэ раз дакладваю: каравулы правяраў у дзве гадзіны ночы...
— А дзе дакументы?..
— Выходзіць, вам слова лётчыка нічога не значыць, важней паперка...
— Вы не лётчык!
Макараў пабляднеў. Чаму ж гэта ён не лётчык?
— З штаба злучэння правяралі паставыя ведамасці і...
— І сказалі, што я не лётчык?
Начальнік штаба хацеў нешта сказаць, але змоўчаў. Рашуча махнуў рукою, адышоўся да акна.
— Не пытацца! Вы мне тут... Разумееце... Капітану Кудлачу далажылі, як дзяжурылі?
— Па статуту не паложана...
— Значыць, статут ведаеце?
Цвёрдахвалаў паспешна два разы націснуў на кнопку, што была збоку стала. Увайшоў пасыльны.
— Капітана Кудлача...
Прыйшоў Кудлач. Глянуў на ўсхваляванага Макарава.
— Любуйцеся...— начальнік штаба паказаў на лейтэнанта.— Дзяжурыў, каравулаў не правяраў...
— Правяраў...
— А калі правяраў, то не адзначыў у ведамасці. Гэта не лётчык. Разбірайцеся з ім самі,— Цвёрдахвалаў махнуў рукой.
— Я іду ад маёра Капусціна,— сказаў Кудлач.— Ён мне гаварыў пра гэта...
— Правяраць правяраў, а толькі не запісаў. Прашу прабачэння. Дайце ведамасць...
На паставой ведамасці, якая ляжала на стале, Макараў зрабіў патрэбную адзнаку і распісаўся.



— Многа шуму... А цяпер дазвольце пытанне? — глянуў ён на Цвёрдахвалава.
— Што?
— Вы сказалі, што я не лётчык. Хто ж я?
Падпалкоўнік хмура паглядзеў на Макарава, моўчкі стаў хадзіць па кабінеце. Твар яго раптам перасмыкнуўся.
— Вы ў нас не лёталі...
— Пазаўчора зрабіў два палёты,— сказаў Кудлач.
Макараву зрабілася ніякавата ад таго, што начальнік штаба не ведаў пра яго лётную работу. Мусіць, за гэтым шырокім сталом толькі і займаўся каравуламі ды паставымі ведамасцямі.
— Сядайце на маё крэсла,— сказаў падпалкоўнік.— За адну гадзіну пачуеце пятнаццаць званкоў і дваццаць пытанняў. І на ўсё трэба даць адказ. Дайшло?
— А на маё адно не адказалі. Дазвольце ісці? — лейтэнант казырнуў, гулка стукаючы абцасамі, выйшаў з кабінета.
Кудлач рассеяна пазіраў у акно. Ён быў незадаволены гутаркай начальніка штаба з лейтэнантам Макаравым.
Цвёрдахвалаў грузна хадзіў па кабінеце. Ён адчуваў сябе пакрыўджаным. Каб сказаць, дзеля сябе стараўся, тады іншая справа: што зарабіў, тое атрымай. Лепшага ж хацеў для палка, для людзей. Народ такі пайшоў, што з ім трэба многа гаварыць, тлумачыць...
— Ці падабаецца ён вам? — не гледзячы на Кудлача, запытаўся Цвёрдахвалаў.
— Харошы афіцэр...
— А лётчык?
— Будзе добры знішчальнік...
Цвёрдахвалаў краем вока зірнуў на капітана.
— Харошы... Добры... А статута не ведае...
— Будзем вучыць.
— Пакуль не лётнае надвор'е, займайцеся наземнай падрыхтоўкай,— сказаў начштаба, і капітан выйшаў.

Макараў з кабінета Цвёрдахвалава пайшоў да намесніка камандзіра палка па лётнай часці маёра Капусціна і расказаў пра размову ў кабінеце начштаба.
Маёр хацеў павярнуць усё на жарт. Сказаў, што Цвёрдахвалаў і не на такое здатны, што на гэта не трэба звяртаць увагі.
— Згодзен. Металічныя ноткі трэба мець у голасе. Аднак нельга так: лётчык, не лётчык...
— Вы зразумелі? А дзяжурства варта несці ўсё ж па статуту. Тут ён правільна патрабуе,— лейтэнант адчуў на сабе позірк разумных вачэй маёра.
— Слухаюся!
— Можаце ісці...
...Не больш як праз гадзіну ў калідоры пачуўся тупат. З штаба выходзілі лётчыкі.
У кабінет Капусціна забег Кудлач.
— Збіраемся на аэрадром...
— Распагоджваецца? — Капусцін адсунуў ад сябе паперы, падышоў да акна.
Туман, які нядаўна ахінаў вершаліны бяроз па той бок вуліцы, нечакана рассеяўся. Неба пасінела.

— О-о! Не дрэнна! Будзем лятаць.
Маёр пазваніў на метэастанцыю.
— Што ў вас чуваць? — слухаў дзяжурнага метэаролага, пазіраў праз акно на неба, потым паклаў трубку. Здымаючы з вешалкі куртку і шлемафон, сказаў: — Выязджаем. Вышыня чатырыста метраў... Людзі гатовы?
— Тэхнікаў адправіў на стаянкі, а лётчыкі чакаюць каманды...
Выйшлі на ганак. Капусцін глянуў на лётчыкаў, на неба.
— Едзем...
Лётчыкі ўрассыпную рушылі да аўтобуса.
— Эй, пілацяга! Даганяй хутчэй...— гукнуў Макараў дзяжурнага па палётах, што таптаўся ля штаба з блакітным чамаданам у руках.— Не паглядзім на тваю дакументацыю...
— Адну хвілінку!
Яго і Цвёрдахвалава падабралі на хаду.
Лётчыкі заўважылі жартам:
— Пакуль заедзем, туман зноў насунецца...
— Не можа быць. Не снежань, а сакавік на двары...
— Хоць бы парачку палётаў зрабіць...
Ля самалётаў лётчыкі пастроіліся, атрымалі ўказанні і разышліся да сваіх машын.
Макараў кідаў позіркі на рулёжную дарожку. Над ўзлётнай паласой сіняватыя воблакі пажаўцелі, а потым пабялелі. Паказалася блакітнае неба, і выглянула сонца.
— Ура! — крыкнуў Макараў свайму механіку.— Міша! Сонца!
Механік вылез з-пад самалёта, казырнуў лейтэнанту.
— Машына к вылету гатова...
Макараў абышоў свой самалёт, ступіў на крутую лесвіцу, пакратаў ручку ўпраўлення, зірнуў на прыборы. Лёгка скочыў далоў, абапёрся на кансоль машыны, як на плячо друга, любоўна пазіраў на яе празрысты ліхтар. Лейтэнанту здавалася, што яго самалёт самы лепшы ў палку.
А ўзлётная паласа грымела і грымела — адзін за адным узнімаліся самалёты. Макараў праводзіў іх позіркам да самага лесу.
Нарэшце прыйшоў жаданы час...
На грудзях Макарава шчоўкнуў бліскучы замок парашута. Ён адразу адчуў цяжар лямак. Сеў у кабіну, прывязаўся, агледзеўся. Зачыніў ліхтар — шкляны каўпак над галавой, убачыў, як на барту з левага боку зайграла вясёлка. Стрымліваючы радасць, папрасіў дазволу на запуск. З пульта яму адказаў Кудлач. Паўтарыў асноўныя дадзеныя практыкавання.
— Вышыня пяцьсот, хуткасць...
— Усё ясна. Прыём! Прыём!
Макараў паслухаў, як заракатаў магутным нізкім голасам рухавік, падаўся крышку наперад.
— Дваццаць дазваляю! — пачуўся голас Кудлача.
Макараву прыемна, што за ім сочыць камандзір, загадвае, кіруе, і таму ён лёгка памчаўся па рулёжнай дарожцы на старт. Спыніўся каля старцёра, які ўважліва сачыў за ўзлётнай паласой, пачакаў, пакуль ён падняў у выцягнутай руцэ белы сцяжок і лагодна ўсміхнуўся: шчаслівага палёту!
Макараў даў газ, прытрымаў тармазы, і рухавік нема зароў, а потым з неймавернай сілай пад самалёт ірванулася роўным шэрым палатном узлётная паласа. Абапал мільганулі аэрадромныя



ліхтары, потым паплылі палеткі. Зямля аддалялася і аддалялася. Гарызонт узняўся шырока-шырока, засланы тонкай смугой.
Макараву здалося, што ён зросся з машынай. Сэрца поўнілася весялосцю, хацелася гаварыць, спяваць... Нездарма Кудлач казаў маладым лётчыкам, што калі ён першы раз падняўся ў паветра, то заспяваў: «Всё выше и выше, и выше стремим мы полёт наших птиц...»
Стрэлкі прыбораў іскрыліся, паказвалі зададзеную вышыню, а хуткасць перайшла лічбу, якую назваў капітан. Збавіў хуткасць, плаўна развярнуўся і пайшоў па кругу. Аэрадром застаўся далёка з левага боку.
Макарава вабілі шырокія прасторы і блакітная вышыня. Хацелася ўзяць ручку на сябе, даць поўны газ і адчуць імклівую хуткасць палёту. Стрымлівалі жорсткія параметры практыкавання па кругу.
— Разварот! — напомніў Кудлач.— Як зразумелі?
— Вас зразумеў. Прыём! Прыём! — адказаў лётчык, развярнуўся і здалёк убачыў пасадачную паласу. Збавіў газ, і машына хораша пайшла на пасадку. Плаўна падвёў да зямлі і каля самага «Т» пасадзіў яе без падскокаў на тры кропкі. Зарулíў на заправачную, вылез з кабіны, а Кудлач ужо тут.
— Якую трымалі хуткасць перад трэцім разваротам?
— Крышку перабраў,— прызнаўся лётчык.
Кудлач памахаў пальцам:
— А я што казаў?
— Больш не паўторыцца...
Капітан памаўчаў, не ўшчуваў болей, сказаў, што палёт увогуле быў добры.
— Вытрымліваць вышыню, хуткасць,— Кудлач нецярпліва касіўся на механіка, які на каленях поўзаў пад машынай. Адыходзячы ад самалёта, загадаў: — У кабіну. Выконвайце наступны палёт...
Другі палёт удаўся яшчэ лепш.
Макараў сеў, зарулíў, скінуў парашут і, тоячы незвычайнае хваляванне і радасць, цвёрдым крокам падышоў да Кудлача: разахвоціўся, збіраўся выпрасіць яшчэ адзін палёт.
Капітан жа строга зірнуў на яго, як на вінаватага.
— Што ж,— задумліва сказаў ён,— у наступны лётны дзень пойдзем далей...
— Слухаю!

## 2

Паравоз даў працяглы гудок, закінуў шлейф дыму за чырвоную вадакачку і неўзабаве мільгануў апошнім вагонам. На апусцелым пероне астаўся капітан медыцынскай службы. На ім быў паношаны шынель. На неспакойныя вочы ўвесь час насоўвалася вялікаватая шапка. Капітан нервова папраўляў яе. Быў ён нізкі, тонкі, тварам дробны. У левай руцэ трымаў чамаданчык, пазіраў за чыгунку на сіні ельнік. Там віднеліся дахі ваеннага гарадка. Капітан падаўся ў той бок.
Ён ведаў нумар часці, у якую ехаў, памятаў, як знайсці штаб. Ішоў па алеі, уважліва аглядаў новыя мясціны.

Капітан думаў усю дарогу, як паводзіць сябе на новым месцы службы. Трохі палохала тое, што да гэтага не служыў у авіяцыі. «Як сябе пакажаш камандзіру ў першы раз, такі будзе твой аўтарытэт...— рашыў ён.— Зрэшты, што мне авіяцыя? Дзе б не служыў — хоць на лінкоры ці на падводнай лодцы, а я — урач»,— супакойваў ён сябе.

У канцы алеі стаяў прыгожы цагляны дом. Афіцэр з павязкай на руцэ сказаў, што гэта якраз і ёсць штаб часці, у якой капітану давядзецца служыць.

— Дзе знайсці камандзіра?

— Трэція дзверы налева.

Капітан пайшоў.

У маленькім светлым кабінеце сядзеў за сталом малады падпалкоўнік і размашыста падпісваў паперы.

— Капітан медыцынскай службы Ахтан прыбыў у ваша распараджэнне,— далажыў капітан.

Падпалкоўнік пацiснуў Ахтанаву руку, запрасіў сесці.

— Добра, што прыехалі,— лагодна сказаў ён.— У мяне цэлы месяц няма старшага ўрача. Службай часова камандуе фельчар. Дзе служылі?

Ахтан пералічыў палкі, у якіх праходзіў службу.

— У авіяцыі першы дзень?

— Яшчэ і дня няма. Іду з поезда,— з усмешкай адказаў капітан.

— Як новаму ў нас чалавеку, трэба ведаць, што мы — авіятэхнічны батальён. Асобная часць, тыл авіяцыі. Забяспечваем знішчальны полк. Другі такі ж батальён абслугоўвае полк і ўпраўленне злучэння. У нашых руках знаходзіцца ўсё, што трэба для жыцця і бою палка. Амбулаторыя, лазарэт, аптэка — усё наша. У палку — лётчыкі, тэхнікі, самалёты, а з медыцыны — адзін старшы ўрач палка. Вы павінны забяспечваць палкавога ўрача медыкаментамі, персаналам, санітарным транспартам і фельчарам у гадзіны палётаў. Палкавы ўрач займаецца лётчыкамі палка, а вы павінны яму ва ўсім памагаць. Ёсць у гарнізоне ўрач злучэння Сарочын, а ў Н-ску медаддзел узначальвае палкоўнік Каўцоў. Сустракаліся з ім? Не? Ён часта бывае ў нас...

Зазваніў тэлефон. Падпалкоўнік падняў трубку.

— Каралёў слухае. Пазнаў... так... Добра. Не магу!

Каралёў плячом прыціскаў тэлефонную трубку да вуха. Трымаючы ў руках Ахтанава накіраванне, прачытаў, палажыў перад сабою.

— Іван Паўлавіч, слухай... Сусед, друг! Што датычыць спецыяльнай машыны — не магу. І не прасі...

Каралёў палажыў трубку, глянуў на Ахтана.

— Шкада, што кватэры вам у мяне няма. Прыйдзецца пажыць на прыватнай. Схадзіце ў медпункт да фельчара Пятрова. Ён усё пакажа і раскажа. Далей будзеце самі разбірацца ва ўсім. Сям'я ў вас вялікая?

— Адна жонка...

Каралёў развітаўся. Ахтан выйшаў з кабінета і неяк адразу згорбіўся ад няўдалай, як ён лічыў, гутаркі з камандзірам. Камандзір мала ім цікавіўся, нават адразу стаў павучаць...

Дзяжурны расказаў яму, дзе знайсці медыцынскі пункт.

«Мяшок, а не камандзір»,— ідучы па алеі, думаў Ахтан.



У медпункце яго сустрэла сястра.

— Добры дзень, таварыш капітан,— прывіталася яна.

Была яна маладая, жвавая, з выразнымі ямачкамі на шчаках, у бялюткім халаце, на шапачцы — чырвоны крыжык. Нават халат не хаваў яе стройнасці.

— Дзе фельчар Пятроў? — папытаўся Ахтан.

— Пайшоў дамоў...

Ахтан на момант задумаўся.

— На што ён вам?

— Я старшы ўрач... Ахтан.

— Язвіцкая. Увесь гарнізон называе проста — Вера,— сказала яна.— А што трэба, мы і без Пятрова зробім. Прашу, доктар, сюды. У нас тут перавязачная, далей кабінеты палкавых урачоў.

— Адным вокам гляну з калідора.— Ахтан спыніўся каля перавязачнай.

Вера адчыніла дзверы.

— Так... так...— пaціху гаварыў Ахтан.— Пойдзем далей.

— Тут дзяжурны ўрач,— сказала Вера і адчыніла дзверы наступнага кабінета.— Таварыш маёр, можна да вас?

— Калі ласка, Верачка!

Вера прапусціла ў кабінет Ахтана і зачыніла за ім дзверы.

У кабінеце за сталом сядзелі два маёры. Адзін быў урач, а другі авіятар. Ахтан адрэкамендаваўся: новы старшы ўрач батальёна.

— Палкавы ўрач Смірын Мікола Іванавіч, — голас медыка звонкі, нават рэзкаваты.

— Нур Пятровіч,— Ахтан траха не прысеў ад поціску рукі Смірына.

— Знаёмцеся... — паказаў Смірын на авіятара.

— Камэска Ануцюнаў,— у голасе выразна чуўся ўсходні акцэнт. Ды і рысы смуглявага твару гаварылі пра гэта. На грудзях маёра тры ордэнскія планкі і значок майстра парашутнага спорту.

Смірын сеў у крэсла, дастаў са стала чорныя лісты рэнтгенаграм, палажыў у канверт і аддаў Ануцюнаву.

— Няхай яны заўсёды напамінаюць, што ў паветры нельга памыляцца і майстрам. На некаторы час парашутную справу забыць. А служба ёсць служба. Лятайце!

Ануцюнаў устаў, прыціснуў руку да грудзей.

— Вашы словы дзейнічаюць лепш за лекі. Мяне даўно чакае эскадрылля. Дазвольце адвітацца,— камандзір эскадрыллі казырнуў і выйшаў.

Ахтан паспеў ужо агледзець кабінет, на сценах якога віселі каляровыя плакаты па авіяцыйнай медыцыне. Ахтан бачыў іх упершыню.

— Адкуль, калега, прыехалі? — папытаўся Смірын.

— З Ленінграда...

— Як цяпер красуецца Паўночная Аўрора? Люблю Пятра тварэнне!..

Ахтан паціраў рукі, расказваў пра горад на Няве, дзе быў, з кім сустракаўся. Між іншым сказаў, што два гады назад служыў у горадзе Кліме і там сустракаў урача Смірыну. Пацікавіўся, ці не радня яна маёру.

Прадаўгаваты твар Смірына перасмыкнуўся. Голас зрабіўся глухі.

— Мая жонка, Алеся...

— Так. Яе звалі Алеся.
— ...разам з сынам загінула ў першы дзень вайны. Расказваў чалавек, які бачыў, як іх расстралялі эсэсаўцы...
Ахтан прыкусіў губу. Маёр спахмурнеў зусім.
— Як апантаны, вось ужо восем год пішу і пішу ўсюды, шукаю жонку з сынам, ведаючы, што іх няма сярод жывых...
— Гэтая Смірына працавала ў нас на палавіне стаўкі. Асноўную работу мела ў гарадской бальніцы. Хірург, скажу вам, першай рукі... Сын, здаецца, вучыўся ў школе... Прабачце, што напомніў вам...
Маёр сядзеў, падпёршы твар рукою, і, не міргаючы, пазіраў у акно. Ссунутыя бровы, маршчакі на ілбе і нейкі шкляны бляск вачэй столькі выказвалі болю душы, што Ахтан баяўся паварушыцца.
Палкавы ўрач страсянуў галавою, нібы ўспомніў, што ў кабінеце ён не адзін, хрыпла папытаўся:
— Дзе думаеце жыць?
— На прыватнай кватэры...
Ахтан пазіраў на палкавога ўрача, на яго акадэмічны значок, які свяціўся снежнай белізной над кішэнькай кіцеля, і ніяк не мог зразумець, што з ім рабілася.
— У мяне жонка стаматолаг. Дарэчы, работу ёй у горадзе можна знайсці?
— Наўрад...
— Яна можа працаваць зубным урачом або проста хірургам...
Капітан убачыў, што гэтае пытанне не цікавіла палкавога ўрача, пачаў пра другое.
— Зайздрошчу ўрачам у шпіталях. Людзі там сапраўды працуюць. Мы ў страявых часцях пастулова трацім тое, што калісьці набылі ў вышэйшай школе...
— Я не згодзен...
— Чаму? — Ахтан падышоў да стала.— Вы скончылі акадэмію і каб працавалі ў шпіталі, то даўно маглі б стаць хірургам першага класа...
— Хірургію я не люблю...
— Дык тэрапеўтам,— не адступаўся Ахтан.
— Тэрапіяй я займаюся...
— А хто ў гарнізоне хірург?
— Няма...
Ахтан узрадаваўся.
— На якую лячэбную базу вы абапіраецеся?
— Маем добры лазарэт. Гарадская бальніца ніколі не адмаўляе ў практыцы...
— У лазарэце і хірургіяй можна займацца? — запытаўся Ахтан, але адразу спахапіўся.— Што гэта я? Хірургіяй можна займацца ў любой амбулаторыі... Я маю на ўвазе вялікую хірургію: поласцевыя аперацыі, рэзекцыі...
— Можна,— кіўнуў Смірын.
— У армейскіх урачоў шмат часу займае прафілактычная работа. Праўда?
— Уласна кажучы, калега, медыцына будучыні не складаная нейрахірургія ў бальніцы, а прафілактычная медыцына. Шкада, што ў нашым горадзе няма медыцынскага інстытута. Пайшоў бы працаваць на кафедру фізіялогіі. Мяне цікавіць раздзел дыхання...
— А як у мясцовых урачоў з навукова-даследчай работай?



— Мусіць, працуюць,— Смірын задумаўся.— Пакуль ніхто не афішыруе...
Ахтан адчыніў чамаданчык. Дастаў зялёную папку, палажыў перад Смірыным.
— Я працую над тэмай: «Кровазварот кульці». І не думаю хавацца ад другіх. Калі ласка! Мне трэба месяц на заканчэнне, і я мог бы абараняць дысертацыю на кандыдата навук. Перашкодзіў перавод.
Смірын перагарнуў некалькі лістоў. На некаторых старонках былі каляровыя здымкі мікрапрэпаратаў капілярнай сістэмы. І вельмі ўдалыя.
— Калега, вы б узялі больш цікавую тэму...
Ахтан запярэчыў пакрыўджаным голасам:
— Зразумела, авіяцыі яна не падыходзіць. Але артапеды за яе ўхопяцца,— ён пацягнуўся да зялёнай папкі. Смірын аддаў яе.
— Калі ўжо мяне адарвалі ад навуковай работы для артапедаў, накіравалі служыць у авіяцыю, то я перад камандаваннем пастаўлю некаторыя ўмовы. Дзеля палётаў у стратасферу і вышэй будуць канструявацца новыя машыны.
Ахтан узяў ліст паперы.
— Ні адзін фізік не разлічыць хуткасці руху крыві ў крыяноснай сістэме чалавека...
— А каму і дзеля чаго гэта трэба?
Ахтан, узняўшы бровы, моўчкі маляваў трубкі рознага сячэння.
— Фізік можа вылічыць хуткасць руху вадкасці ў гэтай або ў той трубцы. І толькі! А ў крыяноснай сістэме зробіць разлік чалавек, які глыбока ведае фізіялогію. Таму я вырашыў паступіць у паветраную акадэмію на канструктарскае аддзяленне...
— Ого, калега, у вас вялікія планы...
Ахтан адразу ж узяўся расказваць аб выгадах, якія атрымае авіяцыя, калі ён стане канструктарам.
Смірын убачыў, што Ахтан па-асабліваму трымаў аловак: указальны палец быў падкурчаны. Ахтан растлумачыў:
— Быў судова-медыцынскім экспертам і ўкалоў палец. Траха не загінуў. Гэта след,— Ахтан палажыў аловак на стол.
Смірын задумліва пацёр лоб, запытаўся:
— Дык якое ж ваша амплуа: артапедыя ці судова-медыцынская экспертыза?
— Хірургія...
Смірын нічога не адказаў. Ён глянуў на гадзіннік, заспяшаўся:
— Нур Пятровіч, пара адпачываць. Я рана еду на палёты...
— Хіба ўрачу абавязкова ехаць?
— Палкавому — абавязкова.— Смірын павёў Ахтана ў суседні пакой, дзе звычайна адпачываў дзяжурны ўрач.— Ну вось, Вера паслала ўжо... Адпачывайце...
— Прыгожая дзяўчына,— сказаў Ахтан.
— Ужо не аднаму афіцэру запарушыла вока,— адказаў Смірын.

### 3

З медпункта маёр Ануцюнаў пайшоў у штаб эскадрыллі. Зайшоў у канцылярыю. З класа праз лёгкія фанерныя дзверы чуўся голас Кудлача:

— Вы адарваліся ад вядучага і спакойна прыйшлі на аэрадром. Гэта ў мірны час. А каб так здарылася падчас вайны? Цяжка сказаць, што б з вамі было. Я раскажу, што было са мною. Аднойчы вылецелі мы ўдвух. Вядучы, старшы лейтэнант Сяргейчык, мой камандзір звяна і я — вядзёны яго. Трымаўся ў пары я добра, уважліва сачыў за сваёй задняй паўсферай. Прабілі пеністыя воблакі над лініяй фронта і павярнулі ўлева. «Увага! Атакую «Хейнкеля!» — скамандаваў вядучы. Мяне ўсяго страсянула. Я і сюды, я і туды. Хачу ўбачыць, дзе той «Хейнкель». А ён з левага боку ішоў бамбіць нашу перадавую. Ад першай жа чаргі Сяргейчыка ён успыхнуў, кульнуўся на бок і пацягнуў уніз хвост дыму. Уразіла мяне дакладнасць стральбы вядучага. Такое бачыў я першы раз. І што вы думаеце? Зусім недалёка з воблака на поўным газе выскачыў другі «Хейнкель». Нас ён не бачыў, і сам лез у прыцэл. Што рабіць? Я забыў пра вядучага, адарваўся ад яго. Падвёў сілуэт цэлі да перакрыжавання ў прыцэле і націснуў гашэтку. На правай плоскасці выскачылі языкі полымя. Даў другую чаргу. Полымя абхапіла ўвесь правы матор, і «Хейнкель» пайшоў уніз. Я цікаваў, куды ён упадзе. Раптам у навушніках чую голас Сяргейчыка: «Левую нагу! Нагу! Атакуе!» І тут жа зялёныя вогненныя трасіры снарадаў секанулі па маёй правай плоскасці, па фюзеляжу. Паляцела абшыўка, за плячыма штосьці затрашчала. У левы локаць так пеканула, што думалася, рука адляцела. Самалёт каменем падаў, не слухаўся ручкі ўпраўлення. Я прыціснуўся плячыма да бронеспінкі і ўбачыў, што «Фокер» ужо выходзіў з атакі баявым развaротам, а ў хвост яму зайшоў Сяргейчык. Упаў я ў баявыя парадкі сваіх войск, надоўга трапіў у шпіталь... Вось што значыць не трымацца вядучага!

Ануцюнаў адчыніў дзверы ў клас.

— Устаць! — скамандаваў Кудлач, ступіў да Ануцюнава.— Таварыш маёр, праводзім разбор сённяшніх палётаў эскадрыллі.

Камэска прабег вачыма па тварах камандзіраў звенняў, старшых лётчыкаў і лётчыкаў.

— Добрага здароўя, таварышы!

— Здра... жа... тав... маёр! — дружна адказалі яны.

— Вольна! Сядайце!

Ануцюнаў агледзеў клас, убачыў на сцяне табліцу індывідуальнай падрыхтоўкі лётчыкаў. Падышоў да яе.

— Многа лялалі?

— Дзе там! — адказаў Кудлач.— Воблачнасць як прыціснула да зямлі, дык увесь час трымала на стаянках. У складаных умовах лялалі многа. Агульны налёт таксама не дрэнны...

— А як моладзь? — павярнуўся Ануцюнаў да лётчыкаў. За крайнім сталом убачыў Макарава.— Усё на зямлі седзіцё?

Макараў устаў, усміхнуўся.

— Ужо вылятаў самастойна...

— Сёння зрабіў два палёты па кругу,— дадаў Кудлач.

— Як лятаў?

— Добра. Наступным разам пойдзе ў зону...

— Правільна. Хутчэй трэба Макарава вывесці з малочна-васковай спеласці. А вы як, Сідоркін?

— Страляў па конусу. Атрымаў чацвёрку...

— Без мяне вы тут не драмалі. Амаль паўгадавую праграму лётнай падрыхтоўкі закончылі,— сказаў Ануцюнаў і звярнуўся да Кудлача: — У мяне пытанняў няма.



Кудлач адпусціў лётчыкаў.

Калі клас апусцеў, маёр і капітан селі за першы стол.

— Як вашы справы? — папытаўся Кудлач.

— Забаранілі скакаць з парашутам...

— А лятаць?

— Можна сягоння садзіцца ў самалёт, а то... — сказаў Ануцюнаў і не скончыў. Кудлач ведаў, што ён хацеў сказаць. Маёр гаварыў заўсёды, што лётчык павінен лятаць кожны дзень. Інакш ён развучыцца, будзе баяцца хуткасці, вышыні...

— А як нага?

— Зраслася, ды так, што на тым месцы пералома болей не будзе. Што, не верыце? Запытайцеся ўрача... — весела сказаў Ануцюнаў.— Што тут чуваць?

— Будзем пераходзіць на рэактыўныя самалёты. Камандзір палка паляцеў на нараду. Можа што новае прывязе...

Ануцюнаў чуў ад лётчыкаў, што мы атрымаем самалёты.

— Адзін капітанназіраў вылет выпрабавальніка на новым самалёце. Вырулій, кажа, на старт, пастаяў і па камандзе сарваўся з месца, стралою пайшоў у вышыню. Праз колькі часу растаў у блакіце. Ні самалёта, ні гуку...

— Нам бы так лятаць!.. — не ўтрымаўся Кудлач.

— Мы на парозе новага. Гэта ясна,— Ануцюнаў радасна азірнуўся. Ён ужо дома, у страі, поруч — намеснік Кудлач. Маёру рупіла як мага хутчэй трапіць на аэрадром, далонню адчуць халадок рабрыстай ручкі кіравання, вырвацца ў вышыню.

Разам усталі з-за стала.

— Марына працуе? — пацікавіўся маёр.

— Усё там жа...

— Сашка падрос?

— Бегае ў садзік...

Выйшлі з класа ў канцылярыю.

— Вы былі ў Капусціна?

— Зараз іду...

Кудлач правёў Ануцюнава да кабінета намесніка камандзіра палка і вярнуўся назад. Сабраў са стала планавыя табліцы, схаваў у шафу. Задумаўся над тым, што расказваў камэска.

Капітану здалося, што ён ужо на старце, вырулій на той новай машыне. У навушніках шлемафона пачулася каманда камандзіра палка. Крануў сектар газу і пайшоў на ўзлёт. Мільганула зямля і пайшла ўніз. Потым пранеслася рваная воблачнасць і на чыстым небе заіскрылася веснавое сонца. Час ад часу кіраўнік палётаў з далёкай зямлі пытаўся, дзе знаходзіцца, якая хуткасць. Ён адказваў і назіраў, як сінява неба мянялася.

Капітан Кудлач выйшаў на ганак. Там стаяў дзяжурны, трымаючы ў руцэ сініцу. Капітан падставіў прыгаршчы.

— Сыну пакажу...

— У пальчатку яе...

Капітан пайшоў па алеі да дзіцячага сада. Забраў сына і, выйшаўшы на стадыён гарадка, страсянуў пальчаткай каля вуха Сашы.

— Што гэта?

— Глядзі...

Галоўка сініцы з жаўтлявымі абадкамі вакол вачэй паказалася з пальчаткі. Саша ікнуў ад радасці, ухапіўся за бацькаў рукаў.

— Дай мне!

Хлопчык трымаў птушку ў прыгаршчах. Яму хацелася пагладзіць яе, але рукі былі заняты, і таму ён паднёс маленькую птушку да твару.

— Сі-ні-і-і-чка!

Кудлач успомніў сваё маленства: калісьці і ён вось так радаваўся чырванагрудаму снегіру, які першы трапіў у сіло. Было гэта даўно ў маленькай палескай вёсцы.

Сочачы за сынам, які радасна кружыўся на месцы, любуючыся птушкай, Кудлач нечакана ўбачыў жанчыну ў белым капялюшыку. Яна была вельмі падобная на яго Марыну. Ну так, гэта ж Марына... А хто з ёю?

«Інжынер Пятроўскі?..»

Кудлач глянуў на сына.

— Патрымаў трошкі? Малайчына! Цяпер зрабі так... — Кудлач развёў далоні ў бакі.

Саша ўзняў перад сабою сініцу і растуліў далоні. Сініца ціўкнула і паляцела на вершаліну бярозы. Саша моўчкі пазіраў ёй услед, а потым гучна ўздыхнуў.

— Далёка паляцела!

Тым часам Кудлач убачыў, што Пятроўскі па краі стадыёна пайшоў да штаба, а па прысадах сюды ішла Марына. Яна была вясёлая і ўсхваляваная.

Кудлач адчуваў, як у душу запаўзаў непрыемны халадок, нават разгубіўся.

Марына падышла, пацалавала сына.

— Што ты тут робіш? — Вочы яе дзіўна бегалі, не маглі ні на чым затрымацца.— Я так спяшалася!

— Туды? — Кудлач вачамі паказаў у канец прысадаў, адкуль яна прыйшла.

Марына паспешна выняла з рукава футравага паліто хустачку, выцерла сынаў тварык.

— Што ты выдумляеш? Я да Соні хадзіла. Пойдзем, сынок...

— Тата мне сінічку паказваў...

Марына ўзяла сына за руку, паправіла белы капялюшык на чорных валасах і пайшла дадому. Кудлач тупаў за імі воддаль, губляючыся ў здагадках: «Ці не пачынаецца старое?»

На галоўнай вуліцы гарадка сустрэў Веру. Крыху пастаялі. А калі капітан падышоў да свайго дома, з ганка крыкнуў Саша:

— Пісьмо!

— Ад каго? — Кудлач глянуў на канверт: ад Янкі Чуба.— Не забыў механік свайго камандзіра...

Кудлач зайшоў у кватэру. Сеў на мяккае крэсла. Што і казаць, прыемна пасля работы прыйсці дамоў, сесці вось так, пагглядзець газеты, прачытаць пісьмо аднапалчаніна, успомніць чалавека, якога вучыў, выхоўваў, з якім не адзін дзень і не адну ноч правёў на аэрадроме. Механік дэмабілізаваўся ўвосень, а піша цяпер: нечага хоча ад свайго камандзіра.

Наўскасяк разадраў канверт.

«Паважаны таварыш капітан,— пісаў Янка Чуб круглымі літарамі, якія ў канцы радка спаўзалі ўніз.— Я вас успамінаю амаль кожны дзень, як старэйшага брата. Дзякую, што прывучалі несці службу, нават на гаўптвахту саджалі, а пасля, калі ўсё пайшло на лад, хвалілі і ганарыліся сваім падначаленым...»





Далей механік да драбніц выкладваў свае думкі, радасці, сумненні. Паведамляў, што працуе на трактарным заводзе ў Харкаве. Работа па душы. Заробак — дай бог! Апісваў кватэру, якую нядаўна атрымаў, расказваў пра дзяўчыну, з якой гуляў. І з выгляду якая, і які ў яе характар, і што дзяўчына яго вельмі пакахала. І нарэшце пытаўся, як яму быць.

— Марына! — паклікаў Кудлач.

Яна ўвайшла ў пакой насцярожаная, уважлівая.

— Слухай і скажы сваю думку,— не азіраючыся на жонку, ён прачытаў вытрымку з пісьма пра дзяўчыну. Марына стаяла каля акна, пазірала на этажэрку.

— Што напісаць хлопцу?

— Пакуль не пакінула дзяўчына, то няхай жэніцца,— сказала Марына.— Твой механік нейкі дзівак...

Яна адышлася. Кудлач зноў пачаў далей чытаць пісьмо. Там былі радкі, якія ўзрушылі яго. Нават не хацелася верыць:

«Люблю і шаную вас, як лётчыка і чалавека, а таму хачу сказаць адну дэталь. Перад самай дэмабілізацыяй аднойчы з начных палётаў паехалі мы з інжынерам Пятроўскім на тэхсклад, узялі запасныя часткі і спыніліся на вуліцы недалёка ад вашага дому.

«Кудлач на палётах, а я тым часам збегаю да Марыны за пацалункам»,— сказаў Пятроўскі шаферу.

Так што глядзіце, як яно там у вас...»

Задрыжала рука, у якой капітан трымаў пісьмо, заныла сэрца ад пякучай крыўды. Кудлач устаў. Марына круцілася перад люстэркам. У ім яна ўбачыла жорсткія вочы мужа, павярнулася.

— Што з табой?

— Нічога. Пакуль нічога...

## 4

Смірын прыйшоў у свой кабінет, сеў за стол. У грудзях трымцела і ныла. Ахтан растрывожыў старое гора. Ён доўга хадзіў з кута ў кут. Думаў.

Прыгадалася раніца дваццаць другога чэрвеня сорак першага года, калі ён пакінуў Алесю з сынам на руках і па трывозе выехаў з ваеннага гарадка на захад. Праз тры гадзіны полк уступіў у бой з немцамі.

Смірын выскачыў з машыны за фельчарам Івіным, убачыў з правага боку ад дарогі густы ельнік, а з левага — высозны слуп дыму, які даставаў да белага воблака. За рэчкай на грудку гарэла вёска.

За жытам, што было здратавана гусеніцамі танкаў, чулася гарматная страляніна, суха трашчалі кулямёты.

Яны з Івіным пабеглі палявой дарогай і на ўзлеску ўбачылі маладзшага ўрача палка Эскіна, які з санінструктарам перавязваў раненага танкіста. Гімнасцёрка на ім у рыжа-чорных плямах.

— Дзе машына? — прасіпеў Эскін.

— Пакінулі там,— паказаў Смірын назад.

На голас Смірына азваўся ранены.



— Мікола, гэта я!

Сэрца Смірына балюча сціснулася.

— Быў у цябе друг Васін... — апалены і паранены, камандзір танка лейтэнант Васін ціха папрасіў: — Хадзі сюды, Мікола. Скажы Мані, што я так... — лейтэнант захрыпеў і замаўчаў.

— Івін, давайце машыну! — загадаў Эскін.

Івін пабег.

— Вады...— ледзь чутна папрасіў Васін.

— За кустамі крыніца,— сказаў Эскін.

Смірын пабег з усіх ног. Пад горкай — крыніца. Лявей — куп'істы поплаў і дарога на мост. Зусім недалёка стаяў чорна-бліскучы танк з белымі крыжамі. Далей відны былі яшчэ такія ж два танкі. Над чацвёртым каля самай рэчкі воблакам узнімаўся чорны дым. Там стаяла і наша трыццацьчацвёрка без правай гусеніцы. На ёй нядаўна вёў бой яго дружбак Васін.

Набіраючы ваду, па стрэлах танкавых гармат Смірын зразумеў, дзе былі нашы і дзе заселі немцы. І ён з вадой пабег назад. Схапіў чорную ад мазуту руку Васіна — лейтэнант ужо не дыхаў. Хістаючыся, падышоў да зламанай снарадам хваіны, пальцам размазаў светлую, як сляза, кроплю смалы, што выступіла на зломе. На душы адразу зрабілася пуста.

— Вазьміце сябе ў рукі,— сказаў Эскін.

Прыйшла машына. У яе пазносілі раненых, і Івін паехаў у шпіталь.

Неўзабаве ў паветры пачуўся гул. Ён нарастаў, глушыў зямлю. Ужо не чуваць стрэлаў гармат. Усё гуло і траслося. Смірын зірнуў уверх.

Строем і важка, як на парадзе, дзевяткамі плылі самалёты. Адна, другая, трэцяя, чацвёртая... На тупа абсечаных жаўтлявых крылах добра віднеліся крыжы.

— Лажыся! — нема крыкнуў Эскін, а сам папоўз і скаціўся ў роў.

Пранозлівы свіст разрэзаў паветра, сцяў душу холадам, моцна прыціснуў да зямлі, і Смірын, заходзячыся ад страху, абхапіў рукамі галаву. Грымнулі ўзрывы. Зямля колькі разоў падкінула Смірына. Гарачае паветра ўдарыла ў твар. Ён убачыў, як на самым версе слупа, што ўзняўся на беразе рэчкі, кульнулася вялізнае вырванае з карэннем дрэва. Смірын сеў.

— У яр! — крыкнуў санінструктар.

Смірын, а за ім і Эскін, пабеглі да яра. Толькі выскачылі на яго бераг, як над галавою пачуўся прарэзлівы свіст бомбы...

* * *

...Ноч. Жоўты месяц зазірнуў у яр. Смірын цяжка расплюшчыў вочы. Здалося, што гергятлівы голас немца загадаў падняць рукі і вылазіць наверх.

На душы зрабілася цяжка і прыкра: так недарэчна трапіў праціўніку ў рукі. Правёў далонямі па вільготнаму рамяню, знайшоў кабуру. Сціснуў ручку пісталета, прыслухаўся. Навокал ціха, як у магіле. І ніхто яго болей не зваў.

Зірнуў уверх. Па спалавеламу небу рассыпаліся бледныя зоры. Былі яны далёкія і халодныя. Справа цямнеў высокі абрывісты бераг. На самым яго краёчку — у праменнях месяца маладзенькая бяроза. Па левую руку на спадзістым беразе стаялі цёмныя кусты.

Смірын уважліва да ўсяго прыглядаўся, але павекі зрабіліся цяжкія, і ён заплюшчыў вочы. Нейкі час ні то спаў, ні то драмаў, а потым уздрыгнуў усім целам. Зноў глянуў уверх.

«Гэта мне здалося, што клікаў немец»,— падумаў ён і павярнуўся. З грудзей вырваўся цяжкі стогн. Сцішыўся, нерухома паляжаў трохі, сабраў сілы і паспрабаваў сесці.

Галава цяжкая, нібы воламам налітая, не слухалася, яго вадзіла ў бакі, а плячэй наогул не чутно, нібы іх зусім няма.

У вачах успыхнулі яркія вясёлкавыя кругі, заіскрыліся, закружыліся, і шчака паволі прытулілася да халоднай роснай травы. Страшэнная слабасць разлілася па ўсім целе. Пачаў агортваць смутак бездапаможнасці і бяссілля. Цяжка дыхаючы, Смірын павярнуўся і сеў. Потым стаў на калені. Пакрысе здагадваўся, дзе знаходзіцца, азіраўся, разглядаў, што яго абкружала. Уперадзе валялася растрыбушаная скрынка аптэчнага камплекту.

Ён ухапіўся рукамі за вечка скрынкі, сцяўшы зубы, падцягнуўся і падняўся на ногі. Яго павяло ў бок, але ўтрымаўся. Працягнуў руку, намацаў нешта роснае, шорсткае. Павёў рукою... Твар! Як ад гарачага, адхапіў руку. Нахіліўся, уважліва прыгледзеўся. Убачыў чорнага, нібы абвугленага, чалавека. Эскін!..

Па спіне прабег мароз. Ляскаючы зубамі, Смірын крадком адступіў убок. Калоцячыся ўсім целам, падышоў да высознага берагу. Ухапіўся рукою за кусцікі. З-пад ног у яго пасыпалася каменне, але ён шпарка выграбся наверх. Уздыхнуў. Пачуў, што тут значна цяплей, чым там, на дне яра.

Сілы зноў пакінулі яго, ён упаў на росны верас пад бярозкай. У яе лісці блішчала мёртвае святло месяца. Чабаровы водар перабіваў кіслы толавы пах, які кружыў галаву.

Ён ляжаў на спіне і глядзеў у вышыню. Неба раз-пораз асвятлялі малінавыя сполахі. Гэта абудзіла яго. Ён сеў, плячом прытуліўся да камля бярозкі.

«Дзе цяпер нашы?» — бязгучна запытаўся Смірын, убачыў, што па шашы, якая адсюль была ўсяго за кіламетр, з запаленымі фарамі ішлі машыны на ўсход.

Смірын нечакана падхапіўся і, са страхам азіраючыся на чорны яр, падаўся палявымі дарогамі на ўсход. Раніцай пад'ехаў з абознікамі пяхотнага палка, якія з учарашняга дня даганялі сваю роту. Салдаты казалі, што ваенны гарадок, дзе служыў Смірын, немцы занялі і прасунуліся далей на ўсход.

Назаўтра Смірын быў у лесе, які падступаў да самага ваеннага гарадка.

Тут жа напаткаў Пятра — барадатага печніка з ваеннага гарадка.

— Дзе нашы сем'і?

— Хто выехаў, хто ўцёк, а каго...— расказваў стары.— Уварваліся ў гарадок, сагналі жанчын і дзяцей на стрэльбішча і там пабілі...

— Маіх не прыкмячаў?

— І вашых...

Смірын дачакаўся вечара і ў поцемках пайшоў на стрэльбішча. Поўзаў сярод расстраляных, шукаў сваіх. Усё агледзеў. Знайшоў на краі стрэльбішча свежую брацкую магілу. Прыпаў да халоднага жвіру, плакаў, а потым, як цень, нячутна патупаў туманнымі ўзлескамі...



А далей... хіба ўсё ўспомніш, што было за гэтыя гады...

Каб пазбавіцца ад страшных успамінаў, Смірын дастаў са стала агульны сшытак. Вокладкі яго абшарпаныя і паламаныя. Амаль тры гады не разлучаўся ён з гэтым сшыткам.

Сеўшы за стол, пачаў чытаць. Чым далей чытаў, тым больш падахвочваўся і, калі дайшоў да канца чацвёртай старонкі, падумаў: «Нібы не я, а хто другі пісаў...»

Выразна бачыў нязграбнасць стылю, прыкмеціў, што ў першай частцы малавата довадаў.

«Што ж нам дасць трэцяя частка»,— падумаў Смірын.

Ён узлёг на стол і паглыбіўся ў чытанне. Задумлівы, скончыў і пацёр рукі.

«Кіслароднае галаданне на вышыні... Вельмі патрэбны дапаможнік для авіяцыйных урачоў і лётчыкаў».

Смірын успомніў гаворку з Ахтанам пра навукова-даследчую работу, усміхнуўся:

«Прыехаў ашчаслівіць наш гарнізон сваёй пакрэсленай дысертацыяй. Мажліва, нешта добрае і ў нас выйдзе без усялякіх папярэдніх рэклам».

Да сённяшняга дня Смірын працаваў марудна. Цяпер яшчэ раз упэўніўся, што ўзяў цікавае пытанне — праблему дыхання на вышыні — і вырашыў яго нядрэнна. Загарэўся жаданнем паскорыць работу, бо засталося толькі зрабіць вывады. Потым можна даць пачытаць таварышам.

Нячутна адчыніліся дзверы.

— Позна ўжо,— увайшла Вера і, убачыўшы заклапочанага Смірына, спынілася пасярод кабінета. А ён, заняты работай, нават не чуў, што яна сказала, і запытальна паглядзеў на медсястру.

— Што, хворы прыйшоў? — з яго твару яшчэ не сышла незвычайная натхнёнасць, але ўжо з'явілася заклапочанасць. Ён жа дзяжурны сёння.

— Не...— Вера крышку схіліла на бок галаву.

Смірын адсунуў ад сябе сшытак.

— Адпачываць пара,— сказала яна і дакранулася да яго гарачай рукі.

— Не магу, Верачка. У галаве такое робіцца...

## 5

Смірын апрануўся і выйшаў у калідор.

— Я скора прыйду,— сказаў ён Веры, якая стаяла каля століка дзяжурнага. Яна была памкнулася да яго, але, калі за маёрам зачыніліся дзверы, склала перад сабою рукі і паківала галавой.

У прысадах працягла і нудна шумеў вецер. Ваенны гарадок спаў. Нікому не было клопату, што на двары ў адзіноце блукаў чалавек, які пасля вайны астаўся адзін на свеце.

Смірын добра ведаў, што няма таго дома, тае сям'і, з якіх бы вайна каго-небудзь не ўзяла. Але мінаў час. Новае жыццё, новыя

абставіны бралі сваё. Раны вайны ў душах людзей марудна, але загойваліся.

Смірын жа да гэтага часу не мог спакойна ўспамінаць жонку, сына. Калі часам хто заводзіў пра іх гаворку, як сёння Ахтан, то ён узрушваўся так, што не мог спаць, есці, пакуль не знемагаў фізічна: тады валіўся на ложак і засынаў цяжкім сном. Прачынаўся пануры, маўклівы і зацята браўся за работу.

Сёння Смірын змёрз на сіверы, стаміўся, але не мог супакоіцца. Адганяў ад сябе тужлівыя думкі. Паўз стадыён выйшаў на цэнтральную вуліцу гарадка. Уперадзе ўбачыў Кудлача.

— Сцяпан Сцяпанавіч! — гукнуў Смірын.

Кудлач спыніўся, пачакаў.

— Адкуль так позна?

— Іду, доктар...— хрыпатым голасам адказаў Кудлач. Твар яго быў закамянелы, ва ўсёй постаці адчувалася скаванасць.

Смірын узяў капітана пад локаць.

— Палёты ж будуць. Гэта ўжо сёння, а адпачываць калі?

Кудлач ішоў поруч, хутаўся ад ветру ў каўнер курткі.

— Кудлач умее лятаць, адпачываць,— з сумам сказаў ён.— А жыць не ўмее. Не! А вы чаму не спіцё, доктар?

— Дзяжуру...

— А я іду з дому...

— Як загадаеце вас разумець?

— Літаральна...

Смірын заўважыў на твары капітана нядобры цень, патрабавальна пацісну ў за локаць. Кудлач, стуліўшы плечы ад ветру, спыніўся і як бывала расказваў урачу перад палётамі пра сваё здароўе, нічога не ўтаіў, што цяпер здарылася дома.

— А мог я гэта прадбачыць? — нарэшце закончыў Кудлач.

— Каб мы ўсё маглі прадбачыць...

— А жылі ж...— як успамін аб далёкім, пачулася ў голасе Кудлача.— Нават дзіўна: узнімаўся высока над аэрадромам,— паказаў Кудлач на неба,— а што робіцца ў сябе пад носам, не бачыў. Мусіць, сляпы быў?

— А можа Янка Чуб загнуў? — асцярожна ўсумніўся Смірын.

Кудлач падняў галаву.

— Яму веру...

— Тады чаму ён адразу не сказаў?

— Гэта я разумею. Падначалены, салдат... Сказаць камандзіру і пасля ў яго ж служыць... Тут ёсць логіка...— Смірын убачыў, што Кудлач чагосьці шукаў у кішэнях.— Зноў даў маху! Пісьмо на стале пакінуў...

Капітан яшчэ больш збянтэжыўся, азірнуўся і нібы сам сабе сказаў:

— Ладзіць сям'ю не лёгка. Тут трэба не малы талент. Жыццё пражыць, не ў палёт схадзіць...

Смірын зноў пацісну ў Кудлача за локаць. У словах капітана яму пачуліся ўласныя думкі. З надзеяй у голасе сказаў:

— Усё будзе добра...

Кудлач ажывіўся, узняў руку.

— Бывайце, доктар! — сказаў ён і павярнуў у цёмныя прысады.

Смірын пайшоў, шчыра спачуваючы Кудлачу:

«Харошы чалавек, выдатны лётчык, а вось жа...»

Трохі супакоіўшыся, Смірын убачыў, што акно яго калегі і дружбака з суседняга палка Сяргея Максімавіча Лушчыцкага, свяцілася. Значыць, не спіць палкавы ўрач.

Смірын падышоў да акна, і пад яго рукой глуха зазвінела шыба. Фіранка паварушылася. Да шыбы прыпаў Лушчыцкі. Пазнаў Смірына, адразу запрасіў у пакой.

— Мікола Іванавіч, зайдзі, браток,— радасна прамовіў ён і пайшоў адчыняць. На цёмным ганку пад руку падхапіў Смірына і павёў у пакой. Пачуў, што Смірын ішоў на пальчыках, сказаў:

— Смела ідзі! Жонка трэці сон глядзіць. А я сяджу за кніжкай,— ён падсунуў крэсла.— Прабач, што я гавару і гавару. Можа ў цябе тэрміновая справа?

— Ішоў па вуліцы і ўбачыў, што ты не спіш. Як не пастукацца?

— Малайчына, не мінаеш. Есці будзеш?

— Не...

Смірын распрануўся, ускінуў шынель напашкі, пацёр рукі.

— Трасе нешта...

Лушчыцкі нічога не сказаў і выйшаў. Прынёс з кухні два кілішкі і прысадзістую зялёную бутэльку, потым талеркі з салам, хлебам і відэльцы.

— Я жыву на зямлі дзеля таго, каб памагаць хворым. Чалавек змерз, дрыжыць, значыць хворы. Бяры.

— Сяргей Максімавіч, не трэба,— прасіўся Смірын.

— Aqva vita! Не я, а бог Бахус выдумаў гэтыя зёлкі, гэтую ваду жыцця.— Лушчыцкі падняў кілішак.— Няхай не мерзнуць палкавыя ўрачы!

— За гэта можна!..

Выпілі па адным, а потым і па другім кілішку. У пакоі стала цёпла і ўтульна. Смірын сцішыўся, уважліва пагля даў на таўсматага гаспадара.

— Чым займаемся ноччу!

Гаспадар падняў пляшку.

— Яшчэ?

— Хопіць!

Сяргей Максімавіч неахвотна сабраў посуд са стала, панёс на кухню. Хутка вярнуўся, пагладзіў далонню круглую, як бручка, галаву, усміхнуўся.

— Калі скажу, што задумаў — не паверыш. Выявілася, як кажуць, locus minoris resistentiae.* У ад'юнктуру рыхтуюся...

Смірын кінуў шынель на спінку крэсла.

— Гэта ж добра!

— Толькі між намі. Не дай бог, даведаецца Сарочын, што я хачу на вучобу...— Лушчыцкі пакруціў галавою.— Не будзе мне жыцця...

— Усяго можна чакаць ад яго...

Селі каля стала. Завялі гаворку пра службу, работу палкавога ўрача, які ўвесь час знаходзіцца на палётах сярод лётчыкаў. Наракалі на Сарочына, які ім не памагаў, а ўсяляк перашкаджаў.

— Яшчэ ні адзін палкавы ўрач не схапіў, як кажуць, зорку з неба. Нашага брата да зямлі прыцiскае будзённасць. Трэба рваца ў вышыню.— Лушчыцкі паказаў, колькі ўжо вывучыў, дзе спыніўся. Відно было, што многа часу займала замежная мова.

— Думаю ў акадэміі вывучаць авіяцыйную медыцыну. Мажліва, сваёй работай памагу палкавым урачам. Як думаеш?

* Слабае месца (лац.).

— Я не толькі думаю, а нават пішу ўжо...
Лушчыцкі аж падаўся да Смірына.
— Няўжо?
— Працую болей трох год і ўсё яшчэ не скончыў...
— Тэма?
— Зраблю вывады, пастаўлю кропку і дам табе пачытаць...
Лушчыцкі пацісну ў руку Смірына.
— За саюз навукі з практыкай. Скажу табе, даўно думаў, што ты абавязкова павінен пісаць. Нават жонцы казаў, а яна пасмяялася з мяне...
— Ведаеш, Сяргей Максімавіч, пад вечар у батальён Каралёва прыехаў новы старшы ўрач, нехта Ахтан. Мы пасядзелі з ім, і ён столькі нагаварыў, што ў галаве гудзіць.
— Хто ён?
— Капітан. Служыў у танкавай часці. Але не аб гэтым гутарка...— дакрануўся да ілба рукой, нібы ў яго забалела галава і адразу спахмурнеў.— Гэты Ахтан узяў мяне за жывое. Ведаю, што няпраўда, што не можа гэтага быць, але баліць душа. Ён калісьці служыў у Кліме і казаў, што ў іх медпункце працавала ўрач Смірына... Папытаўся, ці не радня мне...
— А што думаеш! Фота жонкі ў цябе няма?
— Няма,— Смірын узняў галаву, прыжмурыўся.— Уяві сабе чэрвень, вузкую дарогу сярод жыта. Яно пеніцца на ветры, ходзіць зялёнымі хвалямі. Алеся стаіць сярод гэтага мора, узіраецца ўдалячынь. Пасмы валасоў трымцяць на ветры. Яна глядзіць, а на бялявым твары застыла ціхая ўдумлівасць чалавека, які сабраўся ў дарогу...
Смірын памаўчаў, нібы баяўся, што вобраз жонкі знікне.
— Ніколі не забуду яе,— выдыхнуў ён.
Лушчыцкі ўзяў таварыша пад руку.
— Што ён болей гаварыў пра таго ўрача?
Смірын пакруціў галавою, прайшоўся па пакоі.
— Не можа быць мая жонка ў Кліме...
— Дзе яна працавала да вайны?
— На ўчастку тры месяцы была. Фельчар...
Лушчыцкі задумаўся.
— Кажуць, чужую бяду і рукамі развяду... А вось тут падступіся...
— Бачыў чалавек, як яе з сынам расстралялі немцы на стрэльбішчы нашага ваеннага гарадка...
Лушчыцкі прыгадаў:
— Майго камандзіра палка ў снежні сорак чацвёртага года збіла зенітка. Вядзёны бачыў, як гэта адбылося. На яго вачах самалёт упаў каля ляска і загарэўся. Наўкола ні душы. Калі прыляцеў вядзёны, то на тое месца вылецела эскадрылля, а за ёю другая. Усё абляталі на брыючым, праштурмавалі лес і нікога не ўбачылі. Рашылі, што ён быў ранены, не змог пакінуць самалёт і згарэў. Выстраіўся полк, маўчаннем ушанаваў свайго камандзіра. Паслалі паведамленне дамоў, адаслалі яго рэчы. А ў пачатку чэрвеня сорак пятага года на аэрадром Хайлігенбайль прыляцеў камандзір дывізіі з маім камандзірам палка. Худы, як трэска, толькі што вярнуўся з лагера смерці...
Смірын выняў з кішэні пачак папер са штампамі і пячаткамі.
— Няма горада ў Савецкім Саюзе, куды б я не пісаў. Адказ адзін — няма! — ён палажыў паперы на стол.



— У Клім пісаў?
— Калі Масква адказала, што няма, то... Што за горад Клім? Не веру я.
— Радня ў яе ёсць?
— Мы наступалі на Вільнюс, і тады я стаў пісаць пісьмы яе бацьку. Былі ўжо ва Ўсходняй Прусіі, то на чацвёртае пісьмо адказаў старшыня сельсавета. Паведамляў, што майго цесця ў сорак трэцім годзе забілі карнікі. Скончылася вайна. У ліпені мы вярнуліся з Германіі і асталяваліся ў К... Я вырашыў ісці ў акадэмію. Перад ад'ездам на вучобу заглянуў на радзіму Алесі. На спадарожнай машыне мінуў горад і пайшоў пешкі цераз лес. Выйшаў з яго і стаў. Пачаў узірацца. Дзе ж вёска Боркі? Уперадзе віднелася кудлатая груша, а далей тырчалі размытыя дажджамі печышчы. Выйшаў я на вуліцу і ледзь знайшоў трэці двор на правым баку. Расхіліў карычневы цыбнік спелага лапушніку, і ў кучы цэглы з глінай убачыў некалькі пабітых зялёных кафлін. У цесця была зялёная грубка. Побач былі рэшткі саду, у якім мы калісьці сядзелі з Алесяй. На мяжы з агародамі шарэў вялікі камень. Пасядзеў крыху на ім і пакінуў Боркі. Каля лесу спаткаў чалавека. Запытаўся:
— Здалёк самі?
— З Селішчаў,— адказвае.
— Можа ведалі Сільвестра з Борак?
— Чаму не? Добра ведаў Сільвестра... Дзе былі Боркі, цяпер пуста і страшна. У сорак трэцім годзе на досвітку Боркі акружылі карнікі. Людзей сагналі ў калгаснае гумно, замкнулі і жывуцом спалілі. Вёску абрабавалі і таксама знішчылі...
— А дачку Сільвестра не ведалі?
— Што не, то не...
Я развітаўся з чалавекам і пайшоў.
Лушчыцкі прыкусіў губу, задумаўся. Пахадзіўшы моўчкі каля стала, узняў галаву і паляпаў далонню па пісьмах.
— Гэта, браток, паперкі... Трэба табе паехаць у Клім і паглядзець...
— Толькі ў Бальзака палкоўнік Шабер вылез з магілы. Болей нешта не чуў падобнага...
— Я на тваім месцы, узяў бы водпуск і паехаў...
— А што ты думаеш...

## 6

Смірын выйшаў ад Лушчыцкага. Вецер ірвануў полы шыняля. Дзіка скуголіў па завуголлю, гушкаў на слупе ліхтар, і святло яго то падала на алею, то адбягала далёка за дом.
«Накрыліся сёння палёты,— глянуў ён на цёмнае неба.— А фортачку я, мусіць, не зачыніў. Мабыць, вецер ужо раскалоў шыбу...»
Узіраючыся ў свой сонны дом, Смірын на хаду выняў з кішэні ключ. Вобмацкам адамкнуў дзверы, пстрыкнуў выключальнікам. Абапёршыся на стол, завалены кнігамі, глянуў за штору. Фортка была на зашчапцы.
Ён уздыхнуў і спыніўся каля ложка, запраўленага чырвонай коўдрай. Глянуў вышэй зелянцовага дывана, на якім былі вытканы горы і аграмадны лось на пярэднім плане.

Там у авальнай раме вісеў партрэт сына. Ленінградскі фатограф не пашкадаваў фарбаў, наружовіў круглы твар хлапчука, які стаяў на мармуровай лаўцы і бесклапотна ўсміхаўся.

Адчуваючы, як шырыцца ў грудзях цеплыня і залівае яго ўсяго, Смірын ссунуў шапку на патыліцу, абапёрся каленямі на ложак. Доўга ўзіраўся ў круглыя вочы сына, шаптаў: «Васілёк мой, які б ты быў вялікі цяпер...»

Стрымліваючы трымценне ў грудзях, адышоўся ад партрэта і сеў у крэсла. Задумаўся над сваім жыццём-быццём.

Калі вучыўся ў акадэміі, то таварышы, з якімі жыў у адным пакоі, ездзілі гуляць у інтэрнат медыцынскага інстытута на Петраградскай старане. Двое з іх там ажаніліся. Не раз клікалі з сабою і яго, абяцалі пазнаёміць з красуняй-студэнткай. Раілі змірыцца з тым, што зрабіла вайна. Ад гэтага Смірын яшчэ больш хваляваўся, распальваўся, успамінаючы сваіх родных, апранаўся і ішоў на ўзбярэжную Нявы, доўга блукаў па ёй, пакуль не стамляўся, супакойваючы сябе. У якімсьці далёкім куточку свядомасці цеплілася, не гасла надзея, падказвала не кідаць пошукі. І ён усюды пісаў і пісаў...

Сёння вырашыў паслухацца Лушчыцкага. Па службе, здаецца, тэрміновай работы не было, і можна папрасіць у камандзіра водпуск.

Тоячы ў сабе новую надзею, якая шырылася і пачынала бадзёрыць, Смірын лёгка ўстаў і пайшоў на дзяжурства.

Паклаўшы галаву на правую руку, за столікам спала Вера. Апушчаныя вейкі не ўздрыгнулі, калі за Смірыным бразнулі дзверы. Ён на пальчыках падышоў да яе.

Святло падала на шчаку з ямачкай, на смольныя валасы і зграбную белую шыю. Пухлаватыя губы па-дзіцячы ружавелі, час ад часу ледзь прыкметна варушыліся. У сне яна яшчэ больш пахарашэла, і Смірын шчыра любаваўся дзяўчынай. Зашчымела сэрца, і ён ціха-ціха прашаптаў:

— Верачка...

Таргануліся вейкі, і яна падняла галаву.

— А, божа, заснула! Як памерла...— уздыхнула яна.

— А я не магу спаць...

Заспанасць з яе твару знікла. Вочы загарэліся надзеяй, і яна, усхапіўшыся з месца, паправіла валасы.

— Дык што ж?

А Смірын тым часам павярнуўся і зайшоў у кабінет. Сапраўды ён не хацеў спаць, хацеў гаварыць, дзяліцца сваімі планамі, новай надзеяй.

З Верай у адным медпункце працаваў ён два гады. Ведаў, як трапіла яна ў іх гарадок. Яшчэ ў апошнім класе школы падружыла з высокім бялявым хлопцам. Неўзабаве пасля выпускных экзаменаў ён паехаў у ваеннае вучылішча, а яна паступіла ў фельчарска-акушэрскі тэхнікум. На канікулах сустракаліся, разам гулялі, і неўзабаве пакахалі адно аднаго.

Скончыўшы вучылішча лейтэнантам, служыў ён у гэтым гарадку і напісаў Веры, каб, не марудзячы, прыязджала да яго. Здарылася так, што, пакуль збіралася ды выбралася ў дарогу, мінула два тыдні.

У гарадок прыехала раніцай, знайшла дом, кватэру, але ўжо не было лейтэнанта. Дзверы адчыніў ёй капітан, запрасіў зайсці і, бачачы, што яна вельмі збянтэжылася, пасадзіў у крэсла. Расказаў, не ведаючы, хто яна, што да яго ў гэтым пакоі жыў лейтэнант. Згуляў тут вяселле і паехаў з маладой жонкай служыць на поўнач.



Не памятаючы сябе, Вера пайшла на вакзал. Адумалася толькі каля акенца білетнай касы.

«Куды ж я?» — жахнулася яна і выйшла ў прывакзальны скверык. Свяціла сонца, хадзілі людзі, жыццё наўкол віравала, а Вера нічога не бачыла. Яе ўсю калаціла ад абразы і крыўды.

«І дамоў не паеду. Пакажыся туды — смяяцца будуць»,— усплыла думка, і Вера падалася ў горад.

Зайшла ў гарадскі аддзел аховы здароўя, хацела дзе-небудзь у горадзе ўладкавацца на работу. Ёй сказалі, што акушэркі патрэбны на сельскія ўчасткі. Калі ласка, могуць паслаць хоць зараз. І ніхто не пацікавіўся, якім чынам трапіла яна сюды, чаму шукае работу, ніхто не паспачуваў, не падтрымаў.

Ужо без усялякай надзеі на добрае, звярнулася яна на вуліцы да сустрэчнага ваеннага ўрача.

— Ці не трэба вам фельчар?

Маёр-медык глянуў на Веру.

— А вы фельчар?

— І акушэрка...

Ён параіў Веры зараз жа ісці ў ваенны гарадок, расказаў, як там знайсці старшага ўрача, якому трэба была медыцынская сястра, і сказаць, што паслаў яе маёр Смірын. З таго ж дня Вера засталася працаваць у медпункце.

Увесь ваенны гарадок заглядаўся на новую медыцынскую сястру. А яна была непрыступная, ужо навучаная горкім вопытам, з вялікай асцярогай паходжвала каля Смірына, мучылася, чакала, што ён здагадаецца пра яе пачуцці.

Адчыніліся дзверы кабінета.

— Верачка, зайдзіце сюды,— папрасіў ён.

Сэрца дзяўчыны траха не выскачыла з грудзей. У ім затрапятала надзея. Не памятала, як апынулася ў кабінеце. У позірку іскрылася радасць.

— Сядайце,— сказаў ён.

Вера адразу пахаладзела, апусціла вочы. Шчокі яе гарэлі агнём.

— Я хачу сказаць,— седзячы за сталом, распачаў ён гаворку.— Ды вы ведаеце, што ў пачатку вайны загінула мая жонка з сынам...— Смірын узняў позірк.

Вера стаяла, склаўшы рукі на грудзях, і відаць было, з якой страшэннай сілай стрымлівала хваляванне. Твар яе пабялеў, губы высахлі.

— Жонка і сын стаяць перад вачамі. Душа збалела па іх...

— Я слухаю...

— Вечарам размаўляў з вашым старшым урачом. Ён калісьці служыў у горадзе Кліме і казаў, што там па вольнаму найму ў вайсковай часці працавала ўрачом нейкая Смірына...

Верыны бровы ўзняліся. Шчокі заірдзеліся чырванню. Позірк праяснеў.

— А божа!

Пазіраючы перад сабою на стол, Смірын задумліва маўчаў.

— Добра было б, каб гэта была ваша жонка,— ціха, але шчыра сказала Вера. У голасе чуліся надзея і ўпэўненасць, якія цёплым подыхам павеялі на Смірына. Ён устаў, падышоў да Веры, свой, даверлівы, рахманы. Адны вочы гарэлі.

— Па шчырасці сказалі?

— Я хачу, каб так было...

Смірын сціснуў яе руку, і ад таго, што Вера гучна ўздыхнула, на момант затрымаўся, нібы ў роздуме, і прыгарнуў дзяўчыну да сябе. Яна, гнуткая і трапяткая, уздрыгнула ўсім целам, рукамі абвіла яго шыю.

— За шчырасць, Верачка...— ён з сілай адарваўся ад яе і, стрымліваючы дыханне, пачаў хадзіць па кабінеце. Бязмежная радасць поўніла яго ад такога вялікага дзявочага спачування. І ён гаварыў і гаварыў, падахвочваючыся ўсё болей і болей. А Вера лавіла кожнае яго слова, адчуваючы збалелым сэрцам, як сплывала, гінула даўняя надзея, што бадзёрыла і весяліла яе ўвесь час.

— Чуе маё сэрца, што вы знойдзеце сям'ю...

— Дзякуй, Верачка...— ён азірнуўся і ўбачыў, як тарганулiся плечы дзяўчыны і з вачэй яе ўпалі чыстыя буйныя слёзы. Вера не захіналася, не выцірала іх, а пазірала на Смірына.

Паміма волі ў сэрцы яе ўзнімалася новае пачуццё, радаснае і шырокае, што вось побач быў яшчэ адзін шчаслівы чалавек. З захапленнем сачыла за ім, здзіўляючыся яго прастаце, чалавечнасці. Яна раптам убачыла, якую чысціню пачуццяў пранёс ён скрозь агонь вайны, не страціў яе пасля. Дзе яго жонка, сын? Яны не могуць не жыць!

У яе вачах Смірын яшчэ больш вырас. Цяпер ён быў амаль недасягальны. Ад гэтага на душы ў яе зрабілася святлей. Поплеч з ім вырасла і яна.

«Які чалавек!» — з захапленнем падумала яна і, нібы апамятаўшыся, папраўіла на грудзях халат, пажадала спакойнай ночы і выйшла з кабінета, прыгожая і незалежная, як і раней.

Смірын жа сядзеў за сталом і пазіраў на дзверы, што зачыніліся за ёй. Непрыкметна падкраўся сон, звёў павекі.

Пабудзіў Смірына фельчар Пятроў.

— Таварыш маёр, спецмашыны выйшлі на аэрадром,— кратаў ён за плячо палкавога ўрача.

Смірын з сілай расплюшчыў вочы, падняў галаву.

— Кажаце, пара? — глянуў у зеленаватае акно.— Я зараз.

Хутка раздзеўся па пояс і ў перавязачнай пад кранам стаў мыцца халоднай вадой. Пад здзіўленым позіркам фельчара зацята фыркаў ад холаду, а потым з радасным задавальненнем выціраўся ручніком, пакуль не загарэлася чырванню цела.

— Пятроў, ведаеце, што такое арабінавая ноч?

Фельчар наблізіўся да яго.

— Нешта не чуў...

— Бываюць увосень такія ночы, што дажджу няма, а бліскае з вечара да раніцы. Такія ночы ў нас называюць арабінавымі...

— Разумею...

Смірын узяў кіцель і, выходзячы з перавязачнай у калідор, апрануўся.

Непрыкметна паявіўся Ахтан, заспаны, прыгорблены.

— Збіраецеся ўжо?

— Едзем,— Смірын паказаў на Пятрова.— Знаёмцеся...

Пятроў далажыў аб сабе. І хоць на яго твары была радасць, унутрана ён расчараваўся. Не такога старшага ўрача чакаў ён усе дні. У яго ўяўленні будучы начальнік выглядаў падобным да Смірына.

— Калега, чаго так рана ўсталі? Адпачывайце! А калі будзе ахвота паглядзець узлёт і пасадку, то прашу повідну на аэрадром,— папраўляючы пагоны шыняля, сказаў Смірын.

Ахтан схіліў галаву.

— І вы едзеце? — звярнуўся ён да Пятрова.

— Еду...

Смірын, спыніўшыся на двары каля санітарнай машыны, убачыў салдата свайго палка.

— Каржаневіч?

— Так точна! — аднымі губамі прамовіў салдат.

— А я ледзь пазнаў.

Твар Каржаневіча гарэў ліхаманкавай чырванню і быў азызлы, губы высахлі, патрэскаліся.

— З вечара галава гудзе, як звон...

— Чаму не прыйшлі ў медпункт? Я ж дзяжурыў...

— Думаў, пройдзе...

— Думаў...

Смірын памог салдату ўзысці на ганак медпункта і павёў яго ў кабінет.

— Верачка, халат!

Вера прынесла халат, памерала ў салдата тэмпературу. Моўчкі падала доктару тэрмометр. Сорак і тры дзесятых!

Смірын, аглядаючы Каржаневіча, увесь час гаварыў з ім: дзе быў учарашні дзень, што рабіў. Прыкладаў да грудзей фанендаскоп, услухоўваўся ў лёгкія, і дыягнасцыраваў — грып. Напісаў накіраванне ў лазарэт, папрасіў паназіраць за дэзінфекцыяй у казарме.

— Каржаневіча неадкладна палажыце ў ізалятар...

Выходзячы з медпункта, апрануўся, гукнуў Пятрову:

— Паехалі!

## 7

Падпалкоўнік медыцынскай службы Сарочын устаў сёння рана. Вырашыў без папярэджання грунтоўна праверыць работу палкавога ўрача Смірына. Падняць усю яго медыцынскую дакументацыю, як гэта робяць у часе інспектарскіх праверак. Наперад быў упэўнены, што розных дробязей назбірае без усялякіх цяжкасцей. Вялікіх хібаў у Смірына не знойдзеш.

Калі прызнацца па праўдзе, то недахопы Смірына не вельмі цікавілі Сарочына. Іх можна знайсці ў каго хочаш, важна было паглядзець, як ён робіць, дакладвае, а яшчэ важней — павучыцца ў яго, каб самому гэтак жа адказваць начальству.

Правярай начальніцкім тонам падначаленага і адначасова вучыся ў яго! Нічога не трэба чытаць, думаць: задаў пытанне, сядзі сабе, слухай. Няхай падначалены стараецца добра тлумачыць, гаварыць, дзе гэта напісана, каб начальнік астаўся задаволены.

Справа ў тым, што Сарочын ніколі не быў старшым урачом, ды яшчэ ў знішчальным палку. Служыў у пяхоце малодшым урачом, потым трапіў начальнікам лазарэта ў батальён аэрадромнага абслугоўвання і работу ўрача знішчальнага палка назіраў здалёк, збоку. Палкавых урачоў за апошні год вайны пабачыў вельмі многа і ні з адным з іх не дружыў.

Прыляціць на аэрадром адзін, зробіць, што яму трэба, не забавіцца. Не паспелі заруліць на стаянку апошнія самалёты, а палкавы

ўрач ужо тут. Забяспечвай, абслугоўвай: самалёты ідуць у бой. І ўсё хутка-хутка трэба!

Мусіць з тае пары Сарочын і не ўзлюбіў авіяцыйных палкавых урачоў і іхняй работы. Не цікавіўся іх абавязкамі.

Праз тры гады пасля вайны яго накіравалі ў Н-ск урачом медпункта. А яшчэ праз два назначылі начальнікам медыцынскай службы злучэння ў гэтым гарнізоне.

Сарочын спалохаўся, але не пайшоў да начальства і не адмовіўся, не сказаў, што не падрыхтаваны да такой пасады. Мусіць з тыдзень хадзіў да знаёмага ўрача злучэння пад Н-скам, раіўся, што давядзецца рабіць на новым месцы службы, як там сябе трымаць. Прыглядаўся да калегі, выпытваў розныя дробязі і, калі рашыў, што стажыроўку паспяхова прайшоў, выехаў у злучэнне.

У гэтым гарадку напаткаў першага Смірына, які ішоў з палётаў. Убачыў на грудзях у яго акадэмічны значок і мноства ордэнскіх планак. Не ўрач, а генерал!

Калісьці ён толькі марыў пра акадэмію, бо туга здаваў на сесіях залікі і экзамены ў Арлоўскім медыцынскім інстытуце. Што называецца, ішоў на адных тройках, і тыя «выбіваў чалом...»

Недарослы і хударлявы ў студэнцкія гады, Сарочын не вельмі падаўся ў рост і на вайсковай службе. Заўсёды насіў цесную шапку, каб хоць яна хавала гэты недахоп, седзячы на самай макаўцы. З боку Сарочын вельмі нагадваў клічнік.

«Паглядзім што ты за чалавек...— яхідна падумаў цяпер ён і ўзняў вочы, каб глянуць у твар Смірыну.— Узнагарод нахапаў...»

— Адзенне ўрача павінна зіхацець. У вас жа кіцель, галіфе...— Сарочын пакруціў носам.

— Дзякуй за шчырую ўвагу да майго мундзіра. Аднак я іду не ў клініку, а вяртаюся з аэрадрома. На мне рабочая форма,— адказаў Смірын, а пра сябе падумаў: «Начальства па вопратцы сустракае...»

Убачыўшы, што такое тлумачэнне ніколькі не задаволіла Сарочына, сказаў:

— Я палкавы ўрач...

— Вы ўжо далажылі...

— Сёння на старце было многа пылу,— Смірын патрос рукаў кіцеля.— Во, глядзіце!

— Вы думаеце, я не быў на аэрадроме?

— На нашым — не...

— На сотні другіх быў...

— Значыць, павінны ведаць...

Адвярнуўшыся, Сарочын глядзеў убок, але відаць было, што вельмі хваляваўся, не любіў, калі хто намякаў, што ён мала ведае авіяцыю.

Што сабе ні кажы, а работа старшага ўрача знішчальнага палка мае асаблівасці. Хто ім не быў, іншым якім парадкам выбраўся і камандуе палкавымі ўрачамі — будзе блудзіць. Сам не будзе мець спакою і падначаленых будзе трымаць у напружанні. Які ж выхад з такога становішча? Трапіў на такую пасаду, як Сарочын, ідзі на аэрадром да людзей, тэхнікі, вывучай, авалодвай. Пройдзе пэўны час, і ўсё стане на сваё месца, прыложыцца як след. Сам многае зразумееш, рэшту людзі падкажуць, і ты не будзеш баяцца хадзіць па рулёжнай дарожцы, а будзеш як мае быць памагаць лётчыкам у іх рызыкоўнай і цяжкай рабоце.



Сарочын жа не такі чалавек. За гады службы работу палкавога ўрача не вывучыў, а нахапаў спагнанняў, атрымаў папярэджанне, што працаваць трэба лепш, інакш...

О, гэтае «інакш!» Яно сапсавала многа крыві Сарочыну, але і навучыла насцярожана сачыць за начальствам.

Палкавыя ўрачы яго слухаліся і пра тое, што думалі, маўчалі. Смірын паводзіў сябе інакш. Калі добра, то добра, згаджаўся, а калі чуў не тое, што трэба — адразу спрачаўся. Варта было Смірыну запытацца, чаму загадана правяраць якасць кіслароду на стаянках, а не на кіслароднай станцыі ў балонах, потым пры запраўцы машын і ў самалёце, як Сарочын не ведаў, што на гэта адказаць. Не мог на падначаленых уздзейнічаць ведамі, вопытам, бо іх было малавата. Прасцей загадваць.

Сягоння Сарочын выйшаў з дому ў новенькім шынялі і пайшоў у медпункт.

Каля гарнізоннага клуба спаткаўся начальнік метэаслужбы. Павіталіся і пачалі гаворку. Сарочын распытваў пра надвор'е, цікавіўся доўгатэрміновым прагнозам.

Начальнік метэаслужбы ў сваю чаргу сказаў, што даўно бачыў урача злучэння на аэрадроме, пацікавіўся, чым Сарочын займаўся ў штабе. Там жа ні хворых, ні лекаў — канцылярыя. Значыць, прыгрэўся ў цяпле, а гэта ж называецца кабінетным стылем работы. І ўсё гэта было сказана кплівым тонам.

Папраўляючы на галаве шапку, Сарочын крышку паружавеў, амаль абурана паглядзеў на метэаролага.

— Крышку лягчэй пра кабінетны...

Сарочын сапраўды даўно быў на палётах. Але якая да гэтага справа ветрадую? Што ён разумее ў авіяцыйнай медыцыне? Сарочын збіраўся з думкамі, хацеў сказаць штосьці злоснае, абразлівае, але метэаролаг апярэдзіў яго. Па-змоўніцку падміргнуў, пачаў расказваць, што пазаўчора ён быў на старце і чуў ад механікаў, нібы за стаянкамі самалётаў з'явілася многа камароў, розных мошак, якіх у такую пару года і ў такой колькасці, а тым больш на аэрадроме, ніколі не было.

— Можа адтуль? — паказаў на неба.

Усе газеты якраз пісалі, што амерыканцы, ваюючы ў Карэі, з самалётаў скідалі кантэйнеры інфікаваных камароў і мух. Адразу насцярожыўшыся, Сарочын дробна міргнуў бялявымі вейкамі і не знайшоўся, што адказаць. Хутчэй развітаўся з метэаролагам, прайшоў трохі па вуліцы і звярнуў не ў медпункт, а ў свой штаб. Зайшоў да начальніка палітаддзела. Расказаў, што пачуў ад метэаролага, дадаў асцярожна, што можа гэта дыверсія, і трэба прымаць меры.

Палкоўнік Матуль слухаў Сарочына няўважліва. Мабыць, не верыў яму.

— Вам дакладвалі палкавыя ўрачы? — спытаў ён.— Напрыклад, Смірын...

Напамінанне пра Смірына насцярожыла Сарочына.

— Не...

— Дзіўна! Смірын не прагледзіць такога...

Сарочын надзьмуўся. Што з таго, калі ні адзін палкавы ўрач не далажыў яму аб гэтым? Тым горш для іх і асабліва для Смірына, на якога спаслаўся палкоўнік. Інфармацыя атрымана з другіх каналаў. Да таго ж гэту вестку ён першы прынёс у палітаддзел. Няхай Матуль будзе задаволены.

— Можа далажыць эпідэміёлагу Цыпіну ў Н-ск,— стрымліваючы абурэнне, сказаў Сарочын.— І яму будзе работа...

— Самі агледзьце раён аэрадрома, а тады можна і Цыпіну далажыць.

— Слухаюся!

— Дзейнічайце...

З палітаддзела Сарочын падаўся ў свой кабінет. Ухапіўся за трубку тэлефона. Папрасіў Кіпень. Тэлефаністка адказала, што ён заняты. Сарочын пасядзеў, зноў падняў трубку.

— Яшчэ заняты...

— Хто так доўга гаворыць?

— Абанент...

— Я пытаюся: хто на цэлую гадзіну заняў лінію?

— Астахаў...— ціха сказала тэлефаністка.

Сарочын асекся, палажыў трубку. Астахава — камандзіра злучэння — не падгоніш. А можа ён якраз па гэтаму пытанню звоніць у вышэйшы штаб? Мог зайсці да яго Матуль, расказаць і, такім чынам, перахапіць данясенне Сарочына.

Нарэшце дазваніўся да медаддзела. Начальніка — палкоўніка Каўцова — у кабінеце не было і да тэлефона падышоў Цыпін. Сарочын далажыў яму. Голас палкоўніка Цыпіна зрабіўся хрыплы.

— Калі выязджалі на мясцовасць?

— Сягоння, таварыш палкоўнік...

— Далажу Каўцову і буду ў вас. Зразумелі? Мабілізуйце медслужбу, апытайце людзей, абследуйце наваколле. Разумееце?

— Разумею...— Сарочын цешыўся, што першы сказаў пра жучкоў і мошак, на якіх ніхто не звярнуў увагі. Нават палітаддзел яшчэ не разварушыўся. Сарочын апярэдзіў палкоўніка Матуля.

Што ж, у такім разе можна сказаць? У людзей няма элементарнай насцярожанасці ў такі грозны час. Засядзеліся ў кабінетах, не бываюць у войсках, не гавораць з людзьмі і нічога не ведаюць. Цяпер палкоўнік Каўцоў не скажа, што Сарочын спіць у шапку, што медслужба, якой ён камандуе, паўзе ў хвасце.

Зашпіліўшы расхлістаны шынель, Сарочын паправіў шапку, каб вышэй стаяла, і амаль подбегам накіраваўся ў медпункт.

«Першым чынам запытаюся ў акадэміка, чаму яго навучылі ў alma mater... Сядзіць на аэрадроме і не бачыць, што робіцца на стаянках»,— паціраючы рукі, разважаў Сарочын.

Крыўдзяцца людзі за патрабавальнасць, прынцыповасць. А хіба Сарочын вінаваты? Ці ж ён ужо такі дрэнны чалавек? Няхай падначаленыя робяць усё па інструкцыі, не забываюць штодзённа глядзець у статут, і Сарочын толькі будзе хадзіць у белых пальчатках. Ні ў якія справы не будзе ўмешвацца. А калі не спраўляюцца з работай, ігнаруюць загады?..

У медпункце Сарочына спаткала Вера.

— Смірын тут?

— Досвіткам паехаў на аэрадром...

— Чаго? — крыкнуў Сарочын.

Вера задумліва адгукнулася.

— Вам відней, чаго. Можа на палёты?

Сарочын змоўк. Так закружылі галаву, што нават забыў, чаго на аэрадром паехаў палкавы ўрач. Узняў грозны позірк на Веру.

— Я навучу! Я ..

Можна было падумаць, што Вера вінавата ва ўсіх грахах і павінна перад начальнікам дрыжаць, як асінавы лісток. Сарочын жа



разлічваў на іншае. Пакрычыць у медпункце, скажам, на Смірына ці Лушчыцкага, дык сёстры абавязкова перададуць ім. І ўжо ёсць карысць, чалавек задумаецца, будзе працаваць лепш.

Вера не звяртала ўвагі на яго выкрыкі. Яна папрасіла Сарочына зайсці да новага ўрача. Сарочын паслухмяна пайшоў па калідоры.

— Сюды,— сказала яна ціха, а потым адчыніла кабінет, у якім быў Ахтан.

Той адрэкамендаваўся. Сарочын некалькі разгубіўся ад нечаканасці, бо яму ніхто не званіў, нічога не паведамляў, а ўжо сядзіць чалавек. Не паспела прайсці незадавальненне ад таго, што не застаў Смірына, а тут раптам — новы ўрач...

— Сядзем,— сказаў Ахтану. Кароткімі позіркамі ўважліва вывучаў яго.— У нас доўгі час не было старшага ўрача батальёна. Вы прыехалі ў гарачую пару. Проста з карабля на баль...

Сарочын распытваў, дзе вучыўся, дзе служыў капітан, а калі пачуў, што ў авіяцыі першы дзень, устаў.

— Фу-у...— вырвалася ў яго, што азначала найвышэйшую ступень незадавальнення і расчаравання.

Ахтан таксама ўстаў.

— Будзеце спачатку вывучаць спецыфіку войск, а вам жа з першага дня трэба працаваць, камандаваць падначаленымі, службай,— вочы Сарочына заіскрыліся зялёнымі агеньчыкамі.

— Я гатовы...— не разгубіўся Ахтан.

— Добра, што не ў полк прыслалі. На вашай пасадзе яшчэ можна жыць,— спакайней сказаў Сарочын.— У нас ёсць нядрэнны лазарэт. Кіруе ім урач Карасёў. Спакойны чалавек і сярэдняй рукі тэрапеўт. Камандай стрункі ў яго няма. Лазарэт у нас з двух батальёнаў, аб'яднаны, начальнікам яго будзеце вы...

— Слухаюся! — сказаў Ахтан.

Падкрэсленая дысцыплінаванасць спадабалася Сарочыну, але і насцярожыла.

— І палікліднічны прыём у нас быў. Раслі ўрачы, спецыялізаваліся...

— Вы добра зрабілі...

— Зрабілі...— непрыхільна працягнуў Сарочын.— І было так, пакуль стаяла дрэннае надвор'е. Выглянула сонца, узляцелі самалёты, і палкавыя ўрачы паламалі паліклінічны прыём...

— Чаму?

На вузкім ілбе Сарочына гармонікам сабраліся маршчакі. Ён выпрабавальна глянуў на Ахтана.

— Як мог палкавы ўрач сядзець у паліклініцы і чакаць хворых па сваёй спецыяльнасці, калі яго полк быў у паветры? Хто будзе за лётчыкаў адказваць? Ваш фельчар Пятроў?

Ахтан крышачку ўгнуў галаву. Маўляў, вінаваты, не зразумеў спецыфікі, аднак уставіў:

— Паліклінічны прыём у армейскіх умовах выдатная справа...

— Вось вам і выдатная...

Сарочын спыніўся каля акна.

— Адзін лазарэт трымаем у кулаку. Дарэчы, якая ў вас спецыяльнасць?

— Хірург...

— Фу-у...— прамычаў Сарочын, што цяпер азначала задавальненне.

— Некаторы час практыкаваўся ў артапедычнай клініцы...

— Косткапраў, значыць...— Сарочын пляснуў у ладкі, а потым

пацёр рукі.— Чаму ж вы адразу не сказалі? Я даўно марыў мець свайго хірурга...

Сарочын павесялеў. Новы ўрач пачынаў яму падабацца.

— У камандзіра батальёна былі?

— Быў...

Сарочын заўважыў, што, калі спытаў пра камандзіра, твар Ахтана перасмыкнуўся.

— Каралёў лепшы тылавы работнік злучэння...

— Сапраўды?

— Так сказаў камандуючы...

«Мусіць, Каралёў не спадабаўся Ахтану. Рубака падпалкоўнік, але з галавой»,— падумаў Сарочын і адзначыў сам сабе, што Ахтан усё больш і больш падабаўся яму. Хірург ёсць!

Сарочын на момант уявіў, што перад ім у белым халаце з марлевай маскай на твары, з паднятымі рукамі ў бурштынавых пальчатках стаіць Нур Пятровіч. Як гэта здорава!

Лазарэт гарнізона будзе мець хірурга, а Сарочын — уласнага кансультанта па хірургіі. Тэрапеўт ёсць — Карасёў, а вось паявіўся і хірург. Асноўныя спецыялісты ёсць!

Як не радавацца чалавеку, калі ўсё складваецца так, як табе хочацца!

Ахтан нібы чытаў думкі Сарочына. Не цягнучы доўга, адчыніў чамаданчык і выняў зялёную папку.

— Мая дысертацыя...

— Фу-у...— Сарочын зусім разгубіўся.

— Крыху не скончыў...— палажыў папку на стол.

Сарочын сеў у крэсла, аберуч ухапіўся за папку, патрымаў, пагартаў лісты, дзівіўся. Затрымліваўся і доўга разглядаў малюнкі мікрапрэпаратаў.

— Выдатна...— шаптаў ён.— Незвычайна...

Ахтан стаяў побач і, тоячы ўнутранае хваляванне, прыглушаным голасам сказаў:

— Пад вашым кіраўніцтвам тут за год я зраблю другую, патрэбную для авіяцыі, работу: «Капілярны кровазварот на вышыні». Тэма падабаецца?

— Капітан, вы малайчына! — Сарочын схапіў абедзве рукі Ахтана і моцна сціснуў.— Можаце спадзявацца на маю падтрымку...

Ахтан выцягнуўся, а потым крышку нахіліў уперад галаву. Не па-вайсковаму, але прыгожа. Здавалася, ён па старому звычаю чакаў ад Сарочына блаславення. Свідраваў начальніка хітрымі вочкамі.

Праз некалькі мінут Ахтан упэўніўся, што з Сарочына ўжо можна рабіць што хочаш.

— А нашы палкавыя ўрачы гадамі сядзяць на аэрадроме і не дадумаліся ўзяцца за работу,— разважаў Сарочын.

Ахтан асцярожна заўважыў:

— У навуковай рабоце часам важна бывае даць імпульс, калі хочаце, падаць прыклад...

— Цікава!

— Я магу нават тэму даць. Ну, напрыклад: «Уздзеянне ультракароткіх хваляў на арганізм чалавека». Магу памагчы скласці план работы. Няхай хто-небудзь бярэцца і працуе...

Сарочын затаіў дыханне. Чалавек, які ў сваім жыцці не напісаў ні аднаго радка, які б меў хоць прыблізны навуковы інтарэс, не



ведаў нават, як гэта робіцца, раптам пачуў, што пад яго кіраўніцтвам у гарнізоне можа быць выканана такая важная для авіяцыі работа. Ён уявіў, як пра яго будуць гаварыць на акруговай навуковай канферэнцыі, цешыўся.

— Працуйце, Нур Пятровіч. Колькі трэба часу на заканчэнне вашай работы? — падняў Сарочын зялёную папку.

— Мг...— прамармытаў Ахтан ад нечаканасці.— Хопіць тры тыдні!..

— Месяц даю. Мы створым вам умовы...

Памаўчалі. Потым Ахтан асцярожна далажыў пра хворага салдата:

— Нядаўна агледзеў яго... Каржаневіч прозвішча. Смірын накіраваў у ізалятар з дыягназам грып. А я ўпэўнены, што ў яго нешта большае...

— Што, напрыклад?

— Я не сцвярджаю, а толькі выказваю сваю думку...

— На тое вы начальнік лазарэта. Бярыце хворага пад свой кантроль.

— Разыходжанне дыягназаў будзе...

— Будзе,— пагадзіўся Сарочын.— Але гэта будзе характарызаваць і клінічную падрыхтоўку ўрачоў. У гэтым выпадку палкавога ўрача Смірына...

Ахтан нахіліўся над чамаданчыкам, хаваў зялёную папку, а за ім збоку назіраў Сарочын.

«І росту майго, не які-небудзь Галіаф, скажам, Смірын, а так шпарка крочыць у навуку. Усе вялікія таленты ў свой час былі самымі звычайнымі людзьмі»,— плылі зайздросныя думкі Сарочына.

— Каб нашы палкавыя ўрачы не ленаваліся...

— Не трэба адмаўляць прыроджаныя здольнасці...

— Я не адмаўляю...

Пастукаўшыся ў дзверы, зайшоў маёр Лушчыцкі. Казырнуў начальніку. Сарочын паказаў яму на Ахтана.

— Старшы ўрач батальёна...

— Прыемна вітаць у нашым гарнізоне яшчэ аднаго эскулапа,— пабліскваючы роўнымі белымі зубамі, усміхнуўся Лушчыцкі і пацiснуў Ахтану руку.

Палкавы ўрач чыста паголены, з ружовымі круглымі шчокамі. Новенькі шынель сядзеў на ім вельмі зграбна. Хітрыя вочы старанна вывучалі капітана, але ён звярнуўся да Сарочына.

— Выклікаў камандзір палка і запытаўся, на які дзень планаваць баракамерныя выпрабаванні. А я нічога яму не змог сказаць...

«Завёўся з Ахтанам і забыўся. А Лушчыцкі не чакае — ідзе. Гэты не забудзе»,— пацепваючы нездаволена плячыма, Сарочын павярнуўся да палкавога ўрача.

— Не спяшайцеся...

— Так і далажу камандзіру...

— Будзе план, загад...

— Дазвольце ісці? — Лушчыцкі шчоўкнуў абцасамі і выйшаў з кабінета.

— На большае не здольны...— яхідна ўсміхнуўся Сарочын, пастаяў, агорнуты мноствам новых думак, якія навеяў прыезд Ахтана, а потым спахапіўся і хутка выбег у калідор.

— Вера, дзе маёр Лушчыцкі?

— Нядаўна шукаў вас...

— Шукаў... Знайсці, выклікаць!

Праз некалькі хвілін Лушчыцкі вярнуўся.
— Калі ў палку былі апошнія палёты?
— Учора...
Сарочын сеў, адкінуўся на спінку крэсла. Зялёнымі вачыма ўтаропіўся на Лушчыцкага.
— Вас не цікавіць, што робіцца за стаянкамі самалётаў? А там механікі знаходзяць камароў... Даносяць у палітаддзел... А што, калі дыверсія?..
— Добра. Зайду да начальніка палітаддзела і высветлю, хто даносіў...
Лушчыцкі пайшоў, а Сарочын звярнуўся да Ахтана:
— З Н-ска да нас хутка прыляціць эпідэміёлаг палкоўнік Цыпін.
— Ах! — ускочыў Ахтан.— Што ж рабіць?
Ахтан сапраўды разгубіўся. Ліхаманкава думаў, што прапанаваць начальніку, каб пераканаць, што ён і ў гэтай галіне не прафан.
— Паедзем на аэрадром, возьмем пляшкі...
Ва ўсякай новай праблеме галоўнае своечасова падаць свежую думку. Яе потым можна адкінуць, ухапіцца за другую.

## 8

Усе былі ўпэўнены, што надвор'е не палепшыцца і палётаў не будзе. Гэтак разважалі, едучы на аэрадром, так думалі, калі апынуліся на стаянках самалётаў, якія ў адзін рад выстраіліся на краі бетоннай рулёжнай дарожкі. Чахлы з машын знялі, тэхнікі і механікі займаліся, як кажуць у авіяцыі, матэрыяльнай часткай — рыхтавалі самалёты ў палёт.
Тут жа купкамі стаялі лётчыкі, пазіралі на нізкае, шэрае неба, якое, здавалася, абапіралася на высокія хвасты серабрыстых самалётаў.
Таптаўся дзяжурны метэаролаг са скруткам сінаптычных карт пад пахай. Быў ён хмуры, як і сённяшняя раніца. Часта пазіраў на захад, адкуль плылі нізкія хмары.
Чулася вясна. Колькі дзён было цёпла, амаль увесь снег сагнала, але ноччу прыхватвалі маразы. Сёння ж, мусіць, і днём не будзе цяпла. Сонца не відаць, а халодны вецер не сунімаўся.
Смірын паспеў пагаварыць з кожным лётчыкам. Апытаў, як спалі, як снедалі, дзе хто правёў учарашні вечар. Яму ахвотна расказвалі, дзяліліся самым інтымным. Даверлівыя адносіны паміж лётчыкамі палка і Смірыным склаліся даўно. Ён ведаў іх стан здароўя, вынослівасць, тэхніку пілатавання, гэтак жа цікавіўся бытам.
Двух маладых лётчыкаў ён паспеў звадзіць у медыцынскі пункт. Нешта зачасціў у іх пульс. Даў прыкладную нагрузку, вымераў крывяны ціск, агледзеў уважліва і дапусціў к палётам — усё ж нічога сур'ёзнага.
Ідучы на стаянкі, сустрэўся з Кудлачом.
— Сцяпан Сцяпанавіч, вы былі дома пасля нашай начной сустрэчы? — пазіраючы ў стомленыя вочы Кудлача, папытаўся Смірын.
— Ноч цяпер, Мікола Іванавіч, не раўнуючы, з лётчыкаву



куртку — кароткая. Усю яе прахадзіў прысадамі,— губы Кудлача скрывіліся.— Не дакладвайце камандзіру,— папрасіў ён.
— Не дакладваць? — Смірын на хвіліну задумаўся.— Абавязкова далажу. Сам далажу...
Кудлач задумліва пазіраў у канец аэрадрома, а потым затоена кіўнуў галавою.
— Лятаць вам сёння не давядзецца,— сказаў Смірын.
— Мажліва, наогул не будзем лятаць, — капітан прыкусіў губу, і амаль першы раз у жыцці захацелася яму, каб палётаў не было.
— На зямлі хопіць работы,— лагодна сказаў Смірын.
Уздыхнуўшы, Кудлач махнуў рукою і пайшоў у сваю эскадрыллю.
Смірына поўніла трапяткое пачуццё спагады. Хацелася штосьці такое сказаць капітану, каб ён узняў галаву, сагнаў з твару стомленасць, стаў бадзёры і вясёлы. Як знайсці слова, што дае чалавеку крылатую лёгкасць!..
Разважаючы так, Смірын заўважыў, што стаянкі раптам ажылі. Лётчыкі пайшлі да сваіх машын, хутчэй заварушыліся механікі. Яны канчалі рыхтаваць і аглядаць самалёты. Метэаролаг замёр на месцы. Што ж здарылася?
З-за домікаў рамонтных майстэрняў паказалася зялёная «Пабеда». Ластаўкай падляцела і нячутна спынілася на рулёжнай дарожцы якраз пасярэдзіне стаянак.
З машыны выйшаў камандзір палка палкоўнік Дым. Акінуўшы позіркам стаянкі, узлётную паласу і заходні край неба, ён лёгка пагайдаўся на стройных, па-марскому шырока пастаўленых нагах, на момант задумаўся. Верх смушкавай папахі палкоўніка Дыма заламаны назад. Ён на хаду скінуў цёмна-сінюю лётную куртку, шафёр на ляту падхапіў яе.
Астаўся палкоўнік у жаўтлявай скуранной куртцы. Цяпер ён выглядаў вельмі прыгожа: сярэдняга росту, стройны, шыракаплечы, з вострым позіркам карых вачэй. Ён ступіў некалькі крокаў у кірунку стаянак, пазіраў, як ад самалёта да самалёта пераходзіў Смірын, заглядаў у кабіны, гаварыў з механікамі. Урач правяраў кіслароднае абсталяванне. Значыць, тэхнікі і механікі кончылі сваю работу.
— Смі-і-рна! — гучна крыкнуў начальнік штаба падпалкоўнік Цвёрдахвалаў і, вырваўшыся з-за самалёта, падбег да камандзіра палка. Размашыста казырнуў, далажыў, што і людзі, і машыны падрыхтаваны да палётаў, а пад канец зірнуў на нізкую воблачнасць і зусім ціха запытаўся:
— Будзем лятаць?
— А чаго ж мы сюды прыехалі? — пазіраючы ўздоўж аэрадрома, адказаў Дым. У яго быў добры настрой. За дзень сёння меркаваў многа зрабіць. Збіраўся ўвесці ў строй камандзіра эскадрыллі Анцюнава, які доўга не быў у палку, выпусціць маладых і падагнаць агульны налёт па маршруту.
— Званілі ад аператыўнага. Давалі штормавае папярэджанне,— нясмела заначыў Цвёрдахвалаў.
Дым крута павярнуўся да яго. Уся постаць камандзіра падалася ўперад. Пад чарнявымі насупленымі бровамі насцярожана блiснулі вочы.
— Выстрайвайце полк...— сказаў ён стрыманым ціхім голасам. Цвёрдахвалава нібы бура падхапіла.
— Стана-ві-і-ся! — грымнуў яго голас.

«Званілі... Хто мог званіць і па сутнасці забараніць палёты?» — разважаў Дым.

Ён сягоння ўстаў рана, выйшаў на вуліцу і толькі па аднаму яму вядомых прыкметах пазнаў, што будзе добрае надвор'е.

«А ўсё ж такі, хто званіў? Можа Астахаў — камандзір злучэння? Ну і няхай!»

Полк пастроіўся, і Дым накіраваўся да яго. Цвёрдахвалаў страявым крокам, моцна грукаючы падэшвамі па бетонцы, не дайшоў на тры крокі да палкоўніка і голасна адрапартаваў. Полк дружна адказаў на прывітанне камандзіра.

Цвёрдахвалаў пайшоў на правы фланг палка, а ад другой эскадрыллі да камандзіра накіраваўся Смірын і штосьці доўга з ім гаварыў. Усе ведалі, што ўрач дакладваў пра стан здароўя лётчыкаў. Узняўшы бровы, Дым уважліва і насцярожана пазіраў на строй і на ўрача.

Цвёрдахвалаў не чуў, пра што яны гаварылі, і, шкрабаючы абцасамі, вострачы вуха, стаў набліжацца да камандзіра. Яму заўсёды здавалася, што калі хто са старшых афіцэраў гутарыў з камандзірам, то абавязкова закранаў яго асобу. Такая насцярожанасць ішла ад таго, што малавата было асветы ў Цвёрдахвалава, у вайну ўсё браў голасам ды жвавасцю. А цяпер людзі пайшлі з грунтоўнай адукацыяй і культурай, і трэба было бліжэй быць да камандзіра.

— Усіх апытаў, праверыў,— пачуў Цвёрдахвалаў, што казаў Смірын камандзіру, і прыкусіў губу, хаваючы ўсмешку: «Калі ж ён паспеў усіх апытаць?»

Дым з прыхільнасцю кіўнуў урачу, а сам глянуў на другую эскадрыллю.

— Капітан Кудлач, ка мне! — сам пайшоў насустрач.

Яны сустрэліся адзін на адзін. Камандзір палка, глянуўшы спагадліва на капітана, пацiснуў яго руку.

— Ведаю. Раю супакоіцца. У жыцці бывае рознае...

— Перагарэла ўжо ў сярэдзіне, так што я не вельмі...

— Трымайце сябе ў руках, і, як сказаў Талстой: «всё образуется...»

— Дзякую!

— Ідзіце ў строй.

Дым вярнуўся на ранейшае месца і стаў гаварыць са старшым інжынерам палка. Аб чым яны гавораць? Аб самалётах? Цвёрдахвалава самалёты мала цікавілі. Ён больш пабойваўся Смірына, бо як толькі той прыехаў у полк і пачуў на пастраенні голас начальніка штаба, то сказаў: «Гэта сапраўдная ерыхонская труба». Інжынеры засмяяліся: трапна было сказана. А Цвёрдахвалава доўга мучыла таямнічасць гэтых слоў. Добра гэта ці дрэнна — не ведаў. А потым узяў дый папытаўся ў старшага інжынера палка. Той доўга смяяўся, а потым усё ж растлумачыў.

Каля Дыма з планавай табліцай паявіўся маёр Капусцін. Сталі гаварыць з лётчыкамі пра машыны, практыкаванні, пра бакавы вецер.

Дым звярнуўся да камандзіра другой эскадрыллі маёра Ануцюнава.

— Пасля разведкі надвор'я паляцім з вамі. Макарава выпусціць капітан Кудлач...

Ануцюнаў радасна кіўнуў галавою.

На левым фланзе другой эскадрыллі ў першым шэрагу стаяў Макараў. Калі Дым назваў яго прозвішча, лейтэнант грудзьмі крышачку падаўся наперад. Дым убачыў, што за ім у другім шэрагу стаяў Смірын. Відаць, урач цікавіўся маладым лётчыкам.

— Надвор'е сягоння павінна быць лётнае,— паглядзеў Дым у неба.— Самі бачыце,— ён паказаў на захад: там хмары разышліся, між іх выглянуў яркі блакіт.

— Каб нашы меркаванні на гэты конт мелі законны характар, паслухаем спецыяліста.— Дым жэстам запрасіў метэаролага.

Той у момант апынуўся каля яго, разгарнуў карты, расказаў, якое ў іхнім раёне надвор'е. За сотню кіламетраў на поўнач ішоў снег, на ўсходзе была нізкая воблачнасць. І на поўдні не лепш: там чакаўся шторм.

— Дзе цяпер шторм? — запытаўся Дым.

— Цэнтр яго абыходзіць нас з поўначы...

— Што ад нас на захадзе?

— Воблачнасць тры балы, вышыня дзевяцьсот...

— Якая ў нас вышыня?

Узняўшы вочы ў неба, метэаролаг сказаў:

— Чатырыста метраў...

Дым сам паглядзеў на заходні край неба, бо адтуль ішло добрае надвор'е.

Метэаролаг дастаў з папкі паперу і падаў камандзіру.

— Прашу падпісаць штормавае папярэджанне...

Дым узяў стандартны ліст, яшчэ раз зірнуў на яркі блакіт неба на захадзе, і вочы яго рашуча блiснулі. Капусцін падставіў яму планшэт, а ён чырвоным алоўкам упоперак напісаў: «Метэастанцыя павінна даваць больш дакладныя прагнозы, памагаць палку, а не тармазіць яго работу». У канцы выразна паставіў сваё прозвішча.

— Калі ласка,— аддаў ліст метэаролагу.— Дзе дрэннае надвор'е, няхай сядзяць у класе, а мы будзем лятаць. Пытанні ёсць? — звярнуўся ён да лётчыкаў.

— Няма,— дружна адказалі яны.

— Па самалётах!

Дым адразу пайшоў да свае машыны, на фюзеляжы якой быў чырвонай фарбай напісаны дваццаць пяты нумар. Разведку надвор'я камандзір заўсёды рабіў сам.

Узвыў рухавік, і серабрысты знішчальнік камандзіра палка памчаўся на старт, неўзабаве з ходу пайшоў на ўзлёт. На стаянкі далецеў рэактыўны гул, пад нагамі задрыжала зямля, абвяшчаючы, што ў палку пачаліся палёты.

Пакуль камандзір палка схадзіў на поўнач, потым павярнуў на захад і ўпэўніўся, што адтуль ідзе добрае надвор'е, на аэрадроме работа не спынялася. Хто ішоў у першы вылет, той садзіўся ў самалёт або ўжо звязваўся па радыё з кіраўніком палётаў. Тэхнікі яшчэ раз выціралі бліщчастыя плоскасці сваіх машын.

Над стаянкамі нізка прайшоў самалёт Дыма, які вярнуўся з разведкі. Узмыў свечкай у вышыню над стартам, прайшоў па кругу і сеў.

Ануцюнаў кіўнуў Макараву.

— Будзьце ўважлівы. Сёння многа самалётаў лятае,— і заспяшаўся да Дыма. Разам з ім сеў у спарку і выруліў на старт. За імі ішлі самалёты першай эскадрыллі. Над аэрадромам ужо зіхацеў кволы веснавы блакіт, іскрылася сонца.

Дым пайшоў у другі палёт. Ён адрозніваўся ад першага тым,

што цяпер палкоўнік сядзеў у задняй кабіне ў якасці інспектара, ці, як кажуць у авіяцыі, вывозіў Ануцюнава.

Маёр узляцеў так імкліва, што Дым з прыемнасцю паварушыўся на сядзенні і глянуў за борт. Унізе ўжо далёка паволі плыла зямля, асветленая яркім сонцам. На гарызонце ткалася мяккая смуга.

Прыйшлі ў пілатажную зону нумар тры.

— Пачынаю,— сказаў маёр Ануцюнаў.

Зрабіў левы, а потым правы віражы. Дым глядзеў на альціметр і лавіў паказанні прыбора хуткасці. Лётчык вытрымаў крэн, хуткасць і вышыню.

Пасля левага перавароту самалёт пайшоў на пятлю. Мільганула зямля, паплыло неба, потым зноў паказалася зямля...

Неўзабаве машына апынулася ў найвышэйшым пункце імельмана.

«Нічога не скажаш, добра...» — падумаў Дым, ямчэй усеўся на сваім сядзенні. Не цікавіўся болей паказаннямі прыбораў, а толькі сачыў за тым, як Ануцюнаў пайшоў на левы імельман. Забыўся на каторы час, што пілаціруе камандзір эскадрыллі, і, толькі ўбачыўшы свае рукі на замку парашута, усміхнуўся, паправіў на плячы лямку.

Маёр кінуў машыну ў піке. Дым нахіліўся ўперад, траха не ўзяўся за ручку кіравання. З вайны любіў гэты імклівы момант. Калі знішчальнік пікіраваў з вышыні, значыць, дзесьці ўнізе пад ім была цэль у паветры ці на зямлі. Вялікі палец правай рукі міжволі шукаў гашэтку гармат, а галава хілілася да тонкага перакрыжавання ў прыцэле.

Дым усміхнуўся, адкінуўся да спінкі.

Баявы разварот улева... Зноў пікіраванне... Бочкі...

Ануцюнаў усё рабіў у высокім тэмпе і вельмі імкліва. Вось самалёт выраўняўся на прамой і пайшоў на аэрадром. На пасадцы маёр планіраваў на павышанай хуткасці, але сеў каля самага «Т».

Ануцюнаў заруліў на запасную, вылез з самалёта, памог Дыму скінуць парашут.

— Дазвольце вашы заўвагі,— казырнуў ён.

— Заўвагі? — працягнуў Дым, пазіраючы на «Пабеду», якая прыйшла па яго.— Сапраўды, лятаць з камандзірам і не атрымаць заўваг... Добра. Усё добра.

Чорны шлемафон падкрэсліваў круглы твар Ануцюнава з рашуча сцятымі губамі. Губы разамкнуліся ў стрыманай усмешцы.

— Planіравалі на павышанай хуткасці. Мне гэта зразумела. Даўно неляталі. На левым віражы, здаецца, крышку страцілі вышыню. Здаецца... Мог гэта пэўна сказаць толькі палкоўнік Астахаў. У яго вастрэйшае вока. Усё! У вас сёння яшчэ палёт?

— Так точна.

— Можаце ісці...

Дым паехаў на камандны пульт.

І Смірын пайшоў туды. Падымаючыся па лесвіцы пульта, пачуў аднекуль з сярэдзіны будкі голас Дыма.

— Сорак дазваляю! Прыём!

На парозе спаткаўся маёр Капусцін з планшэтам і шлемафонам у руцэ.

— У палёт,— сказаў ён.— Вяду групу.

На рукаве ў Дыма вышэй локця чырвоная павязка кіраўніка палётаў. Ён ні хвіліны не маўчаў. Адказваў у мікрафон на пытанні, дазваляў садзіцца, узлятаць.



Смірын стаяў недалёка ад камандзіра, прыглядаўся да яго.

Тэлефаніст падаў Дыму тэлефонную трубку.

— Дым слухае. А гэта хто? Начальнік метэастанцыі? — губы крануліся ўсмешкай.— А мы лятаем. Над намі мільён вышыні. Самі вы былі на двары? Бывайце здаровы! — ён аддаў трубку тэлефаністу.

Рухавікі ўзвылі працяжна і натужна, потым самалёты парамі пайшлі на ўзлёт. І калі гукі расталі ў паветры, на аэрадроме зрабілася так ціха, што выразна чулася на стале пульта цікание настольнага гадзінніка.

Смірын сеў поруч з Дымам.

— Так вось, доктар, і жыве камандзір палка. Увесь час на сустрэчных курсах,— сказаў Дым.

Смірын локцямі ўзлёг на стол, глянуў на планавую табліцу, што ляжала перад Дымам.

— І навучыў весці атакі на сустрэчных курсах мой першы камандзір звяна. На лабавых, казаў ён, можа весці бой толькі сапраўдны знішчальнік са стальнымі нервамі. У нашай эскадрыллі з ім маглі біцца на сустрэчных толькі я і Сашка Гаўрылаў. Сашка ўжо генерал, камандуе злучэннем.

— А камандзір звяна дзе?

— На Курскай дузе збіў сем самалётаў праціўніка, трапіў пад зенітку і быў збіты. Яго знайшлі партызаны, доўга лячыўся. Цяпер на штабной рабоце.

Смірын задумаўся. Калі гаварыць па-авіяцыйнаму, то і ён біўся на сустрэчных курсах, на лабавых.

— У сусветным маштабе ўсё наша жыццё ідзе на сустрэчных курсах з імі,— Смірын паказаў на захад.— Усё войны: то гарачыя, то халодныя...

Потым гаварылі пра начныя палёты, пра надвор'е, пра адпачынкі.

— Хачу ісці ў водпуск,— сказаў камандзіру ўрач.

Дым здзіўлена паглядзеў на яго.

— А чаму не ўлетку?

Смірын хацеў растлумачыць, чаму ён настроіўся на адпачынак цяпер, але Дым устаў, глянуў праз акно ў канец аэрадрома, дзе на пасадку заходзіў самалёт.

— Можаце і цяпер браць водпуск...

На лесвіцы камаднага пульта пачуліся крокі. Увайшоў камандзір злучэння палкоўнік Астахаў.

Дым, не пакідаючы пульта, далажыў, што робіць полк, запрасіў сесці.

Астахаў за руку павітаўся з Дымам, са Смірыным і, скінуўшы стаўбунаватую светла-шэрую папаху, палажыў яе на стол. Сеў на табурэт, глянуў на планавую табліцу.

— Мо пакіруеце палётамі? — запрапанаваў Дым.

— Сам кіруй, Леанід Іванавіч...

Пазіраючы направа і налева праз аграмадныя вокны, Астахаў бачыў і той і гэты канцы шэрай, да бляску вышмараванай гумавымі коламі, узлётнай паласы, блакітныя далі палеткаў на гарызонце.

— Адусюль даюць дрэннае надвор'е, а тут выпускаюцца звенні, эскадрыллі... Мне званіў начальнік метэастанцыі.

— Скардзіўся?

— Разумею, што метэаралогія — навука недакладная, але...

— Каб я паслухаў метэаролага і даў адбой палётам, то цяпер з мяне смяяліся б усе. Ездзілі б з гарадка сюды і назад...
— Аднак трэба глядзець...
— Лётчыкі дакладваюць, якое надвор'е,— Дым рукою паказаў на карце раён палётаў палка.— Усё нармальна.
На пульт прыйшоў маёр Ануцюнаў.
Астахаў павітаўся, затрымаў яго руку.
— Ужо камандуеце эскадрылляй? — Астахаў дзелавіта агледзеў статную постаць маёра, паказаў на вольны табурэт.— Сядайце. Лятал?
Ануцюнаў з удзячнасцю схіліў галаву, але астаўся стаяць.
— Я з Ануцюнавым на спарцы распачаў сённяшнія палёты,— сказаў Дым.— Няхай цяпер сам лятае і выпускае сваіх лётчыкаў.
— Як, Леанід Іванавіч, з маладымі? Мне гаварылі пра Макарава.
Ануцюнаў не даў Астахаву дагаварыць.
— Макарава сёння выпускаю ў зону.
Астахаў расказваў, што суседні камандзір злучэння палкоўнік Дусь сумеў увесці ў строй маладых лётчыкаў, як толькі яны прыбылі. Цяпер яны ўжо выдатна лятаюць. Калі пойдуць веснавыя сонечныя дні, то давядзецца займацца больш складанымі справамі. Паглядзеў крыху, як садзіліся самалёты, устаў.
— Працуйце. Я палячу ў Н-ск...
— Дазвольце мне астацца на пульце,— папрасіў Дым, убачыўшы, што Астахаў надзяваў папаху.
— Аставайцеся...— глянуў на Ануцюнава, а маёр тут жа падахвоціўся.
— Я вас выпушчу ў палёт,— сказаў ён і выйшаў за Астахавым.
Дым задумаўся. Чаго паляцеў Астахаў у Н-ск? Каб меўся правяраць полк — сказаў бы, а то нават не заікнуўся, калі вернецца назад. Палкоўнік нахіліўся над планавай табліцай, зрэдку кідаў позіркі на пабялелую бетонку ўзлётнай паласы.
— Дазвольце дваццаць,— запрасіў Астахаў.
— Дваццаць і сорак дазваляю. Як зразумелі? Прыём!
— Вас зразумеў,— адказаў Астахаў.
Яго самалёт хутка паявіўся на старце, узляцеў і з правым разваротам узяў курс на Н-ск.
«Камандуючы можа Астахаву даць задачу, а ён перадасць яе мне», — плыло ў галаве Дыма.
Астахаву можа спатрэбіцца звяно, эскадрылля. Няхай увесь полк паднімае ў паветра. Полк гатовы!

(Далей будзе.)

Іван ДАШЧЫНСКІ



Мастак Юры ВЫХАДЦАЎ

# Свята далёкіх зорак

**Апавяданне**

Прыехалі мы ў Прудок апоўдні. Машына спынілася каля новенькага брыгадзіравага дома.
— Разгружайся! — пачулася каманда шафёра.— Прыехалі.
З шумам і смехам мы выскоквалі з кузава, на ляту лавілі чамаданы і хатулі, жартавалі.

На цвёрдых сцяжынках калгасных палёў
Пакінем мы нашы сляды,—

заспявала фальцэтам Наташа Буданцава.
— Пакідай сляды, толькі не наслядзі,— засмяяўся Жэнька Акуліч.
Ідзём па вытаптанай мокрай вуліцы, займаем кватэры: па два-тры студэнты ў хату.
Дайшла чарга і да мяне. Мы спыніліся каля невысокай брамкі.
— Двaіх сюды... Хто пойдзе? — спытаў брыгадзір.
Я глянуў на Жэньку: у дарозе мы дамовіліся кватаравацца ў адной гаспадыні.
Насустрач нам ішла пажылая жанчына з вёдрамі ў руках. Убачыўшы незнаёмых людзей, яна паставіла вёдры, выцерла рукі аб фартух і папраўіла на галаве хустку, з-пад якой выбілася сівая пасма валасоў, і толькі тады прывіталася: «Добры дзень».

— Да нас, Максімаўна, студэнты прыехалі,— пачаў тлумачыць брыгадзір.— З Мінска... Бульбу выбіраць... Вазьміце на кватэру... Усяго на дваццаць дзён... Разумееце?..

Брыгадзір гаварыў, а гаспадыня з цікавасцю разглядала нас. Асабліва Жэньку. Яна глядзела на яго так, нібы некалі сустракалася з ім і цяпер хацела ўспомніць, дзе і пры якіх абставінах. Жэнька нават сумеўся, пачырванеў, таропка палез у кішэню па цыгарэты.

— Мы, цётка, не якія-небудзь... Мы — добрыя,— сказаў ён.

Жанчына маўчала.

— Заходзьце ў хату... Месца хопіць,— нарэшце сказала яна нейкім дрыгатлівым голасам, павярнулася і, не аглядваючыся, пайшла ў хату.

Мы з Жэнькам пераглянуліся. Маўляў, усё ў парадку, і пайшлі ўслед.

— Глядзіце во... Тут пасцель будзе...

Яна гаварыла, павярнуўшыся спіною да нас. А потым скоранька, як бы не хочучы аставацца з намі, выйшла з пакоя.

— Мне не зусім падабаецца гэты прадстаўнік старога свету,— хмыкнуў Жэнька.

...Першыя дні было весела. Амаль увесь тыдзень стаяла цёплае, сонечнае надвор'е. Кожную раніцу, узяўшы вілы, мы з Жэнькам ішлі да брыгадзіравай хаты і чакалі, пакуль збяруцца ўсе нашы. Пасля, жартуючы і смеючыся, усёй армадай шыбавалі ў поле — сіласаваць кукурузу і лубін, ці, як гаварыў Жэнька, «закладваць матэрыяльна-тэхнічную базу». На гэтай рабоце мы не вельмі стамляліся. Усё за нас рабілі машыны — сіласаўборачныя камбайны, самазвалы, трактары. Нам заставалася толькі дзе-нідзе раўняць на бурце сіласную масу.

Жэнька рэдка калі браўся за вілы. Ён больш выкрыкваў лозунгі:

«Ручная праца — перажытак феадалізму!»

«Я — супраць перажыткаў!»

«Я — за павелічэнне прадукцыйнасці, але не за кошт інтэнсіфікацыі мускульнай сілы! Хто не згодзен са мною, давай падыскутуем».

Мы смяяліся, кідалі ў яго кавалкамі кукурузных пачаткаў. Жэнька скаліў зубы, лоўка ўхіляўся ад удараў і зноў пачынаў мітынгаваць.

Цяпер ён падрабляўся пад выкладчыка палітэканоміі, празванага за цяжкі стыль сваіх лекцый Сланом.

— Што такое праца?! — нудным голасам пытаў Жэнька.— А-а-а?.. Ну вось вы, таварыш Буданцава, адкажыце мне.

Наташа пачынала чырванець, а потым ціха прасіла:

— Кінь, Жэнька... Не трэба... Прашу цябе...

— Не ведаеце... Тады я сам адкажу. Пра-а-а-аца — гэта грамад-с-кая дзе-э-э-й-насць людзе-э-э-эй.

Потым, крыкнуўшы: «Хачу свядомым быць», Жэнька лез на бурт і браў з Наташыных рук вілы.

Праз пяць дзён сіласаванне закончылі, і нас перавялі на бульбу. Жэнька першы адчуў, што тут лынды біць не ўдасца, і пачаў абходжваць брыгадзіра.

— Вам, таварыш шэф, статыст, часам, не патрэбен?.. Я, разумееце, па натуры матэматык...

— Не трэба нам ніякіх артыстаў. Бяры кошык і станавіся ў баразну.

— Паслухайце, шэф...

— І слухаць не хачу.

Брыгадзір быў непрыступны.

Тады Жэнька мяняў тон, падыходзіў бліжэй да «шэфа» і шэптам прасіў:



— Нупрэй Канстанцінавіч, хвілінку ўвагі...

Брыгадзір мякчэў, буркліва пытаў:

— Ну што яшчэ?

— У вас няма іншай якой-небудзь папулярнай работы?

— Якой?!

— Папулярнай... Ну, такой, разумееце, каб... без напружання.

— Няма! — ледзь не крычаў брыгадзір.— Бяры кошык — і ў баразну. А не хочаш — каціся назад у Мінск.

— Шэф, навошта так груба? — Жэнька пакрыўджана перасмыкаў плячыма і ішоў да воза, на якім ляжалі кошыкі.

Трэці дзень церусіць густая імжа. Але мы працуем. Кожнаму далі норму — дзве баразны ў дзень. Без прывычкі балела спіна, нылі ногі. А Жэнька заўсёды адставаў. Зморany, ён раз-пораз садзіўся ў баразну, і тады да нас скрозь імжу далятаў яго крыклівы голас: «Бульба — ударны фронт! Даёш бульбу!»

Барозны пачыналіся ад дарогі і чорна-шэрымі раўчукамі цягнуліся на ўзгорак. Жэнька ўрачыста назваў яго Сапун-гарою.

— Таварышы! — крычаў ён.— Перад намі Сапун-гара... Апошні штурм!.. Даёш Сапун-гару!

Мы чамусьці не крыўдавалі на Жэньку. Яго жарты, хай і не заўсёды трапныя, падбадзёрвалі нас. Узяўшы штурмам «Сапун-гару», мы ішлі на выручку самому гора-камандзіру, які трывала засеў на подступах да яе — не мог адолець сваёй баразны.

...Увечары гаспадыня варыць на пліце нам вячэру. Скінуўшы мокрае адзенне, мы апранаемся ў сухое. Я саджуся на маленькі ўслончык ля пліты, а Жэнька павольнымі крокамі ходзіць па пакоі і ўголас чытае Хэмінгуэя.

У пакоі пахне варанай бульбай і сушанымі грыбамі. Разнагалоса пяюць дровы. Ад нагрэтых цаглін патыхае прыемным цяплом. Я заплюшчваю вочы, але не сплю. Я чую, як па падлозе шоргае падэшвай сваіх модных туфель Жэнька, як цэдзіць малако гаспадыня, як клякоча ў чыгуне, закіпаючы, вада.

Чую, як з дынаміка, што вісіць на сцяне ў другім пакоі, прыемны барытон сурова пытае:

Хотят ли русские войны?
Спросите вы у тишины
Над сенью пашен и поле-э-э-й,
И у берёз и тополе-э-э-й.

Я расплюшчваю вочы. Ля дзвярэй, задумаўшыся, стаіць Максімаўна, гаспадыня. Задумлівая, з журботным тварам. Каля яе ног трэцца кот.

Спросите вы у те-е-х солдат,
Что под берёзами лежат...—

раптам загрымела на ўвесь пакой. Гэта Жэнька крутануў рэгулятар.

Максімаўна стаіць у той самай паставе. Кот трэцца ля ног, пазіраючы лісліва на гаспадыню. На доўгай лаве ў зялёным эмаліраваным вядры стыне малако.

...Да! Мы умеем воевать,
Но не хотим, чтобы опять
Солдаты падали в бою...

Санлівасць прайшла. Я падымаюся з услончыка. Схамянулася і Максімаўна. Узяла пусты гліняны збанок, падышла да шафкі, але заўважыла, што гладыш пусты, сумелася і павярнула назад.

...Соладка спіцца пасля дзённай працы. Не паспееш пакласці галаву на падушку, як сон кідае цябе ў светлае забыццё...





Асабліва любіў паспаць Жэнька. Вечарам ён заўсёды папярэджваў мяне:

— Да васьмі не кантаваць.— І клаўся ля сцяны, на якой у блакітных рамах віселі пажоўклыя фота.

Аднойчы вечарам, разглядаючы гэтыя фота, Жэнька скептычна заўважыў:

— Якія неэфектныя твары! Ніякай позы... Звярні ўвагу вось на гэты здымак: у хлопца такі спалоханы выгляд, быццам на яго наведзены не аб'ектыў, а пісталет. Альбо ўзяць вось гэтых дзяўчат... Ніякай грацыі.

Мне даўно карцела запярэчыць Жэньку, паспрачацца з ім. Вельмі ж лёгка і безапеляцыйна выказваўся ён пра ўсё, што траплялася яму на вочы і што не адпавядала яго «сучаснаму» густу.

Пра людзей, што на гэтых здымках, я ведаў ад Максімаўны.

— Так, Жэнька,— сказаў я,— гэты хлопец не ўмеў пазіраваць, як некаторыя сучасныя піжоны. Не мог... Не было часу. А ведаеш ты, што на яго былі нацэлены не толькі пісталеты, але і кулямёты, і гарматы, і бомбы?.. Гэты здымак зроблены перад першым у ягоным жыцці боем.

Жэнька здзіўлена глянуў на мяне, потым абыякава спытаў:

— Навошта ты мне пра гэта гаворыш?

— Каб ты запомніў, што такія, як сын Максімаўны, не крыўляліся перад аб'ектывам, не надавалі твару мужнасці на фоне крымскіх кіпарысаў. Такія паказвалі сваю адвагу пад Масквою і Курскам, на Волзе і Дняпры... Ты і не ведаеш, што ў гэтым вось куфры Сцёпкавы армейскія боты. Семнаццаць год ім. З вясны сорак пятага...

— Магчыма,— Жэньку нічым нельга было ўразіць.— Даклад, які ты мне зараз чытаеш, даволі абстрактны. Боты — добра, астатняе — пафас...

Затым ён перасмыкнуў плячыма: маўляў, мне ўсё «да лямпачкі». Буркнуў пад нос: «Хвала і пашана героям», павярнуўся і нетаропка захадзіў па пакоі, цыбаты і горды.

Ён не хацеў спрачацца са мною. Мне стала крыўдна. Мой праціўнік не прыняў бой. Я змоўк і цэлы вечар не размаўляў. Так і ляглі спаць.

Ноччу Жэнька варочаўся з боку на бок, часта кашляў, шморгаў носам. Раніцаю, падняўшыся раней, чым звычайна, ён праглынуў дзве жоўтыя таблеткі, выпіў малінавага чаю і, скінуўшы з ног тапкі, стаў абувацца. Насунуўшы на нагу правы туфель, ён памкнуўся надзець левы, але тут са здзіўленнем убачыў, што ў ім адстала падэшва. Жэнька пакратаў абцас. Той ледзь трымаўся.



У дзвярах паказалася гаспадынiна галава.

— Ідзіце снедаць!

Жэнька не варухнуўся. Нават вачэй не падняў. У адной руцэ ён трымаў парваны туфель, а другою задумліва цёр падбародак.

— Сала астыне,— паўтарыла Максімаўна і пераступіла парог.

Жэнька зірнуў на яе, потым на свой туфель, але нічога не сказаў.

— Мае надзець,— сказала гаспадыня і выйшла з пакоя.

Праз хвіліну яна паставіла перад Жэнькам бліскучыя з плямкамі пяску на халявах гумавікі. Агідліва кінуўшы туфель у парог, Жэнька ўзяў боты і пачаў надзяваць. Тужыўся, пыхцеў, але дарэмна: боты былі малыя.

— Што ж мне даць табе абуць, і сама не ведаю,— заклапочана сказала гаспадыня і развяла рукамі.

Позірк яе мітусліва забегаў па хаце, спыніўся на куфры. І вось старая ўжо глядзела на сцяну, дзе вісела фота яе сына.

Жэнька з цікавасцю і нейкім здзіўленнем назіраў за старой. У куточках яго вуснаў блукала ледзь прыкметная скептычная ўсмешка.

Старая раптам сарвалася з месца і таропка пайшла да куфра, на хаду прыгаворваючы.

— Падыдуць! Гэтыя табе падыдуць... Што ж гэта я... Такая слота, а ты ледзь не босы...

Яна адчыніла куфар і дастала з самага дна вялізны скрутак. Хвіліна — і перад Жэнькам стаялі здаравенныя кірзавыя боты, памеру сорак трэцяга.

— Надзявай, сынок... Надзявай. Табе падыдуць... У Сцёпкі нага вялікая была... Як твая... Ён быў... быў...

Нешта сціскала ёй горла, не давала гаварыць.

Жэнька палахліва глядзеў на старую.

Гаспадыня пачала памалу супакойвацца.

— У самым канцы вайны ён мне іх падарыў,— ціха і стомлена загаварыла яна.— Ездзіў на Урал па нейкія машыны. Вяртаўся назад праз Мінск. З дарогі даў тэлеграму, каб сустрэла... Ледзь пазнала яго: такі высокі, такі стройны. На цябе вельмі падобны.— Старая кіўнула на Жэньку.— Убачыў мяне — шугель з падножкі насустрач. Спатыкнуўся аб рэйку — аж сэрца маё ад страху зайшлося. «Так і забіцца можна,— крычу я.— Жыццё не беражэш сваё». А ён смяецца. «Боты,— кажа,— мама, вінаватая. Не прывык у іх хадзіць. Усю вайну чаравікі насіў, а цяпер вось боты атрымаў...» Стаім гэтак мы, гаворым. Я ўся калачуся. Ці то ад холаду, ці то ад радасці. Мусіць, ад холаду. Бо стаю і ног пад сабой не чую. Адубелі зусім. Лапці мае, пакуль у Мінск гэткай слотай дабіралася, зусім распаўзліся. Зірнуў Сцёпка на мае ногі, спахмурнеў. «Надзявай,— кажа,— мама мае боты...»



Глянуў на гадзіннік, сеў на рэйку і давай разувацца. Я рукой на яго махаю, крычу: «Навошта? У чым сам будзеш?» А ён, упарты, смяецца. «У мяне,— кажа,— мама, у вагоне чаравікі ёсць. Старыя, але яшчэ моцныя. Да Берліна дайду! Ужо мала асталося!» А тут поезд кратаецца... Так і скочыў на падножку ў адных анучах... Я стаю і плачу. І боты побач стаяць. А ён крычыць з вагона: «Надзявай, а то прастудзішся!» А ў самога анучы раскруціліся, матляюцца, белыя, на ветры. А ён стаіць на холадзе босы, рукой махае. Хачу крыкнуць, каб абуўся, і не магу. Голас адняло...

У сенцах штосьці грукнула. Старая здрыганулася, утаропіла погляд на дзверы, замерла. За дзвярыма было ціха.

— Кот, мусіць... Аднойчы пацяклі мае гумавікі, і я надзела Сцёпкавы боты. Пахадзіла да абеду ў іх, і болей не магу. Ногі млеюць, падгінаюцца...

Максімаўна цяжка ўздыхнула і змоўкла. За акном шастала на ветры барвовая вішня.

— Надзявай, сынок,— сказала Максімаўна і, павольна ступаючы па скрыпучай падлозе, выйшла з пакоя.

Жэнька нерашуча глядзеў на боты. Твар яго быў задумлівы і сур'ёзны.

— Надзявай хутчэй, на работу познімся,— сказаў я.

Мы ідзём па вуліцы. Жэнька ўперадзе, я — за ім. Выгляд у Жэнькі не надта модны. Шэры чэшскі пінжак, чорныя з белымі швамі джынсы і... вялізныя кірзавыя боты. Крочыць Жэнька не спяшаючыся, асцярожна абыходзячы лужыны. Я прыслухоўваюся да ягоных крокаў, і мне здаецца, што пад яго цяжкімі ботамі ледзь чутна гудзе зямля.

А можа, гэта гудуць самі боты? Можа, гэта гул вялікіх баёў тых далёкіх незабыўных дзён?..

На полі хлопцы сустрэлі нас жартаўлівымі крыкамі. Усе былі ў зборы.

— Віншуем са спазненнем.

— Глядзіце на Жэньку, не хлопец — а кот у ботах.

— У цырк яго!..

— Дзе ты такія самаходы выкапаў?

Жэнька глядзеў кудысьці ўбок і зацята маўчаў.

— Дзе мая баразна? — хрыпла спытаў нарэшце ён і ўзяў кошык у рукі.

Дзень прайшоў не як звычайна. Без жартаў і смеху. Дзяўчаты спрабавалі развесяліць «ката ў ботах», кідалі ў яго камякамі зямлі, прасілі «што-небудзь выдумаць». Дарэмна. Жэнька, не спяшаючыся, корпаўся ў баразне і не абзываўся. З ім нешта рабілася незразумелае.

Вечарам ён старанна выцер боты мокрай анучай, наваксаваў іх і паставіў ля куфра. Сам надзеў свае старыя туфлі, падвязаўшы падэшву тонкім шпагатам.

Пасля вячэры Жэнька выйшаў на двор. «Падыхаць свежым паветрам»,— любіў ён гаварыць у такіх выпадках. Праз колькі хвілін выйшаў і я. Ён сядзеў на лаўцы пад вішняй і курыў. Чырвоны агеньчык цыгарэты то ўспыхваў, то затухаў.

— Ідзі сюды! — паклікаў ён і пасунуўся на край лаўкі, даючы мне месца.

Я сеў побач. Моўчкі Жэнька падаў мне пачак цыгарэт. Сядзім. Курым. Маўчым.

— Колькі тады яму гадоў было? — глуха пытае Жэнька.

— Каму?

— Сыну гаспадыні.



— Дваццаць два. Столькі, колькі нам цяпер.

— Мы старэйшыя за яго. На год.

— Па ўзросту, можа, і старэйшыя, а па жыццёваму вопыту перад ім — дзеці.

— Магчыма,— пакорліва згаджаецца ён.

— Не магчыма, а сапраўды так. У нашым узросце ён перажыў тое, пра што мы сёння ў кніжках чытаем і ў кіно глядзім.

— Не трэба, стары...— просіць неяк вельмі лагодна Жэнька, і я змаўкаю.

— Ледзь не забыўся,— гавару я.— Наташа перадавала, каб ты прыйшоў да яе па таблеткі ад прастуды.

Жэнька робіць запар дзве глыбокія зацяжкі.

— Таблеткі — гэта прычэпка,— гаворыць ён павольна і рашуча.— Не буду болей сустракацца з ёю. Не хачу вярэдзіць ёй душу... Даволі... Не магу прыкідвацца амурам. Яна добрая, але ў мяне ніякіх эмоцый да яе...

Жэнькаў акурак ляціць на дол і з ціхім шыпеннем тухне ў невялікай лужынцы. Мы разам падымаемся і выходзім на вуліцу. Ля высокага ясеня, што стаіць на скрыжаванні вуліцы з дарогай, паварочваем управа і агародамі ідзём да высокага парослага арэшнікам і бярэзнікам узгорка. Гэта наша любімае месца: аднойчы ўсёй аравай мы прыйшлі на гэты ўзгорак, расклалі вогнішча і смажылі на ім лісічкі і сыраежкі.

Вуліца засталася дзесьці ўнізе. Яна ўгадваецца па доўгім ланцугу асвятляльных ліхтароў уздоўж дарогі, па светлых агнях у вокнах дамоў. Мы — на самай вяршыні ўзгорка. Жэнька спыняецца ля цёмнага куста ляшчыны, таямніча гаворыць:

— Падыхаем азонам...

Стаім. Маўчым. Кожны думае аб нечым сваім.

Я гляджу ўніз на асветлены электрычнымі агнямі Прудок. Над ім высокае, усыпанае зоркамі фіялетавае неба. Зоры буйныя, чыстыя. Глядзіш на іх, і, здаецца, бачыш, як на стрэхі дамоў, на навакольныя палі і лугі льецца іх вечнае святло. Сярод далёкіх нябесных зор мне хочацца адшукаць тыя, якія даўно патухлі, але святло якіх скрозь гады ўсё яшчэ ідзе да нас...



Міхась СТРАЛЬЦОЎ

Мастак Васіль ШАРАНГОВІЧ

# Сена на асфальце

**Апавяданне**

## ЛІСТ ПЕРШЫ

Часта я пытаюся ў сябе: як мы сустрэліся і чаму?

Памятаю, яшчэ калі вучылася ў школе, мне неяк не па-дзіцячы хацелася смутку, таямнічага, незвычайнага лёсу. Прайшлі гады — я спазнала смутак і зразумела, што навучыцца смутку нельга, як і нельга навучыцца радасці. Усяму свой час. Яшчэ я ведаю цяпер, што з гадамі душа цішэе, лагаднее, супакойваецца, але не засынае: яна, як і раней, шукае радасці, толькі ведае ўжо, што хоча іменна яе. Вось чаму я думаю, што пасталелы чалавек большы рамантык, чым ён быў у раннім юнацтве. І калі я зразумела гэта, я сустрэла цябе. Раней бы мы не сустрэліся, бо не зразумелі б адно аднаго.

Памятаеш нашу першую сустрэчу?

Тою раніцай я заходзіла да сваіх знаёмых па апельсіны: яны недзе дастаюць іх, сказалі, што могуць дастаць і мне. А я падумала, што добра будзе занесці іх Лёльцы, сестрыной дачушцы: ты ведаеш, малой не вельмі соладка жывецца. Сястра даўно не ладзіць з мужам, усё не можа даравацць яму нейкія мужчынскія грахі — яны часта сварацца, а малое бегае ад бацькі да маці, не ведаючы, да каго хінуцца. А дзяўчынцы пяць год, і яна такая слаўная.

Той раніцай, памятаю, ішла я паўз кінатэатр. Памятаю, як пад ягоным дахам, недзе там, за шэрымі калонамі, заўзята чырыкалі вераб'і, унізе, ля ўваходу, прыбіральшчыца шчыравала з дзеркачом, а на сцяне, над ёю, ружова білася, то святлеючы, то робячыся гусцей, трапяткая сонечная плямка. І ўедліва-церпка пахла пылам. Я люблю, калі пахне пылам, а ў тую вясновую раніцу вуліца пахла яшчэ і свежымі булкамі, і духмянай кавай, і цвярозлівым халадком маладой зялёнай лістоты. Я паціху ішла сабе па тратуары і ўглядалася ў аблічча рэдкіх прахожых. Ты ведаеш, ты можа прыкмячаў гэта сцішанае, смужліва-мройнае ззянне, што бывае вясной на тварах у людзей, на тварах, ледзь кранутых першым загарам? Такое яшчэ можна заўважыць, зазірнуўшы чалавеку ў твар, калі на вуліцы ціхі і цёплы дождж. А ты заўважаў, што ў дождж хораша і лёгка думаецца, а на душы бывае так светла і ясна?

У тую раніцу ты быў такі спакойны, стомлена-ціхі нейкі, усмешлівы і лагодны. І ты так смешна і па-дзіцячы лёгка тады гаварыў. Памятаеш, калі я рассыпала на рагу вуліцы апельсіны і ты нямаведама адкуль пахапіўся іх падбіраць?

Усё нібы было ў тую раніцу для таго, каб мы сустрэліся з табою.

А якая была тады вясна! Дзе толькі ні былі мы з табою тою вясной! У дождж да позняй ночы праседжвалі мы ў скверах, накрыўшыся тваім пінжаком, і, памятаеш, колькі разоў пачыналі думаць пра тое, каб некуды з'ехаць, далёка-далёка, на таямнічы, нікому не даступны востраў. Што за жаданні былі ў нас, няўжо каханню трэба, каб было толькі яно і цэлы свет? Мы куплялі на вакзале білеты ўсё роўна на які цягнік — і колькі незнаёмых вёсак, рэчак, лясоў і палян неспадзявана адкрылі мы так для сябе. А кінатэатры на ўскраінах горада — старыя, са скрыпучымі лаўкамі, з вышараванай нагамі, выбітай да ямак падлогай? А сеансы, на якіх ад суседа па лаўцы часам нясцерпна пахла гарэлкай, у час якіх рвалася лента і рабілася цёмна, хоць выкалі вока, і тады ў зале ўсчыналіся свіст, крык, не вельмі далікатныя жарты. Ніхто не ведаў там нічога пра нас, і гэта было прыемна, як, мусіць, прыемна было якому-небудзь прынцу са старога рамана, пераапранутаму жабраком.

А потым у нас пачаліся нелады. Ты як бы помсціў за нешта мне, як бы знарок стараўся абразіць мяне — які ты быў жорсткі і ў той жа час нейкі разгублены ў сваёй халоднай зласлівасці. Мне было з табою так цяжка. Навошта ты рабіў гэтак?

Толькі пазней я здагадалася, што ты раўнаваў мяне, што ты баяўся мяне страціць. І тады, зразумеўшы, я даравала табе ўсё. Гэта было ўжо летам, пасля таго, як я паехала з нашага горада, сказаўшы, што мы надакучылі адно аднаму, што нам трэба адпачыць, пабыць на адзіноце, разабрацца ў сваіх пачуццях.

Я паехала тады да цёткі, у ціхі і зялёны гарадок — былы абласны цэнтр. Мне якраз і трэба было гэта — цішыня, вузкія вуліцы, гаршкі з кветкамі, падвешаныя да ліхтарных слупоў, санлівыя жанчыны ў кіёсках з газетамі. Усё проста, зразумела і трошкі сумна. І ніхто, здаецца, не здзівіўся б, каб аднойчы на вуліцы паявіліся хоць бы козы.

У тым горадзе ёсць рака, а ў яе за горадам, ля невялікай вёскі, упадае, выліваючыся ў тры ручвы, неглыбокая халодная рэчка. Над правым ручвом — пясчаны бераг, пароcлы лазой, над ім — гара з шатрыстымі цёмнымі соснамі.

Кожны дзень я хадзіла на тую рэчку купацца.

Ляжыш на беразе — трымціць, снуецца ў шырокіх ручвах вада, бялеюць на рачных астраўках валуны, сіняя тамлівая смуга вісіць

над вадою там, дзе робіць паварот рака, дзе пад гарой насыпанага самазваламі пяску ракочa пад'ёмнік, грузячы баржы. Хлапчукі з берагу ловяць вудамі рыбу. У полудзень заходзяць у рэчку каровы, стаяць у вадзе, махаючы хвастамі,— плыве, пялёхкае рака, і паволі плыве час, цягучы, як звон конікаў у траве ці звон у вушах. О салодкая, лянотная бяздумнасць, о жыццё душы, дрымотнае, як звон вады, тамлівае, як сіняя намітка смугі! Вочы бачаць, чуюць вушы, і, ціха стаіўшыся, лечыцца душа. Млеюць ад гарачыні палі, цячэ, снуецца ў сонечных промнях рака, далёка на ўзмор'і тужаць аб свежым ветры караблі, і вось-вось скаланецца сонная сінь, павее вецер і пагоніць караблі ў краіну добрых сустрэч. І тады я таксама пастаўлю ветразь.

Так я вярнулася да цябе.

**Лена.**

# ДЗЯДЗЬКА ІГНАТ

Я ішоў на спатканне з Ленай, калі на нашым двары ўбачыў дзядзьку Ігната.

Быў надвячорак. Дурманіста пахлі кветкі, вокны ў доме былі расчынены, і ў нечай кватэры задумліва вяла ціхую мелодыю радыёла. У двары на лавачках сядзелі жанчыны, мужчыны сумавалі побач з імі: курылі, нізка ўгнуўшы плечы, пыхкаючы дымам сабе ў кулак — той-сёй быў без кашулі, у майцы.

Дзядзька Ігнат стаяў ля нізкай агарожкі перад домам, глядзеў, як нейкі таўставаты чалавек у піжаме паліваў са шланга газон з кветкамі.

— Пастой, Віктар, раскажы, дзе быў, што бачыў,— не паварочваючы галавы, лагодным і роўным голасам сказаў да мяне дзядзька Ігнат. Я толькі што параўняўся з ім і хацеў быў павітацца.

Я стаў, лапнуў рукамі па кішэнях, успомніўшы раптам пра курыва,— дзядзька Ігнат зноў лагодна і спакойна сказаў:

— Яшчэ ўздумаеш рознымі «Фільтрамі» частаваць — закуры лепш махры.

І падаў мне капшучок з кішэнькаю збоку: у ёй была акуратна нарэзаная газета.

— Куры.

Я закурыў.

Лілася са шланга, пырскала вада, бубацела па лісцю кветак — хораша пахла сырой зямлёй і чамусьці пылам. Чалавек у піжаме, не гледзячы, вадзіў шлангам перад сабой — позірк яго быў недзе далёка: можа чалавеку сумная была яго работа, а можа быў у яго свой, асаблівы, аднаму яму зразумелы настрой, і ён пад безуважнасцю хаваў яго, не хацеў, каб здагадаўся пра яго хто іншы.

Усё здавалася трохі загадкавым, таямнічым там, дзе быў дзядзька Ігнат.

— Ну, дык як мая махорачка — Маскву ўбачыў, га? Гэта, брат, не тое, што твая трава. Па-мойму, дык мужчыне і курыць яе брыдка: лепш ужо мох са сцяны выскубаць... Хаця дзе ты ў горадзе той мох знойдзеш!

— Махорка як махорка,— знарок абыякава сказаў я.— Масквы не ўбачыў, але горла дзярэ.



— Значыць, нічога ты не разумееш... Во, як ён,— паказаў на чалавека са шлангам.— Я кажу: навошта кветкі палiваць, калі ноччу дождж будзе, а ён не слухае, рады, што занятак знайшоў.

— Адкуль вы ведаеце, што ноччу будзе дождж?

— Я, хлопча, сорак з лішнім у вёсцы пражыў — чаму не ведаць?

— На старой кватэры гэта было,— сказаў раптам чалавек у піжаме.— Сусед у мяне, бывала, нап'ецца ў суботу, уключыць у пакоі прыёмнік на ўсю моц, ляжа на канапу і слухае. Жонка ягоная лаецца, сам бы яму, здаецца, у каршэнь надаваў, а ён: не ваша, кажа, справа, дайце мне асалоду адчуць — так яшчэ сам Пушкін некалі казаў... Дзе ён пра таго Пушкіна ўзяў — чорт яго ведае... Так і я. Можа і я хачу асалоду адчуць.

— А гэта табе ніхто не забараняе,— строга сказаў дзядзька Ігнат,— гэта іншая справа. Я толькі пра дождж кажу.

— Дождж дык дождж...— сказаў чалавек у піжаме.— Не пашкодзіць і дождж.

— Заўтра футбол,— сказаў я.— Навошта той дождж?

— Футбол будзе днём, а дождж сёння ноччу, кажу,— паправіў мяне дзядзька Ігнат.

— Нашы заўтра выйграюць, вось пабачыце, выйграюць,— сказаў чалавек у піжаме.— Паспрачацца магу.

— Гэта як сказаць,— запярэчыў я.— Каманда прыедзе моцная, а нашы перад гэтым такую дурную зрабілі нічыю...

— А я думаю так: з моцнай камандай лягчэй гуляць. Нашы найчасцей слабым і прайграюць.

А дзядзька Ігнат сказаў:

— Не разумею я балельшчыкаў вашых ды хіба яшчэ рыбакоў — тых, што з вудамі цэлыя дні сядзяць... Бывала, паедзеш на луг, намахаешся касой за дзень, а ўвечары — за таптуху ды ў якую застаялую азярыну. На ногі лапці абуеш. Касіць і рыбу лавіць у лапцях найлепш. Ну, яшчэ, можа, кароў пасвіць... Дык я і кажу: набоўтаешся, вылезеш на бераг — і рыба ёсць, і сам нібы ў святой вадзе выкупаўся. А потым раскладзеш цяпельца ля будана ды ў чыгунок рыбу, у чыгунок... Эх, ліха табе!..

— Вам, дзядзька Ігнат, у вёсцы жыць трэба,— сказаў я.

— Можа і пераеду яшчэ ў вёску — адкуль ты ведаеш,— чамусьці пакрыўдзіўся дзядзька Ігнат.— А ты што — без вёскі можаш пражыць?

— Чаму? Я ведаю, што без вёскі нельга, але і без горада нельга таксама. Што я думаю, дык гэта — каб тое і другое ў чалавечай душы прымірыць...

— Бач ты яго — прымірыць! — ужо зазлаваў дзядзька Ігнат.— Харошы мір, калі такія, як ты, з вёскі ўцякаюць, з зямлі, дзе бацькі іх горб нажылі.

— Я не ўцякаў, але, калі на тое пайшло, дык у вёсцы можа якіх пятнаццаць працэнтаў насельніцтва жыць,— і хлеба, і малака ўсё роўна ўсім хапіць павінна...

— Гэта па-навуковаму, ці як?

— Можа, і па-навуковаму. А чаму гэта дрэнна?

— А таму дрэнна,— усхадзіўся дзядзька Ігнат,— што некаторыя думаюць, быццам батоны на вярбе растуць... А таму, што да зямлі пашаны няма. Адпрацуе на трактары калыглуз які, што дзесяць класаў скончыў і ў калгасе стаж зарабляе, каб з вёскі ўцячы,— ад-

працуе змену ці менш, на чуб флакон адэкалону вылье — і да дзявок. Яму хоць трава не расці...

— Табе, Сцяпанавіч, старшынёй бы ў калгасе быць,— сказаў чалавек у піжаме. Ён кінуў ужо свой шланг, стаяў, склаўшы рукі на грудзях, і слухаў.— Па справядлівасці, Сцяпанавіч, кажу.

— А ты, думаеш, не быў? — нібы здзівіўся дзядзька Ігнат.— Не старшынёй, дык брыгадзірам быў. Адразу пасля вайны... І ўспамінаць не хочацца, і каб не хацеў — успомніў бы: такі быў той час. Такую вайну на плячах вынеслі, столькі пакінулі сірат, матак няўцешных і ўдоў. Столькі аратаяў, цесляў на той вайне палягло... А ты астаўся, галавы сваёй не злажыў; ацалеўшы, дамоў прыйшоў. Табе трэба новае жыццё будаваць, удовамі табе камандаваць трэба... І вось прыходзіць да цябе ўдава і дроў прывезці каняку просіць, і, здаралася, паўлітэрка з-пад палы дастае... Толькі я за паўлітэрка тое не вінавачу яе. Не з хабарам яна прыходзіла, не сумленне тваё купляць. Ведала яна, як цяжка было таго каняку даць, спачування яна прасіла тваёго. А чым яна аддзякаваць магла? Сама гародчык свой арала, карову ставіла ў плуг. Дровы з лесу на саначках вазіла, у калгас летам кожны дзень ішла... Пра тое я кажу, што на хабар не здольны просты чалавек. А што былі такія — і брыгадзіры, і старшыні, і падстаршынкі былі, што на людскім горы падчаровак гадавалі, тую ўдовіну гарэлку ў глотку лілі, бо надта шырокая была,— дык няхай ім абзавецца і на гэтым свеце, і на тым,— калі ён ёсць,— удовіна сляза!..

Дзядзька Ігнат нервова таргануў галавой, дастаў з кішэні капшук і закурыў.

— Значыць, так і не ўдалося табе, Сцяпанавіч, да старшыні дарасці? — як бы спачуваючы, сказаў чалавек у піжаме.

— Не ўдалося,— сумна ўсміхнуўся дзядзька Ігнат,— і ўсё праз гэтых удоў... Суседка ў мяне была, Арынкай звалі. Дробненькая, кірпатая, вечна ў ватоўцы хадзіла. Мужык не вярнуўся з вайны, хата ў акупацыю згарэла. Шкада мне было яе. Замуж другі раз не выйшла, а дзяцей аж двух ад розных прайдзісветаў прыблудных завяла. Паставіла хату. Што там за хата была, уявіць можна: два акны, а там, дзе яшчэ павінны быць вокны,— паабтыканыя мохам цурбакі...



У нас фінінспектар быў — п'яніца, Куфрам звалі. Па куфрах іншым разам лазіў, падаткі спаганяў. Ну, бывае, няма ў чалавека грошай, дык ты пачакай: свінчо, можа, якое прадасць, расплоціцца. Дык не... А залатыя ж у нас людзі, усё разумеюць, усё могуць змагчы. У самыя цяжкія гады яны ў нашу добрую справу верылі... Дык і ты ж да іх павінен падысці па-чалавечы.

Але вось пачаў гэты службіст Арынку трэсці. Да таго разышоўся — карову абрытаў. Кабета ў слёзы — не жартачкі. Пачуў я, прыбег і,— цяпер не шкадую і шкадаваць не буду,— набіў таму гаду тоўстую морду. Набіў... Ну, пасля гэтага і ён пастараўся, каб мне жылося не гладка. Ледзь справу на мяне не завёў, пад палітыку падводзіў... А тут жонка ў мяне хварэць пачала. Сваяк, яшчэ да вайны з вёскі паехаў, у горад заве... Адным словам, паехаў я, слабасць душэўную паказаў... Слухай, Віктар,— сказаў раптам ён,— хочаш заўтра са мной на сенакос схадзіць?

— Гэта куды, дзядзька Ігнат, у вёску?

— Навошта ў вёску? На плошчы, на газонах, вунь якая трава парасла — навесці парадак трэба... Бачыш, у мяне і ў горадзе служба па душы.

— А ўставаць рана трэба, дзядзька Ігнат?

— Рана. Хочаш, пабуджу?

— Не, я сам устану. Не трэба.

— Ну вось і добра. А касу другую ў майго напарніка возьмем. Значыць, згода?

— Добра, дзядзька Ігнат,— сказаў я.

— Ну вось і добра,— сказаў ён.— А цяпер можаш ісці. Ідзі, гуляй... Тваё дзела маладое... Ідзі.

І я пайшоў.

# ЛІСТ ДРУГІ

Дружа, сёння ў мяне лірычны настрой: давай уявім сабе, што мы разам, давай сядзем побач — пагрэемся ля нядымнага агню нашай дружбы. Будзь благаславёная, нечаканая сустрэча, маўчыце, трубы, бубны і фанфары,— цішыня наўкол, і мы адны. Так. Чаго не стае нам яшчэ? Мо трошкі, трошачкі смутку — мы будзем успамінаць...

Мы вучыліся з табой у адной школе. Давай закінем за плечы яшчэ няцяжкую ношку гадоў і пойдзем туды, на парог сваёй першай навукі. Мы будзем ісці і лясной дарогай, і палявой, і сцежкай па беразе ракі, і ехаць на падводзе, але болей ісці пешкі. Няма чыгункі, няма шашы, і поезда няма, і аўтобуса — іх мы не ведалі тады.

Пойдзем пешкі.

Але, слухай, ты ведаеш, той нашай школы цяпер ужо няма.

Помніш хату цёткі Аўгінні — старую, без гародчыка пад вокнамі: вокны на вуліцу, помніш шырокі мурожны двор і напоўраскрытую паветку? Хату цётка Аўгіння некуды прадала, сама пераехала жыць да замужняй дачкі ў суседнюю вёску. Але — нічога. Тая хата жыве ў нашай памяці: вось мы прыйшлі да яе і селі на парозе...

Ну што ж, звіні — я цябе чую і сёння, зроблены з шурпатай снараднай галоўкі школьны званок!

У тую восень, калі мы ўпершыню селі за парту, яшчэ ішла вайна. Недзе далёка былі нашы бацькі: чый ваяваў, слаў дадому пісьмы, а чый маўчаў — і тады ўсё некуды пісалі пісьмы нашы маткі. І вось адтуль, аднекуль, прыходзіў, нарэшце, адказ — вузкаваты лісток з друкаванымі літарамі, і ў ім, закрэсленыя чорнай рысай, нейкія словы, а тое, што аставалася, чыталася ўсюды аднолькава, чыталася так: прапаў без вестак.

Над гэткім лістком плакала ў тую восень мая маці.

Яна часта плакала ў той год: і раніцай, калі выпраўляла мяне ў школу, пачапіўшы палатняную торбачку з кніжкамі на маё плячо і даўшы ў рукі новенькую трохрублёўку на Чырвоны Крыж, і раніцай, калі не пускала мяне ў школу,— і я сядзеў цэлы дзень на печы, бо не было чаго абуць на ногі.

Над такой паперкай плакала ў тую восень і твая маці.

Але твой бацька не загінуў, ён вярнуўся: памятаеш, ты сароме́ўся казаць мне, што ён быў у палоне. Ты не мог даравацъ яму гэта, і, навошта таіць, не мог дараваць і я.

Давай жа цяпер, дружа, паклонімся невядомай магіле майго бацькі, і камень той, кінуты намі на пакутную дарогу бацькі твайго, давай падбяром таксама. Ні мой, ні твой бацька не вінаватыя перад часам і перад вайной...

Многа чаго не разумелі мы з табою тады...

Што ж, звіні, звіні — я цябе чую і сёння, зроблены з шурпатай снараднай галоўкі школьны званок!

У хаце цёткі Аўгінні, у першай нашай з табою школе, скончылі мы чатыры класы і прайшлі, як кажуць, пяты калідор. Калідора папраўдзе не было; была звычайная кухня з шырокаю печчу, са сталом, з лаўкаю для чыгуноў і для вядра вады. Калідоры былі потым, у іншых школах — сямігадовых і дзесяцігадовых, але ўжо не ў нашай вёсцы.

Раніцаю, ледзь пачынала віднець, увосень і зімою будзілі нас маткі: на камінку гарэў агонь і закіпаў на трыножцы чыгунок з бульбай...

І дагэтуль да самых малых драбніц помню я дарогі, па якіх хадзілі мы ў школу.

Як назваць нам тыя гады? Былі яны трудныя, бедныя, але яны не паўторацца: там, у звычайнай пасляваеннай вёсцы, пачыналіся з табою мы. Памятаеш, як зачытваліся мы Тургеневым, Чарнышэўскім, памятаеш, якую ўладу мелі над намі Рахметаў, Базараў? Не ведаю, як можна назваць гэту пастаянную напружанасць душы, гэты парыў да самаахвярнасці, да радасці і нават да тугі — і гэта было, і я думаю цяпер: якія мы былі шчаслівыя, як многа было ў нас наперадзе, якое вялікае, таямнічае жыццё чакала наперадзе нас!

Тое жыццё, што было побач, мы не прымалі ў разлік. Да глыбіні душы абражалі нас несправядлівасць, падман і няшчырасць; не райская ідылія была наўкруг нас, але гэта было ў нас, у нашай вёсцы, а сапраўднае жыццё было недзе далёка; што яно было, мы не сумняваліся,— яно чакала нас і ніяк, ніяк не магло яно без нас



абысціся! І недзе там, далёка, быў чалавек, якому мы верылі больш, чым сабе.

Цяпер мы ўжо не верым таму чалавеку. Ды яго ўжо і няма. Патроху ды памалу вучымся мы ва ўсім пакладацца на саміх сябе.

Памятаеш, за вёскаю, у бярозавым гайку, за якім пачыналася высокае, камяністае поле, закапалі мы бляшаначку з-пад ваксы, і ў ёй — запіску са словамі Мікалая Астроўскага: «Самае дарагое ў чалавека — гэта жыццё...» Тады таксама была восень, парывіста шумеў пад ветрам бярозавы гаёк. Мы закапалі тую запіску і, сцяўшыся ад хвалявання, ад трывожнай нязвыкласці толькі што зробленага, стрэлілі з самапала. Усё было ўрачыста, таямніча, і ўсё было падобна на клятву...

Што ж, пойдзем, дружа, пад нашу бярозку, давай возьмемся за рукі, пастаім, паслухаем ноч, цішыню і сябе саміх. Што б ні здарылася з намі, як бы ні пайшло далей наша жыццё, давай дамовімся з табою, дружа, што ніколі не скажам пра сябе словамі паэта:

Что я в ту пору замышлял,
Созвав товарищей-детей,
Какие клятвы им давал,—
Пускай умрёт в душе моей,
Чтоб кто-нибудь не осмеял...

Давай дамовімся, дружа. Вось табе мая рука.

**Твой Віктар.**

# ЗАЎТРА ФУТБОЛ

Дзядзька Ігнат казаў праўду: ноччу быў дождж. Была навальніца.

На дождж пачало брацца яшчэ з вечара. Мы з Ленай не сталі чакаць дажджу. Можна было схавацца ад яго ў кіно, але білеты на вячэрнія сеансы былі ўсюды прададзены. Я пасадзіў Лену ў перапоўнены тралейбус, і яна паехала. Я пайшоў дадому пешкі.

На горад насоўвалася цёмная маўклівая хмара. Было душна, вецер яшчэ не ўсчынаўся. Многа людзей вярталася ў горад — на матацыклах, матаролерах, у легкавушках. Над кінатэатрам бледна мігала рэклама. Ля кафэ на рагу вуліцы стаялі, сабраўшыся купкамі, святочна апранутыя хлопцы і дзяўчаты. Пахла парфумай, газіроўкай і цыгарэтным дымам. Кволым, нібы збалелым жоўтым святлом запальваліся ў дамах вокны. Нейкі дзядзька ў саламяным капелюшы нёс на плячы вудачкі, у руцэ ў яго была гаспадарчая сумка: з яе вытыркалася трава, у сумцы, мабыць, была рыба. Пасярод вуліцы стаяла міліцэйская машына: рэпрадуктар па-казённаму нудна даводзіў, што нельга парушаць правілы вулічнага руху.

Ні вулічныя, ні якія іншыя правілы парушаць мне не хацелася. Я ішоў і думаў пра Лену, пра тое, што заўтра нядзеля, і, значыць, будзе футбол. Білеты на футбол у мяне ёсць: мне і Лене. Я думаў, што заўтра раніцай, да футбола, калі распагодзіцца, мы паедзем з Ленай на возера. Там будзе людна, але мы, калі захочам, будзем адчуваць сябе, нібы адны. Нам будзе добра. Мы будзем часта і падоўгу купацца, будзем, знясіленыя, ляжаць на беразе, потым я схаджу да латка па напітак і бутэрброды, а потым мы пойдзем на трам-



вайны прыпынак. У трамваі будзе цесна, нават трошкі цемнавата ад густой цеснаты загарэлых твараў, плеч і рук; мы будзем стаяць побач, блізка прыхінуўшыся адно да аднаго, я буду глядзець у стомленыя, трошкі затуманеныя Леніны вочы, бачыць бледнаваты шрамок у яе на ілбе, бачыць яе разгубленыя вусны блізка ад сваіх, і мне захочацца, вельмі захочацца пацалаваць яе — і яна здагадаецца пра гэта, будзе гарэзна глядзець на мяне і смяяцца.

Я думаў пра дзядзьку Ігната, пра яго дзіўную і такую зразумелую любоў да вёскі, і мне чамусьці было трошкі шкада яго. Я думаў пра тое, што я вось ведаў і горад, і вёску, спаў у будане на лузе і ў нумары гасцініцы, смаліў кабана і ведаў, як сякуць на зіму капусту, курыў ноччу са стомленым шафёрам у таксі і піў на вясковым вяселлі самагонку, спрачаўся пра Хэмінгуэя і Урубеля, падоўгу прастойваў у залах музеяў, вучыўся ў інстытуце, на канікулах касіў у калгасе, радаваўся, расчароўваўся і каяўся, марыў стаць паэтам, а стаў аспірантам па разраду, як кажуць, прыгожага пісьменства. Але справа не ў гэтым.

Мне хацелася, даўно хацелася, прымірыць горад і вёску ў сваёй душы, і гэта была мая самая патаемная і самая душэўная думка.

А, можа, праўда дзядзькі Ігната, і чалавеку па-сапраўднаму трэба што-небудзь адно: горад ці вёска, месяц над хатай ці электрычны ліхтар?

Не, мусіць, не так. Я бачыў з самалёта неба: сонца залаціла перыстыя аблокі, і яны гарэлі чыстым, незямным агнём. Кучавыя воблакі ляжалі ўнізе, здавалася, на самай зямлі — зямля была далёка, і далёка было відно наўкол. І, здавалася, у нейкі міг страчвала над табою ўладу ўсё зямное, і, здавался, ў нейкі міг ты пазнаваў вечнасць — халодную вечнасць, прывабную і чыстую, як залацістае ззянне аблокаў. А з неба ўсё лілося і лілося невыказна чыстае святло, і, здавалася, вось-вось надломіцца нешта ў душы, і ты больш, чым жыцця, захочаш смерці, бо там, дзе душы кранаецца вечнасць, не існуе мяжы паміж жыццём і смерцю... О зямля! Ты даеш нам тугу па небе, але не меншая наша туга па табе. З далёкіх і блізкіх дарог вяртаемся мы да цябе, і спеў жаваранка аглушае нас не меней, чым гул рэактыўнага самалёта. Не аднойчы так было і са мной, і часта я думаў: навошта выбіраць паміж жаваранкам і рэактыўным самалётам? Хіба ж нельга, каб было і тое і другое? І, мусіць, не ўся праўда ў дзядзькі Ігната, праўда ў таго, у каго яе больш.

Не, я не дакараў дзядзьку Ігната. Я думаў, што кожны чалавек павінен добра ведаць сваё месца на зямлі, што кожны, урэшце, мае права любіць нешта асабліва моцна,— няхай так: гэта ўсё ж лепш, чым не любіць нічога.

Не, я ўсё ж паважаў дзядзьку Ігната. Я ішоў і думаў, як заўтра мы пойдзем касіць на плошчу, як я вазьму ў рукі касу, якую даўно ўжо не браў, як гэта добра, што мы будзем касіць у горадзе. І мне здавалася, што заўтра са мною павінна здарыцца нешта асабліва значнае і важнае, што заўтра, можа, канчаткова вырашыцца мая даўняя спрэчка з самім сабой...

А ноччу быў дождж. Была навальніца. Я даўно не бачыў такой навальніцы. Раз'ятрана білася ў вадасцёчных трубах вада, сінія маланкі паласавалі неба, на вуліцы нешта гуло, сіпела, булькала,— водгулле грымотаў кацілася імклівая і бурна, бы гул рэактыўнага самалёта.

Потым усё сціхла. Чуваць было, як падала з даху вада. Я лёг спаць. Я засынаў, і мне ўсё мроілася: сінія маланкі, дзядзька Ігнат, заўтрашняя наша касьба. І яшчэ: Лена, Лена, Лена. Футбол, футбол, футбол...

# ЛІСТ ТРЭЦІ

Добры дзень, Андрэй і Куліна!

У першых радках свайго пісьма саабшчаю вам, што мы жывыя і здаровыя, чаго і вам жадаем. Пісьмо ваша палучылі, за што дзякуй, а таксама, што не забываецеся на нас і завяцё ў вёску, каб прыехалі ў гэтае лета. На гэта скажу, што не ведаю, бо адпачынак мне даюць заўсёды ўвосень: летам у мяне ў горадзе самая работа.

Толькі вы як бы адгадалі мае думкі: стары я станаўлюся, і ўсё больш і больш пачынаю думаць пра нашу вёску, а як успомню, што там, дзе стаяла мая хата, чужы двор і чужая гаспадарка, дык і кажу сабе: дурны ты, дурны, чаго ты са свайго гнязда сарваўся, чаго пайшоў у белы свет, як у капейку! І старая мая на тое, каб назад вярнуцца, даўно падбівае. А вы ведаеце, што калі сам хочаш вярнуцца ды яшчэ калі жонка за тое голас падае, дык тут і думаць няма чаго. Грошай трохі мы сабралі; каб купіць халупу, хопіць, а там, як кажуць, бог-бацька: рукі ёсць, горб таксама, можна і новую хату паставіць.

Быў тут Піліпаў хлапечык у нас — такі дзівак, грошы, яшчэ студэнтам пазычаныя, прынёс. Даўно гэта было, а не забыўся. Я не пра грошы кажу, грошай тых старымі якіх пяцьдзесят рублёў, а толькі прыемна, калі чалавек харошы, ды яшчэ з тваіх мясцін. Я і не ведаў,

што ён пасля інстытута ў нас у раёне ляснічым працуе. Вось гэта добра, што вярнуўся дамоў.

У мяне да цябе, Андрэй, мужчынская просьба. Як тады гэты Піліпаў хлапечык быў, пасаромеўся я слова сказаць, каб ён мяне, калі што якое, лесніком дзе прыстроіў. Скажы цяпер яму. Скажы, што я чалавек ціхі, любіцельскі: у лесе, можна сказаць, гадаваўся — і лес люблю. А то во і вы пішаце, што як піляраму ў нас паставілі, дык многа лесу без пары і толку на глум ідзе... Ён чалавек, я думаю, хоць малады, а з душой, і павінен зразумець.

Навін у нас асаблівых няма. Хлопец наш малодшы служыць у арміі, астаўся яму служыць адзін год. А больш навін у нас ніякіх няма.

Адпішыце нам, а мы, як ад вас пісьмо палучым, адразу адпішам.

Бывайце здаровы.

Ігнат.

# ПАРА КАСАВІЦЫ

Яшчэ не хадзілі трамваі, тралейбусы: вуліца была пустая і мокрая ад дажджу. Недзе за горадам узыходзіла сонца. Яно не абзывалася яшчэ ў горадзе, але я ведаў: сонца ўзыходзіла. Таму-сяму, як і дзядзька Ігнат, я навучыўся ў вёсцы. Было чатыры гадзіны раніцы.

Далёка-далёка, у маёй і ў дзядзькі Ігнатавай вёсках, пастух выганяў на ранкі кароў.

А мы ішлі з дзядзькам Ігнатам па мокрым ад дажджу тратуары, і на плячы я нёс касу. Касу мы ўзялі ў дзядзькавага напарніка, дасталі з падстрэшка дашчатай, нізенькай пунькі, крытай толем і рудой гарбатай бляхай. Было лета, і дзядзькаў напарнік спаў тут жа, у пуньцы: нам не трэба было заходзіць у дом.

Вуліца была пустая і мокрая ад дажджу. Было ціха. Па дарозе на плошчу мы ўбачылі толькі вартаўніка ля гастранома ды нейкага дзівака ля аўтамата з газіраванай вадой. Дзівак усё тыцкаў і тыцкаў пальцам у кнопку аўтамата, грукаў па ім кулаком, але вада не ішла. Дзіваку было год дзевятнаццаць: які-небудзь сасмяглы ад кахання студэнт. Салют табе, браце, і шчырыя пажаданні ўдачы! Перадавай прывітанне маёй студэнцкай маладосці!

Мы прыйшлі на плошчу.

Далёка-далёка, у маёй і ў дзядзькі Ігнатавай вёсках, нехта здымаў з пляча касу. Узыходзіла сонца. Стаяла высокая, пасівелая ад туману і густой расы трава. Звінела пад мянташкай каса...

— Пачакай,— сказаў дзядзька Ігнат, спыніўшыся на краі шырокага газона, абсаджанага роўным кустоўем.— Давай пакуль перакурым.— І асцярожна палажыў касу пад шызую, набрынялую холадам елачку.— Пачынаць буду першы я...

Ён гаварыў ціха. Раніцай нельга моцна гаварыць. Я маўчаў.

— Паглядзі, як там у цябе на касільне пупок. Каб высака не быў.

— Не, у самы раз... Толькі ў нас гэта не пупок завецца, а лучок. У нас лепш...

— Як вядзецца, так і завецца. Лучок... А як у вас завецца распорка з сеткай, што да касы прыладжваюць, калі косяць грэчку? Вось гэта — дык завецца лучок!

— Як у нас завецца? Чакайце, дзядзька Ігнат... Не, нешта не ўспомню.

— Як успомніш, скажаш мне.

Ён нават не ўсміхнуўся. Сур'ёзна ён казаў ці кпіў з мяне? Але я не крыўдаваў на яго, мне нават чамусьці было прыемна, што ён правучыў так мяне.

— Дайце мне мянташку,— сказаў я,— пагляджу, можа ў маёй касе лапатуха якая завялася. Га, дзядзька Ігнат!

— Чакай, спярша я сам. Але давай лепш пакурым. Закуры махры.

— Давайце.

І вось мы стаялі, курылі моцную, аж займала дых, ядавітую махорку. Харрошая была махорка!

Было ціха, была раніца, быў горад, і мы збіраліся ў гэтым горадзе касіць.

— Як трымаць касу не забыўся? — пытаўся дзядзька Ігнат.— Эх, браце! І навошта табе кніжная навука? Марнуеш ты маладосць. Пайшоў бы я на тваім месцы ў грузчыкі, у плытагоны, у кавалі. Сілу б у плячах адчуў. Апетыт бы меў воўчы. Сіла была б, як у каня... Ты не смейся. Ты малады яшчэ, нічога ты не разумееш... Бывала, косіш: во гэтак, як сёння,— не так, канешне, я толькі для прыкладу кажу. Косіш, а потым нехта: «Перакур!» — крычыць. У рэчцы касу абмыеш ды ў цянёк пад куст. А тут дзеўкі пракосы раскідаць прыйшлі... Ведаеш нашых дзевак? Загарэлыя, крамяныя, паркалёвая кофта ды спадніца, але ж дзеўкі, што трэба. Засмяецца, дык засмяецца, гэта не тое, што хі-хі ды ха-ха!.. Ляжыш пад кустом, а яны пацвельваюцца з цябе. Не ўтрымаеш ды да іх: ну, думаеш, пакажу. Бяжыш, схапіць каторую хочаш, а яны — уцякаць... Дагоніш, канешне. Але і кухталёў надае... Але нічога, зможацца. І вось як глянеш тады ёй у вочы... Толькі што гэта я, кавалер гарохавы, табе расказваю, ведаеш сам. Але брат, паслухай, паківай галавою і — маўчы. Быццам нічога табе не гаварыў... Толькі, брат, маладосць, яна, брат, маладосць... Эх, і касанём мы з табою!

Ён неяк пасвятлеў увесь, па-заліхвацку кінуў недакурак, нагнуўся, пад-



няў касу, зашчаміў касільна пад пахай, узяўся рукой за палатно касы і паласнуў па ім мянташкай:

— Джгінь-джгінь-шах! Джгінь-джгінь-шах!

Вясёлая, харошая, знаёмая з маленства музыка!

Ён падышоў да шнурка кустоўя, асцярожна пракасіў лапінку, павярнуўся, падняў над мокрай травою касу, прыгнуўся і — пайшоў...

— Насядай на пяткі, Віктар, насядай!

І тады, хвалюючыся, баючыся адстаць ад дзядзькі Ігната, узмахнуў касой і я...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Днём ужо, едучы на футбол, я выскачыў з тралейбуса на плошчы. Пякло сонца. Трава ў пракосах завяла. Па пракосах чорныя, аж бліскучыя, жвава скакалі шпакі. Пахла сенам. Вялізны і шумны ляжаў навокал горад. На плошчы па-лугавому, па-летняму пахла сенам.

Я павярнуўся і пaціху пайшоў тратуарам, і тут, на тратуары, раптам таксама ўбачыў сена — невядома кім растрэсены клок падсохлага сена. Па-лугавому, па-летняму пахла сенам. «Сена на асфальце,— падумаў я,— сена на асфальце...»

Быццам доўга я шукаў нечаму слова, і раптам яго знайшоў.

«Сена на асфальце,— узрадавана думаў я.— Вёска ў горадзе...»





**Мікола АЎСЕЕНКА**

Мастак Сяргей ВОЛКАЎ

# НЯЎДАЧНІК

**Апавяданне**

Пачалося ўсё з таго, што Андрэю не пашанцавала паступіць у інстытут. Каб такое здарылася з ім сёння, то, можа, бяды і не было б. Цяпер з няўдачаю такою многія звыкліся. А тады ўсё выглядала падругому...

Перш-наперш, у Андрэя была непрыемная гаворка з бацькам.

— Дык, кажаш, не паступіў? Дзякую, сынок, парадаваў. Думаў, вывучышся на каго. А ты...

Бацьку Андрэй разумеў. Але Люба? Праз яе адну ён вярнуўся ў родную вёску. Бо як забіраў з інстытута дакументы, хацелася паехаць хоць куды, толькі каб далей ад сораму. Ды ў сэрцы была надзея: Люба зразумее яго, падтрымае ў цяжкую хвіліну. Сам Андрэй, наперакор усяму, думаў, што ў інстытуце з ім паступілі несправядліва і што ён вучыўся б не горш за тых шчаслівчыкаў, якія прайшлі па конкурсу.

З Любай ён спаткаўся на другі дзень. Яна была на двары — развеш-

вала на плоце бялізну. Калі Андрэй падышоў, яна, унурыўшы галаву, пачала шоргаць наском туфля па ўтоптанай сцяжынцы. У Андрэя адразу адпала ахвота гаварыць з ёю.

— Ну, расказвай, як у цябе?..— спытала нарэшце Люба.

— Аднаго балу не дабраў...— з горыччу сказаў Андрэй.

Ён чакаў, што Люба пачне яго супакойваць, а яна толькі спытала:

— Куды ж ты цяпер?

— Не ведаю,— паціснуў плячыма Андрэй.— Мусіць, у калгасе застануся.

Люба паморшчылася.

— Усё ж ты дзесяцігодку скончыў...

— Ну, а што мне рабіць? — узлаваўся Андрэй.

Люба раптам захвалявалася. Андрэй заўважыў, як яна са спалохам паглядзела на яго і пачала хутка расказваць пра сябе. Паступіла ў пединстытут. Нібыта і экзамены здала на «пяць». Толькі чаму яна так хвалюецца?

— Я ніколечкі не баялася конкурсу,— сказала яна нейкім ненатуральным голасам і падала руку на развітанне:

— Да пабачэння, Андрэй. Заўтра, можа, паеду... Да заняткаў пажыву ў дзядзькі.

Пасля ён доўга чакаў ад яе пісем. Потым неяк убачыў у яе бацькоў фотакартку. Люба сядзіць напару з хлопцам. Той гарэзліва ўсміхаецца, быццам дзеля жарту прысеў ля дзяўчыны. А Люба ўся ажззяе. Такой была яна ў той дзень, калі яны з атэстатамі ў руках вярталіся са школы.

Ішлі полем. Сцяжынка вілася над канаваю, да якой падступала густое, маладое жыта. Стаяў гарачы ліпеньскі дзень. Над дальнім пагоркам струменілася, бы цяпло ад напаленай печы, празрыстае мроіва. Крычалі ў жыце перапёлкі.

Пасярод поля, над канаваю, рос адзінокі дубок. Там, у яго цені, яны прыселі. Люба скінула туфлі. Трава, мусіць, казытала ёй ногі: яна весела смяялася. Андрэй нясмела абняў яе за плечы. Люба сцішылася, паглядзела яму ў вочы, потым хуценька пацалавала яго ў шчаку, і, скокнуўшы ў канаву, пабегла. Андрэй ледзь паспяваў за ёй, назіраючы, як мільгаюць у траве яе ногі. Скора яна спынілася. Змарана дыхаючы, загаварыла:

— Не дагнаў. Уцякла ад цябе.

«Уцякла»,—успомніў Андрэй, разглядаючы фотакартку. Хлопец той і сапраўды быў прыгожы. У яго кучаравая чупрына, не тое што ў Андрэя — шорсткія, прамыя валасы. І твар у таго гладкі, у Андрэя ж ён — худы, выцягнуты... Андрэй упершыню адчуў, што такое рэўнасць. І яшчэ зрабілася чамусьці крыху боязна і крыўдна. Няўжо ў іх з Любай так лёгка ўсё скончылася? І чаму? Толькі таму, што ён не студэнт? Але хіба гэта яго віна? Хіба ж ён горшым ад гэтага стаў?

Андрэй пачаў заўважаць, што і ў Змітрачковых, Любіных бацькоў, змяніліся адносіны да яго. Раней, калі ён з Любай хадзіў у школу, усе прывыклі іх бачыць разам і Змітрачковы, здавалася, нічога супраць не мелі, каб яны дружылі. Але вось ужо каторы раз сам Змітрачок праходзіць міма Андрэя і быццам не заўважае яго.

Змітрачок быў хітры і выкрутлівы чалавек. З выгляду ціхі і непрыкметны, але пальцы яму ў рот не кладзі. Жыў Змітрачок не са свайго мазаля. Радавым калгаснікам ён ніколі не быў, працаваў то кладаўшчыком, то фуражырам, а на благі канец пагаджаўся і на гуменніка. Заработак, вядома, быў невялікі, але Змітрачок не скардзіўся. У яго заўсёды вёўся хлеб і гадаваліся кормнікі. Меў Змітрачок, можа, і не лепшую пяцісценку, але збудаваў у садку цэментаваны скляпок і раскошны, падобны на гумно, хлеў. Тут ён складваў назапашаны на зіму корм, якога хапала на карову і на падцёлка.. І што б Змітрачок не рабіў, усё гэта, як ён казаў, для адзінай дачкі...

Некалькі разоў Андрэй садзіўся пісаць Любе. На паперу кладзіся важкія, з'едлівыя словы, і, крыху супакоіўшыся, Андрэй перачытваў напісанае і са злосцю рваў ліст. Нешта яго ўсё стрымлівала, нечага ён баяўся. Нічога не заставалася, як чакаць самую яе.

Сустрэчу з Любай Андрэй адкладваў на час зімовых канікулаў. Але адбылася яна на многа раней. У той дзень Андрэй пераворваў бульбянішча. Пад вечар ён прагнаў апошнюю баразну і, выехаўшы на дарогу, пачаў пугаўём счышчаць прыліплую да плуга зямлю. Разагнуўшыся, ён безуважліва глянуў у бок лесу і не паверыў сваім вачам: там, лагчынаю, ішла Люба. Яна несла ў адной руцэ невялічкі чамадан, у другой матлялася чорная скураная сумачка. Люба, мусіць, таксама заўважыла яго, бо спынілася і паставіла на зямлю чамадан. Сэрца ў Андрэя прапялося нейкім халадком. Ён пакінуў на дарозе каня і з зацiснутай у руцэ пугаю пайшоў насустрач Любе.

— Ой, Андрэй!..— усклікнула Люба.— Ты такі смешны з пугаю...

І агледзела яго з ног да галавы.

— Што, не падабаецца? — варухнуў ён пугаўём.

— Ды што ты...— глянула яна насцярожана на Андрэя.— Мне цікава, што я цябе сустрэла тут і... вось такога...

— Такі ж, які быў.

— Я разумею. Але... чаму ты не паехаў нікуды? Хіба ў цябе нікога няма ў горадзе?

— Мне тут добра.

— Ой, і праўда,— ужо шчыра казала Люба.— Як прыгожа зараз у нас. Асабліва ў лесе... Лісты пажоўклыя і як жывыя яшчэ. Такія яркія, свежыя... Здаецца, не паехала б адсюль. Толькі, калі ўсё тут жыць, то і сумна бывае. Праўда?

— Праўда,— няпэўна адказаў Андрэй.

— Ну, я пайду. Можа, вечарам сустрэнемся.

Люба ўзялася за чамадан.

— Пачакай,— спыніў яе Андрэй.— Ты, можа, скажаш, чаму не пісала?

— Навошта? — з наўмыснай весялосцю перапытала яна.— Сама вось прыехала. Ды потым... заняткі...

— Зразумела. Я — не студэнт,— з дакорам сказаў Андрэй.

— Не крыўдуй, Андрэй. Ну, я думала, што табе не цікава будзе.

Не, яна больш не кахае яго. Што ж тады азначала ўсё тое, што было паміж імі?

Калі Люба сабралася ісці, Андрэй паспрабаваў абняць яе. Люба апусціла ўніз вочы і, гледзячы сабе пад ногі, загаварыла:

— Давай, Андрэй, забудзем пра ўсё, што было ў нас...

Андрэй сумеўся. Ён стаяў разгублены, а потым адчуў, як у грудзях закіпае злосць. Штосьці грубае, помслівае падымалася ў ім. Але Андрэй толькі спытаў:

— Хто ён?

— Ты пра каго? — здзіўлена спытала Люба.

— Пра таго, што з табою на фотакартцы?

— Ой, гэта наш хлопец... Бацька яго дырэктарам на заводзе.

Андрэй адразу адчуў сябе ніякавата. Куды яму, няўдачніку, да яе? Яна ў такой кампаніі...

А Люба хвалілася ўжо:

— У іх свая «Волга». Бацькава. Але Раман, як на сваёй, ездзіць...

— Раман? — невядома навошта перапытаў Андрэй.
— Ага,— кіўнула Люба галавой.— Ой, як ён мяне раз катаў. Страх. Выехалі мы за горад...
— Хопіць,— груба абарваў яе Андрэй.
Ён адчуў, як нейкі камяк падкаціўся яму пад горла. Стала цяжка дыхаць.
— Што ж,— загаварыў ён узрушана.— Бацька мой не дырэктар. У яго няма «Волгі». Я не пакатаю цябе, я — і не студэнт. Недастойны! Бывай!
Андрэй моцна сціснуў у руцэ пугаўё і шпарка пайшоў ад Любы.
Прайшоўшы некалькі крокаў, Андрэй азірнуўся. Люба, разгубленая, ўсё яшчэ стаяла на сцежцы. Нейкі момант яны моўчкі глядзелі адно аднаму ў вочы: яна —вінавата, Андрэй — з'едліва ўсміхаючыся. Люба не вытрымала яго позірку і, унурыўшы галаву, нечакана заплакала. Потым, быццам нехаця, узяла чамадан і, усхліпваючы, пайшла ўзлессем да вёскі...
Праз год Андрэй скончыў курсы трактарыстаў і працаваў у сваім калгасе. Неяк раз яго партрэт змясцілі ў раённай газеце. Сам ён не надаваў гэтаму асаблівага значэння. Але, мусіць, з таго моманту і перасталі пляткаркі гаварыць пра яго няўдачу.
Люба не прыязджала дамоў ні зімой, ні ўлетку. Андрэй чуў, што яна запісалася важатай у піянерскі лагер. Пра тое, што яны пасварыліся, Зміттрачковы ведалі, бо зусім перасталі вітацца з Андрэем. Некаму яны гаварылі, быццам у той раз Андрэй набіў Любу і яшчэ запалохаў: дома яна ўсё плакала і не прызнавалася чаго.
Нямала бяссонных начэй правёў Андрэй.
На другі год яго прызначылі брыгадзірам трактарнай брыгады, якая абслугоўвала два калгасы. Па-свойму давялося прызнаць Андрэеў аўтарытэт і Змітрачку, як спатрэбілася прыцягнуць з расцяробаў на шулякі дуба. Праўда, Змітрачок спрабаваў адразу абысці Андрэя, паткнуўся быў да трактарыстаў. Але тыя адмовіліся рабіць што без брыгадзіра. Тады і падабрэў Змітрачок.
Неяк пад вечар Андрэй вяртаўся з поля. Ён ужо мінаў Змітрачковых, як яго аклікнуў гаспадар:
— Андрэй Ігнатавіч, што ж ты забыў нас? Праходзіш міма і ніколі не зойдзеш?
Андрэй не мог уцяміць, чаму раптам Змітрачок стаў такі добры. Ён думаў, што тут яму рабіць, і адчуваў, як яго ўсё больш апаноўваюць цікаўнасць і нейкае незразумелае хваляванне.
— Ну, дык мо зойдзеш? Люба прыехала.
«Люба?!» — ледзь не ўскрыкнуў Андрэй і, ужо больш ні аб чым не думаючы, пайшоў за Змітрачком.
Люба была ў сенцах. Стоячы спіною да дзвярэй, яна церла анучкай падаконнік. Але не цяжка было заўважыць: яна толькі робіць выгляд, што занятая. Андрэй прыпыніўся, не ведаючы, што рабіць: ісці ў хату за гаспадаром ці застацца тут, у сенцах. А Змітрачок, быццам нічога не заўважаючы, прыгаворваў:
— Праходзь, праходзь, Ігнатавіч.
Ён першы прашмыгнуў у хату і забегаў там, затупаў. Дзынкнула шкло, забразгалі відэльцы.
Андрэй затрымаўся ў сенцах.
— Добры дзень, Люба,— прывітаўся ён.
Люба адказала ледзь чутна:
— Дзень добры, Андрэй.
— Чаго гэта ты такая сумная?
Люба нечакана здрыганулася, але адказала стрымана:
— Табе так здаецца...
Яна павярнулася да Андрэя, і ён паспеў разгледзець яе. Як яна перамянілася! Смуглявы твар быў бледны і хваравіты. Вочы запалі, пад імі залеглі цені. І ўся яна выглядала нейкай кволай, збалелай.
— Люба, што з табою? — занепакоена спытаў Андрэй.— Ты хворая, ці што?
Губы ў яе нервова задрыжалі, яна адвярнулася да акна і заплакала. У гэты момант дзверы з хаты расчыніліся і на парозе паказаўся Змітрачок.
— Ну, дык заходзь, Андрэй, заходзь...
Але Андрэю было ўжо не да Змітрачка. Сэрца яго заныла ў нядобрым прадчуванні. Ён рашуча ступіў да Любы і ўзяў яе за плечы, каб зазірнуць у вочы. Яна запярэчыла:





— Не чапай мяне, Андрэй. Я — брыдкая.
І, закрыўшы твар рукамі, заплакала наўзрыд.
Жаль, крыўду, абурэнне,— чаго толькі не адчуў Андрэй, гледзячы на Любу. Яму шкада было чамусьці не яе, а самога сябе. Ужо помсцячы Любе, ён закрычаў:
— Што, апяклася?!
Люба адхапіла ад твару рукі і, спалоханая, замітусілася. Быццам яна трапіла ў пастку і цяпер шукала сабе паратунку. А яго не было нідзе, і яна чула цяжкія, бы камяні, словы Андрэя:
— Бацька — дырэктар завода... На «Волзе» катаў!..
— Ён... ён — падлюга,— захліпаючыся слязьмі, сказала Люба.— Ён так не адну катаў, а потым...
У Андрэя нібыта абарвалася штo пад сэрцам. Ён адразу неяк прыціх, і тады зноў прыгадаўся яму кучаравы хлопец, што сядзеў з Любай на фотакартцы. Толькі ўжо ўсмешка таго здавалася цяпер Андрэю нахабнай. У яго было такое адчуванне, быццам яго на людзях абакралі і няма ніякай управы на злодзея. У тым, што здарылася, Андрэй вінаваціў і Змітрачковых. Яны ж так хацелі, каб і іх Люба была не такая, як усе. Ганарыліся, як прыслала фотакартку: не абы з кім, а з дырэктаравым сынам сфатаграфавалася! Па ўсёй вёсцы пайшло, якога хлопца падчапіла сабе Люба. Як балюча было слухаць усё гэта Андрэю. І вось яна стаіць перад ім у слязах. І Андрэй адчувае, як закіпае ў яго грудзях нянавісць да Любы.
А дзверы зноў расчыняюцца, і зноў паяўляецца Змітрачок.
— Ігнатавіч, ты чаго ж не ідзеш?
І тады Андрэй не вытрымлівае:
— Я не пайду да вас! Чаго вы хочаце ад мяне?
Змітрачок часта-часта заплюскаў маленькімі вочкамі:
— Вы што, зноў пасварыліся?
Ён заўважыў, што Люба плача, і падскочыў да яе.
— Ты чаго?.. Ён, можа, гразіў табе?
І да Андрэя:
— Ты, хлопец, без гэтага... Калі табе дзеўка адвод дае, то няма чаго гразіцца...
— Вы самі ёй сагразілі,— з болем сказаў Андрэй.
— Як гэта?.. Што гэта? — Змітрачок штурхануў Любу ў плячо.— Ты скажаш мне, што ў вас тут?..
Люба раптам уся неяк выпрасталася. Вочы яе загарэліся гневам. Яна сціснула кулакі і, наступаючы на Змітрачка, закрычала:
— Адчапіся ад мяне! І вы добрыя, вы!..
Маленькія вочкі Змітрачка пабольшалі. Ён разгублена лыпаў імі.
— Божа, яна звар'яцела!..— І затупаў, закрычаў на Любу: — Што ты гаворыш? Змоўкні!
— Не хачу! Не буду маўчаць! — крычала Люба.— Вы ўсе... Андрэя ганьбілі...
Змітрачок аж закалаціўся, замахнуўся на Любу. Ён бы і ўдарыў, можа, дачку, каб яго не стрымаў Андрэй. Люба кінулася бегчы з сянец, але Андрэй заступіў ёй дарогу.
— Пусці мяне! — ірвалася з яго рук Люба.
З хаты выглянула Хоўра, Любіна маці. Не разумеючы, што тут адбываецца, яна адразу накінулася на Андрэя:
— Зноў гэты злодзей!.. Пусці дзеўку!..
— Куды яе пускаць? — ашчэрыўся на жонку Змітрачок.— Яна вунь, бачыш...



Змітрачок плюнуў і прыціх. Ён, мусіць, здагадаўся, што з дачкою здарылася нешта нядобрае.
А Люба рвалася на вуліцу:
— Пусціце мяне! Пусціце!
— Нікуды я цябе не пушчу, чуеш? — ужо злаваўся Андрэй.
Да яе падбегла ўстрывожаная маці, прыхінула яе да сябе.
— Дачушка, што ж гэта з табою?
— Мамачка!..— ускрыквала Люба.
Змітрачок, пасмялеўшы, падступіўся да Андрэя.
— Ідзі, хлопец. Ідзі адсюль... Мы як-небудзь самі...
Хоўра абняла Любу за плечы і павяла ў хату. Андрэй выйшаў на падворак. З хаты даносіўся ўжо сцішаны плач. У Андрэя адлягло ад сэрца. Выходзячы на вуліцу, ён падумаў: «Маці, мусіць, умеюць супакойваць дочак».
Увесь той вечар і ноч Андрэй блукаў у полі. Ён тужліва ўглядаўся ў цемру ночы, слухаў, як таемна шэпча нешта на вуха вецер, і яму здавалася, быццам хтосьці нябачны, шчыры хоча яго суцешыць, супакоіць. Неадчэпная ішла за ім думка пра Любу: ён не хацеў думаць пра яе, але яна, разгубленая, заплаканая, усё стаяла і стаяла ў яго перад вачмі...



Рыгор БЯРОЗКІН

# БЕЗ ВОЙНАЎ, РАБСТВА І БАГОЎ

### Да пяцідзесяцігоддзя Аркадзя КУЛЯШОВА

У паэзіі Аркадзя Куляшова вельмі адметная хада: штуршкамі, «цыкламі» і — па спіралі.

Кожнае сутыкненне паэта з рэчаіснасцю, кожная сустрэча з жыццём нараджаюць у яго не проста аднаразовы водгук у выглядзе верша ці нават паэмы — яны выклікаюць працяглае рэха, згустак, ці, гаворачы мовай фізікі, квант сардэчнай энергіі, і гэтая энергія «разгортваецца» з кнігі ў кнігу.

Кожнае адкрыццё ў знешнім свеце з'яўляецца адначасова і новай ступенню ўнутранага росту паэта, новым узроўнем яго свядомасці — якасць, уласцівая мастакам, што ўспрымаюць сігналы жыцця не вонкава, не павярхоўна і не па адкінутаму яшчэ ў свой час Маякоўскім пратакольнаму прынцыпу «слухалі-пастанавілі», а глыбока зацікаўлена, усёй сутнасцю сваёй натуры. І абавязкова **партыйна** — вылучаючы і падтрымліваючы ў жыцці ўсё лепшае, перспектыўнае, што належыць будучыні, і непрымірыма змагаючыся супраць усяго, што варожа праўдзе века, праўдзе гісторыі.

І яшчэ характэрна для Куляшова, што кожны раз, асвоіўшы новыя далягляды ў народным быцці, дасягнуўшы новай і вышэйшай ступенькі ў ідэйным, духоўным росце, ён новым поглядам азірае мінулае, каб строга і патрабавальна праверыць яго сённяшнім днём і там, у дні ўчарашнім, здабыць урокі для будучыні, для несупыннага руху наперад...

Параўнаўча не так даўно, — некалькі год таму назад, — Куляшоў зрабіў далёкае падарожжа: членам беларускай дэлегацыі ён прымаў удзел у чарговай асамблеі ААН. На борце акіянскага карабля па дарозе ў Амерыку і назад, на радзіму, пачалі паступова складвацца задумы новых вершаў, і з гэтымі вершамі мы неўзабаве пазнаёміліся на старонках часопіса «Полымя».



Калісьці, знаходзячыся ў такім жа падарожжы, на маленькім («накшталт нашага ГУМа») параходзе «Эспань», Маякоўскі жартаваў са здольнасці акіяна змушаць на высокі роздум: «Хто над морам не філасофстваваў? Вада...»

Філасофствуе «над морам» і Аркадзь Куляшоў, і яго філасофія — чалавечая сталасць паэта і грамадзяніна, які ўбачыў сучасны свет як бы на скрыжаванні самых вялікіх яго супярэчнасцей, у паядынку справядлівасці і дабра з няпраўдай і злом, прагрэсу з рэакцыяй, аптымістычнай надзеі са змрочным скепсісам, міру з вайной.

Філасофія Куляшова — гэта яшчэ і натуральнае імкненне паэта асэнсаваць усё перажытае з вышынь новага погляду, жаданне разгледзець ва ўласным жыццёвым вопыце ўсё, што было ў ім вартага гэтых вяршынь, і гэтай сталасці, і гэтых паўнамоцтваў, якімі народ надзяліў паэта, пасылаючы яго за акіян з пачэснай місіяй адстойваць мір ва ўсім свеце.

Куляшоў прыпамінае Бесядзь, раку свайго маленства:

Стаю і з пачуццём неўтаймаваным
Гляджу на след блакітны за кармой,
Як быццам я плыву не акіянам,
А Бесяддзю — жаданаю ракой.

Бесядзь — для Куляшова нешта непараўнана большае за «геаграфічны арыенцір», за пейзаж бацькоўскага краю. Яна — пачатак яго дарог, зыходны пункт яго далейшых шуканняў. Яна — увасабленне той «малой радзімы», пра якую калісьці пісаў А. Твардоўскі: «Гэта малая радзіма са сваім асаблівым абліччам, са сваёй — хай самай сціплай і звычайнай — красой паўстае перад чалавекам у маленстве, у пару памятных на ўсё жыццё ўражанняў дзіцячай душы, і з ёю, гэтай асобнай і асабістай радзімай, ён прыходзіць з гадамі да той вялікай радзімы, што абдымае ўсе малыя і — у вялікім цэлым сваім — для ўсіх адна».

Мы добра помнім гэту «асобную і асабістую радзіму» Куляшова, — яна адлюстравалася ў яго паэзіі. Мы ўглядаемся яшчэ раз у яе абрысы праз акіянскую дымку, што імжыць над новымі вершамі паэта.

...«Дарогі» (1930) — першы сапраўды «куляшоўскі» верш. Па ім пазнаецца ўжо Куляшоў, яго своеасаблівы душэўны лад, дзе непасрэднасць самых ранніх уражанняў захоўваецца ва ўсёй іх некранутай чысціні і разам з тым ва ўсёй іх гатоўнасці «пераліцца» ў нешта новае, вышэйшае:

...Часы суніц чырвоных, спелых
Адкукавалі ўдаль зязюлян,
Адпелі поўным голасам дзяўчыны...
І адышлі, як сталасць адыходзіць,
Ад кошыкаў, ад стомы, ад вятроў...
Ад кошыкаў, —
У іх мы носім плён,
Ад стомы, —
што ідзе пасля,
І ад вятроў — і ўсходніх і заходніх...

Куляшоў вяртаўся на Бесядзь і пазней, калі ўжо «свет пабачыў не ў лятунках», і пра гэтыя яго вяртанні цудоўна расказалі вершы 1938—1940 гадоў: «На сотай вярсце», «Бюро даведак», «Ельнік», «Шэршні», «Карусель», «Вуліца Маскоўская», «Плыла, цалавалася хмара з зямлёй».

Для нас і сёння, з адлегласці многіх — ды якіх яшчэ! — год, не страціла сваёй чароўнасці гэта нізка пра школьных дружбакоў, што сустракаюцца ў мокрай пасля навальніцы ліпеньскай пушчы. Пра святочную карусель, што кружыць іх, ужо сямейных людзей, як некалі бесклапотна кружыла ў шумны кірмашовы дзень. Пра сустрэчы і ростані, пра палянанне на глушцоў і пра многае іншае, што пераказаць можна, але і пераказаць цяжка, бо за межамі такога пераказу, які б ён ні быў падрабязны, непазбежна застанецца галоўнае ў куляшоўскай нізцы: той (гаворачы сло-

вамі Шчадрына) «тонкі струмень жыцця, які менавіта і прымушае выхаплены з рэчаіснасці вобраз рухацца, радавацца, пакутаваць і хвалявацца».

Бесядзь — улонне, пачатак таго кахання, аб якім надзвычай многа пісаў Куляшоў. Ужо ў «Дарогах» герой «так шчыра, і так лёгка, і так сумна... кахаў яе — адну дзяўчыну, якую людзі клікалі Алесяй...» Праз чвэрць стагоддзя, напоўненага грымотнымі выпрабаваннямі часу, ён зноў перажыў гэтае незабыўнае і далёкае ўжо каханне, схіліўшыся ў глыбокім смутку над магілай з дарагім імем, — Алеся загінула ў партызанскім атрадзе, падрываючы фашысцкі эшалон (паэма «Толькі ўперад»). І хоць гэтае каханне і не было бясхмарна-шчаслівае і радаснае, — куляшоўскі герой успамінае яго з удзячнасцю і цеплынёй, бо і **такое** (а можа, іменна таму, што **такое**) яно з'ўлялася для юнака, а потым для сталага чалавека душэўна-актыўным і дзейсным стымулам, які абуджаў у ім новыя сілы для ўдзелу ў агульнай справе.

І, нарэшце, Бесядзь, як вобраз усё той жа «малой радзімы» паэта, як «першы віток» яго жыцця, выступала часам і як вобраз куляшоўскай творчасці ў цэлым. Памятаеце, у вершы саракавога года, разважаючы аб сваёй паэзіі, аб песні сваёй душы, Куляшоў пісаў:

Хачу, каб яна разлілася ракой...
Не Волгай магутнай,
Не нават Камаю,
Хоць Бесяддзю, што на радзіме маёй.

Гэтую дэкларацыю можна было б зразумець па-рознаму і, у прыватнасці, так, быццам, адстойваючы свае права на самабытнасць, аўтар задавальняецца нейкім маральным і творчым мінімумам: маўляў, і малое, і непрыкметнае рэчышча маёй паэтычнай ракі, затое яно **маё**... У сапраўднасці ж тут гаворка ішла пра іншае. Пра яснасць, пра вернасць родным карэнням і пра тое, што знешні свет павінен належаць паэту гэтак жа арганічна і неад'емна (толькі пры непараўнальна большай актыўнасці паэта як «люстра»!), як належаць Бесядзі ціхі сасоннічак на ўзбярэжжы, неба ў зорах і гэта празрыстая хваля, што мкне і мкне безупынку ў далёкае мора і далей у акіян...

І вось у акіянскіх прасторах Куляшоў «пазнае» сваю Бесядзь:

Плыву па ёй! Як хлопчыку малому,
Паслаў мне лёс блакітную раку —
Праз цёмны акіян яна дадому
Мяне вядзе, як маці, за руку.

Гэта — павучальная сустрэча. «Асабістыя» рэкі праўдзівых паэтаў, тых, хто жыве і працуе з людзьмі і дзеля людзей, упадаючы ў акіян быцця агульнанароднага, агульначалавечага, захоўваюць свой «нораў» і свой характар — іх лёгка адрозніць. Самыя раннія галасы маленства і маладосці вяртаюцца праз гады ва ўсёй нерастрачанай свежасці, але ў новым гучанні — як доказ таго, што свет не стаіць на месцы, што ён рухаецца, і нястрымную яго хаду не спыніць нікому.

Праз гады вярнуліся да Аркадзя Куляшова і «часы суніц», што «адкукавалі ўдаль зязюляй»:

Жыццё маё на хуткасць гуку
Памнож і множанне правер.
Вось ты і адкажы, навука,
Адкуль вяртаецца цяпер
Лясной вяшчунні кукаванне,
Што, абудзіўшы першы сон,
Калісь пазвала ў вандраванне
Мяне на многа тысяч дзён?

Ці не праўда, трохі дзіўныя для Куляшова радкі: зварот да навукі, нейкае множанне, што патрабуе яшчэ і праверкі, «фізічная» тэрміналогія... І якія гэта ўсё-такі куляшоўскія радкі! Радкі паэта, які з руху і пераходаў самой аб'ектыўнай рэчаіснасці, як яе разумее сучасны чалавек, умее здабываць нешта вельмі ўстойлівае і трывалае ў маральным сэнсе, у сэнсе



сваёй «першапачатковасці», і вельмі «беларускае», «бесяднае» па самой сваёй сутнасці. Гэта радкі паэта, які добра ведае: толькі лянотныя эпігоны прытрымліваюцца стандартызаваных формул «задушэўнасці» і «лірызму», баючыся ад іх адступіцца хаця б на крок, каб, крый божа, не збіцца на «прозу» альбо — яшчэ горш — не «здрадзіць» традыцыям.

У Куляшова гук зязюльчынага кукавання «пушчу вымярае ў шырыню і ў даўжыню». Гук — і раптам **вымярае!** Самая традыцыйная па вобразах і матывах «інтуітыўная» лірыка, не гонячыся за навукай, спрабуе засвоіць характэрныя для сучаснай навукі «перапслоенасць» і збліжэнне розных поглядаў на прыроду, што дагэтуль жылі адасоблена і аўтаномна.

Ад імкнення ўсяляк пашырыць магчымасці верша і, скажам больш, магчымасці **паэтычнага** асэнсавання свету, паходзіць многае ў новай куляшоўскай нізцы. Яно і ў дэталях: «да болю блізкаму **шуму»** акіяна паэт знаходзіць яго «вагу» — «водазмяшчэннем у міліярды міліярдаў рэк». Яно і ў істотным: эйнштэйнаўскі «парадокс часу» ўваходзіць як **лірычны** матыў у твор пра каханне:

Праз дзесяць год ты з'явішся з-за хмары,
Закончыўшы касмічны свой палёт,
А на зямлі, па вылічэнню мары,
Гадоў міне не менш як восемсот.

Не, я не хачу сказаць, што ўсё аднолькава ўдалося Куляшову ў гэтым яго імкненні да сінтэзу «навуковага» (умоўна кажучы) і паэтычнага светаўспрымання. Дзе-нідзе сінтэз распадаецца, і празмерна надакучлівай і «разважлівай», нават штучнай робіцца сувязь паміж «ідэяй» і пачуццём. Напрыклад, у вершы пра каханне: «Існуем мы з табой як выключэнне, мая любоў — як свет і антысвет». Прыстасаваная да пачуцця саманавейшая гіпотэза незразумела ўскладніла гэтае пачуццё, пазбавіўшы яго яснага зместу.

Але я гавару пра агульную накіраванасць «акіянскага» цыклу Куляшова, і, думаецца, што гэта накіраванасць вельмі плённая, бо народжана яна жаданнем замацаваць у вершы, у самым спосабе глядзець на рэчы і з'явы дыялектычную зменлівасць свету, яго няспынны рух.

Пры гэтым варта заўсёды мець на ўвазе: Аркадзь Куляшоў — не з тых лёгкадумных і лёгкаверных людзей, што прынялі напавер — адны па наіўнасці, другія па сваёй палітычнай няспеласці — шкодную байку аб «надсацыяльнасці» дваццатага стагоддзя, чый характар нібыта вызначаюць не перадавыя камуністычныя ідэалы, іх барацьба з рэакцыйнымі сіламі, а сапраўды грандыёзныя здзяйсненні ў галіне атамнай фізікі, кібернетыкі, пакарэння космасу. Надзвычай чулы да гэтых здзяйсненняў, добра разумеючы іх каласальную ролю ў жыцці чалавецтва, Куляшоў не схільны падмяняць імі галоўны, **палітычны** змест эпохі — нястрымны парыў мільёнаў да лепшай будучыні «без хлусні і без золата» (як сказана ў адной з даваенных паэм Куляшова), без прыгнёту і войнаў, без зняважлівага падзелу народаў і нацый на «вышэйшыя» і «ніжэйшыя», без эксплуатацыі адных другімі.

Ідэйная загартаванасць Куляшова, узровень яго партыйнасці, як паэта, выхаванага на традыцыях ленінскага гуманізму, аказаліся дастаткова трывалыя, каб даць рашучы бой усялякім спробам сказіць і апошліць праўду гісторыі, а значыць, і яго, паэтаву, праўду.

Бой ідзе за **чалавека,** перш за ўсё. За яго розум і душу. І тут Куляшоў застаецца да канца верным асновам нашага дзейсна рэальнага гуманізму.

У новых вершах Куляшоў бескампрамісна, рэзка, хоць і не ў жанры публіцыстычным, а ў жанры лірычнага роздуму, выступае супраць прыніжэння чалавека. Гэтае прыніжэнне можа прыняць самыя розныя формы. Скажам, форму буржуазнага індывідуалізму з яго пропаведдзю «герметычна»-замкнутага, «асобнага» чалавечага існавання. Для Куляшова гэта вораг нумар адзін:

Мне кожны год, нібы жыццём другім,
Жыць у дваццаты век наш давялося...
Я — акіяну жытняга калоссе:

Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,
Яшчэ да дна не вычарпаным, лёсе.

Як бачым, паэт энергічна падкрэслівае і вылучае такую важную для свайго светапогляду істотную акалічнасць, як гранічная злітнасць кожнага «прыватнага» лёсу з лёсам чалавецтва. Такую злітнасць, якая дазваляе кожнаму асобнаму чалавеку ўспомніць «біяграфію» роду як сваю ўласную біяграфію, гісторыю чалавецтва — як гісторыю свайго жыцця. І нават больш — ранні досвітак чалавецтва ў акіянскай калысцы — як сваё дагістарычнае ранне:

Дзіця вады, паўзу я ў глыб лясоў,
Развітваюся з берагам пясчаным,
Каб чалавекам, з глыбіні вякоў,
Устаць і зноў сустрэцца з акіянам.

Гэта вельмі цікава, але і небяспечна: можна так захапіцца антрапалагічнымі агульнасцямі, што потым ніяк не ўзбярэшся на цвёрды бераг сацыяльна-канкрэтнага. Куляшову гэта небяспека не пагражае, бо ён — паэт **грамадскага** тэмпераменту перш за ўсё. Можна непрыкметна апынуцца ў галіне так званай «навуковай» паэзіі», якая не адкрывае свет, а толькі тлумачыць яго. З Куляшовым не здарылася і гэтага — ён вельмі хораша адчувае гукі, пах і колеры жывога жыцця, яго цеплыню, каб заняцца гульнёй у абстракцыі. Шырокі, неіндывідуалістычны погляд на чалавека, як на паўнамоцнага прадстаўніка «мільёнаў лёсаў», можа, нарэшце, пацягнуць і пагардлівую недаацэнку **гэтага,** канкрэтнага індывідуальнага лёсу, прывесці да баязлівай маладушнасці ў абыходжанні з вечнымі праблемамі жыцця, смерці, бяссмерця. Аднак і маладушнасць не ў характары Куляшова.

Радасна верачы ў чалавека, «што неба і зямлю ў сабе змяшчае і ў свет адзін злучае іх навек», падзяляючы аптымістычны погляд на будучыню, Куляшоў не адварочваецца — і не ўпадае ў роспач — ад думкі, што «век чалавечы, па-праўдзе, не вечны». Мужная яснасць Пушкіна, яго гарманічнае ўсведамленне пераемнасці пакаленняў, яго давер да «жыцця маладога» чутны і ў куляшоўскіх радках пра самога сябе, што аддае «свой час сяўбе гарачай і жніву», пра «час малацьбы», што стаіць каля дзвярэй, і пра бярозку, пасаджаную «ў будучага веку на парозе»:

Каля яе патомак малады,
Старым гасцінцам едучы здалёку,
Прыпыніцца, перачакае спёку,
З ракі матору прынясе вады.

Не ўспомніць ён тады ні пра дамоўку
Забытую маю, ні пра мяне,
Але ў цяньку згадаць не праміне
З удзячнасцю пра рукі і рыдлёўку,

Што гэта дрэва не вятрам на здзек
Тут пасадзілі, не для ўцехі ўласнай —
Пераняслі яго, для долі яснай,
Не з лесу ў поле — з веку ў новы век.

Тут ёсць і гаркота — размова ж ідзе пра з'явы зусім не вясёлыя. І мужнасць — паэзіі не след пакідаць у баку нават самыя трагічныя з'явы. І, галоўнае, ёсць у гэтых радках і ясная перакананасць, што паўната нашага зямнога існавання і зарука нашага бяссмерця — у нятленнасці нашых спраў, адданых будучыні, нашчадкам і зразуметых вельмі дэмакратычна, па-сялянску — як **праца,** галоўным чынам.

А як добра «зайграў» у кантэксце пушкінскага настрою, ратуючы яго ад «цытатнасці», гэты матор, якому прынясе вады «патомак малады», жыхар наступнага веку!..

Новая нізка Куляшова — не простая «сума ідэй». За ёю стаіць жывы чалавек з біяграфіяй і характарам, і гэты чалавек умее напружана, «эмацыянальна» мысліць, горача адстойваючы адны ідэі, рашуча адхіляючы другія.



Куляшову, выхаванцу і песняру сацыялістычнага свету, не па дарозе з тымі, хто зневажае чалавека, паралізуе яго творчыя парыванні філасофіяй безнадзейнасці і адчаю, бязглуздай выдумкай аб нібыта наканаванай чалавеку няўмольнай долі стаць жменькай попелу, радыёактыўным прахам і пылам.

Паэт ахвотна і многа піша пра пакарэнне космасу. «Касмічная» тэма ў Куляшова — не даніна модзе, не абавязковы эталон сучаснасці. Яна арганічна ўваходзіць у кола праблем, якія асабліва яго хвалююць, і ў межах гэтай тэмы паэт таксама «ваюе», таксама разгортвае сваё наступленне супраць буржуазнай філасофіі і маралі з яе поглядам на чалавека як на істоту бездапаможна слабую, «грэшную», асуджаную ў глухой адзіноце прайсці свой кароценькі шлях з небыцця ў небыццё, з цемры ў цемру...

Дарэчы, тэма космасу здаўна прыцягвала да сябе Куляшова. Яшчэ ў 1929 годзе, у вершы «Астраном», наіўна-рамантычным і слабым, пятнаццацігадовы юнак вітаў таварыша і паэта «далёкіх Цэнтаўраў і Львоў». У паэме «Хлопцы апошняй вайны» антываенная тэма набыла шырачэзны касмічны размах, і ўсе, хто пісалі пра гэтую паэму, успрынялі яе «касмізм» як чарговы выдатак куляшоўскай фантазіі. Між тым, гэта было вельмі сур'ёзна: мара аб пакарэнні неба ставілася ў прамую залежнасць ад сацыяльных парадкаў на зямлі. Куляшоў гаварыў пра неразумную, жахлівую «механіку» вайны:

Скарыстай на карысць і на радасць
Механіку гэту —
Усе сем'і галодныя хлебам азалаціш;
А паэт захацеў бы наведаць другую планету,
Свет не ў жарт адказаў бы паэту:
Ляці! Заляціш!

Звярніце ўвагу на трэці радок — ён характэрны, акрамя ўсяго іншага, для куляшоўскага стылю мыслення, вельмі змястоўнага, сціслага, такога, што насычае **ідэяй** кожную клетачку верша.

Паэт зыходзіць з агульнай думкі аб несправядлівасці буржуазнага ладу: меншасць купаецца ў раскошы і золаце, большасць галадае. А што калі карэнным чынам змяніць такі парадак? Тады «ўсе сем'і галодныя хлебам азалаціш». Здзіўляе сваёй глыбока апраўданай нечаканасцю гэтае пераасэнсаванне золата як адзнакі багацця прыстасавальна да самага простага — да хлеба надзённага...

Пасля вайны Куляшоў напісаў верш «Зямля», дзе людзі ўзлятаюць да зор, быццам ідуць у баявы паход, і Зямля з вышыні здаецца ім то «хлебам ружовым, што выпекла сонца», то «флягай з вадою», — успрыманне сейбіта і салдата.

У «Зямлі» ёсць радкі, звернутыя да тых, хто паляціць:

Толькі вам радасна будзе, вядома,
Знаць, што Зямля вам з маленства знаёма.
Знаць, што жывуць і кіруюць Зямлёю
Людзі адзінай працоўнай сям'ёю...
Знаць, што здабыткі, здабытыя імі,
Здалеку вам не здаюцца малымі...

Паэтычная публіцыстыка нават трохі і сухаватая. Але і тут не цяжка заўважыць адзін куляшоўскі «сакрэт», з тых, што надаюць яго думцы глыбіню, а слову — «бездань прастораў».

Мы гаворым: малыя здабыткі, вялікія здабыткі — гэта «нейтральная» вобразнасць самой мовы. З касмічных вышынь усё на Зямлі будзе выглядаць ледзь-ледзь прыкметным, малым — гэта таксама зразумела і проста. Куляшоў зрушвае паняцці, «перамешвае» іх прамыя і пераносныя значэнні, — і здабыткі нашай краіны не будуць выглядаць малымі нават адтуль, адкуль «не адрозніць праз тэлескопы... ані Азіі, ані Еўропы»...

Гэта — адзін з «радавых», не самых яркіх прыкладаў, як Куляшоў па-

бягае той агульнай «фармулёвачнасці» ў падыходзе да важных тэм, пры якой, гаворачы словамі аднаго з сучасных рускіх паэтаў, «мы стараліся раздзець верш, пусціць яго голенькім ў свет, пазбавіць верш таго, што падказана мовай». І — дададзім яшчэ — самой прыродай паэзіі, якая не выносіць коўзання па паверхні фактаў, пасіўнага іх пераказу, натуралістычных копій, а патрабуе душэўнага намагання, самастойнага асэнсавання з'яў, пафасу адкрыцця, немагчымых без таго, каб у працэс пазнання свету не ўвайшла асоба паэта са сваімі пачуццямі, думкамі, вопытам, перажываннямі...

Дык вось на працягу ўсёй сваёй творчасці Куляшоў адчуваў унутраную патрэбу пісаць пра пакарэнне космасу, пра палёт чалавека да зор. «Касмічнае» ў новых вершах Куляшова — гэта і дзёрзкая рамантычная мара, якая збываецца ў нашы дні, калі савецкія людзі, грамадзяне Савецкага Саюза, першыя разнасцежылі дзверы ў Сусвет.

«Касмічнае» — і плацдарм, з якога Куляшоў атакуе пазіцыі рэакцыйнага песімізму, філасофіі нявер'я і заняпаду:

Мы паляцім, натхнёныя жыццём,
На пошукі нябеснага свяціла.

Яго святлом растопім вечны лёд
І разняволім рэкі на планеце,
Зямлю засеем, сцвердзіўшы ў сусвеце
Зноў розум свой на міліярды год.

«Касмічнае» ў сённяшняга Куляшова — гэта і натуральны повад сказаць аб галоўным: аб гістарычным вопыце сваёй краіны, свайго народа, які пракладвае шырокую трасу для ўсяго чалавецтва, а магчыма — фантазія паэта не знае межаў! — і для жыхароў далёкіх планет:

Сівых вякоў пазбыўшы час ліхі,
Пячор уласных не забыўшы мову,
Скароцім мы на добрую палову
Пакуты, што рыхтуюць ім шляхі, —

дапаможа пабудаваць жыццё

...без войнаў, рабства і багоў...

Гэтыя радкі, якія абагульняюць гістарычны вопыт будаўніцтва новага свету, маюць самае простае дачыненне і да ўсяго напісанага Куляшовым. Яны вяртаюць нас да яго ранейшых кніг, дзе ва ўсёй складанасці і драматызме, ва ўсім радасным і цяжкім напружанні сіл жыве і дыхае праўда барацьбы за жыццё «без войнаў, рабства і багоў».

...Канец дваццатых — пачатак трыццатых гадоў. Куляшоў — сын пакалення, якое ўваходзіла ў свет, адваяваны і шырока расчынены байцамі Кастрычніка. Прыгажэйшай за самую ўзнёслую рамантыку мінулых вякоў была для гэтых юнакоў і дзяўчат рамантыка Перакопа і Кранштата. Пазней Куляшоў скажа пра грамадзянскую вайну: «Мы былі яе рэхам, яе адгалоскам, мы пад сведкамі бітваў лясных, пад дубамі, ішлі...»

Паданнем і песняй грамадзянскай вайны народжаны многія творы Куляшова. У прыватнасці, «Табуны», нешта накшталт гераічнай балады, цікавай між іншым і тым, што ў грозную рэвалюцыйную драму тут уключана і ўлюбёная Куляшовым зязюля — голас Беларусі, голас маленства.

«Гаспадар»-кулак вядзе атрад белапольскіх карнікаў да балотаў, «дзе мірна спалі на старых імхах між купін партызаны». Як папярэдзіць іх?.. І далей радкі пра маладую батрачку — партызанку грамадзянскай вайны:

Яна пракукавала тры разы...
І ўчула злосны шэпт гаспадара:
— Зязюлі ў нас кукуюць да Пятра,
А ўжо жніво, сястрыца!..
У бары
Ты ўбачыў, як з драўлянай кабуры
Выцягваў маўзер афіцэр:



— Пся крэў!..
І падала на мяккі мох між дрэў
Твая сястра... —

адна з незлічоных ахвяр рэвалюцыйнай вайны за жыццё «без войнаў, рабства і багоў»...

...Гады калектывізацыі. Падзеі, у якіх ужо прымала непасрэдны ўдзел пакаленне Куляшова. Паэт пакінуў вельмі дакладныя сведчанні гэтых падзей — вершы, якія стаяць амаль што на самай мяжы з нарысам і дакументам, дзённікавыя запісы, замалёўкі, партрэты жывых людзей. Многа іх, гэтых людзей, непадобных і розных, і ўсе разам, у агульнай сваёй сукупнасці, яны і ствараюць карціну беларускай вёскі на крутым пераходзе з «пячор уласных», ад хутарской раз'яднанасці да небывалых у гісторыі калектыўных форм жыцця.

Трактарыст Аніс, што з-за саду вывеў машыну, «страсянуўшы былы маёнтак-дачу», і чый голас, «як басовы звон... ад радасці, ад вады, ад ёмкага ветру...» — прывабны ў сваёй душэўнай шчырасці, бязмежна адданы новаму энтузіяст калгаснай справы... «Таварыш Алесь», цікаўны і ціхі юнак-летуценнік («яго цікавіць усё, нат зорка Марс»), які называе «апартуністам» рыбіну, што не бярэцца на вуду... Сяменька, «першабытны чалавек», што жыў у гаі, сярод асакі і гнілушак (востра-парадаксальная форма індывідуалізму — дзікунская «незалежнасць»), а цяпер ідзе ў саўгас, «бо ваш калгас яшчэ малады»... Цётка Вольга, тая самая, што, угледзеўшы трактар у полі, «крычала на ўсе вуліцы, захліпаючыся ад бегатні да слёз: — А мае ж вы татулечкі, схапіў маю палоску і панёс».

Першы трактар у беларускім сяле «ладзіць» у Куляшова не абы-які, а **«рэвалюцыйны** паход», ён — таксама нястомны агітатар і баец за новы, справядлівы лад жыцця.

...Сярэдзіна-канец трыццатых гадоў. Грамадская навізна жыцця выступае ў куляшоўскіх творах як навізна душэўна абжытая і асвоеная, як пэўная норма — псіхалагічная і бытавая, і гэта норма паспела ўжо выхаваць на сваіх уласных традыцыях цэлае пакаленне новых людзей.

Куляшоў услаўляе «паэтычную рэчаіснасць» сацыялізма, якая ўключае ў сябе вельмі многае і самае рознае: «прозу» матэрыяльнага дабрабыту і паэзію раскаваных, вызваленых з-пад улады ўласніцтва чалавечых эмоцый; свабодную працу на вольнай зямлі і ўпершыню задаволенае пачуццё высокай годнасці чалавека; ідэйнае пабрацімства, як закон жыцця, і нават даўнюю-даўнюю песню, старажытны абрад, у якім, — калі добра прыслухацца — таксама мара аб чалавечай еднасці, дружбе і вольнай працы.

Паэт узнаўляе тое, пра што нядаўна пісаў па гарачых, як кажуць, слядах, і першы трактар робіцца ўжо дэталлю не нарыснага, а глыбока лірычнага верша — рыса, якая паходзіць ад цэласнасці і паўнаты светаадчування, ад унутранай яго свабоды:

Я за трактарам калісьці бег,
Кінуўшы ў агонь вярцёл і сала;
Ты да ціхіх саламяных стрэх
З гулам пад'язджала...

Я цябе, жаданую, чакаў,
Сустракаў без крыўды, без трывогі,
Жоўценькім пясочкам пасыпаў
У прысадах летнія дарогі.

Паэт не скупіцца на светлыя фарбы, нават на ідылічныя сцэны — яго пяром водзяць дабрата новага чалавека і яснае веданне, што практычна-штодзённы побыт мільёнаў простых людзей ідзе ў непарушнай згодзе з ідэяй калгаснага ладу, не скажонай нічым ёй чужым і неўласцівым. І гэта ідэальнасць без фальшу, гэта шчырасць аўтарскага намеру пранізвае наскрозь чыстую да празрыстасці, сонечную паэму «У зялёнай дуброве» (1938), дзе, «як люднага свята, чакаюць уборкі», «дзяўчаты... у белых сарочках на працу адзеты», а герояў завуць Хрысцінанька, Васілёчак — ласкава, мякка, улюбёна...

...Сярод многіх вершаў, што ўвайшлі ў куляшоўскую нізку «Юнацкі свет» (1938—1940), быў і верш пра старога калгасніка, які едзе ў госці да сына, параненага на граніцы. А заканчвалася нізка вершам, поўным трагічных прадчуванняў:

Выходжу я ў разведку —
Рашучы заўтра бой.
Ты, ранак,
Будзь за сведку,
Услед ідзі за мной...

Куляшоў заўсёды помніў аб пагрозе вайны. Адчуванне гэтай пагрозы, нязменнае пачуццё трывогі — неад'емная частка вопыту будаўніцтва новага свету, і асабліва ў нас, у Беларусі, на самай мяжы з буржуазным Захадам.

«Мы жывём на граніцы» — адзін з даваенных зборнікаў Куляшова. «Каля самай граніцы» — незакончаная яго паэма 1938 года. У ёй паэт малюе злавесную фігуру «раённага самазванца», што «вязе для жывёлы калгаснай у чорным партфелі чуму». Паэт перадае ў сваіх творах сапраўдны, не крануты «культавай» падазронасцю драматызм класавай барацьбы супраць агентаў замежных разведак, супраць тых, хто выношваў планы павярнуць гісторыю да жыцця з багамі, войнамі, рабствам...

У саракавым годзе, менш чым за год перад тым, як выбухнула вайна, Куляшоў зрабіў вельмі смелую спробу зазірнуць у твар апошняга бою, «ад якога лёс зямлі залежа». І нават больш — спробу разгледзець тое, што будзе пазней, пасля перамогі над ворагам (паэма «Хлопцы апошняй вайны»).

Тое-сёе ў куляшоўскай паэме не «супадала» з перажытай намі вайной: тут самалёты называюцца яшчэ аэрапланамі, людзі гінуць у іпрытавых туманах, а герой паэмы, юнак-камсамолец, доўга, можа, занадта доўга, стараецца «абразуміць» ашуканага чужога салдата. Але паэма «супала» ў галоўным: у самой прыродзе ўвасобленага Куляшовым гуманістычнага ідэалу, дзе непрымірымая, не на жыццё, а на смерць, бязлітасная нянавісць да захопніка ідзе побач з сардэчным клопатам аб заўтрашнім дні чалавецтва, аб дзецях усёй планеты, нават аб дзецях таго «неразумнага салдата», якому паэт гаворыць:

Сэрцы нашы суровай любоўю адзначаны,
Мы ўзнялі яе чыстай з бруду, з крыві
І нясем праз вайну, і не можам іначай мы,
І застрэлім цябе... у імя любві.

Паэма Куляшова вельмі ярка раскрывала паслядоўны ленінскі інтэрнацыяналізм савецкага чалавека, у якім арганічна спалучаюцца бязмежная адданасць бацькоўскай зямлі са шчырай сімпатыяй да працоўных людзей усіх кантынентаў, народаў і рас. Герой паэмы ўспамінае свае піянерскія гады, гусіны вырай, што звязаў «родныя гнёзды — Дняпро і Ніл», і самога сябе, рамантычнага хлопца, які з птушкамі перадаваў «блізкую песню і неграм, і індусам, і нават далёкім, далёкім бурам».

Гэты куляшоўскі інтэрнацыяналізм хваляваў сваёй глыбінёй і праўдай яшчэ і таму, што карэнні яго — у **народнай** глебе: тэма выраю — тэма традыцыйная ў беларускім фальклоры, а «далёкія буры» — рэмінісцэнцыя са старой песні пра Трансваль, якую распявалі і ў беларускіх вёсках. Уласціва чалавеку працы сяброўскае спачуванне ўсім пакрыўджаным і прыгнечаным узнята савецкім паэтам да ўзроўню свядомай прапаведзі класавай салідарнасці, да гатоўнасці ісці ваяваць, нават загінуць, «каб нівы ў Грэнадзе сялянам аддаць».

Апасродкавана, няпроста, але зусім адчувальна інтэрнацыяналізм Куляшова звязаны і з своеасаблівасцю яго паэтычнага мыслення — з яго маштабамі, змястоўным наватарствам і выключнай чуласцю да ўсяго, што ўзбагачае, рухае наперад спецыфічна нацыянальнае ў беларускай паэзіі, злучае гэта нацыянальнае з агульнымі для ўсіх савецкіх народаў рэвалюцыйнымі традыцыямі, мараллю і псіхалогіяй.

Куляшоўскае непрынянцце ўсяго абмежаванага, **коснага, яго здатнасць** узняцца над «адзінкавым» і «асобным», даць цэласна-звязную карціну жыцця, яго ўмельства раскрыць складаную ўзаемазалежнасць свету і чалавека самымі рознымі сродкамі — ад верша сюжэтна-апавядальнага («Юнацкі свет») да верша мэтафарычна-шматпланавага, рэзка-асацыятыўнага («Хлопцы апошняй вайны»), — усё гэта, безумоўна, ішло не ад вузкіх пошукаў у галіне «паэтыкі» і «майстэрства», а хутчэй ад плённых імкненняў пашырыць ідэйныя далягляды нашай паэзіі, інтэлектуальна ўзбуйніць вобраз яе героя — савецкага чалавека, сына **свайго** народа, пралетарскага інтэрнацыяналіста.

Майстэрства Куляшова, як і майстэрства кожнага выдатнага мастака, — не проста «вывучка» і не тэхнічны навык (хоць і яны стаяць на высокім, «куляшоўскім» узроўні), а перш-наперш незаменны сродак пазнання жыцця паэтам, яго **практычная** ідэйнасць, скажам так...

...Гады Вялікай Айчыннай вайны — гады суровых выпрабаванняў савецкай краіны. Пад пагрозай татальнага вынішчэння аказалася «ўсё, што жыло, што расло, што сеялі», усё здабытае, пабудаванае і дагледжанае за перыяд савецкай улады, свабода і незалежнасць народаў, нават самае іх існаванне як нацый.

Вайна з яе трагізмам і мужнасцю надала паэзіі Куляшова такі рэзананс, якога яна не ведала раней. Імя армейскага палітработніка, франтавога паэта Аркадзя Куляшова, аўтара «Сцяга брыгады», «Прыгод цымбал», «Балады аб чатырох заложніках», «Ліста з палону», «Камсамольскага білета», становіцца адным з найбольш папулярных у народзе, у арміі паэтычных імёнаў.

Цяжкім, пякучым болем адгукнуліся ў мільёнах сэрцаў падслуханыя Куляшовым страшныя словы маладой паланянкі: «Па рэйках вязуць мяне колы ў Нямеччыну, нібы ў Турэччыну...», «Я рабыня, рабыня, я чорная, чорная, чорная...» І грозная цішыня над магіламі беларускіх хлопцаў, што «чэсна галовы зложылі» пад рускаю вёскай Лажыны. І соннае мармытанне трохгадовага заложніка, што ў астрозе, за ноч да расстрэлу, сніць і сцяжынку ў жыце, і сонца ў нябёсах, і татку, які не прыйдзе, не можа прыйсці выратаваць сына, бо «на гэта ён не мае бацькоўскага права»...

Па-новаму востра адчуў Куляшоў у гады вайны сваю непарыўную сувязь з народам, зразуметым ужо як гістарычная, як нацыянальная ўсеагульнасць, па-новаму ўспрыняў сваю кроўную блізкасць да яго традыцый, мовы, песень, мастацтва — да ўсіх праяў прыгожай і велічнай у радасці і ў горы народнай душы.

Аднак і ў ваенныя гады патрыятызм Куляшова не страціў сваёй сацыяльнай акрэсленасці, і вышэйшым яго ўвасабленнем па-ранейшаму застаецца прыхільнасць народа да савецкіх, сацыялістычных форм жыцця.

У «Сцягу брыгады», лепшым куляшоўскім творы часоў ваеннага ліхалецця, дзяўчаты пяюць на вяселлі сваёй сяброўкі, вымушанай па загаду ісці за нямецкага паслугача, «нібы ўсе яны тут на вяселлі свайго брыгадзіра», быццам заўтра ім зноў, як калісьці, «жаць прастор залаты — жыта колеру сонца».

У паэме «Сцяг брыгады», названай А. Твардоўскім паэмай **народнай** па «гістарычнай значнасці зместу ў спалучэнні з багаццем самастойных і арганічна нацыянальных сродкаў формы», Куляшову ўдалося раскрыць самае галоўнае ў савецкім характары — яго высокую камуністычную ідэйнасць, што ўвабрала ў сябе бязмежную адданасць бацькоўскай зямлі, вернасць ленінскай праўдзе, — ідэйнасць, якая стала натурай, эмоцыяй, законам і нормай усіх чалавечых паводзін. І менавіта гэтай глыбокай душэўнай «засвоенасцю» камуністычнага светапогляду, яго чалавечым зместам і хвалююць нас перш за ўсё героі куляшоўскай паэмы: Алесь Рыбка, мірны, добры і просты чалавек, якога вайна зрабіла бязлітасным мсціўцам за пакуты народа; камісар Зарудны, носьбіт непераможнай волі камуністычнай партыі; эпізадычныя ў сюжэтнай дзеі твора, але надзвычай важныя для яго агульнай задумы фігуры сялян, байцоў, партызан — **народ,** які ўзняўся на самаахвярную барацьбу супраць фашызму.

Звычайна мы гаворым — і гэта, вядома, правільна, — што і ў самыя

цяжкія часы ваенных няўдач наша паэзія выказвала веру народа ў непазбежнасць сваёй перамогі над гітлерызмам. Напісаная ў 1942 годзе, паэма Куляшова належыць да лепшых твораў савецкай паэзіі па вынашанасці гэтай веры, па той натуральнасці, з якой гэту веру «нясе» ўсебакова-праўдзівая карціна жыцця на часова занятай фашыстамі беларускай зямлі.

...Гісторыя «дапоўніла» наша ўспрыманне гэтай народжанай у самы суровы час ярка-патрыятычнай куляшоўскай паэмы, і ў нас ужо няма сумненняў, што выратаваны Алесем Рыбкам сцяг брыгады быў данесены да Берліна — «чужацкай сталіцы», да задымленых сцен рэйхстага, да майскага дня Перамогі.

Урачыстасцю і храраством усенароднага подзвігу, ясным усведамленнем яго сусветна-гістарычнага значэння для лёсу зямлі, для чалавечай цывілізацыі і культуры адухоўлена ўсё напісанае Куляшовым пасля вайны.

Пачалося з малога, з элементарна-простага: першы цёплы дымок над адбудаваным домам, колас, што зноў «свае ганяе сокі», зязюлі, што «ў маўклівым лесе зноў закукавалі», як некалі ў часы маленства, у лясочку над Бесяддзю.

А потым была напісана паэма «Новае рэчышча» — аб тым, як неперадольна, магутна выпроствaецца жыццё, выпрабаванае «на трываласць» агнём і жалезам. Аб тым, як набірае вышыню народжаны партыяй і савецкай уладай, загартаваны ў ваенным горане народны «парыў да святла», аб якім яшчэ ў першыя гады рэвалюцыі гаварыў Ленін.

У «Новым рэчышчы», творы, не з самых лепшых у Куляшова па ўзроўню грамадскай **праўды,** выявіліся тым не менш даволі ярка некаторыя асаблівасці куляшоўскага стылю: метафарычнасць (тое, што С. Я. Маршак назваў у адной прыватнай гутарцы куляшоўскай «кучаравасцю») — метафарычнасць, якая на новай і вышэйшай аснове ўзнаўляе знаёмую па фальклору роднасць чалавека з прыродай, але аплодненую індывідуальным лірызмам, драматычным напружаннем.

Уласна кажучы, гэта ўжо і раней было ў Куляшова. Скажам, у «Сцягу брыгады», дзе Алесь Рыбка просіць лясны ручаёк: «Вядзі па вадзе нас далёка», за лінію фронта, да сваіх! Незвычайным і новым было **далейшае** ва «ўзаемаадносінах» Алеся і «бясклапотнага ручая: ручай не хоча, каб у яго вадзе адлюстроўваўся барадаты, у лахманах, Рыбка-«акружэнец», ён не пазнае свайго сябра, і Алесю прыходзіцца даказваць, што ён — гэта ён і што ім па-ранейшаму трэба разумець адзін другога... Традыцыйны матыў беларускай паэзіі пераасэнсаваны адпаведна драматычнаму зместу сітуацыі. І значна ўскладнёны перажываннямі **гэтага,** канкрэтнага чалавека, Алеся Рыбкі, — яшчэ адзін прыклад таго, як Куляшоў умее **аналізаваць** рэчаіснасць, пераўтвараць «натуру» з дапамогаю «звычайных цудаў» паэзіі.

У «Новым рэчышчы» прыродай апасродкаваны і каханне героя, маладога практыканта, будаўніка сельскай электрастанцыі («Бывайце, арэшыны, — ліст ім дзяўчына пісала»), і нават самыя вялікія абагульненні, як, напрыклад, у эпізодзе «ляснога» райкома — аб камуністах, арганізатарах партызанскага руху:

Пушча ўправа і ўлева —
        іх месца, іх дом,
А пад сховамі дрэва
        працуе райком.
Пень шырокі — іх стол,
        рэха — іх тэлефон.
Немаленькі вакол
        ім належыць раён.
І, здаецца, не дзятлы,
        а ўжо друкары
Друкавалі іх заклік
        на лепшай кары.

Рэчы і з'явы не проста параўноўваюцца па элементарнаму спосабу: дзятлы, як друкары, рэха, як тэлефон, — два паралельныя рады параўнанняў перапляліся, «звараныя» — і так, што шва не відно! — «аўтагенам» праўдзівага вымыслу. А як цудоўна гучыць гэта «**лепшая** кара» (па аналогіі



з лепшай паперай), — куляшоўская думка працуе мэтаімкнёна, настойліва, інтэнсіўна, адхіляючы «ўчэпленую» лірызмам плоскую аднолінейнасць у імя аб'ёмаў і колераў, у імя праўды і глыбіні...

Важнай для Куляшова з'явілася паэма «Толькі ўперад» — паэма ўспамінаў і падрахункаў, упартай, праз шматлікія выпрабаванні і страты, радаснай скіраванасці ў будучыню, жывой пераемнасці пакаленняў, іх непарушнай ідэйнай, духоўнай еднасці.

У пасляваенныя гады Куляшоў паказаў сябе як паэт агромністай **палітычнай** тэмы, нярэдка ўзятай самым непасрэдным чынам, «аголена», проста. Так былі напісаны «Камуністы», — узор публіцыстычнай лірыкі, паднятай на грэбні вельмі моцнага асабістага пачуцця, гімн вялікай партыі камуністаў, «ахутаны» веліччу і арэолам старой рэвалюцыйнай песні:

Мы не верым ані ў бога, ні ў малітвы,
І няма для нас другіх свяцейшых слоў,
Апроч лозунгаў і заклікаў да бітвы,
Апроч песень, ад якіх бунтуе кроў...

Незабыўных не забудзем мы ахвяраў,
Да канца за нашу справу пастаім,
Сцяг чырвоны векапомных камунараў
Нашай змене для палёту аддадзім.

Альбо «Слова да Аб'яднаных Нацый» — твор, напісаны ў 1946 годзе, калі яшчэ, здаецца, не сціхла рэха страшнага хірасімскага выбуху і над чалавецтвам пачала згушчацца пагроза атамнай катастрофы. Твор, за кожным радком якога адчуваецца дзяржаўная веліч радзімы паэта, яго Беларусі, што ў бойках апошняй вайны здабыла сабе права вось **так** — цвёрда і непахісна — адстойваць інтарэсы міру:

Баяцца я не баюся,
Няхай падпальшчыкі знаюць,
Нябёсам маёй Беларусі
Дарэмна яны пагражаюць.

Нябёсаў блакітная просінь
Смяецца з варожых пагрозаў,
Не меней, чым птушак увосень,
Было над ёй бамбавозаў...

Гэта словы паэта і чалавека, гордага сваёй прыналежнасцю да неперможнага народа, што ў семнаццатым расшчапіў «атам старога свету», а ў сорак пятым, цаной вялікай крыві і ахвяр, прыкрыў ненажэрныя пашчы асвенцімаў.

«Грозная пушча» — новы «віток» куляшоўскага асэнсавання (рэалізаванага, дарэчы, у даволі непрывычных для паэта формах «чыстага» эпасу) усяго перажытага яго пакаленнем: калгаснае будаўніцтва ў беларускіх вёсках, класавая барацьба з дыверсантамі і кулакамі, трагедыя раз'яднанасці беларускага народа, успрынятая з пазіцый сённяшняга дня, калі расце і квітнее адзіная Беларуская сацыялістычная дзяржава.

Аднаўленне ленінскіх норм жыцця, выкліканае дваццатым з'ездам партыі, прынцыповай крытыкай і выкрыццём культу асобы, нарадзіла ў паэзіі Куляшова новы ўздым рэвалюцыйнай рамантыкі, узмацніла, а лепш сказаць узнавіла, яго цікавасць да слаўных традыцый ленінскага рэвалюцыйнага дэмакратызму, акрыленага бязмежнай верай у светлы розум і творчыя сілы мас.

Народжаны ў век наш гразовы,
На мітынгах людных яго
Я сам выбіраў ганаровы
Прэзідыум сэрца свайго...

Нікім не заменен, не зменен,
Навек занядбаўшы пакой,
Нязменна ўзначальвае Ленін
Нязменны прэзідыум мой...

Вось мы яшчэ раз (праўда, з непазбежнай у такіх выпадках вымушанай бегласцю) перагарнулі старонкі куляшоўскай паэзіі, азораныя зарніцамі-ўспамінамі грамадзянскай вайны, піянерскімі вогнішчамі на беразе мілай рачулкі, кастрамі на першых калгасных станах, гарматнымі ўспышкамі вайны Айчыннай і зноў жа агнямі мірнага будаўніцтва — святлом, «што з будучыні свеціць», святлом камунізма.

Цяпер, спадзяюся, па-новаму важка, хвалююча і глыбока прагучаць для нас народжаныя на акіянскіх прасторах, у напружаным роздуме пра лёс зямлі куляшоўскія радкі аб нашым гістарычным вопыце, што «на палову» скароціць пакуты ўсяму чалавецтву, натхніць яго на жыццё «без войнаў, рабства і багоў».

Перачытаўшы паэзію Куляшова — праўдзівы летапіс выпрабаванняў і перамог народа, яркае ўвасабленне шляху, пройдзенага беларускай сацыялістычнай нацыяй, душэўна адкрытую споведзь радавога вялікай і бурнай эпохі, — мы лепш зразумеем і многае іншае ў новых вершах паэта.

У прыватнасці, вось гэтыя радкі, звернутыя да зямлі:

Хай сэрца стане, сонца ў хмарах згіне,
А ты, Зямля, няспынным крокам кроч,
Не дай на той мне ўпасці палавіне,
Дзе дня не будзе, будзе толькі ноч.

І радкі, адзначаныя пафасам сапраўднай партыйнасці, рэвалюцыйнага абавязку, нястомнага служэння перадавым ідэалам часу:

Ні перад злом, ні перад крывадушшам
Сцяг белы я ніколі не ўзніму...

Няхай злуюцца хвалі. Воклік смелы
Я пасылаю сам насустрач ім —
Свайго жыцця чырвоны сцяг! А белы —
Я пакідаю ворагам маім.

І галоўнае, радкі, дзе, нібыта ў фокусе, сышліся ўсе клопаты і трывогі, усе мары і спадзяванні паэта, што ўбачыў сучасны свет у «цэнтральным» змесце яго, у асноўнай сутнасці, якую складае барацьба святла з цемрай; сапраўднай гуманнасці, увасобленай у камунізме, з чалавечым заняпадам, дэградацыяй, крызісам; міру, брацтва і ўзаемаразумення народаў з узгадаванай старым грамадствам жудаснай пагрозай новай знішчальнай вайны.

Вось яны, гэтыя радкі, якія фактычна і вянчаюць унутрана вельмі складаную, драматычную нізку Куляшова, натхнёную «акіянам» самых надзённых, хвалюючых, жыццёва-важных праблем нашага неспакойнага веку:

Мне ў рукі лёс не шпагу даў, не лук,
А ўсю Зямлю, з арэнай — Млечным шляхам.
Качу яе, падобную на мяч,
Ахопленую вадародным жахам,
Як хворую, загортваю ў кумач... —

у непераможны кумач рэвалюцыйнага сцягу, сцягу будучыні, сцягу надзеі...

За гэтымі радкамі, да незвычайнасці смелымі па сваёй гіпербалічнай вобразнасці (чалавек загортвае ў сцяг хворую Зямлю!), вырастае ўвесь Аркадзь Куляшоў, адзін з песняроў новага свету, сведка і ўдзельнік вялікіх гістарычных падзей «эпохі бур», просты юнак, што вырас на тройчы бласлаўленай «магілёўскай» рачулцы з ціха-гаманлівай і цёплай, быццам дыханне блізкага чалавека, назвай — Бесядзь.



# ПЛЮС ХІМІЗАЦЫЯ

Фотарэпартаж П. БЕЛАВУСА і П. РУСЕЦКАГА



**Год таму назад на заснежаную паляну ля Гомеля прыйшлі будаўнікі. Калючы вецер шпурляў у твар снегам, заносіў пракладзеныя сярод гурбаў сцежкі.**

**Пачыналася новабудоўля. Будаўнічая пляцоўка раскінулася больш як на сто гектараў.**

**Ужо вырас чатырохпавярховы інжынерны корпус, збудавана сталовая. Будуецца лабараторны корпус, рамонтна-механічны цэх, сэрцавіна завода — цэх сернай кіслаты.**

**Гомельскі суперфасфатны завод...**

**Сярод тых, хто праклаў тут першы след, — камсамолец Іван Ціханаў і яго сябры — Алена Каваленка, Надзея Свірыдава, Уладзімір Фарпостаў, Галіна Дзюндзікава, Іван Кавалёў, Іван Рабкоў і іншыя. Усе яны — нядаўнія школьнікі.**

**Маладыя будаўнікі асабліва пастараліся ў незабыўныя снежаньскія дні, калі ў Маскве праходзіў Пленум ЦК КПСС. Здарылася неяк затрымка з экскаватарам, і члены брыгады, не зважаючы на халадэчу, з рыдлёўкамі, ламамі і кіркамі выкінулі каля 500 кубаметраў грунту з катлавана.**

**У працы, у кіпучых буднях гартуецца іх сталасць. Учора яшчэ вясковы хлопец Іван Кавалёў быў падсобнікам, а сёння ён ужо добры муляр. І жыве марай завочна закончыць інстытут, працаваць на заводзе, які будуе сваімі рукамі.**





**Побач, на адным з участкаў будаўніцтва цэха сернай кіслаты, працуе яшчэ адна камсамольская брыгада, якую ўзначальвае камсамолец Міхаіл Лубачкін. Гэта самы вялікі калектыў на будоўлі: трыццаць пяць юнакоў і дзяўчат. І ўсе дружныя, вясёлыя, працавітыя.**

**Міхаіл Лубачкін — хлопец з Гомельшчыны — атрымаў першую працоўную загартоўку на Бухтармінскай ДРЭС, на будаўніцтве Сярэдне-Сібірскай чыгуначнай магістралі. Не дзіўна, што на новай ударнай будоўлі яго называюць ветэранам.**

**Моладзь брыгады Міхаіла Лубачкіна з дня ў дзень набірае тэмпы, настойліва змагаецца за высокае званне калектыву камуністычнай працы.**

**— На будоўлі не адстаем. — гаворыць Міхаіл Лубачкін,— не адстанем і ў вучобе!..**



**А пакуль што ў вучобе вылучаецца брыгада Івана Ціханава, дзе і сам брыгадзір паказвае прыклад. І яго сябры Пятро Берднікаў ды Уладзімір Белавусаў, змяніўшы спяцоўку на касцюм, спяшаюцца ў аўтадарожны тэхнікум, на заняткі. І ніхто ніколі не чуў ад іх, што працаваць і вучыцца цяжка. Хлопцы рыхтуюць курсавы праект.**

**Кароткія, але яркія біяграфіі ў маладых будаўнікоў. Цікавае ў іх жыццё. Многія, як той жа Міхаіл Лубачкін, як Алег Кабаеў, як Аня Парманава, сталі рабочымі людзьмі ў загартаваных будаўнічых калектывах.**

**— Мы амаль у адзін дзень вярнуліся на Радзіму з Сібіры, — расказвае Міхаіл пра свайго памочніка Алега і пазірае на шаравокую дзяўчыну Аню. — І яе вось з сабой прыхапілі...**

**Аня на будоўлі стала бетоншчыцай. Сваім бацькам піша на далёкі Урал, што палюбіла новае месца і тых, з кім працуе.**

**...Будаўнікі суперфасфатнага завода ў наступленні. Прыйдзе час, і ў розныя канцы краіны пашыбуюць цягнікі з гомельскім суперфасфатам.**



# КАЛЮЧЫ ПРАМЕНЬ

Ён нарадзіўся адначасова ў некалькіх гарадах — у Маскве, Ленінградзе, Кіеве. Па нашай рэспубліцы свой шлях ён распачаў з мінскага аўтамабільнага завода. Зусім малады яшчэ «Камсамольскі пражэктар», — яму пайшоў толькі другі год, — адразу стаў папулярны. Адны любяць і паважаюць яго, другія, асабліва бракаробы, хабарнікі, халтуршчыкі, цярпець не могуць і хаваюцца ад яго ва ўсе шчыліны. Праўда, схавацца нялёгка — на тое ён і Пражэктар. Камсамольскі. Скарочана яго завуць: «Наш КП».

Пяцьдзесят тысяч юнакоў і дзяўчат рэспублікі — гэта яго праменні, яркія, калючыя і пякучыя. Чатыры тысячы штабаў камсамольскага пражэктара — тыя месцы, адкуль гэтыя праменні разыходзяцца, адкуль яны свецяць ва ўсе куткі.

**НЕЗВЫЧАЙНАЯ ВЫСТАЎКА...** Усе, каго ў той дзень запрасілі прыняць удзел у пашыраным пасяджэнні бюро ЦК ЛКСМБ, здзіўлена спыняліся ў вестыбюлі. І было чаго: уздоўж сцен стаялі манекены, апранутыя ў паліто і пінжакі з рукавамі рознай даўжыні, з кішэнямі, што прышыты — адна вышэй, другая — ніжэй, з крывымі лацканамі. Побач красаваліся не менш «прывабныя» рэчы — пудовыя дзіцячыя цацкі, мэбля, нібыта зробленая па густу Сабакевіча, абутак, пашыты па мадэлях часоў цара Гароха. Здавалася, што ўсе гэтыя экспанаты зроблены знарок, для смеху. На самай жа справе — гэта прадукцыя, якую яшчэ нярэдка выпускаюць нашы фабрыкі і прадпрыемствы мясцовай прамысловасці. Яе прынеслі сюды, каб паказаць камсамольскім работнікам лёгкай і мясцовай прамысловасці, якія былі запрошаны на бюро ЦК. Выстаўку гэтую наладзіў рэспубліканскі штаб «Камсамольскага пражэктара».

Цікава праходзіла пасяджэнне бюро. Пасля даклада сакратара ЦК ЛКСМБ Леаніда Крукава не было звычайных выступленняў. У зале выключылі святло, і на экране з'явіліся кінакадры, знятыя на тых прадпрыемствах, гандлёвых базах і ў магазінах, дзе так абыякава адносяцца да якасці прадукцыі.

Рабіць вывады з усяго ўбачанага прысутным было на гэты раз лёгка. Так беларускія пражэктарысты здалі свой першы экзамен на сталасць, вызначылі галоўны напрамак у рабоце.

**І Ў ГРОДНА, І Ў МАГІЛЁВЕ...** АТЗ — гэта Гродзенскі азотна-тукавы завод, усесаюзная ўдарная камсамольская будоўля. Першая чарга завода ўступіла ў строй, і ён ужо выпускае прадукцыю — тую самую салетру, што так неабходна для калгасных і саўгасных палёў.

Не абышлося і тут без дапамогі «Камсамольскага пражэктара». Вось кароткая хроніка падзей.

... Звяно Іосіфа Майсюка ставіла аконныя блокі ў адным з карпусоў завода. Працавалі ўсе з поўным напружаннем сіл, спяшаліся. І раптам работа спынілася. Чаму? Не хапае матэрыялаў. «КП» узняў трывогу — над будоўляй разнёсся голас з дынамікаў. Кіраўніцтва будоўлі неадкладна прыняло меры. Вынік — брыгада дасягнула рэкорднай выпрацоўкі: 172 працэнты плана за дзень.

І яшчэ. Пост «КП» выявіў, што Бранскае мантажнае ўпраўленне дрэнна ўлажыла трубы. 98 метраў трубаправода цяклі. Спыненне работы на аб'екце на адны толькі суткі прынесла б будоўлі страты больш чым на чатыры тысячы рублёў. Па сігналу «Пражэктара» ў справу ўмяшаліся органы партыйна-дзяржаўнага кантролю. Становішча было выпраўлена. З дапамогай пражэктарыстаў і пры іх непасрэдным удзеле за пяць дзён на будоўлі быў змантіраваны і пачаў дзейнічаць радыёвузел.

... У час праверкі магазіна № 12 «Мэблегасгандлю» пражэктарысты

Ленінскага раёна г. Мінска выявілі самыя грубыя парушэнні правіл савецкага гандлю — завышэнне цэн на некаторыя тавары. Вынікі праверкі абмяркоўваліся на бюро райкома камсамола, а пасля ўсе матэрыялы былі накіраваны ў партыйную арганізацыю «Мэблегасгандлю». Дырэктар магазіна Бяляева была звольнена з работы.

...Камсамольцы гомельскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі «8-е Сакавіка» і бабруйскага завода імя Леніна зацікавіліся, чаму некаторыя маладыя рабочыя не выконваюць норм выпрацоўкі. Пасля дэталёвай праверкі над кожным з навічкоў узялі шэфства вопытны рабочы. Справа пайшла на лад.

**НЕПАСЕДЛІВЫЯ ЛЮДЗІ.** «КП» нарадзіўся не на пустым месцы — у яго былі папярэднікі: «лёгкая кавалерыя» і рэйдавыя брыгады. Ён з'явіўся новай формай далучэння моладзі да грамадскай працы. Членамі «КП» сталі лепшыя рабочыя, калгаснікі, служачыя, студэнты.

Кіраўнікі штабаў і атрадаў «Пражэктара» — баявыя і мужныя людзі. Вось адзін з іх — Сямён Дудкін. Тры гады працаваў ён на цаліне. Працаваў сумленна, пакуль не здарылася няшчасце: хлопец разам з трактарам праваліўся пад лёд і цяжка захварэў. У свой родны калгас «Беларусь», на Магілёўшчыну, ён вярнуўся з кніжкай пенсіянера. Але ў яго грудзях — маладое камсамольскае сэрца. Сямён узначаліў «Камсамольскі пражэктар» у калгасе. Пра справы яго гаварылася вышэй.

Таго, хто ўпершыню трапляе ў рэспубліканскі штаб «КП», здзіўляюць некаторыя пытанні, якія, здавалася б, не маюць непасрэдных адносін да рэйдаў і праверак. Па ініцыятыве штаба, напрыклад, група маладых архітэктараў на грамадскіх асновах стварыла праект маладзёжнага кафэ.

Нядаўна камітэт партыйна-дзяржаўнага кантролю пры ЦК КПБ і Савеце Міністраў БССР заслухаў на сваім пасяджэнні справаздачу рэспубліканскага штаба «КП». Размова была сур'ёзная і прынцыповая, адзначаліся нашы поспехі і недахопы.

Давер'е старэйшых таварышаў-камуністаў радуе і натхняе ўсіх, хто з камсамольскім энтузіязмам дзейнічае ў дружнай сям'і пражэктарыстаў.

**Эдуард ДУБІНСКІ,**
**намеснік начальніка рэспубліканскага штаба «Камсамольскага пражэктара».**

## ПЕСНЯ — ЯЕ ЖЫЦЦЁ

**Беларуская песня... Беларуская опера... Беларускае вакальнае мастацтва... Усё гэта нельга сабе ўявіць без народнай артысткі СССР Ларысы Пампееўны Александроўскай. Яна — непаўторная выканаўца песень свайго народа, адзін з арганізатараў нацыянальнага опернага мастацтва і першая выканаўца вядучых партый у операх беларускіх, рускіх, зарубежных. Выдатнай беларускай спявачцы — шэсцьдзесят гадоў. Большую палавіну свайго веку Ларыса Пампееўна аддала беззапаветнаму служэнню савецкаму мастацтву. І цяпер не пакідае яна сваіх сувязей з тэатрам, узначальваючы праўленне Беларускага тэатральнага таварыства. Не пакідае Ларыса Пампееўна і канцэртнай дзейнасці. Па-ранейшаму песня — яе жыццё... Шмат часу аддае старэйшая актрыса дапамозе мастацкай самадзейнасці і папулярызацыі савецкага мастацтва ў Народных універсітэтах культуры.**

**У дзень слаўнага юбілею шчыра віншуем Ларысу Пампееўну і жадаем ёй доўгіх гадоў жыцця, багатага творчага плёну на ніве культуры Савецкай Беларусі!**

Фота **А. Дзітлава.**





# «ЗАХЕНТА» Ў МІНСКУ

У Польшчы і Беларусі — у добрых сяброў і суседзяў — стаў традыцыйным абмен культурнымі каштоўнасцямі. Зусім нядаўна ў Варшаве экспанавалася персанальная выстаўка беларускіх мастакоў Я. Красоўскага і М. Тарасікава. Польскія аматары мастацкай фатаграфіі знаёміліся з творамі нашых фотамайстроў. Цікавасць у суседзяў выклікала і выстаўка беларускіх графікаў.

Польскае ж мастацтва было прадстаўлена ў Мінску выстаўкай групы мастакоў таварыства «Захента».

Паяўленне гэтага таварыства вельмі знамянальнае,— яно з'явілася адказам на спробу часткі мастакоў адысці ад жыццёвай праўды, заняцца абстрактным мастацтвам. Узнікла «Захента» ў 1956 годзе.

«Кладучы ў аснову сваёй творчай дзейнасці рэалізм, мы зыходзім з перакананя, што ўсе найвялікшыя творы мастацтва, усе помнікі мінулага маюць сваёй крыніцай іменна рэалізм»,— запісана ў яго статуце.

«Захента» хутка заваявала прызнанне і папулярнасць. 33 афіцыйныя выстаўкі, а таксама цэлы шэраг выставак-кірмашоў на шахтах, у Доме Войска Польскага, у дзяржаўных сельскагаспадарчых кааператывах садзейнічалі папулярызацыі выяўленчага мастацтва ў розных слаях насельніцтва.

Мінчане ўбачылі каля ста карцін і скульптур. Калекцыя вельмі разнастайная па жанрах і тэматыцы: гістарычныя палотны, партрэты, пейзажы, жанравыя сцэны, нацюрморты. Своеасаблівыя карціны на гістарычныя тэмы: «Касцюшка сярод сялян» Яна Мольгі, «Смерць

Андрэя Пацебні» Альфрэда Жмуда, «Абарона Хоціма ў 1621 годзе» Лешака Пясіцкага.

Многія наведвальнікі падоўгу затрымліваліся перад палатном Станіслава Каханека «Гаранка з Пароніна». Дзяўчына ў маляўнічым народным касцюме, якія носяць жыхары гор, стаіць, задумаўшыся аб нечым. Навакольная прырода, нібыта знарок сцішылася, баючыся парушыць спакой дзяўчыны. Любоўю да роднай краіны напоўнены шматлікія пейзажы і сярод іх — «Вясна ў Татрах» Генрыка Рахалеўскага.

Рэпрадукцыі абедзвюх гэтых карцін чытач знойдзе ў гэтым нумары на каляровай укладцы.

З вялікай цікавасцю глядзеліся пейзажы «Цукровыя дубы» Альфрэда Жмуда, «У промнях вясновага сонца» Рамана Брэйтанвальда.

Цікава было пазнаёміцца з работамі Пятра Коміча, які вучыўся ў Мінску. Яго творы «Від Варшавы», «Партрэт мастака Яна Скабніцкага» сведчаць аб удумлівых, сур'ёзных адносінах мастака да творчасці.

На выстаўку прадставілі свае работы пяць польскіх скульптараў. Большасць работ — гэта бюсты: «Поль Робсан» Тэадоры Дамброўскай, «Жорж Санд», «В'етнамачка» Хелены Палускай-Шперлінг і іншыя.

Выстаўка «Захента» выклікала вялікую цікавасць у мінчан. Яе наведалі многія аматары мастацтва.

**Нэлі ЕРМАЛЮК.**

Фота **У. Крука.**

# ЗНАЁМЦЕСЯ: БРЭСЦКІ МАЛАДЗЁЖНЫ



**Танец «На кукурузным полі». Ён быў паказан у Маскве.**

Яшчэ ніколі не было так шумна ў брэсцкім Доме народнай творчасці. Невялічкая аб'ява ўзбударажыла гарадскую моладзь. Трыста юнакоў і дзяўчат прыйшлі да Міхаіла Пузанава паспытаць сваё шчасце на сцежках танцавальнага мастацтва. Будучы кіраўнік ансамбля і радаваўся і засмучаўся: яму трэба ўсяго семдзесят танцораў, а як ты пакрыўдзіш астатніх энтузіястаў? Але мастацтва няўмольнае. Выбралі лепшых з лепшых. «Шчаслівычыкі» хадзілі пераможцамі.

Так быў створаны Брэсцкі маладзёжны ансамбль.

І вось адбылася першая рэпетыцыя, знаёмства з калектывам. А потым пайшлі адзін за адным вечары ўпартых заняткаў. Цяжкіх заняткаў, бо танцоры прыходзілі ад станкоў, з лабараторый і аўдыторый, пасля ўрокаў у школе.

Рэпетыравалі амаль праз дзень. Па чатыры-пяць гадзін. У музыкантаў Віктара Малышава і Эдзіка Айзенмана, якія суправаджалі танцы, балелі ад стомы рукі.

Праз два тыдні маладых артыстаў запрасілі выканаць хоць адзін танец на святочным канцэрце. А яны вырашылі паказаць тры: «Беларускую калгасную польку», «Падмаскоўную плясавую» і венгерскі чардаш.

... Хваляванне цяжка апісаць. Яно пачалося за некалькі дзён да канцэрта. Асабліва, калі з Мінска прыслалі касцюмы.

— Аж страшна апранаць, не тое што каб на сцэну выйсці!

— Страшна... — шапталіся за кулісамі танцоры перад выхадам. А потым загучалі першыя акорды, і ўсё закружылася, завірылася. Маладосць быццам вылілася цераз край. Відаць, за агульнай весялосцю і хараством фарбаў, што расквецілі сцэну, ніхто і не заўважыў тады некаторых шурпатасцей ў выкананні нумароў. Ніхто з прысутных у зале не ведаў таго, колькі волі і напружання каштавалі гэтым хлопцам і дзяўчатам іх першыя крокі ў мастацтва танца...



**Кіраўнік ансамбля Міхаіл Іванавіч Пузанаў перад рэпетыцыяй заўсёды раіцца з канцэртмайстрам Эдуардам Азенманам.**

Калі прыйшло запрашэнне з Украіны, ансамбль ужо меў пяць гатовых нумароў. Да трох, паказаных на першым канцэрце, прыбавіліся закарпацкі танец «Верхавіна» і малдаўскі «Ляна». З такой праграмай «Брэсцкі маладзёжны» выступаў перад рабочымі і хлебаробамі сваёй вобласці.

Пасля першых удач, пасля першых «гастролей» нарадзіліся вялікія мары. Задумалі ў ансамблі стварыць харэаграфічную сюіту пра будаўнікоў Бярозаўскай электрастанцыі. Пастаноўку яе ажыццяўляў Міхаіл Іванавіч Пузанаў, а музыкальную апрацоўку зрабіў мясцовы кампазітар Міхаіл Рыгоравіч Солапаў.

Сюіту збіраліся паказаць на Усебеларускай дэкадзе самадзейнага мастацтва ў Мінску. І раптам члены журы прызналі, што цікава задуманаму вялікаму харэаграфічнаму палатну не хапала сюжэтнай цэльнасці і мастацкай завершанасці. Затое пахвалілі асобныя танцы. А фінал сюіты, вырашаны як урачысты, радасны апафеоз працы, дазволілі паказаць у Мінску.

І зноў пачаліся рэпетыцыі. За кароткі час шмат што было перароблена, зменена. У выніку: дыплом І ступені і прэміі...

А ў гадавіну з дня стварэння калектыву яго ўдзельнікі пачулі яшчэ адну радасную вестку: ансамблю прысвоілі высокае званне народнага. Гэта і натхняла, і абавязвала. Кожны тады зразумеў, што трэба штурмаваць новыя вяршыні на шляху да вялікага майстэрства.



На адной з рэпетыцый Міхаіл Іванавіч знаёміў дзяўчат з накідамі «Сібірскай дзявочай». Наперадзе ішлі Каця Вакула і Галіна Кутай. За імі яшчэ пяць пар. Кожная з дзяўчат уносіла ў танец штосьці сваё. У рухах сельскай дзяўчыны Каці была шырыня і шчодрасць, а ў дзевяцікласніцы з Брэста Галі — грацыёзнасць.

Галя Мурашка — гэта ўвасабленне ў танцы дзявочай пяшчотнасці. Ніна Лук'яненка — здзіўляла адточанай да бляску тэхнікай.

У ансамблі ж не толькі дзяўчаты. Амаль палавіна яго — хлопцы, і кожнаму з іх таксама ўласцівы свой почырк. Валянцін Ганееў



Каця Вакула і Галя Мурашка — швачкі. Яны самі рыхтуюць для выступлення касцюмы.

шмат гадоў і ў школе, і ў радах Савецкай Арміі ўвесь свой вольны час аддаваў улюбёнаму мастацтву. Вось чаму яго амаль прафесіянальнае майстэрства выклікае нястрымнае захапленне ў гледачоў. Аляксандр Мірашнічэнка асабліва прыгожы ў рускіх танцах, Гена Абухаў і Валеры Сямёнаў неперайм альныя ў венгерскім чардашы.

Розныя характары, самабытнасць і непасрэднасць кожнага ўдзельніка ансамбля і ствараюць той незабыўны малюнак, калі танец пачынае зіхацець мноствам колераў, становіцца шматфарбным, яркім, запамінальным.

Гэта было летась. Здавалася, што дні цягнуцца надзвычай марудна. Удзельнікі ансамбля рыхтавалі для паказу ў Маскве спецыяльную праграму.

Сталіца сустрэла іх цёпла і гасцінна. І толькі дождж, які пачаўся пад вечар, нечакана сапсаваў святочны настрой. Канцэрт на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі прыйшлося адкласці.

А назаўтра, калі збіраліся на рэпетыцыю, пачулі вестку: у космасе першая жанчына — Валянціна Церашкова! Радаваліся, як дзеці. У аўтобусе смяяліся, спявалі і тут жа вырашылі: хай сабе самы моцны дождж ідзе, а мы наладзім канцэрт проста перад павільёнам Беларускай ССР.

Танцавалі на асфальце. Адзін танец змяняўся другім, выглянула нясмела сонца, і адразу стала весялей. Народу станавілася ўсё больш і больш. Громам воплескаў сустрэлі гледачы «Лявоніху» і наш уласны танец «Радасць». Пасля канцэрта і масквічы і госці сталіцы шчыльна абступілі самадзейных артыстаў, віншавалі іх і дзякавалі за шчырасць і непасрэднасць у танцы.

Жанчына ў космасе! Гэтая навіна да глыбіні душы ўсхвалявала ўдзельнікаў ансамбля.

Воплескі, кветкі, дыпломы, узнагароды суправаджалі ўдзельнікаў ансамбля скрозь.

Пасля рэпетыцыі мы разам ішлі па вуліцы. Цішыня заснежаных тратуараў выклікала добрую і шчырую размову. Дзяўчаты расказвалі аб паездцы ў Польшчу, аб той сардэчнасці, з якой сустрэлі выступленне ансамбля на зямлі старажытнага Любліна. А яшчэ гаварылі аб той вялікай радасці, якая жыве ў сэрцы кожнага з іх, таму што жыццё поўнае глыбокага сэнсу.

І сапраўды, у кожнага з удзельнікаў ансамбля ёсць свая асноўная справа, якую яны любяць больш за танец. Каця Вакула і Галя Мурашка працуюць на швейнай фабрыцы. Зіна Галаўня, Вера Бахаева, Ларыса Броўкіна і Майя Маісеева — ткачыхі дывановага камбіната. Вельмі патрэбная прафесія ў Барыса Чыгіра і Вечаслава Нікалаюка. Яны будаўнікі. Студэнт Валодзя Пакала хутка стане настаўнікам, а вось Галя Кутай, Гена Абухаў, Валеры Сямёнаў і Люба Тэвасян пакуль яшчэ вучацца ў школе.

Самыя разнастайныя ў гэтых хлопцаў і дзяўчат справы, багатыя планы... Ніна Лук'яненка захапляецца, акрамя танца, яшчэ і жывапісам, а Уладзімір Пакала— часты госць у Доме фізкультуры.

...Мы ішлі па заснежаных вуліцах. А яны ўсё гаварылі і гаварылі... Аб новых справах, аб новых танцах, аб новых планах.

**Жана КУБЕКАВА.**

Фота **В. Германа.** (БЕЛТА).

г. Брэст.

# ЯКІ ЁН БУДЗЕ?



**У наш час так узрос, так пашырыўся духоўны свет чалавека, што і патрабаванні да знешняга выгляду машын, станкоў, тых прылад, каля якіх ён праводзіць большую частку дня, таксама сталі павышаныя. Чалавеку прыемна быць каля прывабных звонку машын і прылад.**

**Найбольш выразна можна назіраць гэта ў аўтамабілебудаванні, дзе на ўдасканальванне архітэктурных форм і эстэтычную апрацоўку асобных элементаў звяртаецца ўсё больш і больш увагі.**

**Удзел мастакоў і скульптараў у стварэнні новых мадэлей аўтамабіляў стаў ужо традыцыяй. Параўнаўча нядаўна ў практыку праектавання грузавых аўтамабіляў таксама пачалі ўваходзіць патрабаванні эстэтыкі. Некалькі год таму назад пры аддзеле галоўнага канструктара на Мінскім аўтазаводзе была створана макетна-мастацкая майстэрня. Паступова, але ўсё больш і больш актыўна ў стварэнні новых аўтамабіляў прымаюць удзел мастакі.**

**На здымку МАЗ-500, які рыхтуецца заняць месца першага на аўтамабільных дарогах.**

**Перш чым атрымаць зададзеныя і зробленыя ў метале формы, новы аўтамабіль МАЗ-500 дзесяткі разоў мяняўся і ўдасканальваўся ў малюнках, на мадэлях з пласціліну, гіпсу, дрэва. Так, неаднаразова змяняліся формы верху кабіны, панелей пярэдняй часткі, панелей асновы кабіны, дзверцаў і г. д. А такія дэталі, як перадок, прапаноўваліся ў сямі варыянтах, лепшы з якіх знайшоў нарэшце сваё ўвасабленне ў метале.**

**Цяпер нашы мастакі тт. Першын і Рэўзін, работнікі майстэрні тт. Сасноўскі і Вейленгард працуюць над удасканаленнем унутранага інтэр'еру ка-**

«МАЗ-500» хутка выйдзе з варот завода.



біны, дамагаюцца таго, каб гарманічна і зручна размясціць органы кіравання, і наогул імкнуцца ўнутранае афармленне кабіны грузавіка зрабіць падобным да афармлення легкавога аўтамабіля.

Пачынаючы ад распрацоўкі агульнай кампазіцыі ўнутранага памяшкання, ад афарбоўкі і канчаючы самымі маленькімі дэталямі, такімі, як ручкі, рычажкі, ушчыльняльнікі,— усё атрымлівае сваё арыгінальнае вырашэнне.

Ужо сёння, калі заканчваецца работа над аўтамабілем МАЗ-500, мастакі вядуць пошукі знешніх форм машын будучыні. Як ён будзе выглядаць? Вось асноўнае пытанне, на якое трэба даць адказ.

Шмат праблемных пытанняў узнікае наконт ужывання пластмас і іншых пласцікаў. Усё гэта ўлічваюць нашы мастакі ў сваіх праектах. Новыя матэрыялы патрабуюць новага вырашэння ў канструкцыях машын. Ужо ёсць дзесяткі малюнкаў і макетаў такога аўтамабіля, усебакова абмяркоўваюцца гэтыя праекты. У гарачых спрэчках нараджаецца плён сапраўднай творчасці.

Іншыя цяпер і ў канструктараў адносіны да сваёй працы. Усякі механізм, кожная дэталь павінны быць не толькі дасканалыя і трывалыя, але і прыгожыя звонку, адпавядаць мастацка - эстэтычным патрабаванням сучаснага чалавека.

Як і канструктар, мастак атрымаў пастаянную прапіску на заводах.

Віктар РАМЕЙКА,
начальнік канструктарскага бюро кабін Мінскага аўтазавода.

# СУСТРЭЧА З ГАЙДАРАМ



У ролі Хлапчыша-Кібальчыша—артыстка Людміла Барташэвіч.

Здарылася так, што на спектаклі Беларускага тэатра юнага гледача «Хлапчыш - Кібальчыш» па п'есе Н. Давыдавай у першым радзе сядзелі побач ціхая дзяўчынка, якая не дарасла нават да піянерскага гальштука, і мажны сівы дзядзька. Абодва яны з неаслабнай цікавасцю сачылі за ўсім, што адбывалася на сцэне.

Але вось закончылася першая дзея. Гледачы пачалі апладзіраваць. Задаволена пляскаў у далоні і мажны дзядзька. А дзяўчынка, прытуліўшыся да спінкі крэсла, маўчала. Позірк яе быў скіраваны на сцэну, і здавалася, што яна ўсё яшчэ за нечым сочыць.

— Што з табою?— спытаў дзядзька малую.

Дзяўчынка апусціла галаву, уздыхнула і прашаптала:

— Мне іх шкада. Іх жа заб'юць...

— Такіх смелых хлопчыкаў? Не можа быць!— запярэчыў дзядзька.

— А хіба вы не чыталі кніжку пра ваенную тайну?

Дзяўчынка глядзела проста яму ў вочы, і ён прачытаў у яе позірку невыказаную надзею.

— Чытаць-чытаў, але ж тое ў кніжцы. А тут спектакль...

— Значыць, Хлапчыш пераможа? — павесялеўшы, грамчэй сказала дзяўчынка.— Я таксама крыху спадзяюся. Вось калі б Благіша са спектакля выключыць... Здрадніка...

У другой дзеі, калі Благіш трапляе ў лапы Буржуінам і тыя, не ведаючы, хто ён, пытаюцца: «Ты Кібальчыш?», юная глядачка не вытрымала: яна сарвалася са свайго месца, падбегла да бар'ера і звонка, на ўвесь тэатр, крыкнула:

— Ён — Кібальчыш! Ён!..

Дзядзьку давялося ўзяць дзяўчынку на калені і супакоіць яе, паабяцаўшы завесці пасля спектакля за кулісы і паказаць, што ўсе хлапчышы жывыя і здаровыя!

Абодва гэтыя гледачы сапраўды з'явіліся потым за кулісы. Гэта нас і ўзрадавала і ўсхвалявала.

Герояў Гайдара добра ведаюць па кнігах усе дзеці. Перад удзельнікамі спектакля стаяла задача: не толькі ўвасобіць на сцэне любімых герояў дзетвары, але і захаваць у інсцэніраваным апавяданні тую рамантыку і духоўную чысціню, якая ўласціва Гайдару, і сродкамі тэатра ўзмацніць тое велізарнае ўражанне, якое пакідае яго апавяданне «Ваенная тайна».

Рэжысёр спектакля народны артыст СССР Павел Сцяпанавіч Малчанаў дабіваўся ад нас, актораў, вялікай праўды ў жыцці нашых герояў — станоўчых і адмоўных — каб гледачы ўсюды і заўсёды верылі нам так, як яны вераць Гайдару.

Адным з нас, напэўна, гэта ўдалося ў большай ступені, другім — у меншай. Але так ці інакш спектакль ідзе, і мы сардэчна запрашаем вас саміх на сустрэчу з Гайдарам.

Віктар ЛЕБЕДЗЕЎ,
артыст Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.



У гэтай сцэне дзейнічаюць: ваенны памочнік — артыст Барыс Піскун, Хлапчыш-Благіш — артыстка Рыма Маленчанка, галоўны Буржуін — артыст Аляксей Бяляеў, духоўны памочнік — артыст Віктар Лебедзеў.

Фота А. Дзітлава.

ГЭТЫХ ДЗЁН НЕ ЗМОЎКНЕ СЛАВА

# ШТО Ў СЭРЦЫ НАЗАЎСЁДЫ

Мне нядаўна давялося праехаць тымі дарогамі, па якіх вадзіла нас некалі вайна, сустрэцца з франтавымі сябрамі, з якімі ў ваеннае ліхалецце прайшоў агнявы шлях ад мястэчка Леніна, што на Магілёўшчыне, да Берліна.

Гэта была незабыўная паездка ў братнюю Польшчу, на святкаванне XX гадавіны ўтварэння Войска Польскага, якое нарадзілася ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі 1-я польская дывізія імя Тадэуша Касцюшкі прыняла баявое хрышчэнне на беларускай зямлі.

У складзе дэлегацыі, запрошаной польскім урадам, былі ветэраны мінулай вайны — масквічы, ленінградцы, мінчане, кіяўляне, валгаградцы, смаляне, разанцы. Некаторыя з іх служылі ў час вайны інструктарамі ў І-ай Польскай арміі.

Хвалюючыя сустрэчы адбыліся ў Варшаве. На пероне вакзала быў шматлюдны мітынг. І адразу ж абдымкі былых сяброў, поціскі рук і хвалюючыя словы. Бачу, што і да мяне з натоўпу праціскаецца вайсковец і з радасным воклічам: «Сапешка!» раскідвае рукі каб абняць. Гэта палкоўнік запасу Уладзіслаў Маскалян. Мы не бачыліся шаснаццаць гадоў...



Ветэранам вайны цікава было глянуць на адроджаную зямлю Польшчы.

Прыгадаліся франтавыя дарогі. У памяці ўсплылі тыя дні, калі мы разам з Маскалянам удзельнічалі ў вызваленні Варшавы, Плоцка, Быдгашча, Шчэціна, фарсіравалі Одэр і дайшлі да Берліна. Прызнаюся, я заўсёды любаваўся гэтым афіцэрам, які ў самы цяжкі момант умеў натхніць воінаў на ратны подзвіг.

А вось да мяне падышоў і другі польскі сябар — палкоўнік Яўген Мішчук, мой таварыш па службе ў артылерыйскай брыгадзе. Зноў абдымкі, воклічы радасці... Дружба, змацаваная крывёю, будзе жыць вечна.

Увесь дзень мы хадзілі па Варшаве. Вось тое месца, дзе мы — група салдат і афіцэраў — васемнаццаць гадоў таму назад па абломках маста Панятоўскага ўварваліся ў палаючы горад. Цяпер над Віслай выраслі новыя кварталы, цудоўныя гмахі. У агульны ансамбль горада ўдала ўпісваецца і Палац культуры — падарунак савецкага народа варшавянам.

сувязістку 2-га пяхотнага палка з дывізіі імя Касцюшкі Кржамоўскую. Гэта была адна з баявых польскіх дзяўчат, што бясстрашна змагаліся на фронце.

У Кашаліне мы гасцявалі ў пагранічнікаў-маракоў. Мне там давялося выступаць з прамовай. Калі я скончыў, да мяне падышоў польскі афіцэр і сказаў:

— Шаноўны падпалкоўнік. Я быў ваш салдат. Вы былі ў нас камандзірам. Памятаеце Ежы Бортніка?

— Вядома, памятаю.



Радасна, па-святочнаму сустракалі жыхары ПНР гасцей з Савецкага Саюза. Першы справа — аўтар гэтых радкоў.

У Кангрэсавай зале Палаца адбыліся і ўрачыстасці. У прэзідыуме, побач з кіраўнікамі Польскай Аб'яднанай рабочай партыі і польскага ўрада былі прадстаўнікі нашай савецкай дэлегацыі. Ад імя савецкага народа, камуністычнай партыі і нашага ўрада міністр абароны СССР Маршал Савецкага Саюза Р. Маліноўскі ў знак дружбы перадаў польскаму народу баявы сцяг гвардзейскай часці, якая ўдзельнічала ў вызваленні Польшчы ад гітлераўскіх захопнікаў.

Падзяліўшыся на дзве групы, мы падарожнічалі па краіне. Мне давялося пабыць у тых мясцінах, дзе праходзілі франтавыя дарогі. Першы наш прыпынак быў у Плоцку. Тут я сустрэў аднапалчанку —

Як мы ні спяшаліся, але капітан Ежы Бортнік запрасіў нас на кватэру, пазнаёміў са сваёй сям'ёй, расказаў пра тое, як яго бацька пры панскай Польшчы вандраваў на чужыне ў пошуках лепшай долі і знайшоў яе цяпер, калі ў краіне стала народная ўлада.

Каля адной вёскі ў Памераніі насустрач нам выйшлі сяляне. Яны паказалі на ўстаноўленую ля дарогі мемарыяльную дошку, на якой ушанавана памяць трох савецкіх танкавых экіпажаў, што загінулі тут. Адзін з членаў дэлегацыі, які ваяваў тут у час вайны, сказаў:

— Дзякуй вам, дарагія польскія сябры, што не забылі салдат — слаўных танкістаў нашай ча-

сці, якія загінулі смерцю герояў, здабываючы наша агульнае шчасце.

У Калабжэгу — буйным партовым горадзе — прыгадалася нам, як савецкія і польскія дывізіі змагаліся за яго вызваленне. Жорсткія баі ішлі адзінаццаць дзён. Надвячоркам 18 сакавіка 1945 года Калабжэг быў узяты, і адкрыўся выхад да мора. На тым месцы, дзе мы далі пераможны ружэйны салют, цяпер узвышаецца помнік. На каменнай глыбе — скульптуры воінаў двух братэрскіх армій.

Спыніліся мы і яшчэ на адным месцы, дзе праходзіла з баямі І-ая Польская армія — гэта населены пункт Сякеркі. Савецкія войскі разам з воінамі І-й Польскай арміі ў красавіку 1945 года фарсіравалі тут Одэр.

Калі мы пад'язджалі да Одэра, я не мог спакойна ўседзець на месцы. Да драбніц знаёмыя мясціны, дзе васемнаццаць гадоў таму назад нашы часці рыхтаваліся да рашаючага штурму фашысцкай бярлогі. Адразу я пазнаў тыя схілы, дзе стаялі нашы батарэі, дзе групаваліся танкі, якімі камандаваў палкоўнік Янчылеўскі, дзе праз раку наводзілі пераправу.

Незабыўныя гэтыя сустрэчы, шчырыя, сяброўскія гутаркі і ўспаміны. З іх мы яшчэ раз пераканаліся, якая дарагая для ўсіх нас дружба двух братэрскіх народаў, як беражэцца яна ў сэрцах і тых, хто праліў кроў за яе, і тых, хто атрымаў яе ў спадчыну.

У адной вёсцы — месцы колішніх жорсткіх баёў — пасля мітынгу савецкі і польскі генералы паклалі па цагліне ў падмурак новай школы. Няхай гэтая школа будзе яшчэ адным цудоўным помнікам нашай адвечнай дружбы!

...Ужо шмат часу прайшло з тых дзён, як мы гасцявалі ў Польшчы, але я чую галасы генерала Акенскага, палкоўнікаў Маскаляна і Мішчука: «Шчаслівай дарогі, дарагія сябры!»

Шчасця і вам, дарагія сябры і суседзі!

**Станіслаў САПЕШКА.**

# КІЖАЎЦЫ

Курганы пажоўклых ад часу камплектаў газет. Гартаеш іх заўсёды з павагай: «старая, але грозная зброя...» Ды ці старая? Яна вечна маладая і нікольki не страціла сваёй вастрыні. Грозную і верную зброю, баявое журналісцкае пяро, трымалі ў сваіх руках людзі з вялікімі, мужнымі чалавечымі сэрцамі. Яны ўмелі, калі спатрэбілася, нікольki не горш трымаць у сваіх руках і вінтоўку.

Знаёмыя, вельмі знаёмыя прозвішчы. І псеўданімы... З газетных палос паўстаюць, як жывыя, людзі. Добра знаёмыя і проста знаёмыя. Сапраўдныя людзі. Сапраўдныя журналісты.

Сярод іх — і памёршых, і якія цяпер жывуць — нямала выпускнікоў і слухачоў былога Беларускага камуністычнага інстытута журналістыкі імя С. М. Кірава. Гэтая ўстанова адыграла вялікую ролю ў фармаванні партыйна-савецкіх журналісцкіх кадраў нашай рэспублікі.

Рашэнне аб стварэнні КІЖа было прынята Цэнтральным Камітэтам КП(б) Беларусі ў сакавіку 1932 года. Першапачаткова ў КІЖ прымаліся толькі члены партыі, якія мелі вопыт газетнай работы. Пазней было створана камсамольскае аддзяленне.

Вучэбны план КІЖа быў разлічаны на тры гады. Планам прадугледжвалася вывучэнне грамадскіх навук, а таксама вывучэнне рускай і беларускай моваў і літаратур, гісторыі СССР і БССР, тэорыі і практыкі журналісцкай творчасці.

Выхаванцы КІЖа цёпла ўспамінаюць выкладчыкаў Б. Шпітальніка, І. Немеца, М. Драгілева, В. Барысенку, Ф. Краўчука, І. Зянько, Б. Зельцара і іншых. Забягаючы крыху наперад, скажу, што ў дні цяжкіх выпрабаванняў выкладчыкі КІЖа былі вартыя тых высокіх прынцыпаў і ідэалаў, якія яны неслі сваім слухачам. У першыя месяцы Айчыннай вайны загінуў на фронце Б. Шпітальнік. Абараняючы Маскву, загінуў смерцю героя любімец студэнтаў выкладчык гісторыі партыі І. Немец. Незвычайную стойкасць і вытрымку праявіў адзін з кіжаўскіх выкладчыкаў — Ц. Зарубін. Працуючы па заданню падпольшчыкаў у картказым бюро гарадскога камісарыята акупіраванага гітлераўцамі Мінска, Ц. Зарубін і яго таварышы забяспечвалі хлебнымі і іншымі прадуктовымі карткамі падпольшчыкаў і партызан, а таксама членаў іх сем'яў.

Мінула больш за трыццаць гадоў, але, як жывы, успамінаецца дзень першага верасня 1932 года. Будынак на Чырвонаармейскай вуліцы, дзе знаходзіліся аўдыторыі КІЖа, гудзеў, як патрывожаны вулей. Слухачы новага інстытута — народ вясёлы, таварыскі. Сярод іх былі і ветэраны — студэнты былога камвуза, якія перайшлі ў інстытут журналістыкі. Яны, зразумела, куды больш проста адчувалі сябе ў першы ж дзень, чым навічкі.

Падышоў высокі хлопец, твар вясёлы, вочы іскрацца. Гэта — Міхаіл Барашкаў. Заўсёды рухавы, жвавы. Такім яго памятаюць і таварышы па рабоце ў «Чырвонай змене», рэдактарам якой ён быў напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны. Такім запомнілі яго — рэдактара падпольных газет «Звязда» і «Чырвоная змена», якія выдаваліся ў далёкім варожым тыле, на часова акупіраванай ворагам тэрыторыі Беларусі.

У штаб злучэння партызанскіх атрадаў Міхаіл Барашкаў прыбыў марознай студзеньскай раніцай 1943 года. Глухая палеская вёска Сасноўка стала месцам нараджэння падпольных газет. Ужо 27 студзеня 1943 года выйшаў нумар падпольнай газеты «Звязда», яшчэ праз чатыры дні — «Чырвонай змены». Расказваюць, што, разгарнуўшы свежую газету, якая яшчэ пахла фарбай, Міхаіл Парфёнавіч ласкава сказаў: «Вось мы і сустрэліся з табой зноў, «Чырвонка».

Якая гэта была радасць тады, у гады вайны, — газета на роднай мове, свая, савецкая, тут, на зямлі, захопленай ворагам!.. Гэта быў голас Радзімы, голас партыі, які падбадзёрваў, натхняў, заклікаў. «Звязда» і «Чырвоная змена» разыходзіліся па ўсёй Беларусі. Мінчанам добра памятны выпадак, калі нумары «Чырвонай змены» з'явіліся на сценах... мінскага гестапа.

Нягледзячы на цяжкасці партызанскага жыцця, Міхаіл Барашкаў быў заўсёды бадзёры, жыццярадасны. Яго настрой перадаваўся сябрам. І яшчэ ён вызначаўся незвычайнай храбрасцю. Барашкаў удзельнічаў у баях, пакідаючы пяро і тут жа беручыся за вінтоўку. У асабліва цяжкіх акалічнасцях чарговыя нумары газет рыхтаваліся на адным з астравоў сярод топкіх любанскіх балот. Гэтая мясціна атрымала сярод партызан назву вострава Друку.

Загінуў Міхаіл Барашкаў 21 лютага 1944 года. Як салдат, на пасту. 8 снежня 1957 года пад Старобінам у далёкай лясной вёсачцы з прыгожай і маладой назвай Камсамолец быў адкрыты помнік на магіле рэдактара падпольнай «Звязды». Многія выступалі і гаварылі добрыя цёплыя словы: «Герой быў і сапраўдны партыйны журналіст». Правільныя словы. Я чытаў паведамленне аб адкрыцці помніка і ўспамінаў маладога вясёлага хлопца з цёмна-русай шавялюрай. Такім і запомніўся мне Міхаіл Барашкаў на ўсё жыццё — маладым.

Людзі смертныя. А вось справы іх вечна жывыя. Жыла партызанская «Звязда» і клікала на барацьбу, на подзвіг. Карэспандэнт падпольнай «Звязды», былы кіжа-

вец Уладзімір Цярэшчанка расказваў:

«Аднойчы нашай групе разведчыкаў давялося пабываць у вёсцы Набушава Слуцкага раёна пасля таго, як яе пакінула бронетанкавая калона гітлераўцаў.

— Партызаны прыйшлі! — ляцела з хаты ў хату радасная вестка. Каля нас хутка пачалі збірацца жыхары вёскі. Мы расказалі ім пра падзеі на франтах.

— Абрадвалі вы нас, — сказаў пажылы селянін. — Дзякуем і верым вам, але... дзе б прачытаць пра гэта?

— Можна і прачытаць, — адказалі мы, даючы ім «Звязду».

Газета пайшла па руках. На развітанні сяляне заявілі:

— Цяпер мы ведаем, што трэба рабіць. «Звязду» ж пакіньце нам, мы яе перададзім іншым, хай ведаюць праўду.

А неўзабаве ў грэскія лясы, у партызанскую брыгаду імя Суворава, прыйшло папаўненне з вёскі».

Са «Звяздой» звязан лёс многіх былых студэнтаў КІЖа. Паказальная ў гэтых адносінах гісторыя кіжаўца Амельянюка.

Вайна застала Уладзіміра Амельянюка ў Беластоку, дзе ён — студэнт выпускнога курса КІЖа — праходзіў у рэдакцыі абласной газеты вытворчую практыку. У пачатку чэрвеня 1941 года мне, як дырэктару КІЖа, разам са студэнтамі-практыкантамі давялося наведаць Беласток. У рэдакцыі хвалілі маладога журналіста. «Падае надзеі», — жартаўліва падміргваючы Амельянюку, гаварыў рэдактар, а Уладзімір чырванеў, бы дзяўчына.

Жыццё прыгатавала студэнтукіжаўцу куды больш сур'ёзны экзамен, чым вытворчая практыка. На гэтым экзамене сурова правяраліся і партыйная, і журналісцкая сталасць, і права называцца сапраўдным чалавекам... Уладзімір Амельянюк вытрымаў гэты экзамен на «выдатна».

Генадзь Будай, студэнт КІЖа і блізкі сябар Амельянюка, расказваў, што Уладзімір, апынуўшыся ў акупіраваным немцамі Мінску, спачатку збіраўся дайсці да лініі фронта, каб уступіць у рады Савецкай Арміі. Але бацька Уладзіміра, стары бальшавік С. К. Амельянюк і сябар яго — член партыі С. І. Заяц (Зайцаў) адгаварылі хлопца і пераканалі яго ў тым, што лінія фронта праходзіць і тут, у акупіраваным фашыстамі беларускім горадзе Мінску, дзе не менш патрэбны моцныя духам байцы і журналісты.

Уладзімір разам з бацькам увайшоў у адну з першых створаных у Мінску партыйных падпольных груп. Яна дзейнічала ў раёне Камароўкі. А крыху пазней У. Амельянюк стаў адным з першых арганізатараў партыйнага падполля Мінска, быў у складзе Мінскага падпольнага гаркома партыі.

## ГОСЦІ З ЧЭХАСЛАВАКІІ



Госці з Чэхаславакіі на Мінскім камвольным камбінаце былі сустрэты як браты.

... У Хойніках лютавалі фашысты. Яны гналі ў Германію тысячы савецкіх людзей.

На станцыі Хойнікі славацкі салдат Карэл Томашчык, які таксама не па сваёй волі прыехаў з вінтоўкай у Беларусь, убачыў сярод натоўпу арыштаваных Маю. Гэта была тая самая дзяўчына, сястра ветурача, якая яшчэ ўчора ўгаворвала Карэла перайсці да партызан.

Карэл разумеў, што памагчы ёй нічым не зможа. Ён падышоў да дзяўчыны, каб па-сяброўску паціснуць ёй руку на развітанне, але паміж ім і дзяўчынай стаў п'яны паліцай Юрка Зелянкевіч.

— Няма чаго мілавацца, адыдзі! — закрычаў паліцай.

Сэрца ў Карэла аблілося крывёю. Рука сама сціснулася ў кулак, і п'яная морда Юркі скрывілася ад моцнага ўдару...

Пасля гэтага Карэл зразумеў, што цяпер яму ўжо абавязкова трэба ісці да партызан.

З народнымі мсціўцамі Карэла Томашчыка звяла Соф'я Мікалаеўна Зянюк. Удава, маці пецярых дзяцей, яна хавала яго трое сутак — днём на гарышчы, а ноччу ў хаце — пакуль Карэл не сагітаваў падацца ў лес і некаторых іншых сваіх таварышаў па славацкай роце.

Так пачалося ў Карэла другое жыццё, так паявілася, як ён гаворыць, у яго другая маці, якая навучыла простага славацкага хлопца любіць сваю радзіму і змагацца за яе. Потым былі і партызанскія баі, засценкі СД, у Мінску, і турма, і барацьба за вызваленне роднай Прагі. Вялікае — не па гадах, а па пераж.ытым — жыццё за плячыма ў Карэла, цяперашняга пісьменніка, аўтара кніг, у якіх апавядаецца і пра партызанскую вайну на Беларусі.

І хіба можна лічыць выпадковасцю, што сярод іншых чэхаславацкіх грамадзян, якія ў гады вайны змагаліся з фашыстамі ў беларускіх партызанскіх атрадах і цяпер прыехалі да нас у госці, быў і Карэл Томашчык? Хіба можна здзіўляцца, што першым жаданнем яго было хутчэй дабрацца да далёкіх Хойнікаў, каб па-сыноўняму, пяшчотна абняць Соф'ю Мікалаеўну, сваю другую маці?

Карэл не пазнаў Хойнікі — старую «партызанскую сталіцу». Колькі тут новых будынкаў! Ды і тыя, што былі, пасвятлелі, паднавіліся.

А вось Соф'ю Мікалаеўну Карэл пазнаў з першага позірку:

— Вы, здаецца, нават памаладзелі за гэтыя гады!

— Яно і зразумела: тады была вайна, а цяпер жыві ды радуйся...

— А як вашы дзеці?

— Ды ўсе жывыя і здаровыя. Лёня — прафорг у Хойніцкім леспрамгасе, Галіна скончыла ўніверсітэт і настаўнічае ў Ленінградзе, Уладзімір — лётчык, Мікалай закончыў тэхнікум і працуе на чыгунцы ў Гомелі, Алена атрымала дыплом Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута і цяпер аграном у саўгасе «Мільча» пад Гомелем.

Так пасля доўгіх год сустрэліся Карэл Томашчык і беларуская патрыётка Соф'я Зянюк.

**Валянцін ПАНАМАРОЎ.**

Фота **Д. Прэса.**

Важнай і вельмі знамянальнай падзеяй у жыцці і барацьбе падпольшчыкаў Мінска стаў выхад у свет газеты «Звязда» — органа падпольнага гаркома КП(б). У падрыхтоўцы і рэдагаванні падпольнай газеты актыўна ўдзельнічаў Уладзімір Амельянюк. Падпольшчыкі набіралі газету нелегальна, пад самым носам у акупантаў. Набор па частках пераносілі на кватэру падпольшчыка М. Воранава. 18 мая 1942 года на гэтай кватэры быў выпушчаны першы нумар «Звязды». Гэта быў сапраўдны залп па ворагу. Літары набору ажылі і загаварылі — гнеўна, палымяна заклікалі на барацьбу з ворагам.

Знаёмішся са зместам першага нумара падпольнай мінскай «Звязды» і думаеш: не, не толькі тэарэтычна добра засвоілі ленінскі прынцып партыйнасці друку маладыя журналісты-кіжаўцы. Нумар добра прадуманы, афармлены — і гэта ва ўмовах жорсткага тэрору, складанай падпольнай канспірацыі!

А праз восем дзён не стала Уладзіміра Амельянюка. Яго скасіла варожая куля.

У жніўні 1942 года выйшаў другі, у верасні трэці і чацвёрты нумары «Звязды». Актыўны ўдзел у рабоце падпольнай рэдакцыі, у арганізацыі і літаратурнай апрацоўцы матэрыялаў прымалі выхаванцы КІЖа Я. Савіцкая і А. Давыдава-Карпусенка. Часта яны прыносілі матэрыялы з раёнаў дзеяння партызанскіх атрадаў Міншчыны. Туды і назад падпольшчыцы прабіраліся з вялікай рызыкай для жыцця.

У зборы матэрыялаў для газеты, яе друкаванні і распаўсюджванні, у абсталяванні падпольнай друкарні, побач з іншымі падпольшчыкамі, актыўна ўдзельнічалі таксама студэнты КІЖа Г. Будай і М. Рынкевіч. Набіраў газету камуніст Хасан Александровіч, які скончыў КІЖ у 1937 годзе.

Лёс Г. Будая і студэнткі КІЖа Н. Кацяшавай у многіх рысах падобны да лёсу У. Амельянюка. Вайна застала іх у Брэсце. Яны праходзілі практыку ў газеце. У жніўні 1941 года Г. Будай увайшоў у склад падпольнага антыфашысцкага камітэта, створанага ў Дзяржынскім раёне, і дзейнічаў у кантакце з мінскай падпольнай партыйнай арганізацыяй. Журналісцкае майстэрства падпольшчыка і тут вельмі спатрэбілася. Г. Будай складаў і рэдагаваў лістоўкі, адозвы падпольнага камітэта, рабіў каментарыі да зводак Саўінфармбюро. За патрыётам цікавалі фашысты. Але ён пайшоў у партызаны, быў камісарам партызанскага злучэння і пазней — рэдактарам баранавіцкай падпольнай абласной газеты «Чырвоная звязда».

З мая 1943 па сакавік 1944 года гэтую газету рэдагаваў другі кіжавец — Рыгор Старавойценка. Гэта быў чалавек высокага патрыятычнага абавязку. Хворы на туберкулёз, Рыгор Старавойценка сам настаяў, каб яго адправілі на падпольную работу і мужна падзяляў разам са сваімі таварышамі ўсе цяжкасці партызанскага жыцця. Працаваў ён не пакладаючы рук. Толькі тады, калі рэзка абвастрылася небяспечная хвароба, Рыгора Апанасавіча адправілі на «Вялікую зямлю». Памёр ён у сакавіку 1948 года.

Сярод кароткіх сустрэч у суровыя ваенныя гады мне ўспамінаецца адна ў Маскве позняй летам 1942 года. Немцы наступалі, немцы рваліся да Волгі, а гэты чалавек, Іван Матыль, паляцеў у Беларусь, у партызанскі край. Студэнтам КІЖа ён стаў, папрацаваўшы некалькі гадоў настаўнікам, а потым супрацоўнікам талачынскай раённай газеты. Быў ён сярэдняга росту, і густая русая чупрына спадала на лоб, ад чаго твар яго з некалькі выпуклымі скуламі здаваўся змрочным. Але ў гэтым чалавеку жыла неўтаймаваная, гарачая душа змагара і жыццялюба. Накіраваны Цэнтральным Камітэтам партыі ў Беларусь, дзе ўсё ярчэй разгаралася полымя партызанскай барацьбы, ён узначаліў Магілёўскі падпольны абкам камсамола, стаў намеснікам камісара партызанскага злучэння, храбра ваяваў. І я ўсё ўспамінаў, як, гледзячы на карту, якая вісела на сцяне вельмі сціпла абстаўленай гасцініцы ваенных год, на тую карту, дзе чорныя флажкі падбіраліся ўсё бліжэй да Волгі і ўсё далей углыб краіны, Іван гаварыў задумліва:

— А ўсё-такі пераможам!..

Пасля вайны І. Матыль рэдагаваў «Чырвоную змену», а з 1952 года і да канца свайго жыцця «Гомельскую праўду». Што казаць, быў ён часам гарачы і запальчывы, мог нагаварыць нямала рэзкіх слоў вінаватаму, але потым адыходзіў і адчуваў ужо самога сябе вінаватым. Быў ён чулым чалавекам, уважлівым да людзей, да студэнтаў-практыкантаў адносіўся клапатліва, усяляк памагаючы ім. І пры гэтым гаварыў: «Я сам вучыўся і ведаю, што такое студэнцкі бюджэт».

Нямала выпускнікоў і студэнтаў Камуністычнага інстытута журналістыкі змагалася і ў радах Савецкай Арміі. Студэнта КІЖа Аляксандра Філімонава вайна застала ў Лунінцы, дзе ён праходзіў практыку ў мясцовай газеце. Ваяваць Аляксандр Філімонаў пачаў радавым салдатам, потым стаў курсантам танкавага вучылішча. Камандзірам танкавай роты прайшоў шлях ад Курскай дугі да Берліна і Прагі.

...Сорак пяты, пераможны. Дзесьці ў пыле гарачых дарог засталася, прытупілася горыч адступлення, боль сорак першага і сорак другога гадоў. «На Берлін!» — пераможны кліч воінаў-пераможцаў, воінаў-вызваліцеляў. А вораг супраціўляецца з апошніх сіл. Упартыя баі завязаліся за горад Бееліц, каля Берліна. Стаўка Гітлера аддала загад: не лічачыся ні з якімі стратамі, адабраць у рускіх населены пункт вялікай стратэгічнай важнасці. Фашыстам удалося акружыць Бееліц. Падбадзёрыўшы сябе саліднай порцыяй шнапсу, гітлераўцы пайшлі ў атаку. Ішлі ў рост, густымі радамі, і нешматлікі наш заслон, здавалася, не мог стрымаць іх націску. Але танкісты гвардзейскіх экіпажаў зрабілі немагчымае. Камандзір роты А. Філімонаў паказаў у баі прыклад асабістай адвагі і мужнасці. І гітлераўцы не прайшлі, адкаціўшыся з вялікімі стратамі. За гераізм і мужнасць у гэтай аперацыі Аляксандру Філімонаву было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Пасля вайны А. Філімонаў працягваў вучобу, абараніў кандыдацкую дысертацыю.

Загінуў смерцю героя... Сярод дваццаці трох пісьменнікаў і паэтаў Беларусі, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў баях за Радзіму, чые імёны золатам выбіты на мемарыяльнай мармуравай дошцы ў Саюзе пісьменнікаў БССР, ёсць імя Аркадзя Гейне. Золатам гарыць на дошцы імя, а я ўсё бачу яго перад сабой жывога — студэнта КІЖа Аркадзя Гейне. Ён быў зусім хлопчык, высокі, і тонкі, і гімнасцёрка, якую ён насіў, як відаць, для «саліднасці», вісела на худых юнацкіх плячах. Насіў ён ваенныя галіфэ і боты. Шчокі яго яшчэ не кранала брытва. Сярод студэнтаў інстытута ён тым больш выглядаў хлопчыкам. Але сэрца было ў гэтага юнака вялікае. І вершы ён пісаў цудоўныя.

У памятныя вераснёўскія дні 1939 года, калі Чырвоную Армію радасна сустракалі працоўныя Заходняй Беларусі, мяне накіравалі рэдактарам павятовай газеты ў Глыбокае. Сакратаром рэдакцыі прыехаў працаваць Аркадзь Гейне.

Праз некалькі дзён першы нумар глыбоцкай газеты «За свабоднае жыццё» быў гатовы. Але вось пытанне — дзе друкаваць тыраж газеты? У Глыбокім былі маленькія прыватныя друкарні, патрэбных шрыфтоў яны не мелі. Мы вырашылі ехаць у Полацк. Журналісты полацкай газеты сустрэлі нас гасцінна, памаглі выпусціць у свет наш першы нумар.

І вось тыраж аддрукаваны. Ужо за поўнач. Чакаем раніцы, каб «галасаваць» на дарогах, спадарожнымі машынамі дабірацца ў Глыбокае. Звязаныя пачкі газет паклалі пад галовы. І, стомленыя, тут жа, на табурэтках, заснулі.

Рэзкі тэлефонны званок.

— Масква гаворыць. Рэдакцыя «Апошніх паведамленняў» Усесаюзнага радыё. Хто ля тэлефона?

— З полацкай рэдакцыі няма нікога. Гэта гаворыць рэдактар глыбоцкай павятовай газеты. Мы друкуем тут свой першы нумар.

— Глыбоцкай? Вельмі добра.

Вы ж якраз нам і патрэбны. Раскажыце падрабязна змест нумару, па старонках...

Я пачаў перадаваць змест нашых палос. Калі ўпамянуў, што ў нумары надрукаваны верш маладога беларускага паэта, маскоўскі карэспандэнт папрасіў прачытаць яго. Я і цяпер памятаю першыя радкі гэтага верша Аркадзя Гейне:

Як сонца з Усходу на Захад
прыходзіць,
Браты так з Усходу на Захад
ідуць...

У заключэнне карэспандэнт сказаў, што ў 18.00 гэтага ж дня наша гутарка будзе перададзена ў выпуску «Апошніх паведамленняў». Так яно і было.

Неяк, неўзабаве пасля гэтага партгрупа рэдакцыі абмяркоўвала заяву камсамольца Аркадзя Гейне з просьбай аб прыёме яго ў члены ВКП(б). Як належыць у такіх выпадках, папрасілі расказаць аўтабіяграфію. Аркадзь саромеўся: біяграфіі ў яго яшчэ не было. Скончыў школу, паступіў у камсамол, залічаны ў КІЖ імя С. М. Кірава, працуе сакратаром рэдакцыі. Камуністы, дружалюбна пасмейваючыся (малады, маўляў), прагаласавалі. Аркадзь Гейне быў прыняты кандыдатам у члены партыі.

У 1940 годзе ў часе адной з нашых сустрэч у Мінску Аркадзь, усё гэтак жа саромячыся, працягнуў мне тонкую кніжачку. «Першая...» Я зірнуў на вокладку — Аркадзь Гейне «Шчаслівая зорка». Ад душы павіншаваў хлопца і сказаў, што хацеў бы чытаць яго і другую кніжку, і трэцюю. Не прыйшлося. Камандзір мінамётнай роты малодшы лейтэнант Аркадзь Гейне загінуў у баі на берагах Волгі...

У невялікім артыкуле не раскажаш пра ўсіх выхаванцаў Беларускага камуністычнага інстытута журналістыкі. Я палічыў сваім абавязкам успомніць добрым словам тых, каго няма цяпер сярод нас, але чые імёны з'яўляюцца натхняючым прыкладам для маладых журналістаў. Многія выпускнікі КІЖа і па сённяшні дзень плённа працуюць на ніве беларускай літаратуры і журналістыкі. Іх можна сустрэць у кожнай рэдакцыі.

Новыя пакаленні журналістаў прыйшлі на змену, але ўсе яны могуць і павінны многаму вучыцца на прыкладах і традыцыях сваіх старэйшых таварышаў, тых, каго называюць проста і цёпла «кіжаўцамі», загартаваных салдат партыі, майстроў палымянага бальшавіцкага слова.

**Марк ЗЯРНІЦКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**



ПОШУКІ, АДКРЫЦЦІ...

# СТУДЭНЦКІЯ ТАЯМНІЦЫ



**Тры дзяўчыны звязаны адной таямніцай. Не асабістаю, — чужая тайна знаходзіцца ў іх руках. Яны хочуць яе разгадаць.**

**У Беларусі, на Віцебшчыне, упершыню знойдзены багатыя залежы кааліну. Вывучэннем яго ўласцівасцей і заняліся сяброўкі — члены Студэнцкага навукова-тэхнічнага таварыства Людміла Валадарская, Соф'я Галь і Ніна Сойка. Яны — студэнткі пятага курса хіміка-тэхналагічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута.**

**Нядаўна фармаколагі звярнуліся ў інстытут з прапановай распрацаваць новы састаў шкла для флакончыкаў пад пеніцылін. І такое шкло знойдзена. Цяпер каштоўны прэпарат будзе надзейна захоўвацца ў «студэнцкім» шкле.**

**Паспяхова распрацоўваюцца пытанні крышталізацыі шкла. Маладыя даслед-**

**чыкі навучыліся атрымліваць са шкла матэрыялы з зусім новымі, зададзенымі папярэдне ўласцівасцямі. Распрацавана таксама тэхналогія вытворчага вырабу шэрагу новых матэрыялаў для будаўнічай індустрыі, прадпрыемстваў сувязі. Не забыты і прадметы хатняга ўжытку. З новага шклокрышталічнага матэрыялу можна цяпер выраблядь каляровы тэрматрывалы посуд, прылады санітарнай тэхнікі, пліткі для абліцоўкі сцен і насцілання падлогі.**

**Студэнткі Валянціна Шаховіч і Нэля Цуканава вядуць даследаванні па складанаму комплексу. Яны паставілі сваёй мэтай спрасціць састаў тэхнічнага шкла, якое мае ўласцівасці паўправаднікоў.**

**Вельмі актуальныя даследаванні ў галіне аптычнага шкла вядзе Ала Дзяшкоўская. Дапытлівасць, заўзятая перакананасць сапраўднага разведчыка навукі памаглі ёй знайсці аднадумцаў і сярод студэнтаў універсітэта, без дапамогі якіх ёй цяжка было б справіцца са сваёй задачай.**

**Вядома, у студэнтаў заўсёды не хапае часу. Дыплом інжынера даецца нялёгка. Дапытлівыя ж і старанныя паспяваюць не толькі ўбачыць вяршыні навук, але і пракласці да іх новыя сцежкі.**

**Аляксандр ДЗІТЛАЎ.**

# СЯБРЫ АВІЯТАРАЎ

## З НЕТРАЎ САМАЦВЕТАЎ

Зірніце вечарам на залітую яркім электрычным святлом вітрыну ювелірнага магазіна. Вы ўбачыце прыгожыя брошкі, усыпаныя рубінамі, каралі з блакітна-зялёных аквамарынаў, чорныя агаты, цёмна-чырвоныя гранаты. І, нібы зялёнае вока невядомай марской істоты, зіхціць у цэнтры вітрыны вялікі ўральскі ізумруд.

З яго мы і пачнем наш расказ аб рэдкіх і дзівосных па сваіх якасцях мінералах.

У свярдлоўскім архіве захоўваецца запіс пра тое, як былі адкрыты першыя рускія ізумруды. Зроблены ён у 1831 годзе. На Урале сяляне шукалі смалістыя сасновыя пні, самасушнік і буралом для здабывання смалы. Адзін з іх знайшоў між карэнняў вывернутага ветрам дрэва некалькі невялікіх крышталікаў і абломкаў зялёнага каменя. І крышталікі, і само месца знаходкі паказаў двум сваім таварышам. Усе яны корпаліся ў карэннях, пад карэннямі і знайшлі яшчэ некалькі кавалачкаў, з якіх самыя прыгожыя ўзялі з сабой у вёску і пасля прывозілі для продажу ў Екацерынабург.

Дырэктар гранільнай фабрыкі заўважыў, што каменьчыкі, якія трапілі яму ў рукі, маюць шклопадобныя зломы. Проба паказала, што гэта ізумруд. Праз некаторы час на месцы знаходкі зялёных каменьчыкаў была адкрыта магутная ізумрудная жыла.

Ізумруды спрадвеку цаніліся вельмі высока. Больш двух тысяч гадоў назад іх здабывалі егіпцяне ў падземных капальнях бязводнай Нубійскай пустыні. Не ведаючы хімічнага складу ізумрудаў, старажытныя людзі лічылі, што ён падобны на мінерал берыл. Цяпер мы добра ведаем, што гэты зялёны камень, які вабіць вока сваім дзівосным колерам, не што іншае, як разнастайнасць берылу з невялікай дамешкай хрому. Гэтая дамешка і надае яму зялёную афарбоўку.

Прыгожыя зялёныя, сінія, залаціста-жоўтыя і чырвоныя камені — прадстаўнікі славутага сямейства берылаў — спрадвеку прыцягвалі да сябе ўвагу хімікаў. Але доўгі час вучоныя не ведалі іх сапраўднага хімічнага складу і памылкова лічылі, што яны нарадзіліся з гліназёму і розных дамешак металаў. Ніхто з хімікаў не здагадваўся, што ў нетрах гэтых прыгожых каменняў схаваны каштоўны метал.

Толькі ў 1797 годзе французскі хімік Ваксклен адкрыў у берыле новы элемент, які за салодкі смак ягоных солей назваў глюцыніем. Гэтая назва трымалася, пакуль новы метал не назвалі берыліем. Адкрыццё Ваксклена падштурхнула і іншых хімікаў заняцца грунтоўным вывучэннем мінералаў берыліевага сямейства.

Рэчыва, якое хімікі лічылі гліназёмам, або алюмініевай зямлёй, аказалася новым невядомым металам. Аднак гэтага металу ў берыліевых мінералах мелася ўсяго чатыры-пяць працэнтаў. Вучоныя падлічылі, што ў зямной кары яго вельмі мала — усяго толькі чатыры дзесяцітысячныя працэнта. Берылій аказаўся рэдкім металам.

Падобны па колеру да срэбра, берылій у шэсць разоў лягчэйшы за яго. Ён адзін з самых лёгкіх металаў — усяго ў 1,85 раза цяжэйшы за ваду, і ў два разы лягчэйшы за алюміній.

Доўгі час берылій блыталі з алюмініем і лічылі, што яго злучэнні маюць уласцівасці, падобныя да ўласцівасцей алюмінію. Памылковасць гэтай думкі даказаў рускі горны інжынер І. В. Аўдзееў, які аддаў шмат увагі даследаванню берыліевых злучэнняў.

## ВІТАМІН МЕТАЛУРГІІ

Берылій у чыстым выглядзе пакуль што рэдка скарыстоўваецца ў тэхніцы. Ён занадта дарагі ды і здабываюць яго вельмі мала — усяго некалькі тысяч тон.

З гэтага серабрыста-шэрага металу не вырабляюць буйных дэталей для машын. Хоць берылій вельмі трывалы, але ён недастаткова вязкі, да таго ж пры награванні акісляецца.

Цяпер у рэнтгенаўскіх устаноўках можна сустрэць вокны, выраблены з берылію. Раней іх рабілі з алюмінію, аднак берылій у семнаццаць разоў больш пранікальны для рэнтгенаўскіх праменняў.

Вечарам, калі змрок ахутвае зямлю, у вялікіх гарадах запальваюцца яркія свяцільнікі, у вокнах магазінаў і на дахах дамоў успыхваюць агні рэклам. Сярод іх, нібы чырвонае вугалле, свецяцца трубкі, напоўненыя неонам. Праваднікамі ў іх служаць берыліевыя стрыжні.

Берылій спатрэбіўся і фізікам. Ён памог ім глыбей пранікнуць у таямніцы будовы атама. Ён служыць асновай для стварэння патоку нейтронаў — «атамных куль», якімі фізікі «абстрэльваюць» ядры розных элементаў, ствараючы новыя штучныя радыёактыўныя рэчывы.

Але больш за ўсё гэты рэдкі метал патрэбен металургам. Дабаўляючы яго да розных металаў, яны атрымліваюць вельмі цвёрдыя і трывалыя сплавы. Часцей за ўсё берылій сплаўляюць з меддзю, нікелем і кобальтам.

Высока цэняць машынабудаўнікі берыліевую бронзу. Гэты сплаў берылію з меддзю не ведае «стомы». Спружыны, вырабленыя з

## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Даказана, што ў заўзятых балельшчыкаў на спартыўных спаборніцтвах павышаецца тэмпература. Бываюць выпадкі, калі яна дасягае 38 градусаў.

берыліевай бронзы, служаць у некалькі разоў даўжэй, чым сталёвыя. Гэткія ж трывалыя і вынослівыя падшыпнікі для прапелераў самалётаў, дэталі тэлефонных апаратаў, сёдлы помпавых клапанаў і многія іншыя дэталі машын і апаратаў, зробленыя з гэтага цудоўнага берыліевага сплаву.

Нязначная дабаўка берылію да медзі — усяго якіх-небудзь 2,5 працэнта — робіць сплаў стойкім да гарачыні, павышае электраправоднасць, павялічвае пругкасць. Калі малатком з берыліевай бронзы стукнуць па каменю або жалезе, іскраў не будзе. Такія малаткі і інструменты прымяняюцца ў шахтах і на газавых заводах.

Сплавы берылію з нікелем вельмі цвёрдыя, эластычныя і да таго ж не іржавеюць. Дабаўка ўсяго адной сотай працэнта берылію да магнію папярэджвае загаранне сплаву пры адліўцы.

Вывучаючы работу розных станкоў і машын, вучоныя заўважылі, што яны менш зношваюцца, калі паверхню асобных дэталей зрабіць больш трывалай і цвёрдай. Вось тут і спатрэбіўся берылій. Сталёвую дэталь апускаюць у берыліевы парашок і трымаюць у ім некалькі гадзін пры тэмпературы 900—1000 градусаў. Пасля такой апрацоўкі паверхневы слой дэталі становіцца цвярдзейшы, чым загартаваная сталь.

У чым жа прычына такога цудоўнага ўплыву берылію? Аказваецца, атамы берылію, пранікаючы ўглыб сталі, утвараюць з жалезам, нікелем і вугляродам цвёрдыя хімічныя злучэнні — карбіды і берыліды. Вось гэтыя рэчывы і надаюць металу асаблівую трываласць.

Поспехі сучаснай авіяцыі дазваляюць нам лётаць усё вышэй і хутчэй. Каб самалёт не разваліўся на кавалкі пры звышгукавой хуткасці, ён павінен быць пабудаваны з лёгкіх і трывалых сплаваў. Сплавы алюмінію і магнію, якія шырока выкарыстоўваюцца пры будаўніцтве самалётаў, могуць аказацца недастаткова ўстойлівымі пры хуткасці дзве або тры тысячы кіламетраў у гадзіну. Вось тут на дапамогу самалётабудаўнікам і прыйдзе берылій.

З кожным годам пашыраецца галіна прымянення берылію, расце яго здабыча. Недалёка той дзень, калі берылій перастане быць рэдкім і дарагім металам, калі яго будуць прымяняць у прамысловасці нароўні са «старымі» металамі — алюмініем, магніем, жалезам.

## АДКРЫЦЦЁ АПТЭКАРСКАГА ВУЧНЯ

У 1757 годзе ў адной з аптэк шведскага горада Гетэборга з'явіўся Карл Шэеле. Пятнаццацігадовым хлапчуком пакінуў ён бацькоўскі дом і пастуліў вучнем да аптэкара. Карл яшчэ ў дзяцінстве захапляўся хіміяй, рана навучыўся ў знаёмага ўрача чытаць рэцэпты лякарстваў. Ён марыў стаць аптэкарам. Таму цэлы дзень яму даводзілася рыхтаваць лякарствы, займацца з пакупнікамі.

Жадаючы даведацца, з якіх састаўных частак складаюцца розныя рэчывы, ён увесь вольны час штосьці пераганяў, выпарваў, раствараў у кіслотах. Аднойчы Карл прыгатаваў рэчыва, якое па свайму паху нагадвала пах горкага міндалю. Каб пераканацца, што яно сапраўды пахне горкім міндалём, ён удыхнуў пары, а каб вызначыць смак — узяў яго на язык. Добра, што Шэеле толькі ледзьледзь лізнуў ядавітае рэчыва: гэта быў страшэнны яд — сінільная кіслата. Бліскучыя хімічныя доследы Шэеле высока ацанілі вучоныя ўсяго свету. У 33 гады ён быў выбраны акадэмікам на радзіме, а пазней — ганаровым членам шэрагу замежных акадэмій навук.

Аднойчы Шэеле атрымаў для даследавання некалькі кавалкаў цёмна-шэрага каменя. Ён сваім бляскам нагадваў свінец, а па колеру быў падобны на графіт. Прысланы шведскаму хіміку для аналізу мінерал тады называлі малібдэнай.

Шэеле, прыступаючы да аналізу, спачатку нагрэў у полымі кавалачак мінералу. З яго пачаў выдзяляцца газ з вострым пахам. У мінерале ёсць сера, падумаў Шэеле, гэта ж сярністы газ. Калі газ знік, Шэеле ўбачыў на дне тыгля жоўта-белую масу з зеленаватым адценнем і адламаў кавалачак ад яе. Прайшло некалькі хвілін, і кавалачак растаў, нібы цукар.

Не, гэта не двувокіс свінца. Ён жа не раствараецца ў вадзе. Гэта злучэнне нейкага іншага элемента. Шэеле паспрабаваў кроплю раствору на язык: адчуў кіслы смак. Ён капнуў у шклянку з вадкасцю кроплю лакмусу, раствор зрабіўся чырвоны. Не заставалася ніякіх сумненняў, што ў малібдэне ёсць нейкі новы невядомы элемент, вокіс якога з вадой утварае кіслату.

## АСНОВА БРАНІ

Атрыманы элемент Шэеле назваў малібдэнам, а мінерал з таго часу пачалі называць не малібдэнай, а малібдэнітам. Новым элементам зацікавіліся вучоныя розных краін і пачалі яго скрупулёзна даследаваць. «Незнаёмец» быў тугаплаўкім, срабрыста-белым металам, які не ржавее ў вадзе і ў паветры. Пры звычайнай тэмпературы ён не разбураецца, а пры награванні звыш 600 градусаў акісляецца, утвараючы трохвокіс. Малібдэн — цяжкі метал, у дзесяць разоў цяжэйшы за ваду. Як і многія іншыя металы, ён непасрэдна злучаецца з галагенамі, серай і вугляродам.

Хоць уласцівасці малібдэна былі добра вядомы больш за сто гадоў таму назад, атрыманне яго ў шырокіх прамысловых маштабах пачалося параўнаўча нядаўна. Яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя яго атрымлівалі ўсяго дваццацьтрыццаць тон у год.

І вось у часе першай сусветнай вайны на заходнім фронце з'явіліся танкі, якія англічане прыслалі французам. Нямецкія салдаты упершыню ўбачыўшы гэтыя браніраваныя страшыдлы, пакідалі зброю і кінуліся наўцёкі. Аднак неўзабаве першы страх прайшоў і немцы пачалі абстрэльваць тан-

### СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ





Атрымана шкло, якое змяняе свае ўласцівасці пад уздзеяннем святла. Напрыклад, цямнее пры яркім сонечным святле і святлее ў цемнаце. Гэты ідэальны матэрыял для акуляраў ад сонца знайшоў прымяненне і ў электроніцы.

### СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ




Французскі вучоны А. Шампанья адкрыў, што некаторыя бактэрыі, якія жывуць у нафце, ператвараюцца ў каштоўны бялок. Па смаку гэты бялок нагадвае злёгку прагорклы сыр. З тоны нафтавых прадуктаў можна атрымаць паўтоны такога «сыру».

кі снарадамі. Машыны пачалі адна за адной выбываць са строю.

Тады перапалохаліся французы. Здавалася, танкі, пакрытыя тоўстай 76-міліметровай бранёй з марганцовістай сталі, павінны быць непрыступнымі для артылерыйскіх снарадаў. Інжынерам металургічных заводаў камандаванне даручыла тэрмінова знайсці такую сталь, якую не прабівалі б снарады. Інжынеры рашылі пастаўленую перад імі задачу. Аказалася, што невялікая дабаўка да сталі нікелю і малібдэну зрабіла браню ўтрая танчэйшай і непрабівальнай для снарадаў.

Для вырабу многіх дэталей сучасных самалётаў і аўтамабіляў патрэбны асабліва трывалыя сталі. Іх атрымліваюць, дабаўляючы да жалеза хром, нікель і малібдэн. Малібдэн мы сустракаем і ў сталях, неабходных для вырабу розных хімічных апаратаў. Калі да сталі дабавіць малібдэн разам з нікелем, кобальтам і хромам, яна робіцца кіслотатрывалай і не баіцца ядавітых вадкасцей.

Без малібдэну не абыходзіцца і вытворчасць звышцвёрдых сплаваў, неабходных для вырабу разцоў і іншых рэжучых інструментаў.

Вядома, што ўсе целы пры награванні пашыраюцца. Адны больш, другія менш. Малібдэн валодае вельмі малым каэфіцыентам пашырэння. Таму яго выкарыстоўваюць, каб падвешваць вальфрамавыя валаскі ў электралямпах, з яго робяць спіралі для электрапечаў, дзе тэмпература дасягае больш 2 500 градусаў.

Солі малібдэнавай кіслаты — добрыя фарбы. Імі фарбуюць тканіны, скуру, пластмасы, керамічныя вырабы. З некаторых солей малібдэну вырабляюць малярныя фарбы, чарніла, лакі і іншае.

Малібдэн спатрэбіўся не толькі металургам і радыётэхнікам. Яго вартасці высока ацанілі і земляробы. Наяўнасць малібдэнавых злучэнняў у глебе значна павялічвае ўраджай канюшыны, асабліва на тарфяніках. Малібдэн павышае цукровасць буракоў. Цукру ў клубнях становіцца больш, незалежна ад таго, малібдэнавыя ўгнаенні ўнесены ў глебу ці насенне змочана ў растворы малібдэнавай солі. Невялікая дабаўка малібдэну да звычайных угнаенняў паскарае рост раслін.

## ПАГЛЫНАЛЬНІК ВОЛАВА

Вальфрам упершыню быў знойдзены ў 1781 годзе. Гэты цяжкі жоўты або чорны мінерал звычайна сустракаецца разам з алавяным каменем — касітэрытам. Металургі даўно заўважылі, што наяўнасць гэтай цяжкай руды змяншае выхад чыстага волава. Таму ў Еўропе такую руду назвалі вальфрам — ад нямецкіх слоў — вольф — воўк і рум — пена, што па тагачасных паняццях значыла: з'едзенае ваўком.

Цяжкі чорны камень лічылі злучэннем волава з жалезам або мыш'яком. Былі і такія металургі, якія прымалі яго за марганцавую руду, што ўтрымлівае дамешкі волава і жалеза. У 1788 годзе рускія вучоныя Патрэн і Гофман знайшлі «ваўчэц», як тады называлі вальфрам у Расіі, у айчынных рудах.

На працягу мінулага стагоддзя вучоныя розных краін вывучалі ўласцівасці вальфраму і яго злучэнняў. Вальфрам — адзін з самых важкіх і тугаплаўкіх металаў у прыродзе. Ён амаль у два разы цяжэйшы за малібдэн. Ён гэткі ж трывалы і яшчэ больш устойлівы перад уздзеяннем кіслот. Канцэнтраваная азотная кіслата і «царская гарэлка» не раствараюць вальфрам, а толькі акісляюць яго паверхню. Ён раствараецца у сумесі плавікавай і азотнай кіслот.

Кавалачак разагрэтага вальфраму, кінуты ў ваду, распадаецца нібы нагрый ці калій, выдзяляючы з яе вадарод.

Каб расплавіць вальфрам, яго награюць да 3 400 градусаў. Большасць металаў пры такім награванні ператвараецца ў пару. Надзвычай высокая і тэмпература кіпення вальфраму — 6 000 градусаў — гэта як на паверхні Сонца.

Вальфраму ў зямной кары прыкладна ў чатыры разы больш, чым малібдэну, і ў сем разоў больш, чым свінцу. У адрозненне ад многіх іншых рэдкіх элементаў, ён утварае буйныя залежы. Некаторыя вучоныя лічаць, што асабліва многа вальфраму павінна быць бліжэй да цэнтра зямлі, таму што ён вельмі цяжкі.

Вядома некалькі вальфрамавых мінералаў: вальфраміт, гюбнерыт, шэеліт. Гэта цяжкія чорныя камені, часам з чырванаватым адценнем. Побач з вальфрамам яны змяшчаюць у розных суадносінах жалеза і марганец.

Амаль дзевяноста працэнтаў вальфраму, які здабываецца на зямным шары, ідзе на выраб розных сплаваў і хуткарэжучых сталей. Дабаўка карбідаў вальфраму да сталі дазволіла павялічыць хуткасць рэзання металу больш чым у дзвесце разоў. За апошнія 20—25 гадоў пачаўся выраб звышцвёрдых разцоў з асабліва цвёрдых сплаваў, асновай для якіх служаць карбіды вальфраму. Па цвёрдасці яны блізкія да алмазу.

Спатрэбіўся вальфрам электрыкам і радыётэхнікам. Ужо больш за пяцьдзесят гадоў у электрычных лямпачках ярка свеціцца танюсенькі вальфрамавы валасок, які прыйшоў на змену танталавай ніці.

Гэтак жа, як і малібдэн, вальфрам выкарыстоўваецца для вырабу тэрмапараў прыстасаванняў для вымярэння высокіх тэмператур, электрычных награвальнікаў і дэталей хімічнай апаратуры. Калі праз нагрэты вальфрамавы стрыжань прапусціць струмень вадароду, то малекулы газу распадаюцца на атамы. Аднаатамны вадарод вельмі хутка злучаецца з кіслародам і дае высокую тэмпературу — каля 4 000 градусаў.

У наш час солі вальфрамавай кіслаты прымяняюцца таксама для вырабу розных фарбаў і лакаў. Яны не выгараюць на сонцы, не баяцца ўздзеяння ветру, дажджу і снегу. Вальфрамавыя фарбы прымяняюцца ў гумавай прамысловасці і ў друкарскай справе.



### СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ

Адзін польскі вучоны выказаў думку, што ў міжпланетныя падарожжы можна адпраўляцца і... пад ветразем. Маецца на ўвазе ветразь, які надзімаецца «сонечным ветрам» — ціскам сонечных праменняў. Карабель вагою ў 6 тон і з ветразем у выглядзе круга з дыяметрам 600 метраў можа дасягнуць паверхні Марса за 120 дзён.

### СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ

Кіт-кашалот апускаецца ў ваду на глыбіню паўтара кіламетра і можа знаходзіцца там каля дзвюх з паловай гадзін. Перад апусканнем ён робіць да сямідзесяці глыбокіх удыханняў і выдыханняў, каб узбагаціць крой кіслародам.



Растворамі некаторых злучэнняў вальфраму тэкстыльшчыкі апрацоўваюць шоўк і іншыя тканіны. Ад гэтага яны становяцца прыгажэйшыя і не баяцца агню.

Вальфрамавыя злучэнні памагаюць і хімікам. Яны служаць выдатнымі каталізатарамі пры вырабе штучнага бензіну з каменнага вугалю і некаторых гатункаў гаручага з нафты.

Але больш за ўсё патрэбен вальфрам металургам. Ён, як і малібдэн, даў магчымасць стварыць трывалыя да агню і кіслотаўпорныя, цвёрдыя і даўгавечныя сплавы і сталі. Вось гэтыя металы і з'яўляюцца вернымі сябрамі авіятараў і машынабудаўнікоў.

**Барыс РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук.**

# БІЁНІКА—ШТО ГЭТА?

## ЗАЙМАЛЬНЫ ЎСТУП З ЭЛЕМЕНТАМ ТАЯМНІЧАСЦІ

...Ля марскога прычала стаіць кацер. Ні ў форме корпуса, ні ў палубных яго надбудовах няма нічога дзіўнага. І тым не менш на яго борце стаіць надпіс: «Выпрабаванне».

Я знаёмлюся з капітанам і імкнуся высветліць, што ж усё-такі ў гэтым кацеры выпрабоўваецца: новы рухавік, паліва ці яшчэ што?

На ўсе мае пытанні капітан толькі круціць галавой, а пасля кажа:

— А вось пойдзем з намі, пра ўсё даведаецеся...

Чуецца каманда: «Аддаць канцы!», і наш кацер адчальвае. Амаль з месца мы набіраем добры ход.

— Гэта ўжо выпрабаванне пачалося?— пытаюся я.

— Не, — адказвае капітан. — Яно пачнецца праходжаннем кіламетравага выпрабавальнага калідора на самай высокай хуткасці.

— А якая найбольшая хуткасць такога кацера?

— Да 60 кіламетраў у гадзіну. Цяпер мы даём 40... Цяпер глядзіце на стрэлку — будзем набіраць хуткасць... Сярэдні ўперад!

Стрэлка лага палезла ўгару: 45, 50, 55...

— Ого! — амаль 60 пры сярэднім руху! — міжволі вырвалася ў мяне.

— Гэта яшчэ не ўсё... Сачыце далей. ...Поўны ўперад!

...60, 70, 75...

— Самы поўны!

...80, 85, 90!

Мы ўваходзілі ў выпрабавальны калідор.

...Аперацыйны стол. Вакол яго — людзі ў белых халатах. Мяккае святло бясценевых лямп, ідзе аперацыя. Пабочных асоб у аперацыйную не пускаюць, таму наблізімся да стала хоць бы ў думках.

Ужо ўскрыта грудная клетка. Неспакойна, няроўнымі штуршкамі б'ецца хворае сэрца. Гіпертрафіраваная сардэчная мышца ледзь спраўляецца са сваімі абавязкамі. Уваход лёгачнай аорты моцна звужаны, і хворы задыхаецца ад недахопу кіслароду. Але што гэта? Сэрца б'ецца ўсё слабей і слабей і, нарэшце, уздрыгнуўшы апошні раз, зусім спыняецца. Няўжо смерць? Але ўрачы застаюцца спакойныя. Усё ж ідзе па плану. Апераруецца сэрца, выключанае з кровазвароту.

...Бязлюдна ў прасторным цэху завода, які выпускае станкі-аўтаматы. І толькі ў аператарскім пакоі над пультамі схілілася некалькі чалавек. Яны і кіруюць усім вытворчым працэсам.

Так было раней. Але аднойчы ў цэху з'явілася вучаніца-аператар. Звалі яе Маша. Усім сваім выглядам яна быццам гаварыла, што хоча прымусіць аператараў пашукаць работу ў іншых цэхах, таму што тут яна і адна справіцца. І — дзіўная справа! — аператары не пратэставалі.

— Ну што ж, Маша, — сказалі яны. — Будзеш працаваць за ўсіх нас. Калі ласка. Але пакуль што табе яшчэ трэба павучыцца ў нас.

— Вось табе задача: што ты будзеш рабіць, калі аўтакантралёр адкажа? Зараз мы яго проста адключым. Так. А цяпер дзейнічай!

Маша на момант задумалася, а потым... спыніла ўсю лінію!

— Ну што ты, Машанька! Калі з-за кожнай дробязі ўсю вытворчасць спыняць, дык і план не выканаеш. Трэба проста падключыць запасны блок. Глядзі, як гэта робіцца!

Маша была здольная вучаніца. Яна ўсё бачыла, усё запаміналa і ніколі не паўтарала свае памылкі. Праз месяц аператары перадалі Машы ўвесь цэх:

— Вось, падключайся цалкам да кіравання. Нам цяпер рабіць тут няма чаго.

І як толькі Маша ўзяла кіраванне ў свае рукі, станкабудаўнічы цэх адразу стаў аўтаматычным. Таму што «Маша» — гэта, скарочана, «машына-аўтаматызатар», г. зн. электронная машына для поўнай аўтаматызацыі вытворчасці, якая ў вытворчым працэсе сама сябе вучыць і ўдасканальвае.

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ, ДЗЕ ЎСЁ МЕНШ ЗАЙМАЛЬНАЕ, АЛЕ БОЛЬШ ЗРАЗУМЕЛАЕ

Чытач, напэўна, звярнуў увагу, што ва ўступе ўсё злёгку расквечана і расказ спыняецца на самым цікавым. Гэтым «самым цікавым» з'яўляецца хоць бы тая ж наша знаёмая «Маша» — дасягненне, да якога тэхніка прыйшла ў садружнасці з біялогіяй.

Аб гэтай садружнасці, ці, інакш кажучы, біёніцы, мы і павядзем размову.

Біёніка — гэта такое злучэнне біялогіі і тэхнікі, калі «схема» жывой прыроды ў перайначаным выглядзе выкарыстоўваецца для рашэння складаных інжынерных задач.

Вядома, напрыклад, што скура кітападобных мае цудоўныя ўласцівасці. Тлушчавы яе слой перашкаджае стварэнню ўсялякіх завіхрэнняў, якія маглі б утварыцца пры хуткім руху жывёліны. Нават вялізныя няўклюды-кіты могуць імчацца з хуткасцю пасажырскага поезда.

Як толькі быў раскрыты сакрэт кітовай скуры, паўстала другая задача: стварыць адпаведны яе заменнік. Так узнікла штучная кітовая скура — ламінфло, якой і было пакрыта днішча нашага выпрабавальнага кацера.

Шматвяковы працэс вывучэння сэрца і яго дзейнасці быў нядаўна завершаны стварэннем апарата штучнага кровазвароту, або апарата «сэрца-лёгкія», які капіруе работу гэтых органаў. У спалучэнні з гіпатэрміяй (ахаладжэннем арганізма) гэты апарат дае магчымасць апераваць «сухое», абяскроўленае сэрца. І ўжо цяпер многія хворыя абавязаны яму сваім выратаваннем.

Што ж датычыць «Машы», то яе прататыпам з'яўляецца нервовая сістэма чалавека і вышэйшых жывёл. Але пра вонкавае падабенства гаварыць не прыходзіцца. Размова ідзе перш за ўсё пра падабенства функцый, якія яна выконвае. Як і ў жывёл, у «Машы» ёсць памяць, яна чула рэагуе на змену абставін і нават можа «вучыцца».

Прыведзеныя прыклады паказваюць, што веданне жывой прыроды памагае тэхніцы вырашаць складаныя інжынерныя праблемы.

(Далей будзе.)

**Уладзімір ТРЭЦЯКОЎ.**

## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



У ЗША вынайдзены новы метад лячэння язвы дванаццаціперснай кішкі. Страўнік моцна ахалоджваюць прыблізна на адну гадзіну. Працэнт вылечвання практычна дасягае 100.



*Да пяцідзесяцігоддзя з дня нараджэння*

**Валянцін ТАЎЛАЙ**

# ЛУКІШСКАЯ БУДЗЁННАЯ

**ПЕСНЯ**

**Гэй, конніца Будзённага,**
**закончыўся папас**
**і краты не ад сёння нам —**
**вароты ў лепшы час!**

**Адчыніш ціха фортачку —**
**павее халадок,**
**запрог «каня» * у торбачку,**
**а ну пайшоў, дружок!**

**Ты ў сянніку належаўся,**
**ў саломе — цэлы дзень,**
**падскоквай, як належыцца,**
**каб страх было глядзець.**

**Даволі валаводзіцца —**
**лаві, таварыш!**
**— Есць!**
**І спрыт ў руках**
**не зводзіцца**
**і ў сэрцы маладосць.**

**Мы сцежкаю узгорнаю,**
**вышэй вастрожных брам**
**вязем і хлеба чорнага**
**і нумар «Крат» ** сябрам.**

**Адным — вязем сухарыка,**
**другім — хоць паўгурка,**
**каму ж махорка**
**марыцца —**
**па порцыі дымка.**

**Закончым працу спорную**
**і пот з ілба змахнем —**
**ў саломцы «коні»**
**згорнуцца**
**і мы усе заснем.**

**Так ад вясны да восені,**
**ад лета да зімы**
**мы пад'язджаем «косямі»**
**к начальніку турмы.**

**І скажам так,**
**прыехаўшы,—**
**аж здзівіцца, нябось:**
**— Пад вамі гора пекаўшы,**
**па вас сумуе «кось».**

**Гэй, конніца Будзённага,**
**закончыўся папас**
**і краты не ад сёння нам —**
**вароты ў лепшы час!**

Гэтая песня была напісана для аднаго з раздзелаў паэмы «Песня пра сухар», але ў працэсе канчатковай дапрацоўкі твора выкінута з тэкста. Цяпер арыгінал знаходзіцца ў Дзяржаўным літаратурным архіве БССР.

* «Канём» — называўся шнурок, на якім палітвязні ў польскіх астрогах перакідвалі нелегальна з акна ў акно камеры палітматэрыялы і прадукты.

** «Краты» — літаратурны орган Лукішскага калектыву палітвязняў, заснаваны па ініцыятыве Максіма Танка ў 1934 годзе. Ён выходзіў некалькі год і набыў вялікую папулярнасць. **(В. Т.)**



# НЕЗАКОНЧАНАЯ ПАЭМА

*Хоць вы сэрца на часткі парвеце*
*У кожнай частцы жыць буду, каб мсціць,*
*Помсты нашай нічым не згасіць!..*

*В. Таўлай. «У дэфензіве».*

Бунтар... Які глыбокі сэнс, якая магутная сіла закладзена ў гэтым слове! Яно выражае вельмі дакладна непакорлівасць чалавека, яго пастаянную гатоўнасць да смелых, рашучых дзеянняў. Барацьба і бунтар — гэтыя два словы знаходзяцца ў самай блізкай сувязі паміж сабой.

«Бунтар» — падпольная мянушка паэта-рэвалюцыянера Валянціна Таўлая. Таму, хто не ведаў блізка гэтага сціплага, на першы погляд вельмі ціхага юнака, гэтая мянушка магла здацца дзіўнай. І тым не менш, яна найлепшым чынам характарызавала яго, як чалавека бясстрашнага, валявога, сумленнага, усім сваім сэрцам, усёй істотай адданага вялікай справе барацьбы за вызваленне працоўнага люду Заходняй Беларусі з-пад уціску белапольскіх акупантаў.

Валянцін Таўлай быў сапраўдным партыйным паэтам Заходняй Беларусі, трыбунам і агітатарам камуністычнага падполля. Усё яго жыццё — узор бяспрыкладнага служэння народу, беззапаветнай адданасці Камуністычнай партыі.

Для многіх равеснікаў і землякоў яго падпольная мянушка «Бунтар» стала паролем у барацьбе з ненавіснымі акупантамі.

* * *

Студзеньскай раніцай 1931 года рэдактар газеты «Звязда» Стах Будзінскі, пасля вядомы дзеяч камуністычнай партыі Польшчы, пазнаёміў мяне, намесніка рэдактара газеты «Чырвоная змена», са сваім новым супрацоўнікам:

— Гэты юнак здорава насаліў польскім панам у Заходняй Беларусі. Цяпер там за ім вельмі ганяюцца...

Застаўшыся ўдвух, мы спачатку адчувалі сябе няёмка. Юнак неяк сарамліва прыглядаўся да мяне, а я губляўся перад ім і вельмі яму зайздросціў: глядзі ты — такі малады і з выгляду кволы, а ўжо нечым насаліў панам...

Размовы ў той час у нас не атрымалася. На развітанне ён так моцна сціснуў мне руку, што я міжволі паморшчыўся. Ён гэта заўважыў і сказаў:

— У нас так цісНуць руку сябру, давай будзем сябраваць... Алеся Салагуба ведаеш? Гэта мой блізкі сябар. Мы на адной кватэры з ім жывём. Прыходзь да нас у госці...

Я няёмка падзякаваў за шчырасць і даў яму свой адрас.

Так пачалося маё знаёмства з Валянцінам Таўлаем.

Валянцін стаў частым наведвальнікам нашай рэдакцыі. Часам ён прыносіў вершы і чытаў іх, а больш за ўсё расказваў нам навіны, атрыманыя з Польшчы і Заходняй Беларусі. Працуючы ў рэдакцыі «Звязды», ён у той жа час быў звязаны з прадстаўніцтвам камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, якое разам з камуністычнай партыяй Польшчы ўваходзіла ў састаў секцыі Камінтэрна. Яму заўсёды было пра што нам расказаць.

10 мая 1931 года Валянцін Таўлай быў прыняты ў члены Беларускага аб'яднання пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП). Як ён тады радаваўся! Якое задавальненне і радасць адчувалі таксама і мы, чырвоназменаўцы! Гэта было наша агульнае вялікае свята.

Сярод работнікаў «Чырвонай змены» Валянцін Таўлай адчуваў сябе. як у роднай сям'і. У той час ледзь не ў кожным нумары газеты змяшчаліся матэрыялы пра жыццё і барацьбу працоўных у Заходняй Беларусі. Акрамя таго, раз у месяц газета выдавала літаратурную старонку. Некалькі такіх старонак падрыхтавалі Валянцін Таўлай з Алесем Салагубам. У 1931 годзе на старонках «Чырвонай змены» быў апублікаваны шэраг вершаў В. Таўлая, нарыс «Вінтоўкі не будуць маўчаць» і іншыя матэрыялы.

Якім жа чынам у тыя суровыя гады шаснаццацігадовы Валянцін Таўлай апынуўся ў Савецкай Беларусі?

Я даўно збіраўся напісаць пра гэта.

Жыццё, як вядома, не песціла Таўлая. Калі яму было шэсць год, бацьку яго, рабочага-чыгуначніка, польскія паны выгналі з работы толькі за тое, што ён беларус і што ў час наступлення Чырвонай Арміі ў 1920 годзе не ўцёк разам з польскімі легіёнамі на Захад, а застаўся на сваёй роднай зямлі.

Валянцін марыў, як мараць усе дзеці — аб прыгожай, шчаслівай будучыні. У сваёй дзіцячай душы ён песціў надзею атрымаць адукацыю, выйсці ў людзі. Да гэтага імкнуўся і яго бацька. Ён адмаўляў сабе ва ўсім, толькі б вывучыць сына. Нарэшце яму ўдалося ўладкаваць хлопчыка ў польскую настаўніцкую семінарыю. «Чаго ж яшчэ лепш, Валянцін стане настаўнікам», — думаў бацька. Але ў семінарыі ад Валянціна патрабавалі забыць родную мову, адмовіцца ад свайго народа, стаць пакорлівым слугой акупантаў. І Валянцін вымушаны быў пакінуць вучобу ў семінарыі.

А як далей быць? Куды пайсці? Што рабіць?.. У вёсцы Рудаўка, дзе жыў тады Валянцін, узнік гурток Беларускай сялянска-рабочай грамады. Валянцінаў бацька Павел Дзям'янавіч аддаваў шмат увагі рабоце гуртка. Гэта быў перыяд уздыму нацыянальна-вызваленчага руху, бурнага росту самасвядомасці працоўных Заходняй Беларусі. У Рудаўку прыходзіла шмат розных газет, кніг; часта праводзіліся гутаркі, чыталіся лекцыі, даклады. Маленькі Валянцін разам з дарослымі чытаў газеты, кнігі, слухаў лекцыі. Гэта рабіла вялікі ўплыў на фармаванне яго свядомасці. Валянцін пачаў пісаць вершы, рыхтавацца да паступлення ў Віленскую беларускую гімназію. На гэты раз шчасце яго не пакідае — яму ўдаецца паступіць у трэці клас гімназіі.

Віленская беларуская гімназія ў той час была адным з асяродкаў нацыянальна-вызваленчага руху. Яе навучэнцы прымалі ў ім самы актыўны ўдзел. Валянцін Таўлай адразу ж далучыўся да актыўнага грамадскага жыцця. Ён уступіў у падпольную камсамольскую арганізацыю, праявіў незвычайныя здольнасці як паэт. Яго выбралі членам рэдкалегіі вучнёўскага літаратурнага часопіса «Золак», а потым — часопіса «Пралескі» і членам рэдкалегіі газеты «Вучнёўскі голас». Яго вершы змяшчаюцца ў грамадоўскіх газетах «Сіла працы» і «Воля працы».

Тым часам настае разгром Грамады. Адна за другой пасыпаліся рэпрэсіі на вучняў гімназіі. Выданні «Золак», «Пралескі», «Вучнёўскі голас»



былі забаронены, гурткі самадзейнасці закрыты, а іх кіраўнікі-камсамольцы выключаны з гімназіі і пасаджаны ў турмы.

Валянцін Таўлай адказаў на гэтыя падзеі паэмай «Неперапрамажная».

Брацця, за кратай цёмных вастрогаў,
Брацця, не падайце духам!
Вашы воклікі ўзлёту ўдалога,
Будуць лунаць завірухай, —

пісаў ён.

Паэма была прасякнута духам класавай барацьбы. Яна выйшла ў свет у той момант, калі польскі фашызм пачаў судовую расправу над Грамадой. Паэма хадзіла па руках на правах рукапісу. З канспіратыўных меркаванняў пад ёй стаяў подпіс — «Чырвоны звястун», але польскай ахранцы і рэакцыйным выкладчыкам гімназіі добра было вядома, хто яе аўтар.

У снежні 1928 года дырэктар гімназіі Радаслаў Астроўскі, каб выслужыцца перад польскімі акупантамі, выключыў з гімназіі каля 20 чалавек. Усіх іх, вядома, чакала турма. Навучэнцы пачалі абурацца, пратэставаць. Гэта быў не першы выпадак, калі Астроўскі выганяў радыкальна-настроеных гімназістаў, а паліцыя адразу ж садзіла іх у турмы. 20 снежня 1928 года была аб'яўлена забастоўка: навучэнцы патрабавалі аднаўлення выключаных з гімназіі.

Вядома, гэта было не па душы Астроўскаму. Ён загадаў неадкладна — «усім заняць месца за партамі». Навучэнцы паўтарылі сваё патрабаванне. Астроўскі выклікаў паліцыю. Пачалі біць гімназістаў, а калі і гэта не памагло, паліцыя арыштавала ўсіх выключаных, а астатніх распусціла на канікулы.

І ў паліцыі, і ў дырэктара гімназіі Астроўскага была надзея, што рэвалюцыйны запал гімназістаў за час канікул уляжацца.

Аднак гэты разлік не апраўдаўся. Пасля зімовых канікул навучэнцы вярнуліся ў гімназію з яшчэ большай рашучасцю прадаўжаць барацьбу. Камсамольская арганізацыя гімназіі прыступіла да падрыхтоўкі новага масавага выступлення. Днём для выступлення было назначана 27 лютага 1929 года. Гэтая дата была не выпадковай. 28 лютага павінна было адбыцца пасяджэнне апеляцыйнага суда, з разборам прыгавору, вынесенага акруговым судом па справе Грамады.

З ведама ЦК КПЗБ і ЦК КСМ ЗБ намечана было арганізаваць аднадзённую забастоўку і ў гімназіі. Для падрыхтоўкі і кіраўніцтва ёй была выбрана спецыяльная «тройка», у склад якой увайшлі: Валянцін Таўлай, Юрка Тарасюк і Мікалай Гаўрылюк. Усе яны былі камсамольцы і карысталіся вялікім аўтарытэтам сярод моладзі. «Мы рыхтаваліся да гэтага дня, — пісаў В. Таўлай, — як да генеральнага і баявога нашага выступлення. Не праходзіла дня без масоўкі, сходу, мітынга. Усе навучэнцы так моцна і здарова былі настроены, што скажы ім — ісці на барыкады, і яны абавязкова пайшлі б».

**Аўтограф Валянціна Таўлая.**

Настала 28-ае лютага... Усюды чуліся рэвалюцыйныя песні, грымела «ўра» пасля выступленняў прамоўцаў-гімназістаў, якія патрабавалі свабоды грамадаўцам і аднаўлення ў правах усіх выключаных з гімназіі. І зноў Астроўскі выклікаў паліцыю. Па яго ўказцы «тройка» арганізатараў забастоўкі была арыштавана і кінута ў турму. Але арыштаваных адразу ж замянілі іншыя навучэнцы, і барацьба працягвалася. Баявы настрой не падаў, а наадварот, узрастаў. Нават пасіўныя ўключаліся ў забастоўку. Тады паліцыя выдала загад — закрыць гімназію.

Прывезлі па этапу дамоў і здалі бацькам пад распіску і арганізатараў забастоўкі — Валянціна і яго таварышаў. Разлік у паліцыі быў просты: пры дапамозе бацькоў унушыць гімназістам страх і паслухмянасць перад акупантамі. Але такая мера пакарання нічога не значыла для «Бунтара». Астроўскі і паліцыя гэта добра разумелі. Таму за Таўлаем быў устаноўлены нагляд. Кожны яго крок быў вядомы паліцыі.

І ўсё ж «Бунтар» ухітрыўся адразу ж пасля вяртання ў сваю Рудаўку ўстанавіць сувязь са Слонімскім райкомам камсамола. На першым пасяджэнні яго ўвялі ў склад райкома, зрабілі сакратаром Азерніцкага падраёна, які ахопліваў больш чым 20 вёсак. Там былі камсамольскія ячэйкі, але працавалі яны слаба. «Бунтар» наладзіў работу гэтых камсамольскіх ячэек, ледзь не ў кожнай вёсцы стварыў групы піянераў. Ён паспеў таксама пабываць у Навагрудку і ўстанавіць там сувязі з камсамольскай арганізацыяй і гімназістамі.

Паўгода паліцэйскія шпікі ганяліся за «Бунтаром» і ніяк не маглі натрапіць на яго след. 28 жніўня 1929 года пры дапамозе правакатара Мароза Валянцін Таўлай быў арыштаваны. Гэтым разам ахранка яго не пашкадавала. Прыйшлося расплачвацца і за паэму «Непераможная», і за выступленні ў Віленскай гімназіі. «Бунтар» стойка і мужна вытрымаў усе катаванні. Хоць гэта быў пятнаццацігадовы хлапчук, акупацыйныя ўлады пабаяліся трымаць яго ў слонімскай турме, а адправілі ў Гродна. Там ён дзесяць месяцаў знаходзіўся пад так званым следствам. Для таго, каб аддаць яго пад суд, не было дастатковых матэрыялаў, а выпусціць яго на волю акупанты не асмельваліся.

Толькі праз дзесяць месяцаў адбыўся суд над Таўлаем. ЦК КПЗБ выключна спачувальна аднёсся да лёсу юнака. Абараняць яго быў дамоўлены лепшы адвакат Дурач. Камедыя фашысцкага суда над Таўлаем была разыграна хітра і здрадліва: яго прыгаварылі ўсяго толькі да шасці месяцаў зняволення, хоць ён адседзеў ужо 10 месяцаў. «Бунтара» выпусцілі з турмы, але для таго, каб пасадзіць зноў на больш працяглы тэрмін: пракурор апратэставаў рашэнне акруговага гродзенскага суда. У кастрычніку 1930 года апеляцыйны суд адмяніў рашэнне акруговага суда і прыгаварыў Валянціна Таўлая да двух гадоў турэмнага зняволення.

Стан здароўя Таўлая з кожным днём горшаў. ЦК КПЗБ вырашыў выратаваць юнака ад турмы і накіраваў у Савецкі Саюз.

— Які я шчаслівы!.. Як я рад! — часта можна было пачуць у тыя дні ад Таўлая. — Падумаць жа толькі: пасля Гродзенскага астрога я працую ў «Звяздзе»! Каго толькі тут я не бачу? З кім толькі не сустракаюся?.. І з Якубам Коласам, і з Янкам Купалам, і з Міхасём Чаротам!.. Часам мне здаецца, што гэта нейкі казачны сон, а тым не менш — гэта факт... Не ведаю, не ведаю як мне дзякаваць лёс за ўсё гэта...

У Савецкім Саюзе Таўлай падлячыўся, набраў сілы, гарту і, вядома, пасталеў палітычна, павысіў сваё літаратурнае майстэрства, непазнавальна змяніўся, памужнеў. Гэта я адразу прыкмеціў, калі ў 1933 годзе, пасля нязначнага перапынку, сустрэўся з ім у Вільні.

— Не пазнаеш? — усміхаючыся, спытаў ён пры сустрэчы. — Мяне, брат, цяпер і родны бацька не адразу пазнае.

Гэта ўжо быў не той нясмелы хлапчук, з якім я сустракаўся ў Мінску, а дужы, у росквіце сваіх маладых сіл юнак, праўда, усе такі ж сціплы і патрабавальны да сябе.

У той час партыя даручыла яму вельмі пачэсную і адказную справу: наладзіць выданне ў Вільні легальнай партыйнай газеты. Да гонару яго трэба сказаць, што «Беларуская газета» з кожным нумарам прыносіла нам, падпольшчыкам, усё больш радасці і задавальнення. Яна асвятляла на сваіх старонках самыя надзённыя пытанні жыцця працоўных Заходняй Беларусі, смела і рашуча зрывала маску з акупантаў і іх паслугачоў — беларускіх нацыяналістаў.

Голас «Беларускай газеты» быў чутны ў самых далёкіх і глухіх кутках. За кароткі час яна стала любімай і аўтарытэтнай газетай працоўных Заходняй Беларусі. У яе пісалі сяляне з самых далёкіх куткоў Палесся, Віленшчыны, Гродзеншчыны, на яе выданне стыхійна збіраліся грошы. Звычайна яна перадавалася з рук у рукі і чыталася да таго часу, пакуль не развальвалася на кавалкі.

Вакол «Беларускай газеты» В. Таўлаю ўдалося арганізаваць значную частку беларускай інтэлігенцыі. Маладыя пісьменнікі цягнуліся да яе, як расліна да святла. У газеце часта друкаваліся «Літаратурныя старонкі». Гэта было вялікім укладам і ў гісторыю рэвалюцыйнай заходнебеларускай літаратуры, і ў гісторыю рэвалюцыйнага нацыянальна-вызваленчага руху.

Супраць «Беларускай газеты» ўзняліся адзіным фронтам польскія акупанты і беларускія нацыяналісты. Радаслаў Астроўскі і ксёндз Станкевіч у сваіх выданнях «Беларуская крыніца» і «Родны край» пачалі на ўсе лады трубіць, што «Беларуская газета» — легальны орган камуністаў, што выданне такой газеты пагражае «магутнасці і незалежнасці Польшчы». «Беларуская газета» была закрыта.

Ішлі гады. Адгрымела вайна... У лютым 1946 года я зноў сустрэў Валянціна Таўлая. Сустрэў нечакана ў Мінску ля трамвайнага прыпынку на пустой тады Савецкай вуліцы. Не верачы самім сабе, мы доўга мерылі адзін аднаго вачыма з ног да галавы, а потым кінуліся абдымацца.

— Дык, значыцца, жывём?.. І ўсё яшчэ сустракаемся?!. На зло ўсім чарцям і смярцям! — радасна гаварыў Валянцін.

Ва ўспамінах праплылі дні цяжкіх перажыванняў... Уявілася дарога з Вільні да польска-савецкай граніцы ў 1934 годзе... Арышт на граніцы... турма, суд. Незабыўны 1939 год... Свабода!.. Нарэшце, доўгачаканая свабода! І — о, жах!.. Адчужанасць, недавер, як да былога актыўнага работніка КПЗБ, чалавека які знаўся з Алесем Салагубам, з былым беларускім паслом у Польскі сейм Мятлой... і іншымі рэпрэсіраванымі ў перыяд культу асобы людзьмі. Потым вайна... Партызаны... Арышт... Гестапа... Турма... Колькі трэба было перацярпець, перажыць, калі свае не давяраюць, а ворагі катуюць, здзекуюцца...

— Прыйшлося, брат, чашу горычы, крыўды і болю выпіць да дна — і за сваю нейкую бесклапотнасць, і за лёгкадумнасць сяброў, — уздыхнуў Валянцін і адвёў вочы, каб схаваць няпрошаную слязу. — Але нічога!.. Мы яшчэ сваё возьмем! — узняўшы галаву, ужо з усмешкай сказаў на развітанне.

І гэтае «Мы яшчэ свае возьмем!» — і сёння гучыць для мяне, як неўміручы радок незакончанай паэмы.

**Сяргей АНІСАЎ.**

...У 1912 годзе рускай кінематаграфічнай фірме «Тыман, Рэйнгард, Осіпаў і К°» было прад'яўлена судовае абвінавачанне з боку француза Жазэфа Рэно пасля таго, як ён паглядзеў фільм, зроблены па яго апавяданню «Дзіўны заклад». Фірме пагражаў вялікі штраф і выплата ганарару аўтару. Але тут умяшаліся юрысты, якія добра ведалі рускую літаратуру, і павярнулі справу ў зусім іншы кірунак.

Было выяўлена, што ў 1889 годзе газета «Новое время» надрукавала апавяданне А. П. Чэхава «Казка», якое ў 1901 годзе ўвайшло ў збор твораў пісьменніка пад назвай «Заклад». Сюжэт яго такі: малады юрыст (госць банкіра) ідзе ў заклад, што прасядзіць год у адзіночным зняволенні. І ўсё складваецца так, што малады чалавек павінен выйграць заклад. Але ў апошнія хвіліны, якія адбывае ў зняволенні юрыст, прыходзіць у турму банкір, каб забіць юрыста і тым самым выратаваць сябе ад разарэння.

Неўзабаве следчыя выявілі, што сюжэт апавядання Жазэфа Рэно «Дзіўны заклад», па якім быў пастаўлены фільм, узяты з Чэхава. Розніца была толькі ў тым, што банкір быў заменены фабрыкантам, які прыходзіць забіваць сваю ахвяру не ў «апошнія хвіліны», а роўна за сорак хвілін да заканчэння тэрміну зняволення.

Так добрае веданне літаратуры памагло выратаваць гонар фірмы, а істца пасадзіць на лаву падсудных за плагіятарства.

...У час манеўраў перад першай сусветнай вайной да вядомага цяпер вучонага і вынаходцы ў галіне радыё, а тады слухача электратэхнічнай школы М. А. Бонч-Бруевіча пад'ехаў блізкі да Мікалая II камендант Царскасельскага палаца Ваейкаў і, разглядаючы радыёстанцыю, спытаў:

— Што гэта такое?

Карыстацца радыёсувяззю ў войсках толькі яшчэ пачыналі, і прыдворны генерал, калі і чуў пра яе, дык толькі краем вуха. Яму адказалі, што перад ім палявая корпусная радыёстанцыя магутнасцю ў два кілаваты.

— Кіло, вата... — імкнучыся зразумець, што гэта такое, паўтарыў Ваейкаў.

— Так точна, кіло ваты! — сцвердзіў Бонч-Бруевіч.

Ваейкаў шматзначна памаўчаў, кіўнуў на мачту і, жадаючы паказаць, што і ён тое-сёе ведае, спытаў:

— А гэта што? Анатэма?

Антэну ён зблытаў з «Анатэмай» — п'есай вядомага ў той час драматурга. Але смяяцца над невуцтвам прыдворнага не можна было. Бонч-Бруевіч, пераканаўшыся ўжо, што Ваейкаў нічагусенькі не разумее, зноў пацвердзіў:

— Яна самая, анатэма!..

— Э... скажыце, — пытаўся далей Ваейкаў, — а гэты... радый... ён таксама наверсе?..

— Так, наверсе анатэмы, у маленькай скрыначцы! — бадзёра адрапартаваў Бонч-Бруевіч.

Царадворац быў задаволены сваімі ведамі ў галіне радыёсувязі.

## ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ

***У наступным нумары нашага часопіса — новы аддзел: ФОТАКЛУБ „МАЛАДОСЦЬ“.***

**У гэтым аддзеле — кансультацыі і парады спецыялістаў па здымках фотааматараў, дыскусіі, тэматычныя конкурсы, практычныя парады.**

**ТАВАРЫШЫ ФОТААМАТАРЫ,**

**чакаем вас у госці да нас у ФОТАКЛУБ.**

КНІГІ І ЧАС

# МАЦНЕЙ ЗА СМЕРЦЬ

**«Мацней за смерць». На рускай мове. Дзяржпалітвыдавецтва. Масква, 1963 г.**




Гэтая кніга расказвае пра мужнасць савецкіх людзей, якія ў час Вялікай Айчыннай вайны трапілі за калючы дрот фашысцкіх канцлагераў. Яна складаецца з успамінаў былых вязняў, фатаграфій, ліставак і іншых дакументаў, якія расказваюць пра падпольную барацьбу людзей, асуджаных на смерць. Знясіленыя катаваннямі, голадам і пакутамі, савецкія ваеннапалонныя не толькі не перасталі быць людзьмі, не толькі не страцілі высокай чалавечай годнасці, але прайшлі праз страшэннае пекла бяспрыкладна стойкімі барацьбітамі, калектывістамі і інтэрнацыяналістамі.

Канцлагер. Баракі на пясчаным пустыры. Калючы дрот, праз які прапушчаны электрычны ток. Вышкі з кулямётамі вартаўнікоў. Дужыя нямецкія аўчаркі... Ці магчыма тут якое-небудзь супраціўленне бяззбройных і знясіленых людзей? Аказваецца магчыма, калі там знаходзяцца нязломныя змагары за справядлівую справу. У кнізе расказваецца, як вязні канцлагера стваралі антыфашысцкія камітэты, камітэты супраціўлення, рэдкалегіі падпольных часопісаў і газет, выпускалі палымяныя лістоўкі. Савецкія людзі, камуністы і камсамольцы былі першыя з першых, хто арганізоўваў і згуртоўваў вязняў, узнімаў іх баявы дух, рыхтаваў да перамогі і паўстанняў.

Групы супраціўлення дзе пайкай хлеба, дзе міскай баланды, а дзе і таблеткай стрэптацыду выручалі найбольш слабых таварышаў, падтрымлівалі іх сілы, каб дажыць да вызвалення або ўцячы, быць гатовымі ўліцца ў партызанскія атрады або франтавыя часці.

Глыбока кранаюць тыя старонкі кнігі, дзе паказваецца баявая салідарнасць людзей, дружба і сяброўства, што звязалі навечна рускага і француза, англічаніна і беларуса, чэха і паляка... Зеп Хаан з Берліна піша, што, нягледзячы на гебельсаўскую расісцкую прапаганду, пралетарскі інтэрнацыяналізм вытрымаў выпрабаванне агнём. У гэтым заслуга камуні-

стычных і рабочых партый Еўропы, і перш за ўсё ленінскай КПСС. Выхаваныя ў суровых класавых баях, камуністы, абапіраючыся на таварыскасць і ўзаемадапамогу, давалі арганізаваны адпор фашысцкім забойцам. Фашысты сабралі ў канцлагерах Германіі шмат камуністаў і антыфашыстаў усіх еўрапейскіх краін. Гэта была магутная сіла, якую яны недаацанілі.

У канцэнтрацыйны лагер, пра які расказвае ў сваім дзённіку галандзец Ніка Рост, побач з ваеннапалоннымі трапілі дзеці. У запісе ад 6 лістапада 1944 года чытаем пра двух савецкіх хлопчыкаў:

«Доўга размаўлялі з нашымі двума маленькімі рускімі, хоць яны яшчэ не вельмі добра разумеюць па-нямецку... Васілю — адзінаццаць, Пятрову — трынаццаць гадоў. Абодва ўжо два гады ў канцлагеры... Раніцай яны часта гуляюць у хованкі паміж мёртвымі, выцягнутымі з пакояў на вуліцу. Калі я спытаў у Васіля, ці хоча ён паехаць са мной пасля вайны ў Галандыю, ён, пагардліва пацінуў плячыма, адказаў коратка і ясна: «Галандыя? Галандыя? Не, Савецкі Саюз!» Ён сказаў гэта так, быццам Галандыя нейкая дзікая мясцовасць. Ён быў пераканаНы, што на яго радзіме лепш, чым дзе б там ні было ва ўсім свеце... Едзь на сваю Украіну, дружа Васіль! Ты правы, ганарыся Савецкім Саюзам, які можа даць табе больш, чым любая іншая краіна. І калі будзе магчымасць, я прыеду калі-небудзь наведаць цябе...»

Нягледзячы на жудасныя ўмовы, у якіх знаходзіліся вязні, яны заставаліся людзьмі ў высокім сэнсе гэтага слова, цягнуліся да мастацтва, літаратуры, пісалі песні, складалі вершы, чыталі кнігі. У канцлагерах сядзелі мастакі і прафесіянальныя артысты, якія падбадзёрвалі зняволеных, выхоўвалі волю і цвёрдасць духу, нянавісць да ворага. У лагеры знаходзіўся выдатны галандскі мастак Генры Пак. Ён ператварыў сваё мастацтва ў зброю. Нярэдка на вачах ў соцень зняволеных ён маляваў вугалем карціны. На адной з іх ён малюе чалавека, якога заганяюць у канцлагер. З яго здзіраюць паліто, надзяваюць паласаты мяшок. Падпразаны вяроўкай, ён калупае зямлю кіркай. У часе кароткага адпачынку з'ядае кавалачак хлеба, баючыся, каб не ўпала ні адна крошка. Потым засынае і сніць, нібыта вярнуўся дадому, да жонкі, да дзяцей. Гэта абуджае ў яго прагу да жыцця, імкненне вытрымаць усе выпрабаванні.

Кожны са зняволеных марыў уцячы з канцлагера. Многім гэта ўдавалася. Колькасць уцёкаў расла з году ў год, з дня ў дзень. Тыя з уцекачоў, каму ўдалося прабіцца ў нейтральную Швейцарыю, з удзячнасцю ўспаміналі потым бібліятэку вядомага вучонага і знаўцы кніг Н. А. Рубакіна, які ўцёк з Расіі ў 1905 годзе і пасяліўся ў Швейцарыі. Бібліятэкай Рубакіна карысталіся ў свой час Ленін і Крупская, Луначарскі і Калантай, Вера Фігнер і Ралан. У гады другой сусветнай вайны бібліятэка разгарнула шырокую дзейнасць па прапагандзе савецкай літаратуры. Цікавыя вытрымкі з пісьмаў былых вязняў канцлагераў Н. А. Рубакіну прыводзіць у сваіх успамінах яго сын А. Рубакін: «...Усе мы імкнемся да навукі, культуры і творчай дзейнасці. Але, прайшоўшы палон, ...мы страцілі прывычку займацца, чытаць сур'ёзныя кнігі, вывучаць мовы...», «Не пасылайце мне кніг, якія напамінаюць гэтую праклятую вайну. Прышліце раман, які рассеяў бы тое, што сабралася ў галаве за два гады вайны...» Такія пісьмы ішлі спачатку. Але з цягам часу характар перапіскі мяняўся. «...Паступова пераходжу да дыферэнцыялаў, пра якія больш або менш забыўся. Я раблю невялікія вылічэнні і прывучаю сябе да сістэматычнай работы. Праз некаторы час перажытае пачне блекнуць, і ўсе мы адновім творчую працу. Людзі, якія ваявалі, праявяць гераізм, упартасць і энтузіязм, каб садзейнічаць росквіту сваёй краіны».

Вось ён які, савецкі чалавек! Не паспеў яшчэ ачуняць ад велізарных узрушэнняў, а ўжо думае аб тым, што зрабіць, каб яго радзіма хутчэй залячыла свае раны і стала яшчэ багацейшая і прыгажэйшая.



Сёння, калі імперыялісты Захаду гатовы развязаць новую, яшчэ больш жудасную, тэрмаядзерную вайну, усім міралюбівым людзям свету асабліва зразумелыя і блізкія словы М. С. Хрушчова: «Мы лічым вельмі важным стварыць ва ўсіх краінах атмасферу нецярпімасці да ўсякіх спроб адраджэння мілітарызму і нацызму. Неабходна, каб моладзь, якая не перажыла на ўласным вопыце, што такое вайна і канцлагеры, вучылася на прыкладзе Маутхаузена чытаць крывавыя старонкі злачынстваў нацызму, вучылася адрозніваць сяброў і ворагаў міру».

Кніга «Мацней за смерць» вучыць ненавідзець фашызм і вайну, паказвае непераможную сілу пралетарскага інтэрнацыяналізму, кліча на барацьбу за мір на зямлі.

**Леў СМІЛАВІЦКІ.**

# ВЕЧНАЕ, ЧАЛАВЕЧНАЕ

**Юрась Свірка. Вечнасць. Вершы. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Мінск, 1963 г.**

Мне прыгадваецца адзін літаратурны вечар, які праходзіў на філалагічным факультэце некалькі гадоў таму назад. Юрась Свірка, тады яшчэ студэнт універсітэта, чытаў:

Ходзіць лагчынай
Хлопец з дзяўчынай,
Туліць, мілуе,
Моцна цалуе,
— Любы, не трэба:
Сонца ж на небе,
Любы, не будзем:
Бачаць нас людзі...
Хлопец не чуе —
Хлопец цалуе.




Верш гэты, помніцца, многім падабаўся. Аднак былі і такія — і ці не большасць іх, — каго ўсхвалявалі іншыя радкі:

Ты думаеш, што не люблю цябе,
Бо цэлы год не цалаваў ні разу.
Харошая, мне цяжка так цяпер,
Што мы з табою быць
не можам разам.
Не вер нікому, на хваробу плюнь,
А я яе перамагу,
цяжкую.
Харошая, цябе я так
люблю,
Ад гэтага, магчыма,
не цалую.

З таго напаўзабытага літаратурнага вечара гэтыя два вершы прыгадаліся мне таму, што яны як нельга лепш паказваюць не толькі разнапланавасць, рознастылёвасць першага зборніка Юрася Свіркі «Шэпчуцца ліўні», але і напрамак далейшых пошукаў паэта.

Юрась Свірка — паэт-лірык, надзвычай чалавечны, з зайздроснай цэласнасцю светаўспрымання. За лірычным героем яго вершаў лёгка можна ўбачыць самога паэта, з яго нялёгкім лёсам, з яго радасцямі і трывогамі, душэўнымі пакутамі і хваляваннямі. Гэта яго дзяцінства было пакалечана «бомбаю варожай», гэта па ім пяць гадоў страляла вайна «тыфам, і бладаю, і голадам». І можа таму,

што паэт так даверліва паставіўся да свайго асабістага жыццёвага вопыту, ён здолеў стварыць паэтычную біяграфію свайго пакалення, дзяцінства ў якога забрала вайна.

Усё тое, што было пражыта ў вайну, пакінула нязгойныя раны ў душы паэта, у многім абумовіўшы і тэматыку яго вершаў, і спецыфіку паэтычнага ўспрымання навакольнай рэчаіснасці.

Вершаў, звязаных тэматычна з часам вайны, шмат і ў другім зборніку паэта. Гэта — «Балада аб камуністах», «Конь памалу ішоў...», «Партызанская тужурка», «Яны ж тут хадзілі», «Удовы помнік абыходзяць», «Ля помніка Люсі Чалоўскай у Барысаве» і іншыя. Многія з іх вылучаюцца глыбінёю думкі, свежасцю мастацкіх фарбаў.

Вось верш «У старой крэпасці». Свяшчэнныя руіны жывуць успамінам пра вайну, пра цяжкі бой, у якім палеглі абаронцы крэпасці. Гэта толькі здаецца, што тут ціха, —

А пясок пабяжыць са сцяны —
Быццам зноўку ударылі кулі.
Мусіць, вечна прабоінам ныць,
Што гарачых асколкаў
глынулі.

Нават хлапчукі, якія гуляюць у вайну, «палахліва на крэпасць глядзяць» і не адважваюцца да яе падыходзіць. І нейкае стрыманае хваляванне гучыць у словах паэта, звернутых да дзяцей:

Падыходзьце,
Не бойцеся:
Гэта не кулі ляцяць —
Аблюбоўваюць гнёзды восы.

Удала знойдзеная мастацкая дэталь — восы, што аблюбоўваюць сабе гнёзды ў сценах старой крэпасці, — як нельга лепш уплятаецца ў агульную канву верша, па асацыяцыі выклікаючы ў памяці тыя часы, калі і людзей, і нямыя муры джалілі іншыя, смяртэльныя «восы». Такая «скразная» асацыятыўнасць надае вершу кампазіцыйную стройнасць і завершанасць.

Скразною ў новым зборніку паэта праходзіць думка аб сувязі і пераемнасці гераічнага пакалення ваенных гадоў і пакалення моладзі нашых дзён. Лірычнаму герою новай кніжкі паэта здаецца, што яго сябры, падпольшчыкі-камсамольцы, нават і сёння, з далечыні гадоў, «пільна цікуюць» за ім, і ён шчыра гаворыць:

Давайце любое заданне,
А я вас ніколі не выдам.

Ці вось вобраз смелай разведчыцы Люсі Чалоўскай. Хоць яе больш за дваццаць гадоў таму назад фашысты закатавалі на плошчы ў Барысаве, але і сёння «ў лясах за Бярозай не гаснуць кастры», быццам хтосьці «ў лясным гушчары» чакае дзяўчыну з разведкі.

Магчыма, з тых ваенных часоў, калі шаты беларускіх соснаў замянялі людзям хаты, і зарадзілася ў душы паэта любоў да роднай прыроды, якая адчуваецца ў многіх яго лепшых вершах: «Сасннякі мяне не пазнаюць», «...Зноў санная дарога перамулена», «Так было б...», «Так даўней насыпалі курганы» і іншыя.

Ступенню блізкасці да прыроды правяраецца ў паэта і сама вартасць чалавека.

Ты жывеш між лясоў
І не чуеш, як стынуць дубы,
І не бачыш,
Калі зацвітаюць суніцы.
Ты не чуеш,
Як лезуць з-пад моху грыбы
І як ціха звіняць крыніцы, —

з горыччу дакарае сваю сяброўку лірычны герой верша «Я не веру» і шчыра прызнаецца:

Не крыўдуй на мяне,
Я нічога табе не скажу,
Не змагу пакахаць я навечна
такую,
(Хаця, можа, як ты —
не знайсці прыгажунь):
Ты ж нічога не бачыш!
Ты ж нічога не чуеш!

Каханне, — сцвярджае сваімі вершамі паэт, — гэта не клятвы з эфектнымі жэстамі, а глыбокае «зямное», чалавечае пачуццё, якое будзіць веру ў жыццё, у сябе, у таго адзінага чалавека, што заўсёды жыве ў тваім сэрцы. Гэтая думка хораша выказана ў адным з лепшых вершаў зборніка — «Калі скрышыла бурай карабель», творы, які ўражвае вялікай праўдай пачуцця і нейкай асаблівай прасветленасцю.

Лепшыя вершы Юрася Свіркі даюць падставу меркаваць пра яго арыгінальнае мастацкае бачанне свету, пра некаторыя рысы індывідуальнага стылю, што асабліва выявіліся ў другім зборніку. Паэт і сёння часам зірне на свет вачыма, якія бачылі вайну. І таму ў яго вясна «рашуча промнявымі кулямі абрэзала зімовыя шляхі», а дарогі «сасоннік схапілі ў вілку».

Успомнім, што і ў першай кніжцы Юрася Свіркі след ад лыжаў сінеў, «як два рубцы», раны на дрэвах параўноўваліся з ранамі на чалавечым целе. І тым не менш, гэтая «балючасць» светаўспрымання, якая часам назіраецца ў паэта, не мае нічога агульнага з хваравітасцю, што вядзе да песімізму. Вялікая чалавечнасць паэта прымушае верыць яму не толькі ў радасці, але і ў хвіліны смутку, тугі, болю.

Верш Юрася Свіркі просты, ясны па думцы, празрысты. Але яму часам нестае арганічнага спалучэння думкі і пачуцця («Нашчадкам», «Сланечнік», «Ужо другія суткі валіць снег»).

Дзе-нідзе паэту нестае яшчэ добрага мастацкага густу. Апавядаючы пра гераічную гібель камуністаў у вобразах яркіх і запамінальных («Балада аб камуністах»), паэт пачынае «ўдакладняць»: «тут былі хлебаробы, плытагоны, шахцёры, лесарубы, машыністы...» Такая інфармацыйнасць зніжае мастацкую вартасць верша.

З верша «Партызанская тужурка» перад намі паўстае вобраз удавы-партызанкі, якая зберагла напамяць сыну бацькаву тужурку. Паэт гаворыць:

Распрамляе тужурку сын,
А хто маці маршчыны
расправіць?

Думка надта прасталінейная, нават з нейкай патугай на сентыментальнасць.

У Ю. Свіркі часам наглядаецца парушэнне логікі мастацкага вобраза. У вершы «Жураўлі», напрыклад, пра восень сказана: «радочкам ляжаць на імху журавіны — то восень паказвае кончыкі пальцаў». Не станем спрачацца, ці вытрымлівае гэты вобраз крытыку з эстэтычнага боку. Але вось у наступнай страфе верша журавіны здаюцца паэту ўжо не «кончыкамі пальцаў» восені, а... вугалькамі. Такім чынам адзін вобраз «перакрэслівае» другі.

І ўсё ж сваімі лепшымі вершамі Юрась Свірка сцвердзіў, што ён сваёю дарогай ідзе да паэтычнай сталасці. Ідзе са сваёю думкай аб жыцці, чалавеку, аб вечнасці, неўміручасці подзвігу ў імя светлай будучыні чалавецтва.

**Вечаслаў РАГОЙША.**

# ПОШУКІ ДАЮЦЬ ПЛЁН

**Уладзімір Дамашэвіч. Між двух агнёў. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1963 г.**

«Чалавек па натуры сваёй — шукальнік. Цягне яго невядомае і новае, таемнае і нязведанае». Так пачынаецца аповесць маладога празаіка Уладзіміра Дамашэвіча «Між двух агнёў». Аўтар імкнецца знайсці тое запаветнае слова, якое ўзрушвала б чалавека, будзіла яго думку. Гэта асабліва відавочна, калі параўнаць першы зборнік апавяданняў У. Дамашэвіча «Заклінаю ад кулі», з другой яго кнігай — «Між двух агнёў».

У першай кніжцы аўтар імкнуўся праз складанасць лёсу сваіх герояў паказаць складанасць мараль-

нага станаўлення чалавека, складанасць жыцця. Але «імкнуўся» зусім не азначае, што гэта яму заўсёды ўдавалася. Расцягнутасць, перагружанасць цікавымі, але непатрэбнымі з пункту гледжання адзінства твора дэталямі адчуваецца ва ўсіх апавяданнях першага зборніка.



І разам з тым, не ўсё ў першых творах маладога пісьменніка блага. Жывая іскра таленту часам прабіваецца тут досыць выразна. Уменне акрэсліць характары персанажаў прыкметна ў апавяданнях «Першыя зярняты», «Звяруга» і некаторых іншых.

Схільнасць да незвычайных сітуацый, у якіх рэзка выяўляюцца станоўчыя або адмоўныя якасці персанажаў, — адметная рыса апавяданняў У. Дамашэвіча. Пісьменнік імкнецца раскрыць складаныя, супярэчлівыя перажыванні герояў. Мастацкі стыль Дамашэвіча — аналітычны, яму ўласцівы роздум аб жыццёвых дарогах чалавека, часта не гладкіх і не простых.

Гэтыя плённыя рысы таленту празаіка, якія ў першых апавяданнях толькі прабіваліся праз шматлікія напластаванні апісальніцтва, больш выразна і стала акрэсліліся ў другой кніжцы «Між двух агнёў».

Учытваешся ў апавяданне «Дзявочая клятва», і непадробны сум, пачуццё пратэсту супраць несправядлівасці агортваюць душу. У апавяданні пададзена гісторыя няспраўджанага кахання Адася і Гэлі. Раскрываючы іх узаемаадносіны, погляды на жыццё, аўтар паказвае незайздросны лёс беларускай беднаты пад прыгнётам былой панскай Польшчы. Асабісты канфлікт паміж закаханымі перакана́ўча тлумачыцца сацыяльнымі прычынамі, бо менавіта страшэнная беднасць паўставала неадольнай перашкодай на шляху ўзаемнага шчасця маладых людзей. Адась «служыў не ў аднаго пана і навучыўся распазнаваць іх нутро». Ён часта гаварыў Гэлі «аб несправядлівасці ладу, аб беднасці і багацці». Жыць сумленна, працаваць, быць разам з любімай, дзяліць з ёю і радасць і гора — такія маральныя прынцыпы Адася.

Не так думала Гэля. Яна горача кахала Адася, але збаялася беднасці.

У аўтарскую задачу не ўваходзіла асуджэнне паводзін гераіні. Пісьменнік паставіў сваёю мэтай — паказаць сацыяльныя вытокі трагічнай супярэчнасці паміж натуральным імкненнем чалавека да шчасця і ўмовамі жыцця, якія калечаць чалавечую душу.

Пра тое, як чалавек шукаў сваё шчасце, расказвае і апавяданне «Ключ да шчасця». Цяжка жылося Янку Скрыбу ў былой Заходняй Беларусі. Беднасць хадзіла за ім, як цень. Саматужнае рамяство не давала прыбытку. Перабіраючы ў памяці сваё жыццё, Янка пераконваўся, што «так далей жыць нельга, трэба нешта мяняць». Нарэшце, ён вырашыў стаць фальшываманетчыкам — іншыя дарогі ў жыцці для яго былі закрыты. Але падробленыя грошы, якія Янка лічыў ключом да шчасця, прынеслі яму толькі пакуты ў паліцэйскім засценку. Глыбокае расчараванне ў ілюзорнай мары зрабіла героя зусім іншым чалавекам. Блытаная сцежка засталася далёка ззаду. У чытача не ўзнікае сумнення, што Янка Скрыба пойдзе па шляху барацьбы з праклятым панскім ладам. Адмаўленне сацыяльнага ладу, які прыгнятае народ, духоўнае станаўленне працоўнага чалавека — вось асноўныя праблемы апавядання «Ключ да шчасця».

Маральна-этычная тэма лягла і ў аснову апавядання «Я шукаю бацьку». Герой яго — таксама выхадзец з былой Заходняй Беларусі, але дзеянне твора адбываецца ў наш час.

Задума ў пісьменніка была добрая — паказаць выхаванне маладога салдата ў мірны час. Але ствараецца ўражанне, што гэты твор нібы трапіў у другую кнігу У. Дамашэвіча з яго першай кнігі: настолькі выразна праявіліся ў ім



слабыя бакі першых апавяданняў пісьменніка. «Я шукаю бацьку» — апавяданне надуманае, апісальнае, канфлікт яго спрошчаны. Паводзіны героя, радавога Пальчыка, які быў акуратным, дысцыплінаваным байцом, а потым ператварыўся ў звычайнага шалапута ці нават хулігана, матываваны неперакана́ўча. Стандартнай атрымалася і канцоўка твора: маёр Кацуба, якога Пальчык прыняў за бацьку, «перавыхоўвае» салдата агульнымі, нейкімі сцёртымі словамі. «Добра, таварыш Пальчык, — гаворыць ён. — Добра, што ты прызнаў сваю віну... Але я хачу прызнацца табе, што наша сённяшняя размова будзе карыснай і для мяне. Нам, камандзірам, трэба глыбей зазіраць у душу кожнага салдата, не праходзіць міма «дробных», як мы часта лічым, фактаў з асабістага жыцця кожнага чалавека». Размова гэтая займае аж восем старонак апавядання і не нясе ў сабе ніякага эмацыянальнага зараду.

Той факт, што У. Дамашэвіч і ў другім зборніку ўдзяляе пільную ўвагу жыццю і побыту былой Заходняй Беларусі, натуральны і заканамерны. Аўтар з дзяцінства ведае, якім «салодкім» быў хлеб для чалавека працы пры панскай Польшчы. Зразумела, што бачанае, перажытае самім пісьменнікам, знаходзіць яркае адлюстраванне ў яго творах.

У творах У. Дамашэвіча адчуваецца арганічная сувязь сучаснага і мінулага. Калі пісьменнік апавядае пра неўладкаванасць жыцця простых людзей у гады панавання буржуазіі, ён тым самым неяк падкрэслівае шырыню далягляду, якія адкрыліся перад чалавекам пры савецкай уладзе. Героі апавядання «Характво душы» — сціплыя, працавітыя, чыстыя сэрцам людзі. Знявечаны на вайне, пакінуты лёгкадумнай жонкаю, Шумейка знаходзіць у сабе сілы застацца ў баявым страі будаўнікоў камунізма. Ён не толькі працуе, вучыцца. З Галінай, добрай і слаўнай жанчынай, яны пабудавалі шчаслівую сям'ю, цешацца светлаю доляй сваіх дзяцей. «Гэтыя людзі, думаў я сам сабе, — разважае адзін з герояў, ад імя якога вядзецца апавяданне, — носяць за звычайнай будзённасцю вялікае характво душы, якога не змог вытравіць бязлітасны агонь вайны. Вось яны нібы падзяліліся гэтым скарбам са мною, і я адчуў сябе другім чалавекам». Дзяліцца характвом сваёй душы з другімі — адзнакі нашага часу, і гэта хораша перададзена ў апавяданні.

Аповесць «Між двух агнёў» прысвечана падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Праўдзіва адлюстроўваючы нядаўняе мінулае, пісьменнік глядзіць на яго вачыма нашага сучасніка.

Імкнучыся паказаць складанасць жыцця народа ў часы акупацыі, аўтар шукае адказу на пытанне, чаму ў грозныя гады вайны адны адразу сталі на адзіна правільны шлях барацьбы з фашыстамі, а другія апынуліся «між двух агнёў» і паступова станавіліся здраднікамі.

Просты і сумленны жыццёвы шлях у гераіні аповесці Валі Калейнік. Скончыўшы падтэхнікум, яна паехала працаваць у палескую вёску Падлясейкі. Першыя ўрокі, хваляванне, дзявочыя мары, шчырае каханне, шлюб з настаўнікам Лукашыкам... Яна бачыць у жыцці толькі светлае і добрае. Як і для многіх, вайна для Валі была раптоўным і вялікім няшчасцем. Але яна мужна пераносіць разлуку з мужам і неўзабаве становіцца партызанкай. Немалыя выпрабаванні выпалі на яе долю. Катаванні ў фашысцкім засценку не зламалі яе волю. Валя памірае як сапраўдная гераіня, стойкая патрыётка.

Праўда, трэба сказаць, што інтымныя пачуцці Валі раскрываюцца неяк недастаткова перакана́ўча. Вядома, імгненная любоў да Лявона, як яна пададзена ў аповесці, верагодная. Псіхалагічна апраўданым ўяўляецца таксама сямейны разлад, бо разыходзяцца жыццёвыя дарогі Валі і Лукашыка. Але пасля ўсяго, што здарылася ў яе жыцці, Валя не магла так лёгка пакахаць другога — Сашу Нячая.

Творчым дасягненнем пісьменніка з'яўляецца і вобраз Лявона Лукашыка. Чалавек гэты разумны, цікавы, можа, крыху загадкавы. Ва ўсякім разе, аўтар не спяшаец-

ца сказаць пра яго ўсё адразу. Жыццё не песціла Лукашыка. Бацькоў яго саслалі ў Сібір у часы культу. Няўдала склалася і яго асабістае жыццё. У сям'і свайго цесця пракурора ён аказаўся чужым чалавекам. І вось Лявон Лукашык адгароджваецца ад людзей, замыкаецца ў вузкае кола непасрэдных настаўніцкіх абавязкаў. Любоў да Валі раскатурхала яго, акрыліла. Але хутка пачалася вайна, і Лукашыка ўзялі ў армію. І тут лёс яго складваецца зусім не лёгка. Грубы сяржант Букатаў і не лепшы за яго капітан Фірсаў далі яму зразумець: радавы салдат не мае права думаць і разважаць. «Падумаеш, настаўнік! — з пагардлівай грэблівасцю крычыць капітан. — Я цябе навучу парадку, мярзотнік!..» І Лукашык пачынае думаць аб тым, што «вайна калечыць усё жывое на зямлі — ад расліны да чалавека. Яна развязвае інстынкты, і перад імі розум чалавека пачынае траціць сваю сілу». Гэтыя думкі ўзніклі ў яго пасля таго, як Букатаў, ратуючы сваю скуру, пакінуў на гібель двух байцоў, такіх жа, як радавы Лукашык. Пра гэта ён хацеў расказаць капітану, але той нават не выслухаў: «Не дазволю! Слухаць загады — і выконваць! Не разважаць! Кругом, марш!»

Такі збег абставін (і сяржант грубы, і капітан не лепшы), вядома, выключны, але, відаць, аўтар і выбіраў сітуацыю, у якой найлепшым чынам выявяраліся грамадзянскія якасці, патрыятычныя пачуцці героя. Лявон Лукашык не вытрымаў выпрабаванняў ваеннага ліхалецця, спасаваў перад цяжкімі абставінамі. У. Дамашэвіч паказвае ідэйную і маральную дэградацыю свайго героя. Лукашык апынуўся «між двух агнёў». Аказаўшыся не па сваёй віне на акупіраванай тэрыторыі, ён страціў веру ў перамогу, але не мог і не хацеў служыць немцам. Крыўда на савецкую ўладу давала знаць аб сабе, але і «новы парадак» ён прыняць не мог. Няпэўнае становішча мучыла Лукашыка. Ён «адчуваў сябе такім стомленым, як стары конь пасля доўгай дарогі». Уладкаваўшыся настаўнікам у адкрытай акупантамі школе, глушачы душэўныя перажыванні самагонкай, Лукашык падаў маральна, як чалавек. Гутарка з партызанамі не пераканала яго ў тым, што ён павінен ваяваць. І гэта можа таму, што Лукашык больш думаў пра сябе, пра сваю крыўду. Апанаваны помслівымі думкамі, ён выдае Валю немцам, становіцца здраднікам. Празаік вельмі паслядоўна праводзіць ідэю: ніякія прычыны асабістага парадку, больш таго, ніякія матывы наогул не могуць апраўдаць здрадніцтва. І заслуга аўтара ў тым, што ён спрабуе псіхалагічна растлумачыць паводзіны чалавека, які апынуўся «між двух агнёў». Эгаізм, адарванасць ад калектыву, імкненне быць нейтральным, схавацца ад бурных падзей у зацішку — вось што прывяло Лукашыка да ганебнага канца.

Здрадніку Лукашыку ў аповесці супрацьстаіць не толькі Валя. Асобнымі яркімі штрыхамі пісьменнік праўдзіва намаляваў вобразы партызан — Сашы Бяссмертнага, Сандро, дзядзькі Міхаля і іншых.

Першая аповесць У. Дамашэвіча, як і лепшыя апавяданні з новай кнігі, хвалюе драматызмам падзей, змястоўнасцю характараў, удумлівым падыходам да рэчаіснасці.

Думаецца, што далейшы творчы рост пісьменніка будзе залежаць ад таго, наколькі паспяхова ён будзе пераадольваць гэтыя недахопы ў сваёй творчасці.

**Мікола ЛУФЕРАЎ.**




ZaH

MIROSLAV
ZIKMUND
A
JIŘÍ
HANZELKA

**Іржы ГАНЗЕЛКА,**
**Міраслаў ЗІКМУНД**

## СТАНЬ, ВАДА, ЗЯМЛЁЮ!

І гэта называецца — Азія, тропікі! Няхай толькі хто-небудзь адважыцца сцвярджаць, што там, за снежнымі вяршынямі, знаходзіцца пекла пад назвай Пенджаб, што за пяцьсот кіламетраў адсюль скаціна дохне ад спёкі, а чалавек ажывае, як кажан, толькі ўночы, бо ўдзень сонца высушыла б яго, як тарана.

У Кашміры сонца не асмельваецца так пячы, яно прыходзіць сюды «на дыбачках», як нявіннае дзіцятка! Ды яшчэ прымушае сябе чакаць.

І наогул у яго тут дзіўныя звычкі. Нейкія мадэрністычныя. Яно гуляе ў адлюстраванае святло, і — хочаце верце, хочаце не, — але пасля ранішняга феерверка сонейка доўга песціцца ў далінцы вунь там, за чатырохтысячаметравай вяршыняй і свеціць з зямлі ў неба! Стрэльне знізу ў воблачка, што павісла ў зеніце, — вось вам і дзень.

Раніца свежая, іскрыстая, лісты купаюцца ў маёвай расе. За акном хаусбота — плывучы кірмаш. У туманнай смузе над возерам Дал гучаць галасы гандляроў кветкамі і гароднінай — нараспеў яны ўслаўляюць піраміды памідораў, агуркоў, зялёных дынь і пладоў лотаса. Праціскаючыся паміж узбярэжжам і фронтам хаусботаў, усе яны цягнуцца на лодках — «шыкарах» — у горад, у Срынагар. І ўсе спяшаюцца. Пасля кожнага ўдару вяслом лодка быццам робіць скачок наперад: усім хочацца зранку сагрэцца і не спазніцца на базар.

---

Працяг. Гл. № 12, 1963 г.

Хто раней прыедзе, той хутчэй прадасць.

Гандляры спяшаюцца. Сонца — не. Толькі праз гадзіну яно пырсне золатам па даліне, па белых шапках гор на захадзе, выкаціцца са сваёй зямной калыскі, калі ўжо ўвесь Кашмір адпрацуе чвэрць змены. Шмыгне з-за вяршыні і нявінна ветліва ўсміхнецца: добрай раніцы!

* * *

— Салам, сахаб! Добрай раніцы! Ці не будзе сахаб так ласкавы зірнуць на цудоўныя кашмірскія шалі?

— Дзякуй, можа другім разам, бачыце, у мяне работа — я пішу!



**Рамантычнае плаванне на базар.**

— Я магу прапанаваць сахабу багаты выбар, памяркоўныя цэны, у мяне шалі ўласнага вырабу, прадаю без перакупшчыкаў...

— Дзякую, сапраўды другім разам...

— Сахабу не абавязкова купляць, няхай сахаб зробіць ласку толькі зірнуць.

Прайшло дваццаць мінут, перш чым удалося адгаварыцца.

«На чым жа гэта я спыніўся?..» — І зноў стук у дзверы.

— Дзякуй, мне нічога не трэба...

— Тонкая работа, сахаб, тыбецкія міскі, сапраўдныя каганцы з Ладакху!

Пяць мінут марнай адмовы праз зачыненыя дзверы, падобныя на дзверы ад альтанкі: драўляная рашотка з устаўленымі шыбкамі. Бяжыш да дзвярэй, каб зацягнуць занавеску: божа літасцівы! На вадзе перад верандай чарга шыкар: гандляры галаўнымі ўборамі, рознымі аздобамі і ўкрасамі з дрэва і пап'е-машэ, тытунём, гароднінай, кветкамі, рознай драбязой... Пераконваеш іх, што заняты, што працы на два тыдні, некалі купляць, шчыра шкадуеш... і на вачах ва ўсіх зачыняеш дзверы.

Але не паспяваеш дайсці да стала, як у акне, проста за пішучай машынкай, узнікае галава ў белым турбане: «Скураныя вырабы, сахаб, торбачкі, пантофлі, рамяні, кашмірская вышыўка на цялячай скуры...» Без слова зачыняеш акно на зашчапку, а ў дзвярах ужо стаіць хлапец з невялікай скрынкай пад пахай. У дзвярах тваёй уласнай спальні! Ён улез туды праз адчыненае акно проста з лодкі. «Стрыжка, галенне, сахаб, не хачу трывожыць, сахаб, кваліфікаваны масаж, сахаб».

А ў вачах — умольная просьба прабачыць... такая дзёрзкасць — праз акно! Спакойна, спакойна, не варта ўзнімаць крык — ды ты і не можаш, і рукі бяссільна апускаюцца.

Джон Котру, уласнік хаусбота, уварваўся ў пакой, як бомба. І толькі выгнаўшы ўсіх прадаўцоў адборнымі фразамі кашмірскага дыялекту, ён заступаецца за іх.

— Крызіс, сахаб, ужо трынаццаць год яны не могуць да чаго-небудзь прыкласці рукі як след. Новыя госці — новыя надзеі, зразумейце іх. У сорак шостым годзе тут было больш за тысячу хаусботаў, усё было забіта імі. Семсот згніло, трыста засталося, з іх занята трыццаць. Гэта як на каране, сахаб, чыстая праўда.

— Я веру, але мы павінны працаваць, пісаць, мы для гэтага сюды і прыехалі. На два тыдні нам патрэбен спакой...

— Вы будзеце мець яго яшчэ сёння, я гэта ўладжу.

— Як?

— Вы ж на хаусбоце, яго можна адцягнуць куды хочаце. Дзе вы хочаце жыць?

— У Кашміры.

— Як вы сказалі?



— У сапраўдным Кашміры, сярод вас, сярод вашых людзей.

* * *

Плывучыя агароды Кашміра — гэта гучыць амаль так, як вісячыя сады Семіраміды — сёмае цуда свету.

Гэтае цуда ў нас зранку да вечара проста перад вачыма, у двух метрах ад пішучых машынак; ніякіх дэкарацый, ніякіх прынад для турыстаў, ніякіх чыста вымытых дзяцей і чуллівых поз перад аб'ектывам. Гэтыя агароды жывуць — мы ўраслі ў іх. Стары Котру завёў хаусбот у ціхі куток возера, падпёр яго чатырма каламі, каб не зыбаўся, прыткнуў левым бортам да высунутага ў возера языка зямлі — на ім якраз даспяваюць баклажаны. Жывіце сабе і пішыце хоць ад зары да зары. За хаусботам ён прыцягнуў сваю кухонную лодку «кічнбот». Нам пакуль што вядома толькі тое, што на ёй жыве ўся сям'я Джона Котру і што там для нас гатуюць.

Зазірнуць туды? Сунуць нос у кашмірскі быт крыху глыбей? Пакуль што мы не спадзяемся на гэта: стары далікатна працівіцца. Адгаворак у яго тысячы, а прычына адна: ён мусульманін, яго жонкі і яшчэ нейкія жанчыны (вiдаць, дочкі, нявесткі і пляменніцы) выходзяць адтуль, як пудзілы — у чадрах прававерных. У Кашміры чадру называюць «бурка», або «парда». Па-за домам жанчыны захутаны ў іх з галавы да ног, на свой кічнбот яны пускаюць толькі самых блізкіх сваякоў.

Сусед Джамал і яго бацька спачатку, вядома, пазіралі на нас без асаблівай радасці. Памяркуйце самі, чацвёра іншаверцаў заганяюць хаусбот проста ў агароды! Куды іх толькі шайтан занёс! Як цяпер будуць працаваць жанчыны? У сям'і Джамала іх дзве: старэйшая — Кеда — языкатая, вечна сварыцца з суседкамі, а малодшая, Лейла, — ціхая, нясмелая, яе ніколі не чутно. У бурках працаваць немагчыма, яны вымаклі б у вадзе — ды і праз дзве тыя дзіркі, закрытыя міткалём, не відаць нават тое, што робіш. А без буркі? Чужынцы ўбачаць іх твар, а гэта не дазваляецца.

Але Джон Котру даводзіцца Джамалу дзядзькам — а роднаму дзядзьку ў Кашміры не адмаўляюць.

І вось жачыны паплылі на агароды: трэба прывезці корму для скаціны, памідораў; кожная з сэрцападобным вяслом, стаіць яны на самым носе шыкары, якая крыху больш за двухмесную байдарку. Так тут ездзяць на лодках — вяслуюць наперадзе, нібы падцягваючы лодку за сабой! Лейла, праплываючы міма, прытрымлівалася Джамалавага загаду: адварочвала галаву ў другі бок і не глядзела на нас, хоць бы ёй пагражала перспектыва боўтнуцца ў ваду. Затое вочы Кеды стралялі ўсюды — з



**Да таго часу ямуназаляў, пакуль не купіў.**

першага ж дня. На трэцюю раніцу яна адказала нам на прывітанне, а на пяты дзень павіталася першая:

— Салам! Бакшыш!

Яна не атрымала яго, бо бакшыш — гэта клін, які падзяляе людзей на паноў і служак. А мы хацелі жыць у добрым суседстве.

Праз тыдзень усе мы прывыклі да таго, што тут няма месца ні забавам, ні хітрыкам, што на хаусбоце працуюць гэтак жа, як навокал яго. Жыццё ў плывучых агародах увайшло ў ранейшую каляіну.

Раніцай Кадзір, брат Джамала, у простай грузавой шыкары — без стрэшкі і сядзенняў — адвозіў сва-



Корм для скаціны шукаюць пад вадой

іх пяцёра авечак на астравок за сто метраў ад хаусбота. Сцерагчы іх не трэба, самі ў ваду яны не палезуць. Потым мяняў гэтую шыкару на бацькаву парадную і плыў да набярэжнай чакаць свайго шчасця — турыстаў.

У гэты час Кеда і Лейла амаль канчалі ранішнюю частку работы і вярталіся з возера з грузам корму. Без касы, без сярпа, з адным толькі вяслом. Паціху жанчыны ездзілі на лодцы вакол агародаў, штохвілі пагружаючы рукі ў ваду, каб вырваць водарасці, якія з вясны і да восені растуць на багністым дне возера Дал. Выцягнуць, апалошчуць у вадзе, кінуць за сябе ў лодку, і зноў, пакуль не напоўняць лодку.

Часам пад акно падплывала зіркастая сямігадовая Кеджы, прывозіла нам прыгожую кветку лотаса ці свежы агурочак, а то і проста так, паслухаць, як стукаюць машынкі.

Джамал паспяваў усюды. Раніцай ён паліў вяслом з лодкі памідоры на высокім беразе, потым пастаяў пад акном, каб выкурыць цыгарэту, разагнаў вяслом чужых качак, якія разам з вусенямі шчыкалі ў яго на плывучым агародзе маладыя памідоры, а потым за гэтыя качыныя грахі лаяў суседак так, аж неба трэслася. Як аднолькава лаюцца сяляне ў аргенцінскім Чако, у Кашміры і дзе-небудзь на чэшскім гумне!

Апошні выязджаў у агароды дзед Ласа. Шапачка ссунута на патыліцу, выразны маршчыністы твар — такім і ўяўляеш сабе патрыярха сям'і. Ён выязджаў позна, раніцай любіў паспаць. Пад'ехаў да нас, мы пажадалі ўзаемна адзін аднаму добрага дня, ён уцягнуў у сябе панюшку тытуню і пасля гэтага аж да самага абеду палівоў і палоў агуркі і памідоры. Потым на некаторы час прычальваў да берагу і пад маладой вярбой паварочваўся да захаду, тварам да Мекі. Гэта быў час паўдзённай малітвы. І зноў капаўся ў агародах да самага вечара. Ён не спяшаўся, але паспяваў зрабіць больш за ўсіх. Вось ужо добрых шэсцьдзесят год сядзеў ён так на кукішках на носе шыкары, звесіўшы рукі праз борт і падцягнуўшы калені да падбародка. Толькі праз тыдзень мы даведаліся, што яму стукнула шэсцьдзесят. Ён прыняў запрашэнне на кубак кавы і ўвайшоў на хаусбот з глыбокім паклонам. Пакорлівасць? Не. Яго спіну сагнулі ў крук шэсцьдзесят год жыцця на носе шыкары — і ўсё скурчыўшыся.

Часам з лабірынту возера Дал з'яўляліся рыбакі... Яны закідвалі ў ваду вялізныя вершы, прадавалі карпа і зноў знікалі, як прывід.

А калі ўсюды навакол было ціха, як у касцёле, выступаў сола самы маленькі наш сусед — зімародак. Цэлымі гадзінамі стаяў ён на лаўцы хаусбота проста пад акном, выцягваўся на кароценькіх чырвоных ножках — пакуль не пачынаў адчуваць голад. Ні з таго ні з сяго ён кідаўся раптам у ваду і зноў пырх на старое месца — з рыбкай у дзюбцы. А потым, бяздушны нягоднік, біў яе галоўкай аб дошку да таго часу, пакуль яна не сціхвалася. Адпраўляў яе ў валляк і зноў — боўць у ваду. І так дзесяць, дваццаць разоў. Колькі ў гэтым мізэрным цельцы змяшчалася рыбак!



Напятыя, як лук, целы — так перавозяць агарод.

Так, да нас у плывучых агародах прывыклі — суседзі, рыбакі, качкі, нават зімародак. І жыццё наўкол хаусбота цякло ў сваім павольным, адвечным рытме. Аж раптам аднойчы на світанні пасля бурнай начной навальніцы...

Што здарылася? Мы зрываемся з ложкаў і падбягаем да вокнаў. Там, дзе яшчэ ўчора вечарам быў плывучы агарод, цяпер толькі брудная вада. Вось ён, агарод, напалову выкінуты на суседні, тут ноччу гаспадарылі хвалі. На агародзе, знесеным са свайго месца, уся мужчынская палавіна Ласавага роду: ногі мужчын тонуць у траве сярод памідораў, як у пярынах, зялёная паверхня падаецца сюды-туды разам з карэннямі, як вялікая бурбалка. Джамал, Кадзір, іх сыны-падлеткі ўпіраюцца плячыма і рукамі ў жэрдкі, уторкнутыя ў дно, целы напружаны і распасцёрты амаль гарызантальна, мужчыны хорам заклікаюць на дапамогу бога:

— Божа, памажы мне! Божа, ты мой памочнік!

І зноў:

— Шыкурдзін! Мердзін! Шыкурдзін! Мердзін! — Гэта назвы самых праслаўленых мячэцей Кашміра...

І агарод, які несумненна, важыць дзесяткі тон, — шырынёй ён больш чым у два метры, а даўжынёй — усе пяцьдзесят, — паволі пасоўваецца на старое месца! Сапраўды плывучыя агароды!

У дзеда Ласа спіна была раўнейшая і серабра ў валасах было меней, калі ён закладваў гэтыя агароды. Спачатку яго жонкі сплялі даўгія маты з чароту, ён паклаў іх на ваду, прымацаваў кіямі да дна, потым пачаў накладваць на іх глей і водарасці з возера. Пасля ўсунуў крывы і тоўсты шост у ваду, павярнуў яго, як лябёдку, пацягнуў, і маток водарасцей, сцяблоў, карэнняў з глеем упаў у лодку. Потым усё спачатку, і так сто, тысячу разоў кожны дзень, зусім гэтак жа, як цяпер робяць яго ўнукі і сыны побач з нашым хаусботам. Водарасці хутка ператварыліся ва ўрадлівы гумус. Ласа пасадзіў у яго гародніну і прадаўжаў насыпаць агарод.



Сартыроўка коканаў шаўкавіцы — справа жанчын і дзяцей.

Чым далей, тым плывучы агарод робіцца больш цяжкі і апускаецца ўсё глыбей. Дыван з чароту даўно згніў, цяпер ужо агарод трымаецца толькі перапляценнем карэнняў.

Калі-небудзь, калі ўнукі Ласы вырастуць, агароды дакрануцца да дна возера і запусцяць у яго карэнні. Тады ўжо ніякая навальніца не зрушыць агарод з месца, але і перацягнуць яго таксама будзе нельга. Пад новым грузам водарасцей агароды пачнуць расці ўгару, карэнні маладых верб умацуюць іх і пераплятуць. І адбудзецца звычайны кашмірскі цуд: плывучыя агароды, на якія пайшла праца трох пакаленняў, ператворацца ў цвёрдую глебу, будуць даваць тры ўраджаі за год, а нарэшце змогуць вытрымаць і каменнае жытло чалавека, майстэрні разбяроў, алеі таполяў і дарогі, як вытрымліваюць іх былыя плывучыя агароды — цяперашнія берагі возера Дал.

І калі вас хто-небудзь спытае, хто стварыў найцудоўнейшы куток кашмірскай зямлі, забудзьце пра легенды святога пісання. Гэтую зямлю стварылі чалавечыя рукі, такія, як рукі дзеда Ласы і яго сваякоў.

## МНОСТВА ДЗІЎНЫХ РЭЧАЎ

«Кесмур — краіна, размешчаная ў сямі днях дарогі ад Башы, яе жыхары маюць уласную мову. Чарадзейства ведаюць гэтак жа, як і ўсе астатнія: могуць, напрыклад, прымусіць гаварыць нямыя і глухія статуі, могуць выклікаць зацьменне і мноства іншых дзіўных рэчаў, гэта самыя зацятыя з усіх ідалапаклоннікаў... Што датычыць чарадзейнага і д'ябальскага майстэрства, яны — самыя вучоныя з усіх на свеце людзей...»

Вучоны пан Русцікела, трувер * са славутай Пізы, дапісаў сказ, потым, напэўна, доўга правяраў на пазногці кончык гусінага пяра або, узняўшы погляд на краты генуэзскай турмы, падлічваў, колькі хмурынак праплывае праз гэты маленькі квадрацік неба, пакуль яго знатны сябар і сусед па турме пан Марка Пола, венецыянскі дваранін і купец, зноў звяжа перарваную нітку свайго апавядання. Год ішоў ад нараджэння Хрыстова 1298-ы.

Англічанін Роберт Торп наведаў гэтую, усё яшчэ таямнічую, даліну пад Вялікім Гімалаем праз шэсцьсот год пасля аўтара «Мільёна» — самай слаўнай падарожнай кнігі з усіх, якія ёсць. Ён таксама пісаў пра чары кашмірцаў, але прысвяціў ім і словы захаплення, спачування і глыбокага чалавечага засмучэння. Яго цікавілі не статуі, якія гавораць, ён захапляўся дзівамі, якія выходзілі з майстэрняў кашмірскіх ткачоў — кашмірскімі шалямі. І без агаворак паставіў да ганебнага слупа магараджу, яго зборшчыкаў даніны і наглядчыкаў.

«Яны і не падумаюць пра гэтыя нізкія, смуродныя норы, дзе ткачы сядзяць над сваёй катаржнай працай дзень у дзень і рвуць жылы за мізэрную падачку. На сваіх кроснах яны ткуць у шаль не толькі вясёлыя, каляровыя ніткі з воўны. Яны ўплятаюць у кашмірскія шалі на кроснах пакут і цярпення нітку свайго жыцця...»

А зямляк Торпа Муркрофт дадае ўласнае сведчанне:

«Галеча была напісана на глыбока запалых тварах гэтых пажаўцелых, аслабелых чалавечых істот. І што было горш ад усяго — яны не маглі парваць са сваёй прафесіяй. Толькі смерць прыносіла збавенне... Вынікам гэтага катавання людзей зажыва з'яўляецца той факт, што смерць ад голаду ў Кашміры пашыраецца неймаверна...»

Гэтыя страшэнныя сведчанні пайшлі з Кашміра ў той час, калі дáмы высокіх шляхетных родаў ва ўсёй Еўропе ўздыхалі над нябачанай красой і тонкасцю кашмірскіх шаляў і марылі пра іх больш, чым пра дыяменты. Прыгожая Жазефіна, імператрыца Францыі, першая ў Еўропе адчула пад рукой далікатнасць тканіны. Яе маленькі генерал, тады ўжо імператар Напалеон I, прывёз ёй камшірскі шаль, як рэдкі трафей з егіпецкай кампаніі. Яго зорка тады ззяла ў зеніце славы, французскі двор задаваў і ў модзе тон Еўропе.

Але ўлада не ўтрымалася, і генерал вымушан быў змяніць Жазефіну на святую Елену * — да самага канца сваіх дзён. Пасля Ватэрлоо раўнівыя са506пернікі абмежавалі правы Парыжа, але французская мода славіла новыя перамогі. Купцы і агенты Напалеона III маглі ў Кашміры галасіць:

— Яшчэ болей шаляў! Яшчэ болей шчаслівых дам у Еўропе!

Яшчэ больш сухот і смерці сярод кашмірскіх жанчын.

Ткачы паміралі ў трыццаць год, будучы ўжо амаль сляпымі.

А потым надышоў год 1870. Бісмарк перамог Напалеона і згасіў зорку французскай моды ў Еўропе. За адну ноч кашмірскія шалі сталі рыззём, дванаццаць тысяч кашмірскіх ткачоў і вышывальшчыкаў у Кашміры памерла з голаду.

У 1871 годзе кашмірскія ткачы паўсталі. Адкормленая салдатня магараджы з імі не цырымонілася. Чым менш ткачоў — тым менш праблем. Голад давяршыў трагедыю небарак. Той з ткачоў, хто пераўжыў голад, выбраўся з Кашміра як мага далей.

Бісмарк ніколі не быў у Кашміры. Можа нават і не здагадваўся, што да французаў, якія загінулі ў яго пераможных бітвах, гісторыя дадала дванаццаць тысяч народных мастакоў і адзін род мастацтва, які к таму часу з векавых традыцый выспеў да абсалютнай дасканаласці.

* Трувер — у сярэднявякоўі паэт-песняр.

* Намёк на востраў св. Елены, куды быў сасланы Напалеон.



* * *

— О так, — бажыўся гандляр Махамед Шах, — мы па-ранейшаму выробляем кашмірскія шалі, першакласны матэрыял, чыстая работа, багаты выбар узораў...

— Кашмірскіх?

— А як жа, сахаб? Вядома, кашмірскіх. Мае майстэрні ў самым сэрцы Кашміра! І ўсе вышывальшчыкі — кашмірцы.

— Але паводле якіх узораў яны вышываюць?

— Найшырэйшы асартымент, сахаб, найбагацейшы выбар узораў вы знойдзеце ў маіх майстэрнях.

У гэтым уся загвадзка — узоры ўсялякія, толькі не хапае аднаго. Кашмірскага.

* * *

Майстар Кадзір Бахчы ў майстэрні Махамеда Шаха быў дзядок — замілавацца можна. Смуглы, худаваты твар у сівой ваце барады і вусоў, на галаве снежнабелы турбан, а вакол вачэй — зорачкі маршчын, нібы дзед увесь час усміхаўся. Іголка з каляровай ніткай толькі мільгала ў яго пальцах — прытым яшчэ заставалася досыць часу, каб пацягнуць з вадзяной люлькі, перакінуцца словам. Яго хапала на ўсё.

Колькі пакаленняў з яго роду выседжвала вакол сямейнай «гукі» на гэтым драўляным балкончыку над ракой Джалам — ён і не ведаў. Але было іх многа. Таму дзед так добра разбіраўся ў кашмірскіх шалях.

— А скажыце, бацька, ці ўмее яшчэ хто-небудзь у Кашміры выткаць прыгожы стары ўзор? Як той, што ў музеі, на вітрыне?

— Вы хацелі б гэта зазнаць, я разумею. Але гэтага хацела шмат людзей і да вас. Вам трэба было б прыехаць гадоў дзевяноста назад, цяпер позна ўжо.



**Вышываны шаль і ў Кашміры рэдка дзе сустрэнеш.**

— А вы не хацелі б паспрабаваць?

Дзед пасур'ёзнеў.

— Панове, гэта вам не так сабе — сеў за кросны і к вечару шаль гатовы! Ведаеце, колькі ткаў адзін шаль мой дзед? Паўтара гады! Адзін шаль! І які быў майстар! А сёння ўжо і красён такіх няма.

— А вышываныя ўзоры, але тыя старыя, што ў кропельку?..

— Сёння ніхто вам не згодзіцца — не акупіцца. Ні праца, ні вочы, якія трэба было б на гэтым страціць. Амаль усе вышывальшчыкі к канцу жыцця працавалі з моцнай лупай, а многія з іх аслеплі. Калі хочаце, я пасведчу вам нават на пісьме, што апошні вышы-

ваны шаль са старым узорам быў закончаны ў Кашміры ў мінулым стагоддзі, недзе ў 1890 годзе.— І то ўжо каштаваў нядорага. Пачалася турыстыка. Ведаеце, прыедзе панечка, купіць хоча многа, а заплаціць — мала. Дык і робіцца ўсё хутка і дзёшава — мешаніна ўзораў страшэнная, сёе-тое з Персіі, сёетое з Туркестана, нядаўна прыслалі нам французскія вышыўкі, узоры з Балгарыі, каб мы папрабавалі паводле іх. Ну і выбіраем, што нядорага і што можна будзе прадаць.

Дзед і не ўяўляў сабе, што да гэтай пахавальнай прамовы над кашмірскім мастацтвам ён дадаў і трапную сацыялагічную аргументацыю і культурна-гістарычны постскрыптум, паставіў кропку на гісторыі кашмірскіх шаляў.



Зрацыяналізаваны выраб кашмірскіх шаляў.

* * *

З Кашміра ў свет ішлі і іншыя творы народных майстроў. Да гэтага часу ў драўляных майстэраньках над ракой Джалам працуюць чаканшчыкі, шліфавальшчыкі каштоўных каменняў, вышывальшчыкі лямцавых кілімаў і дыванкоў. Ёсць тут і чарадзеі і фокуснікі, якія з старой паперы, клею і рысавай мукі робяць матэрыял лёгкі і цвёрды, які амаль не б'ецца. Яго называюць тут пэйпер-мэйчы. Так, так. стары французскі патэнт быў выпісаны на матэрыял з французскай назвай «пап'е-машэ». Рэцэпт сюды занеслі агенты французскіх імпарцёраў у эпоху трох Напалеонаў. Выдумку і майстэрства дадалі кашмірскія мастакі — яшчэ тады. А потым і іх густ прайшоў праз жорны заказаў і заявак, якія атрымлівалі з чыноўніцкіх кватэр над Тэмзай у 1910—1940 гг. Што зробіш? Пасрэднікі дыктавалі сваю волю — яны плацілі.

Скалечылі яны і народныя традыцыі ўмельцаў, якія долатцам і малаточкам пераносілі сваю фантазію на арэхавае дрэва. І сёння ў Кашміры многа разбяроў, але ў іх майстэрнях і ларках вы адчуваеце сябе, як у мяшчанскім пакоі ў годзе недзе тысяча дзевяцьсот дзесятым. Шкатулкі, скрынкі, куфэрачкі, столікі, вешалкі, палічкі, падстаўкі, лямпы, футляры — велізарныя пылаўлоўныя ўстаноўкі.

Толькі недзе ў кутку заўсёды заўважыш спробы знайсці і іншы кірунак — міскі, падносы, гладкая паверхня якіх вабіць прыгажосцю высакароднага матэрыялу.

Кожнага, хто выкіруецца наўдачу ў сплясенне вулічак старога Срынагара, раней ці пазней чакае сюрпрыз.

Мы наткнуліся на яго знянацку і спыніліся ад здзіўлення. Звонку гэтае няўтульнае драўлянае памяшканне выглядала, як школа. Або як малітоўня. Але гэта была мануфактура, дзе пллялі дываны. Дзесяткі пахіленых красён, якім магло быць і пяцьдзесят, і пяцьсот год. На вышыні ў два метры ад падлогі драўляны валік з асновай, каля падлогі другі — з гатовым таўром. А на дошчачцы перад кожным пачатым дыванам — група людзей, як на старой гравюры. Пасярэдзіне — бацька, па краях, як прыступкі лесвіцы — яго сыны, ад пятнаццацігадовых — уніз аж да пяцігадовых. Бацька ўголас чытае, амаль спявае з пажоўклага скрутка паперы, уплеценага ў аснову дывана і пакрытага дзіўнымі крымзолямі. Так, гэта «талін» — душа цудоўных колераў і ўзораў, вобраз будучага дывана, упісаны ў таямнічыя іерогліфы, зразумелыя толькі кашмірскім майстрам. Тата праспявае сказ, хлопцы хорам адкажуць «ача», рукі дакрануцца да аднаго з трыццаці каляровых клубкоў, павешаных над асновай, і вось ужо замільгалі дзіцячыя пальцы, блісне загнуты сярпом нож — і тата спявае пра новыя колеры і колькасць вузялкоў.

Ніводны з гэтых хлопцаў не ходзіць у школу, нават і з бацькоў мала каторы можа прачытаць газету ці напісаць ліст. Але затое ён ведае плеціва «таліна», незразумелую нікому з настаўнікаў і журналістаў Кашміра, разам узятых. Пісьменнасць дываншчыкаў звязана з жыццём мануфактуры, гэта іх пісьменнасць, і з іх пункту гледжання непісьменныя мы, усе астатнія.

Самы вопытны майстар пераводзіць на мову і пісьмо «таліна» традыцыйныя кашмірскія ўзоры і матывы з Кабула, Бухары і Самарканда. А потым каля кожных красён сядзе тата са сваімі хлопцамі і пачне лічыць колеры і вузялкі, дні і месяцы, пакуль скончыць дыван, падлічыць, колькі заробіць, калі на галаву прыпадае ў сярэднім пяць рупій за дзень працы. Аднаго толькі не злічыць: мазалёў на дзіцячых пальчыках.

На двары мануфактуры нам паказалі яшчэ ўсякія фокусы. Дываны, закончаныя на кроснах, падстрыгалі і часалі, палілі на рубе і дралі скрэблам, апырсквалі, палівалі, а потым выціскалі ваду гумавымі шчоткамі... І вось — гатова.

У светлым пакоі з высокімі вокнамі новы дыван увесьззяе, спакушаючы ўвайсці ў гэтую свежую, далікатную красу, стракатую, як кветкі на вясновым лузе.



Ёсць час для заказчыкаў, ёсць час і пакурыць з вадзяной люлькі.

Але, можа, калі-небудзь, не цяпер. Пакуль у нашых вушах гучыць харавое «ача», мы не адважымся. Нам здавалася б, што мы ступаем па дзіцячых руках.

## З КАШМІРА Ў КАШМІР

— Мінуліся часы Голуба, Враза і Каржэнскага *, мінуўся час нават вашага першага падарожжа, — пераконвалі нас перад стартам у чэхаславацкім кіно, у тэлебачанні і ў выдавецтвах. — Гэта раней вы маглі збіраць дома горы плёнак і матэрыялаў, і нікога не трывожыла, выйдуць яны цяпер ці праз пяць год. Цяпер жа вы павінны ўціснуць у праграму і тое, што раней рабілі дома, пасля падарожжа. І павінны хоць бы разы тры прыляцець на радзіму, дакончыць фільмы і кнігі. Наш «ТУ» ўсюды да вашых паслуг, аж да Інданезіі.

Нас не трэба было доўга пераконваць. Наадварот. Век спада-

* Чэшскія падарожнікі XIX стагоддзя.

рожнікаў і тэлебачання гэта сапраўды не век валовых запрэжак. І потым: ездзім мы ўчатырох, а дома пакінулі дзесяцера самых блізкіх... дзяцей...

Урэшце, гэта было проста і лагічна: раз у год або, самае большае, у два экспедыцыя на кароткі час вернецца самалётам дамоў, фільмы будуць выходзіць ужо ў час падарожжа, можа нават і кнігі...

У Кашміры ўпершыню наспела такая неабходнасць. Але яна была ўжо толькі лагічнай, ажыццявіць яе было зусім не проста. Гэта было падобна на бег з перашкодамі. На шляху з Кашміра ў Кашмір стаяла дзесяць перашкод, і кожная інакшая.

* * *

Першая была з тых, якімі адзначана жыццё на колах. Кожны вечар яна давала пра сябе знаць феерверкам маланак над Баніхалам, а кожны дзень — навальнічнымі хмарамі, якія на поўдні ўзнімаліся аж да граніц стратасферы, да вышыні дзесяці тысяч метраў.



**Кашмірскія прачкі, ці, больш правільна, «прачкары...»**

Размовы з шаферамі кашмірскіх грузавікоў не прыносілі спакою.

— Якая ж цяпер дарога праз горы? — махалі яны рукой. — Што вы хочаце, мусоны!

Баніхальскі тунель нагадваў цяпер вароты ў пекла, калідор з кашмірскага сонца ў горы, набрынялыя вадой, як губка, і прыдушаныя хмарамі і туманам. Не відаць было ні неба, ні вяршынь, ні далягляду. У цяснінах над бяздоннем буксуем, паўзём наўздагад; у далінах стаіць грукат ашалелых рэк, якія, садраўшы з Гімалая мільёны тон глебы, імчацца са схілаў бурлівымі патокамі з хуткасцю перапалоханага табуна коней. А ў цэнтры гэтай трохсоткіламетравай драмы, зусім будзённай ад штодзённага паўтарэння, эпізод, ад якога валасы на галаве не ўстаюць дыбам толькі ў людзей з пенджабскіх раўнін — велізарны апоўзень. На ўрэзанай у горны схіл сцяжынцы, пакрытай глеем, грузавік бяссільна круціць заднімі коламі. Перад ім — сто машын, якія прайшлі ўжо тут, і дзвесце іншых, якіх гэта яшчэ чакае. Кіркі, лапаты, гразь па вушы, шэсцьсот метраў рухомай гліны і скал над галавой, чатырыста метраў углыб, і трыццаць сантыметраў слізкай гліны паміж коламі і краем бяздоння.

Мы зноў і зноў з удзячнасцю ўспамінаем канструктараў «татры». Машыны не баяцца небяспечных танцаў над бяздоннем, ідуць, як танкі, павольна, спакойна. Але па гэтым гіганцкім апоўзні прайшлі метраў сотню і стоп. Цыстэрна перад нашай сіняй машынай — ні з месца, галава калоны нешта захрасла, і тут недзе ўгары пачуўся грукат, і вось ужо ў цыстэрну б'е град каменняў, якія імчацца па схіле з вышыні шасцісот метраў. Калі град спыніўся, вусаты шафёр толькі высунуў галаву з акенца і выскаліў зубы, гледзячы на нас: «Дзівіцеся?»

Але **замест кілаграмавых** каменняў маглі **падаць** штучкі ў цэнтнер і больш. Такога хапіла б і аднаго. Упадзе на цыстэрну і — як і не было яе. Упадзе на кабіну — і ўспамінай, як звалі.

Аддыхаліся мы толькі ва ўтульнай харчэўні ў Джаму за кубкам чорнай кавы. Першая завала — мусонныя горы — была за намі, «татры» яе праскочылі. Наперадзе засталося дзевяць. Яшчэ дзевяць...

* * *

Другую перашкоду падказалі карта і каляндар. Трынаццаць рэк вакол Джаму — трынаццаць сініх вусеняў на карце. Яны кароткія і вузкія, як іх імёны: Дэнг, Удж, Раві і іншыя. Самая шырокая з іх на «мільёнцы» — шэсць міліметраў. На мясцовасці гэта шэсць кіламетраў.

Па дарозе ў Кашмір гэта азначала шэсць кіламетраў пабітага бетону, паабапал якога стаялі шпалеры жалезных тычак, адмяжоўваючы яго ад пяску і глыб. Тады мы яшчэ не ведалі, дзеля чаго ад зямлі на вышыню дваццаці сантыметраў тычкі пафарбаваны ў белы колер, а вышэй — у чырвоны. На дарозе назад нам гэта высветлілі мусоны. Белую ножку ды яшчэ кавалак чырвонага верху паглынулі рачныя парогі. Пакуль відаць белая фарба, шафёр легкавой машыны можа рызыкнуць праехаць на ўласную адказнасць. Калі застаецца толькі чырвоная — едуць адны грузавікі, ды і то калі за рулём сапраўдны мужчына. Парожнюю машыну знесла б умомант і — бывай, жыццё, тут не выскачыш: няма куды. Нагружаны грузавік утрымаецца, калі яму пашанцуе і вадзіцель будзе трымаць руль супраць плыні, каб выраўняць тую адлегласць, на якую зносіць вада.

Трынаццаць рэк пад Джаму, трынаццаць бродаў. І ўсе яны — за плячыма. Другую завалу «татры» прабілі, як ледаколы. Слава ім!

* * *

З пятай перашкодай мы ўжо аднойчы сустракаліся. Праз яе не пераскочыш. Па ёй паўзуць павольна і няўпэўнена. З бюракратыяй ніколі не ведаеш, што і як.

— У Індыю вы прыехалі з машынамі, мусіце іх узяць з сабой.

— Мы ляцім дадому на чатыры тыдні, а потым вернемся. Вось віза. Мы пакінем у Індыі машыны і ўсю маёмасць — ужо адно гэта будзе зарукай, што мы вернемся.

— Зарукі мяне не цікавяць, я маю інструкцыю.

— Вы можа хочаце, каб мы ўзялі з сабой у самалёт багажом дзве машыны па чатыры з палова тоны?

— А навошта грузавыя самалёты?

— Вы маеце падставы, можна гэта зрабіць, калі вы так хочаце. Інструкцыя ёсць інструкцыя. Мы возьмем машыны з сабой спецыяльным грузавым самалётам, а праз месяц — назад. Паводле вашага жадання — і за ваш кошт.

Праз тры дні на ўсіх дзверцах «татраў» павесілі мытныя пломбы. Праз тры дні мы пералезлі праз пятую перашкоду — катакомбы галоўнай мытніцы.

«ТУ» — не перашкода, у яго ёсць крылы, і кожную гадзіну ён пакідае за сабой тысячу кіламетраў. За некалькі лётных гадзін ён пакрывае адлегласць ад Бамбея да Прагі.

У час прывітання на Рузынскім аэрадроме «ТУ» не закрануў ніводнай перашкоды, яна чакала экспедыцыю перад будынкам аэрапорта. Паміж намі і дзецьмі ляглі доўгія пятнаццаць месяцаў. Робертаў Іван — ужо вялікі, школьнік, не забыліся пра бацьку і Сава з Іржыкам. Але Анечцы ў час ад'езду экспедыцыі было два гады з палавінай.

Здзіўлена яна глядзіць на бацьку — і потым нерашуча падае яму кветку:

— На, дзядзя!

Шлагбаум часу не пераскочыш адразу, і сам ён не паднімецца. Прыйдзецца адломваць па кавалку. Ці хопіць для гэтага тых некалькіх дзён, што «ўхопіш» паміж двума самалётамі?

* * *

І зноў ужо цёпла, як у пекле, знаёмыя вентылятары ціхутка вуркочуць пад столлю пакоя. Так, зноў гасцініца. Індыя, Дэлі.

Завод «Татра» вырашыў: да-

кладны агляд абедзвюх машын. Але экспедыцыя не можа бяздзейнічаць трэцюю частку года. Пакуль што яна здымае ў Кашміры паўнаметражны фільм — каляровы, для шырокага экрана. Утрох. Без машын.

Кашмір на шырокім экране — праз тры месяцы. Такі быў план, калі «ТУ» прызямліўся ў Бамбеі.

Праз чатыры дні зноў усё пайшло дагары нагамі — перад намі апусціўся яшчэ адзін шлагбаум. З усіх бакоў адразу.

Міраслаў ляжыць на ложку, Роберт схіліўся над ім, акуляры ў яго павіслі на кончыку носа, як заўсёды, калі нам тугавата.

— Ніякіх здымкаў, Мірак, больш у цябе не будзе. Хопіць. Што мне, хлопцы, доўга вам гаварыць — у яго грыжа. Якраз на шраме пасля першай аперацыі.

— Ну, а можа як-небудзь...

— Не, Мірак. Гэта сур'ёзна. Не. Ты не можаш з хворым жыватом лазіць па Гімалаях. Тыдзень паляжыш у бальніцы, а потым — поўны спакой на два месяцы. Ніякай язды і беганіны.

На гэты шлагбаум мы навалілірся адразу, тут жа, усе разам.

Мірак — дадому. Іржы з Робертам — у Кашмір.

Ачуньваючы, Мірак закончыць рукапіс нашай кнігі — першы том, прысвечаны Азіі. Іржы з Робертам здымуць па свайму сцэнарыю фільм пра Кашмір. З цяжкімі камерамі без машын? Удвух?

Можа, і ўтрох. Трэцім мог быць «кінабацька» экспедыцыі — Яраслаў Новатны з готвальдаўскай студыі. Так ці інакш, але шлагбаум над Кашмірам узнімецца. Павінен.

* * *

Апошні ўзнімаўся асцярожна, павольна, каб ударыць як мага лягчэй.

— Я не хацеў так адразу, бо вам і без таго звалілася на галаву столькі, што вы аж падгінаецеся. Машыны без генеральнага агляду не крануцца; у цябе, Мірак, будзе аперацыя, ды яшчэ дома праца над кніжкай; у Іржы — Кашмір вісіць на карку... далібог, я думаў, што вы вывесіце белы сцяг і што... што гэта вырашыцца само сабой.

— Што вырашыцца? Ты пра што, Роберт?

— Хлопцы, не крыўдуйце, але...

— Ну, выкладвай, Роб!

— Я хацеў бы вярнуцца дадому... яшчэ да канца года.

— Дык гэта ж прадугледжана планам, праз год, паўтара, калі трэба будзе дакончыць новую серыю фільмаў...

— Яно то так, але я думаю... наогул... застацца дома. Выйсці са складу экспедыцыі. Той, хто не мае практыкі тры гады, дыскваліфікуецца, гэта закон. Не трэба вам гаварыць, як я люблю неўралогію. І вось ужо будзе два гады, як я зусім ад яе адарваны.

— Ты ж практыкуеш у бальніцах па дарозе.

— Ёсць яшчэ нешта. Я хачу абараняць кандыдацкую, самае позняе — праз тры гады. Ды і мой Іван... вы бачылі яго дома... хлопцу патрэбен бацька.

Уласна кажучы, гэта быў не шлагбаум. Хутчэй бомба замаруджанага дзеяння.

Але год — час немалы. Ёсць калі выкруціць запал.

У механізме нашай экспедыцыі можа што-небудзь зламацца, але праца не павінна спыняцца. Рамантаваць будзем на хаду.

І грыжу. І машыны. І склад экспедыцыі.

Далей будзе.

Пераклаў з чэшскай мовы **Алесь МАЖЭЙКА.**

СТАРТЫ І ФІНІШЫ

# КРЫЛЫ ЎЗЛЁТУ

**РЭПАРТАЖ**



Такі быў Павел Агашкаў, калі кіраваў авіямадэльным гуртком у школе... Сёння Паўлава мара збылася — ён авіяканструктар.

Перад намі фота. Яно зроблена амаль дзесяць гадоў назад. На ім першыя авіямадэлісты 9-й школы г. Магілёва. Усе яны пасля выбралі сабе спецыяльнасці, звязаныя з тэхнікай. Вось Міхась Быкаў. Скончыў будаўнічы тэхнікум, працуе на заводзе «Строммашына». Спартсмен-авіямадэліст. Удзельнічаў ва Усесаюзных спаборніцтвах па класу кордавых мадэлей. Леанід Чарняўскі выдатнік вучобы. Як лепшы авіямадэліст быў удзельнікам выстаўкі ў Маскве. Пасля службы ў арміі закончыў машынабудаўнічы інстытут, інжынер. Уладзімір Шаблінскі — закончыў школу з залатым медалем. Двойчы ўдзельнічаў на выстаўцы ў Маскве. Скончыў політэхнічны інстытут. Цяпер інжынер-тэхнолаг завода «Строммашына». Павел Агашкаў. У школе кіраваў авіямадэльным гуртком. У Маскве, на выстаўцы, яго мадэль атрымала прэмію. Скончыў авіяцыйны інстытут, працуе інжынерам-канструктарам. Алег Гялясаў — адзін з лепшых авіямадэлістаў і радыётэхнікаў. Таксама ўдзельнік выстаўкі ў Маскве. Скончыў радыётэхнічнае вучылішча. Цяпер — радыётэхнік.

Такі шлях гэтых хлопцаў, што яшчэ ў школе прыахвоціліся да тэхнікі. Школа дае маладым крылы для вялікага ўзлёту, адкрывае ім шлях у вялікую авіяцыю. Гэта сапраўды так!. Тут ёсць свае авіяканструктары і авіяінжынеры.

У школе цесна. Сёння пакуль няма памяшкання, дзе можна было б адкрыць школьны музей. А такі музей будзе, як толькі школа пяройдзе ў новы будынак. І сярод усяго, што будзе там выстаўлена, напэўна, пачэснае месца зоймуць мадэлі, зробленыя рукамі школьных умельцаў. Пакуль жа авіямадэлі ўсюды: у настаўніцкай, у кабінеце дырэктара, у школьнай майстэрні. Самалёты-прыгажуны стаяць на шафах, падвешаны да столі... Мадэлей шмат. І простыя — планёры, і складаныя — самалёты з гумавымі маторамі, з механічнымі і ракетнымі рухавікамі. Лепшыя з іх дэманстраваліся ў Маскве, на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР у павільёне «Юныя натуралісты і тэхнікі». Асабліва спадабаўся наведвальнікам выстаўкі верталёт, зроблены юнымі магіляўчанамі. Іх дасягненні адзначаны прэміямі і медалямі.

Цікавасць да авіямадэлізму расце. У школе два гурткі: у адным займаюцца аматары з шостых-сёмых класаў, у другім — васьмікласнікі і дзевяцікласнікі. З пачынаючымі заняткі праводзяць старэйшыя авіямадэлісты Леанід Чэрак і Міхаіл Кароўкін. Мадэль самалёта «ПО-2», якую зрабіў Леанід, удзельнічала на выстаўцы ў Маскве.

Заслужаны трэнер БССР па авіямадэльнаму спорту Мікалай Іванавіч Ціткоў, які займаецца са старшай групай авіямадэлістаў, расказаў, што цяпер заняткі наведвае чатырнаццаць чалавек. Гэта ў большасці — дзевяцікласнікі.



Мікалай Іванавіч Цітко — добры настаўнік і сябар для Леаніда Купрэева, Валі Піліпенка, Валі Казловай, Толі Шупікава і для ўсіх, хто прыходзіць у авіямадэльную майстэрню.

У школьнай майстэрні ёсць неабходны інструмент і ўсе ўмовы для працы. Займаюцца гурткоўцы адзін раз на тыдні, па дзве гадзіны. Вучоба ідзе пад дэвізам: «Ад мадэлі да планёра, з планёра — на самалёт!» Іначш кажучы, выкладчык-трэнер робіць усё, каб прывіць школьнікам любоў да авіяцыйнага спорту, імкненне набыць авіятэхнічныя спецыяльнасці.

У гуртку аматары вывучаюць асновы аэрадынамікі, знаёмяцца з будовай самалёта, рухавіка, набываюць навыкі канструявання, работы на станку, вучацца карыстацца слясарным і сталярным інструментам. Ёсць у іх і вучэбны самалёт «ЯК-18», які з'яўляецца добрым наглядным дапаможнікам у вучобе. Яго падаравалі школе Магілёўскі абласны камітэт ДТСААФ за поспехі школьных авіямадэлістаў.

...Мы гутарылі ў школьнай майстэрні, і на перапынку сюды сабраліся гурткоўцы. Акружылі Мікалая Іванавіча Ціткова. Перабіваючы адзін аднаго, засыпалі яго пытаннямі.

— Мікалай Іванавіч, у мяне мадэль ужо гатова. Калі пойдзем на трэніроўку?

— Мікалай Іванавіч, дазвольце, я свой планёр дадому вазьму, каб хутчэй закончыць?

— А я хачу яшчэ за адну мадэль узяцца. Можна?

Да Ціткова праціснуліся дзве дзяўчынкі. Гэта васьмікласніцы Валя Казлова і Валя Піліпенка, першыя авіямадэлісткі ў школе. У іх, як і ў хлапчукоў, свая запаветная мара — не проста будаваць мадэлі, а сур'ёзна рыхтавацца да лётнай спецыяльнасці.

— Мікалай Іванавіч, мы жадаем запісацца ў аэраклуб,— нарэшце, адважыўшыся, разам гавораць дзяўчынкі.— Ці прымуць нас?..

Адчуваецца, што цікавасць у школьнікаў да авіямадэлізму вялікая. І тут, вядома, заслуга кіраўніка гуртка, які здолеў захапіць школьнікаў гэтым цікавым заняткам. Як і ўсякі энтузіяст, Мікалай Іванавіч не абмяжоўваецца тымі двума гадзінамі, што адведзены для заняткаў. Здараецца, што ён заседжваецца з умельцамі, не заўважаючы, як прабяжыць адведзеная па раскладу гадзіна... А колькі часу траціцца на трэніроўкі, на тое каб адрэгуляваць мадэль, падрыхтавацца да спаборніцтваў!

І лепшай узнагародай для яго з'яўляецца тая цікавасць да любімай справы, якая перадаецца выхаванцам з кожнымі новымі заняткамі, з кожнай новай сустрэчай.

Калі пацяплее, авіямадэлісты пойдуць на аэрадром. Яны будуць запускаць свае мадэлі і хвалявацца, чый планёр ці самалёт паляціць вышэй і больш пратрымаецца ў паветры. Разам з авіямадэлістамі будзе хвалявацца і іх шчыры старэйшы сябар, заслужаны трэнер, якому па душы клопаты з юнымі.

... Ад'язджаючы са школы, мы неяк звярнулі ўвагу на плакат у школьным калідоры. Плакат меў загаловак: «Гэтага можна дабіцца ў кожнай школе». І ніжэй — расказ пра спартыўныя справы юных авіямадэлістаў школы № 9. Мы падумалі: як гэта правільна сказана. Такое можна зрабіць у кожнай школе! Школьная пляцоўка, выходзіць, можа быць добрай узлётнай паласой для моладзі.

**Сцяпан КУХАРАЎ,**
**Фота С. Чырэшкіна.**



Хіба прыдумаеш лепшы і больш дарагі падарунак, чым самалёт «ЯК-18». Яго атрымалі школьнікі ад абласнога камітэта ДТСААФ за выдатныя поспехі ў авіямадэлізме.



Дзевяцікласнік Міша Кароўкін — чэмпіён рэспублікі па таймерных мадэлях. Ён умее захапіць сваёй справай чатырохкласнікаў Колю Дзюражына і Валю Тубальцава.

# КРЭКІНГ І ШТАНГА

З Канстанцінам Шыёнкам мы пазнаёміліся на заводзе. Ён з захапленнем расказваў школьнікам, што прыйшлі на экскурсію, аб рабоце дыстанцыйных вымяральнікаў узроўню і іншых прыбораў-аўтаматаў.

— Наш завод паўаўтамат,— расказваў вучням Канстанцін.— За ўсімі працэсамі перапрацоўкі нафты сочаць дасканалыя прыборы, па якіх аператары і прыбарысты бачаць поўную карціну працэсаў і рэжымаў, што адбываюцца ў шматлікіх тэхналагічных катлах і калонах установкі...

Рытмічна пульсуюць помпы, пераганяючы нафту па сталёвых артэрыях у велізарную калону, дзе адбываюцца таямнічыя працэсы перагонкі. І ў гэтым царстве жалезабетону і металу прыбарыст Косця Шыёнак — паўнаўладны гаспадар.



Канстанцін Шыёнак (са штангай) рыхтуе каманду завода да спаборніцтваў.

А ўвечары ў нас новая сустрэча з Косцем — у спартыўнай зале. Тут трэніруюцца баскетбалісты, гімнасты, штангісты. У зале ўпэўнена гучыць Косцеў зычны голас: ён трэніруе штангістаў.

Цяжкая атлетыка — адно з самых моцных захапленняў Косці Шыёнка. Яшчэ зусім нядаўна ён быў адзіным прыхільнікам штангі на Полацкім нафтаперапрацоўчым заводзе. Летась на першынстве рэспублікі па цяжкай атлетыцы ён упершыню выканаў нарматыў першага спартыўнага разраду ў паўцяжкай вазе. Вярнуўшыся са спаборніцтваў, Косця вырашыў арганізаваць секцыю цяжкай атлетыкі на заводзе. Жадалі займацца многія. Камітэт камсамола памог абсталяваць спартыўную залу, набыць інвентар.

Год стараннай работы даў выдатны плён. Зараз у секцыі штангі займаецца каля трыццаці чалавек, пятнаццаць — маюць спартыўныя разрады.

На першынстве рэспублікі выступіць каманда штангістаў завода, створаная трэнерам-актывістам Канстанцінам Шыёнкам.

Віталь БАРАНОЎСКІ.

# ТРЫ СЕРАБРЫСТЫЯ ЗНАЧКІ

Пятро Яноўскі — слесар Бабруйскага вагавага завода. Ён — ударнік камуністычнай працы, а яшчэ... Вось пра гэта і расказваецца ў заметцы.

...Усесаюзная спартакіяда прафсаюзаў. Хімкінскае вадасховішча ў Маскве. Фінальны заезд каноэ-двоек. Дыстанцыя — марафонская. Дзесяць кіламетраў трэба прайсці лёгкім лодкам на высокіх грабянях хваляў.

Папярэднія заезды пройдзены паспяхова. І вось апошні. На васьмі дарожках застылі восем лодак. Увага спартсменаў накіравана да старцёра. Яны чакаюць моманту, калі высока над вадою ўзляціць ракета — сігнал да спартыўнага змагання.

Пятро Яноўскі і Рыгор Іваноў «заседзеліся» на старце. Вёслы ўспенілі ваду толькі тады, калі саперннікі імкліва набіралі разгон. І ўсё ж лодка беларускіх весляроў была першая. Пятро Яноўскі і Рыгор Іваноў атрымалі залатыя медалі — першы высокі трафей на ўсесаюзных спаборніцтвах. Гэтая перамога была радасная ўдвая: весляры атрымалі яшчэ і серабрыстыя значкі майстроў спорту СССР.

Студзень мінулага года выдаўся надзвычай снежны, марозны. Лыжнікі трэніраваліся амаль кожны дзень. Сярод іх быў і Пятро Яноўскі. Раслі нагрузкі — павышаліся і вынікі. Бабруйчане рыхтаваліся да вырашаючых стартаў Усебеларускай спартакіяды па зімовых відах спорту.

— Ты, мусіць, трымаеш курс яшчэ на аднаго майстра спорту,— жартавалі пасля трэніровак сябры.

Але Пятро можа пра гэта і не думаў. Ён хацеў аднаго — як мага лепш выступіць за каманду свайго горада.

І вось Магілёў. Фінал Усебеларускай зімовай спартакіяды прафсаюзаў. Надвор'е нецікавае: мокра, церушыць ліпкі снег...

Спаборніцтвы па біятлону праходзілі ў ваколіцах горада, каля вёскі Валоўшчына. Як і заўсёды, напярэдадні стартаў была праведзена жарабёўка. Пятру Яноўскаму трапіў самы «нешчаслівы» нумар: трэба было адкрываць спаборніцтвы. Па першаму лыжніку мераюць свае сілы спартсмены, якія ідуць следам, прыкідваюць графікі, а яны разлічаны на тое, каб прайсці лепш за папярэдняга спартсмена, выйграць у яго дарагія секунды.



Пятро Яноўскі ўпэўнены ў поспеху і на рабоце...

Таропкімі крокамі пакідае старт Яноўскі. Уперадзе дваццацікіламетравая траса. За плячыма — вінтоўка. Ён павінен не толькі як мага хутчэй прайсці гэтыя кіламетры, але і трапна знішчыць цэлі з баявой вінтоўкі.

У біятлоне можна паказаць надзвычай высокі вынік у гонцы і... быць апошнім. Гэта здарыцца тады, калі кулі не трапяць у цэль. Сэрца калоціцца ў грудзях, пот засціць вочы. Дрыжаць рукі. Здолееш на якое імгненне суцішыць сэрца, утаймаваць хваляванне — выйграеш... Уся надзея на сябе, толькі на сябе!

Пятро хутка пераадольвае кіламетры. Тут ён — толькі лыжнік. Ля агнявога рубяжа — станавіўся стралком. Гучалі стрэлы — і зноў лыжня.

Калі бабруйчанін Пятро Яноўскі з'явіўся на фінішы, усе здзіўлена паглядзелі на цыферблат секундамераў. Адну гадзіну 16 мінут і 43 секунды знаходзіўся ён на дыстанцыі. Што і казаць, час выдатны!

Адзін за другім фінішыруюць лыжнікі. Вынік Пятра Яноўскага пакуль лепшы! А калі суддзі праверылі мішэні, то зноў здзівіліся. Толькі адна куля з дваццаці не трапіла ў цэль! Пятро Яноўскі стаў чэмпіёнам Усебеларускай зімовай спартакіяды прафсаюзаў і выканаў норму майстра спорту па біятлону. Ён атрымаў другі значок майстра спорту. Потым ён дамогся гэтага ж звання і ў гонках на трыццаць кіламетраў.

Цяжка застаць Пятра Яноўскага дома. Ён то на спаборніцтвах, то на трэніроўках.

Нядаўна я вырашыў зноў наведаць яго ў Бабруйску. Пазваніў на вагавы завод.

— Яноўскага? Няма. У Мурманск паехаў на зборы і спаборніцтвы.

...Пятро Яноўскі стаў майстрам у трох зусім розных відах спорту. На прыцэле ў яго чацвёрты серабрысты значок: Пятро вельмі ўжо добры стралок. Як тут не сказаць: «Трапнага табе агню, Пятро!»

Мікола ЧАХОЎСКІ.



...і ў веславанні на каноэ-адзіночцы...



...і на спаборніцтвах па біятлону.

Фота Д. Церахава.

ШАХМАТЫ



У часе першага тура.
Фота Н. Науменкава (ТАСС).

# НАСТУП НА ГРОСМАЙСТРАЎ

Бадай яшчэ ніколі беларускія аматары шахмат з такім хваляваннем не сачылі за ходам чэмпіянату краіны, як у канцы мінулага года.

У напружанай барацьбе за перамогу ўпершыню з самага пачатку і да апошняга тура побач з мацнейшымі, славутымі грасмайстрамі ўдзельнічаў прадстаўнік Беларусі — міжнародны майстар Аляксей Суэцін. Яго біяграфія характэрная для многіх іншых савецкіх майстроў: школа, гурток Палаца піянераў, інстытут, спартыўная сталасць. Але ёсць у гэтай «стандартнай» біяграфіі і нешта сваё, адметнае.

Памятаю, як амаль дзесяць гадоў таму назад мінскія аматары шахмат сабраліся ў сваім клубе на плошчы Перамогі, каб паслухаць расказы двух удзельнікаў зборнай краіны, якая толькі што вярнулася пасля таварыскіх матчаў з Паўднёвай Амерыкі і Францыі. У зборнай краіны гуляў тады Аляксей Суэцін. І гэта выклікала асаблівую цікавасць, бо ён не насіў тады яшчэ высокага тытулу міжнароднага майстра. Першая паездка за мяжу скончылася для А. Суэціна паспяхова. Аб ім загаварылі ў шахматных колах на поўны голас, яго імя адразу стала ў шэраг мацнейшых. Але раптоўная слава не закружыла галаву маладога шахматыста. Ён добра разумеў, што ступіў на тую дарогу, якая прывядзе да сапраўднага майстэрства толькі праз доўгую і ўпартую працу.

Справядліва кажуць, што нельга стаць буйным майстрам, не авалодаўшы шахматнай тэорыяй, не вывучыўшы багатай спадчыны папярэднікаў, не ведаючы здабыткаў сучаснікаў. А гэта вельмі і вельмі напружаная работа па сіле толькі таму, хто прысвяціць сябе абранаму беззапаветна. Аляксей Суэцін адчуваў у сабе такую сілу, яна ішла ў яго ад вялікай любві да шахмат.

І разам з тым, А. Суэцін зусім не той абмежаваны маэстра, якога мы звычайна сустракаем на захадзе.

А. Суэцін — інжынер, скончыў аспірантуру. Ён чалавек шырокай эрудыцыі, цікавы субяседнік. Але гаворка наша не пра гэтыя рысы біяграфіі. Нас цікавіць А. Суэцін як шахматыст.

Спачатку дасягненні А. Суэціна ў шахматных турнірах былі не асабліва значныя. Ён з зайздроснай лёгкасцю перамагаў на чэмпіянатах рэспублікі і нікому не саступаў тытул чэмпіёна. Ён паспяхова выступаў у паўфіналах першынства краіны, дабіваючыся права на ўдзел у фіналах. А вось у фіналах, дзе звычайна збіраюцца лепшыя з лепшых, вынікі паказваў сціплыя. Толькі на міжнародным турніры ў Будапешце, дзе А. Суэцін выканаў норму міжнароднага майстра, ён даў нібы заяўку на блізкі вялікі поспех.

Гэтыя ўяўныя няўдачы на самай справе былі для беларускага майстра добрай школай. У тых турнірах ён правяраў свае творчыя магчымасці, прыглядваўся да гульні вядомых гросмайстраў. У той жа час многа працаваў над тэорыяй, прычым не як вучань, а як даследчык. Аб гэтым могуць сведчыць яго кнігі, адна з якіх, выдадзеная ў Мінску ў 1959 годзе,— «Асновы агульнай тэорыі і сучаснага шахматнага дэбюта» — стала папулярным падручнікам для шахматыстаў вышэйшай кваліфікацыі.

Менавіта якасць шахматнага даследчыка, чалавека, які добра ведае дэбютную стратэгію, і прыцягнула ўвагу да А. Суэціна з боку прэтэндэнта на шахматную карону гросмайстра Ціграна Петрасяна. Рыхтуючыся да адказнага матча з чэмпіёнам свету Міхаілам Батвіннікам, сабе ў памагатыя Ц. Петрасян запрасіў беларускіх шахматыстаў — гросмайстра І. Баляслаўскага і міжнароднага майстра А. Суэціна.

Памагаючы Ц. Петрасяну стаць чэмпіёнам свету, А. Суэцін узбагаціўся і сам, здолеў глыбей пранікнуць у таямніцы шахматных спаборніцтваў. І нарэшце прыйшло тое ў яго спартыўных і творчых паказчыках, чаго ўсе мы чакалі.

Надышла буйнейшая падзея ў спартыўным жыцці мінулага года — чэмпіянат краіны, які праводзіўся ў Ленінградзе. Барацьба з самага пачатку набыла напружаны, драматычны характар. А ўрэшце ўсё скончылася вельмі добра для прадстаўніка нашай рэспублікі. Калі на заключным вечары, дзе падводзіліся вынікі чэмпіянату, А. Суэцін спускаўся з трыбуны, яго рукі былі заняты прызамі. Больш за ўсіх удзельнікаў атрымаў прадстаўнік Беларусі прызоў на турніры: «За лепшы старт» — шахматнага клуба імя М. Чыгорына, «За найбольшую колькасць перамог» — Ленгарвыканкома, «За лепшы вынік майстра супраць гросмайстраў» (шэсць ачкоў з дзесяці — перамогі над Д. Бранштэйнам, Л. Палугаеўскім, М. Тайманавым, І. Бандарэўскім), — прыз студыі тэлебачання, і «За прыгажэйшую камбінацыю» (з бакінскім майстрам В. Багіравым) — ад спартыўнага таварыства «Праца». Вось гэта партыя А. Суэціна (белыя):

1. e4 c5 2. Кf3 e6 3. d4 cd 4. К:d4 Кf6 5. Кc3 d6 6. f4 Кc6 7. Сe3 Сe7 8. Сe2 О—О 9. О—О Фc7 10. Фe1 Сd7 11. Фg3 К:d4 12. С:d4 Сc6 13. Крh1 Лad8 14. e5 de 15. С:e5 Фb6 16. f5 ef 17. Л:f5 Сd6.



18. Ф:g7+ Кр:g7 19. С:f6+ Крh6 20. Лaf1 Фe3. 21. Лh5+Крg6 22. Лh4 Сf4 23. Лh:f4 h5 24. С:d8 Л:d8 25. Сd3+ Л:d3 26. cd Ф:d3 27. Лf6+ Крg5 28. Л:f7 h4 29. Крg1 Фe3+ 30. Л7f2 Крh5 31. Кe2 Крh6 32. Кf4 a5 33. Лd1 a4 34. h3 Крh7 35. Кd5 Фc5 36. Кf6+ Крg7 37. a3 Крg6 38. Кg4 Крg7 39. Лe1 Фd6 40. Кe3 Крg6 41. Кf5 Фd8 42. Лe6+ чорныя неўзабаве здаліся.

Аляксей Суэцін падзяліў чацвёртае — шостае месцы ў турніры мацнейшых шахматыстаў краіны разам з такімі гросмайстрамі, як Д. Бранштэйн і Я. Гелер. Гэты поспех прынёс нашаму земляку першы гросмайстарскі бал і даў права ўдзельнічаць у занальным турніры — адборачным спаборніцтве на першынство свету.

Для чытачоў «Маладосці», дзе пераможца вядзе аддзел шахмат, такая перадНавагодняя вестка з Ленінграда была вельмі радасная.

Ад шчырага сэрца хочацца павіншаваць Аляксея Суэціна з выдатным творчым і спартыўным дасягненнем, пажадаць яму дабіцца перамогі і ў занальным турніры.

**Уладзімір ШЫЦІК.**



**пад рэдакцыяй майстра спорту**
**Макса ШАВЕЛЯ**



# ПОЧЫРК ЧЭМПІЁНА

У абедзенны перапынак на дзвярах прахадной Мінскага радыёзавода быў вывешаны велізарны аркуш чарцёжнай паперы. На ім вялікімі чырвонымі літарамі было напісана: «Віншуем рабочага дрэваапрацоўчага цэха майстра спорту Аркадзя Плакхіна, які заваяваў званне чэмпіёна СССР па шашках!»

Малады таленавіты спартсмен зноў заваяваў званне чэмпіёна краіны. Упершыню пераможцам першынства СССР па шашках А. Плакхін стаў у 1960 годзе, падзяліўшы першае і другое месцы са шматразовым чэмпіёнам краіны гросмайстрам З. Цырыкам.

На форуме мацнейшых майстроў гульні ў шашкі на 64-клеткавай дошцы было мнагалюдна. У латвійскі горад Ліепая з'ехаліся дзевятнаццаць мацнейшых шашыстаў — пераможцаў адборачных спаборніцтваў. Сярод іх быў Плакхін, які напярэдадні стаў пераможцам паўфіналу.

У барацьбу за званне чэмпіёна ўступілі не толькі дзевятнаццаць майстроў, але і персанальна запрошаныя пераможцы папярэдняга першынства: гросмайстры В. Абаулін і В. Гарадзецкі.

Два гросмайстры і васемнаццаць майстроў — вось саперніі Плакхіна на шляху да залатога медаля! З гросмайстрамі Плакхін сустракаўся за дошкай ужо не першы раз. І калі ў мінулых баях Валянціну Абауліну ён не прайграў ніводнай партыі, дык Веніяміну Гарадзецкаму беларускі шашыст быў нешта вінен: у першынстве СССР 1961 года Плакхін прайграў важную сустрэчу. Наогул, са стылем гульні гросмайстраў ён быў знаёмы. Некалькі цяжэй было пазнаёміцца да пачатку турніра з гульнёй астатніх фіналістаў.

Хто з іх самы небяспечны праціўнік? Можа чатырнаццацігадовы чэмпіён Ленінграда паміж дарослых майстар спорту Віця Літвіновіч, хлапчук з фенаменальнай памяццю? А можа вопытны таганрогскі майстар Т. Шмульян, аўтар дапаможніка пра гульню ў шашкі, па якім Плакхін вывучаў шашачнае майстэрства? Ці таварыш па працы — настройшчык зборачнага цэха Ю. Файнберг, які стаў чэмпіёнам Беларусі? Ці, можа, майстар па гульні ў цэйтнотах, дзесяцікласнік з Ленінграда В. Галасуеў? Так, «падарункаў» ад партнёраў у такім турніры не чакай...

Цяпер, калі гэты напружаны чэмпіянат закончаны, можна толькі здзіўляцца, з якой выключнай лёгкасцю апярэдзіў Плакхін сваіх грозных канкурэнтаў. Толькі Галасуеў, які гуляў бліскуча, мог сапернічаць з ім да сярэдзіны турніра, але і ён, не вытрымаўшы бурнага фінішу беларускага шашыста, адстаў на два ачкі. Дзесяць разоў праціўнікі Плакхіна вымаўлялі непрыемнае слова: «Здаюся»... Давялося вымавіць гэтае слова і гросмайстру Гарадзецкаму. Пятнаццаць ачкоў з дваццаці магчымых у фінале першынства СССР — гэта вынік гросмайстарскага класу!

Чатыры майстры спорту па шашках працуюць цяпер на Мінскім радыёзаводзе. Але хутка іх застанецца толькі тры — чацвёрты майстар спорту ўжо будзе не майстрам, а гросмайстрам СССР!

Глыбокае разуменне дэбютаў і сярэдзіны шашачнай партыі дазваляе чэмпіёну краіны навязаць амаль кожнаму партнёру свой стыль гульні. Часам гэта — тонкае манеўраванне з ахопам пазіцыі праціўніка, часам — моцны рух у цэнтры дошкі з заключным камбінацыйным ударам.

Даем партыю А. Плакхіна з вядомым рыжскім майстрам П. Паповым (белыя).

| П. Папоў | А. Плакхін |
|---|---|
| 1. c3 — b4 | f6 — e5 |
| 2. d2 — c3 | b6 — c5 |
| 3. e3 — f4 | e7 — f6 |

Імкнучыся адысці ад вядомых працягаў гульні, белыя неяк з выкрутасамі разыгралі дэбют, але ўжо к чацвёртаму ходу атрымалі слабую пазіцыю. Белыя разбіты на дзве групоўкі па флангах, а чорныя захапілі ўвесь цэнтр.

| | |
|---|---|
| 4. b4 — a5 | f6 — g5 |
| 5. c3 — b4 | g5 : e3 |
| 6. f2 — f6 | g7 : e5 |
| 7. g3 — h4 | f8 — g7 |

Вядома, Плакхін лёгка разгадвае пастку белых. Нельга было гуляць 7. ... h8 — g7 (?) з-за 8. a5 — b6! c7 : c3, 9. b2 : h8 з выйгрышам.

| | |
|---|---|
| 8. h2 — g3 | e5 — d4 |
| 9. e1 — f2 | d8 — e7 |

Цяпер чорныя падрыхтавалі непрыкметную пастку:

10. g3—f4(?)

На лаўца і звер бяжыць! Якраз на гэты ход усё было і разлічана. Трэба было гуляць 10. c1 — d2.



У гэтым становішчы нескладаная, але эфектная трохходовая камбінацыяй чорныя атрымалі перамогу.

Прапануем чытачам самім знайсці, як згуляў Плакхін далей, і паведаміць нам у рэдакцыю.

## Усмешкі маладосці

# ПА СТАРОНКАХ ЧАСОПІСАЎ «СОВЕТСКИЙ ВОИН» і «СТАРШИНА-СЕРЖАНТ»



Старая казка на новы лад.

Мал. У. Якаўлева.




— Радавы Пятроў, запраўцеся!
— Ёсць. Заправіўся.

Мал. У. Якаўлева.



Нецярплівы.

Мал. М. Кашырына.



**«ПЕРАБОРЛІВАЯ НЯВЕСТА»**

Сяброўцы гаварыла Тата:
— Я выйду замуж за салдата!
Умее ўсё ён:
шыць, прыбіраць,
Варыць, і мыць, і прасаваць.
Але галоўнае, калі прызнацца,
Умее слухацца, не адмаўляцца.

Мал. А. Алешычава.





— Трымай яго: ён зноў замест парашута рукзак надзеў.

Мал. У. Якаўлева.



— Таварыш лейтэнант, радавы Сучкоў вывіхнуў скіўіцу.
— Зваліўся адкуль?
— Не, пазяхаў на занятках.

Мал. М. Кашырына.




**ПАЎЛАЎ Уладзімір** нарадзіўся ў вёсцы Замошша на Любаншчыне ў 1935 годзе. Скончыўшы сярэднюю школу, працаваў у раённай газеце, а потым служыў у Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі вучыўся на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, якое скончыў у 1962 годзе. Цяпер працуе загадчыкам аддзела ў газеце «Чырвоная змена». Першая кніга паэзіі «Узлётная паласа» выйшла ў 1960 годзе.

**АЛЕШКА Антон** нарадзіўся на Случчыне 1 лютага 1913 года. Пасля заканчэння педагагічных курсаў працаваў настаўнікам. Тады ж пачаў пісаць апавяданні і друкавацца. Потым — вучоба ў медыцынскім інстытуце і ў Ваенна-медыцынскай акадэміі імя Кірава, служба ў авіяцыйных часцях Савецкай Арміі.

Аповесці і апавяданні сабраны ў кнігі: «Раніца» (1949), «Іх першых вітае сонца» (1957), «Пяць сутак» (1959).

**ДАШЧЫНСКІ ІВАН** нарадзіўся ў 1935 годзе на Барысаўшчыне. Скончыў педагагічнае вучылішча і працаваў настаўнікам. Потым служыў у Савецкай Арміі. Цяпер вучыцца на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

На старонках нашага часопіса выступае ўпершыню.

**СТРАЛЬЦОЎ Міхась** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Сычын на Краснапольшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Аўтар зборніка апавяданняў «Блакітны вецер» (1962). Выступае таксама як крытык.

**АЎСЕЕНКА Мікола** нарадзіўся ў 1932 годзе ў Касцюковіцкім раёне. Працаваў у раённай газеце. Цяпер — дыктар мясцовага радыёвяшчання ў Касцюковічах. Першае апавяданне аўтара было надрукавана ў часопісе «Полымя» (1958).

**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

**Апавяданні Алены ВАСІЛЕВІЧ і Ніны МАЕЎСКАЙ.**

**Працяг аповесці Антона АЛЕШКІ «НАД НАМІ МІЛЬЁН ВЫШЫНІ».**

**Вершы Дануты ЗАГНЕТАВАЙ, Міхася РУДКОЎСКАГА, Ніны ТАРАС і Нэлы ТУЛУПАВАЙ.**

**Фотаклуб «МАЛАДОСЦЬ».**

Мастацкі рэдактар Я. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, 40. Тэлефоны: 93-854 — сакратарыят, 93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення; 93-775 — фотаклуб «Маладосць».

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк арк. 13,7. Вуч-выд. арк. 14,5. Тыраж 6884. Цана 40 кап.
АТ 05133. Здадзена ў набор 1.XII.63 г. Падпісана да друку 30.I.64 г. Зак. 657.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.



